




МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# *КАРОТКІ РУСКА-БЕЛАРУСКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК* ПА АГУЛЬНАЙ БІЯЛОГІІ

МІНСК 1994

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# *КАРОТКІ РУСКА-БЕЛАРУСКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК* ПА АГУЛЬНАЙ БІЯЛОГІІ

МІНСК 1994



ББК 28.0 я2
К 258

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта

Рэцэнзенты:
доктар біялагічных навук Р. І. Ганчарова,
кандыдат філалагічных навук Л. П. Кунцэвіч

Укладальнікі: М.Дз.Лісаў, П.А.Міхайлаў, Э.А.Камінская, Г.А.Пісарчык.

Слоўнік змяшчае асноўныя тэрміны і іх тлумачэнні па генетыцы, эвалюцыйным вучэнні, экалогіі і цыталогіі. Тэрміны размешчаны ў алфавітным парадку згодна з рускай транскрыпцыяй.

Прызначаны студэнтам і выкладчыкам педагагічных ВНУ; будзе карысны таксама для настаўнікаў біялогіі і вучняў сярэдніх школ.



# ПРАДМОВА

Сучасныя праблемы адраджэння беларускае мовы і пашырэння сферы яе ўжытку востра ставяць на парадак дня неабходнасць тэрміновай распрацоўкі тэрміналогіі розных галінаў навукі і тэхнікі. Не з'яўляецца выключэннем у гэтым сэнсе і біялогія. Адсутнасць біялагічнае літаратуры на беларускай мове і асабліва падручнікаў, дапаможнікаў і слоўнікаў істотна тармозіць пераход да беларускамоўнага навучання ў вышэйшай школе і перашкаджае асэнсаванаму засваенню ведаў у галіне біялогіі пры выкладанні яе на роднай мове. Гэтая акалічнасць і падштурхнула калектыў укладальнікаў да падрыхтоўкі дадзенага выдання.

Слоўнік змяшчае найбольш распаўсюджаныя, асноўныя тэрміны і паняцці па такіх галінах агульнай біялогіі, як генетыка, эвалюцыйнае вучэнне, экалогія і цыталогія, і некаторыя тэрміны з эмбрыялогіі, паколькі гэтыя раздзелы біялагічнае навукі даволі цесна звязаныя, веды адной з'яўляюцца падставай для вывучэння другой і таму ў іх даволі блізкі навуковы апарат.

Але аўтары разумелі, што гэтае вучэбнае выданне мае абмежаваны аб'ём, і таму імкнуліся ахапіць пэўнае кола самых асноўных і найчасцей ужывальных тэрмінаў. Іх дэфініцыю падавалі ў даволі сціслым выглядзе, які толькі ў агульных рысах раскрывае сэнс таго ці іншага біялагічнага паняцця.

Пры падрыхтоўцы слоўніка аўтары імкнуліся прывесці паходжанне тэрмінаў, што відавочна будзе дапамагаць студэнтам у засваенні малазразумелых на першы погляд тэрмінаў грэчаскага і лацінскага паходжання.

Падчас працы аўтары шырока карысталіся біялагічнымі слоўнікамі, даведнікамі, энцыклапедыямі розных гадоў выдання. Гэта дапамагала больш дакладна акрэсліць навуковую сутнасць таго ці іншага тэрміна або яго тлумачэння.

Слоўнікавы артыкул пабудаваны па наступнай схеме: тэрмін на рускай мове, эквівалент гэтага тэрміна на беларускай мове, этымалагічная даведка (пры неабходнасці), дэфініцыя. У асобных выпадках карыстальнік адсылаецца да іншых тэрмінаў. У такім разе ў дужках зроблена памета (*гл.*) - глядзіце.

Для зручнасці карыстання слоўнікам у другой яго частцы прыведзены алфавітны ўказальнік беларускіх тэрмінаў і іх рускі эквівалент.

Безумоўна, слоўнік не з'яўляецца поўным і, відавочна, не бездакорны, але ва ўмовах поўнай адсутнасці тэрміналагічных даведнікаў дадзенага профілю паслужыць добрым дапаможнікам пры вывучэнні біялогіі на роднай мове.

Аўтары.

## А

**АБЕРРАЦИЯ - АБЕРАЦЫЯ** (лац. aberratio ад aberrare - адхіляцца, памыляцца) - храмасомная мутацыя, якая ўяўляе сабою змяненне структуры храмасомы (або храматыды).

**АББРЕВИАЦИЯ - АБРЭВІЯЦЫЯ** (лац. abbreviatio - скарачэнне, укарачэнне) - скарачэнне ліку стадыяў развіцця органаў або іх частак у жывёльных арганізмах. Тэрмін увёў Б. С. Мацвееў (1930). А. М. Северцаў назваў гэтую з'яву адмоўнай анаболіяй. А. адбываецца ў выніку страты канчатковых стадыяў антагенезу пры неатэніі або рэдукцыі органаў у філагенезе.

**АБИОТИЧЕСКИЕ ФАКТОРЫ СРЕДЫ - АБІЯТЫЧНЫЯ ФАКТАРЫ АСЯРОДДЗЯ** - (ад грэч. a - адмоўная часціца і biotikes - жывы) - кампаненты і з'явы нежывой, неарганічнай прыроды (клімат, святло, хімічныя элементы і інш.), якія прама ці ўскосна ўздзейнічаюць на арганізмы.

**АБИССАЛЬ - АБІСАЛЬ** (ад грэч. abyssos - бяздонны) - экалагічная зона размеркавання жыцця на дне сусветнага акіяну, распасціраецца ад падножжа кантынентальнага схілу (глыбіня каля 2500 м) да глыбіні 46000 - 7000 м. А. займае больш 75% плошчы дна акіяна. Характарызуецца адсутнасцю сонечнага святла, слабай рухавасцю вадзяной масы, заўсёды нізкай тэмпературай (ніжэй за 2°С), абмежаванасцю крыніцаў харчавання, беднасцю жывёльнага свету. З прычыны гэтага пры праходжанні ў глыбіню насельніцтва сусветнага акіяну рэзка збядняецца як у відавым складзе, так і ў колькасных адносінах. З вядомых у сусветным акіяне каля 200 тыс. відаў жывёлаў на глыбіні 2,5 - 4 5 км сустракаецца 900, на глыбіні 4,5 - 6,0 км - 307, глыбей за 6 км - 290.

**АБОРИГЕНЫ - АБАРЫГЕНЫ** (лац. aborigine - ад пачатку) - карэнныя насельнікі якой-небудзь тэрыторыі, краіны (тое самае, што і аўтахтоны ... грэч autos - сам і chton - зямля).

**АВСТРАЛОПИТЕКОВЫЕ - АЎСТРАЛАПІТЭКАВЫЯ** (лац. australis - паўднёвы, pithecos - малпа) - падсямейства вымерлых чалавекападобных малпаў, якое адносіцца да сямейства гамінідаў. *Тры віды*: зінджантроп, парантроп, плезіянтроп. Геалагічны ўзрост лічыцца канцом пліяцэна, пачаткам плейстацэна.



**АВТОГЕННЫЕ ПРОЦЕССЫ - АЎТАГЕННЫЯ ПРАЦЭСЫ** (грэч. autos - сам і genos - народжаны) - працэсы, якія ўзнікаюць і адбываюцца ў самой жывой сістэме без удзелу знешняга штуршка.

**АВТОГЕНЕЗ - АЎТАГЕНЕЗ** (грэч. autos - сам і genesis - паходжанне, узнікненне) - вучэнне, якое тлумачыць эвалюцыю арганізмаў уздзеяннем толькі ўнутраных, нематэрыяльных фактараў ("прынцыпам удасканалення", "сілай росту" і інш.). Да гэтага напрамку эвалюцыйных поглядаў адносяць вучэнне аб градацыі Ламарка, арыстагенез Осбарна, батмагенез Копа, артагенез Эймера, номагенез Берга. А. блізкі да віталізму. Пар. - Эктагенез.

**АВТОЛИЗ - АЎТОЛІЗ** (грэч. autos - сам і lysis - растварэнне) - самаразбурэнне клеткі, якое адбываецца пры вызваленні змесціва яе лізасом. А. наступае пры некаторых працэсах дыферэнцоўкі, або пасля гібелі клеткі ці з'яўляецца вынікам яе пашкоджанняў.

**АВТОНОМИЗАЦИЯ ОНТОГЕНЕЗА - АЎТАНАМІЗАЦЫЯ АНТАГЕНЕЗУ** - працэс узнікнення адноснай устойлівасці індывідуальнага развіцця арганізмаў у ходзе эвалюцыі, поўная незалежнасць яго ад уздзеяння навакольнага асяроддзя.

**АВТОПОЛИПЛОИД - АЎТАПОЛІПЛОІД** (грэч. autos - сам, poly - многа, ploos - складваць) - арганізм, які ўтрымлівае некалькі аднолькавых храмасомных комплексаў аднаго і таго ж зыходнага віду.

**АВТОПОЛИПЛОИДИЯ, аутополиплоидия - АЎТАПОЛІПЛАІДЫЯ** - (грэч. autos - сам, poly - многа, ploos - складваць) - колькасная храмасомная мутацыя, што ўяўляе сабою кратнае павелічэнне колькасці храмасомаў у наборы саматычнай клеткі за конт памнажэння геномаў (гл.) аднаго і таго ж віду; суправаджаецца змяненнем фенатыпу ў раслінаў (павелічэнне вегетатыўнай масы, вагі пладоў і насення) і смерцю ў жывёлаў.

**АВТОПОЛИПЛОИДИИ ПРЕДЕЛ - АЎТАПОЛІПЛАІДЫІ МЯЖА** - найвышэйшая колькасць геномаў у храмасомным наборы саматычнай клеткі, далейшае павелічэнне якога вядзе да дэградацыі фенатыпу і, звычайна, смерці асобіны.

**АВТОТРОФНЫЕ ОРГАНИЗМЫ, автотрофы - АЎТАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ,** аўтатрофы (грэч. autos - сам, trophe - страва) - арганізмы, якія выкарыстоўваюць для пабудовы свайго цела вуглякіслы газ у якасці адзінай

або галоўнай крыніцы вугляроду і валодаюць сістэмай ферментаў для асіміляцыі вуглякіслага газу і здольнасцю сінтэзаваць усе кампаненты клетак. Сінтэз арганічных рэчываў ажыццяўляецца арганізмамі з выкарыстаннем энергіі Сонца або энергіі, што выдзяляецца пры хімічных рэакцыях. У залежнасці ад гэтага аўтатрофныя арганізмы падзяляюцца на фотааўтатрофы, хемаўтатрофы (гл.)

**АВТОФАГИЯ - АЎТАФАГІЯ** (грэч. auto - сам і phagos - пажыральнік) - працэс знішчэння структураў, якія непатрэбныя клетцы. А. назіраецца часцей за ўсё ў клетках, якія істотна змяняюцца ў час дыферэнцоўкі.

**АГГЛЮТИНАЦИЯ - АГЛЮЦЫНАЦЫЯ** (лат. agglutinatio - прыклейванне) - склейванне і агрэгацыя антыгенных часцінак (напрыклад, бактэрыяў, эрытрацытаў, лейкацытаў і інш. клетак), а таксама любых інертных часцінак, якія нагружаныя антыгенамі, пад уплывам спецыфічных антыцелаў - аглюцынінаў.

**АГРЕГАЦИЯ - АГРЭГАЦЫЯ** (лац. aggrego - далучаю) - спалучэнне ў адзінае цэлае некалькіх разнародных ці аднародных аб'ектаў для выканання якой-небудзь функцыі (работы, сумеснай абароны і да т. п.); вялікая колькасць арганізмаў, што вольна перамяшчаюцца (актыўна або пасіўна).

**АГРЕГИРОВАННОСТЬ ОРГАНИЗМОВ - АГРЭГАВАНАСЦЬ АРГАНІЗМАЎ** - знаходжанне арганізмаў у стане агрэгацыі; асаблівая форма прасторавага размеркавання арганізмаў унутры папуляцыі.

**АГРОБИОЦЕНОЗ**, агроэкосистема - **АГРАБІЯЦЭНОЗ**, агрээкасістэма (грэч. agros - поле, bios - жыццё, koinos - агульны) - няўстойлівая, штучна створаная экасістэма культурных палёў, якая пастаянна падтрымліваецца чалавекам.

**АДАПЦИОГЕНЕЗ - АДАПЦЫЯГЕНЕЗ** (лац. adatatio - прыстасаванне і грэч. genesis - паходжанне, узнікненне) - працэс узнікнення прыстасаванняў арганізмаў да ўмоваў існавання.

**АДАПТАЦИЯ - АДАПТАЦЫЯ** (лац. adaptatio - прыстасаванне) - сукупнасць морфафізіялагічных, паводзінных, папуляцыйных і інш. асаблівасцяў дадзенага біялагічнага віду, якая забяспечвае магчымасць спецыфічнага вобразу жыцця ў пэўных умовах навакольнага асяроддзя, г. зн. здольнасць арганізмаў віду існаваць і пакідаць нашчадкаў у дадзеным асяроддзі.



Вылучаюць марфалагічныя, фізіялагічныя, біяхімічныя, экалагічныя адаптацыі, а таксама кангруэнцыі, узровень мутабільнасці, унутрывідавы полімарфізм і інш.

**АДАПТИВНАЯ ЗОНА - АДАПТЫЎНАЯ ЗОНА** - пэўны тып месцазнаходжання з характэрнай сукупнасцю экалагічных умоў (мора, прэсны вадаём, суша, глеба і г. д.), якi ўяўляе сабою асяроддзе існавання для розных групаў арганізмаў, што выпрацоўваюць адпаведныя адаптацыі.

**АДАПТИВНАЯ РАДИАЦИЯ - АДАПТЫЎНАЯ РАДЫЯЦЫЯ** - разгалінаванне продкавага ствала групы арганізмаў у ходзе прыстасаваўчай эвалюцыі на адасобленыя галіны, звязаныя з развіццём адаптацый да розных умоваў навакольнага асяроддзя і спосабам выкарыстання яго рэсурсаў. А. Р. пачынаецца ў межах віду на ўзроўні папуляцый і вядзе да адасаблення рас, падвідаў і, нарэшце, відаў.

**АДВЕНТИВНЫЕ ВИДЫ - АДВЕНТЫЎНЫЯ ВІДЫ** (лац. adventus - прыход) - віды, наўмысна ці выпадкова завезеныя чалавекам з іншых кліматычных зонаў у новую для іх вобласць.

**АДГЕЗИЯ КЛЕТОК - АДГЕЗІЯ КЛЕТАК** (лац. adhaesio - прыліпанне) - здольнасць клетак зліпацца адна з адной і з рознымі субстратамі. А. абумоўліваецца, напэўна, глікакаліксам і ліпапратэідамі плазматычнай мембраны.

**АКВАТОРИЯ - АКВАТОРЫЯ** (лац. aqua - вада) - водны арэал, участак воднай прасторы, абмежаваны адпаведнымі прыроднымі, штучнымі або ўмоўнымі межамі.

**АККЛИМАТИЗАЦИЯ - АКЛІМАТЫЗАЦЫЯ** (лац. ad - да, для і грэч. klima - клімат) - працэс прыстасавання арганізмаў да новых для іх умоваў існавання, у якіх адбываюцца ўсе стадыі іх развіцця і ўтвараюцца жыццеўстойлівыя нашчадкі, а таксама сістэма мерапрыемстваў, якія забяспечваюць гэты працэс. А. лічыцца паспяховай, калі папуляцыя ў новых умовах набывае здольнасць падтрымліваць сваю колькасць.

**АККЛИМАЦИЯ - АКЛІМАЦЫЯ** - эксперыментальная адаптацыя, прыстасаванне арганізмаў да штучна створаных умоваў. Часам ужываецца як сінонім тэрміна *акліматызацыя* (гл.).

**АКСОНЕМА - АКСАНЕМА** (грэч. axon - вось і nema - нітка) - структура, якая з'яўляецца асноўным рухальным элементам жгуцікаў або раснічак. А. складаецца з мікратрубачак (цэнтральная пара мікратрубачак абкружана кольцам дуплетаў мікратрубачак). Сістэма мікратрубачак пакрыта мембранай - непасрэдным працягам мембраны клеткі.

**АКСОСОМА - АКСАСОМА** (грэч. axon - вось, soma - цела) - электроннашчыльная гранула ў аснове раснічак, на якой заканчваюцца цэнтральныя фібрылы. Тэрмін прапанаваў Форэ-Фрэмье (1962). Аксасому называюць таксама "аксіяльнай гранулай" або "гранулай цэнтральных фібрылаў раснічак".

**АКСЕЛЕРАЦИЯ, акцелерация - АКСЕЛЕРАЦЫЯ, акцэлерацыя** (лац. acceleratio - паскарэнне) - паскарэнне фарміравання асобных частак зародка на пэўных стадыях развіцця. А. М. Севярцоў пазначаў гэтым тэрмінам больш раннюю закладку таго ці іншага органа ў антагенезе і больш хуткае яго развіццё ў параўнанні з іншымі. Гл. гетэрахранія.

**АКТИВНЫЙ ЦЕНТР ФЕРМЕНТА - АКТЫЎНЫ ЦЭНТР ФЕРМЕНТУ** - асобны ўчастак малекулы бялка - ферменту, дзе можа звязвацца субстрат (або субстраты) з утварэннем фермент-субстратнага комплексу.

**АЛЕЙРОН - АЛЕЙРОН** (лац. aleiron - мука) - гранулы бялка (алейронавыя зярняты), якія ўтрымліваюцца ў насенні і размяшчаюцца звычайна калі самага вонкавага пласта - алейронавага пласта эндасперму.

**АЛКИЛИРОВАНИЕ - АЛКІЛЯВАННЕ** - працэс далучэння алкільных груповак ($CH_5$, $C_2H_5$ і інш.) і іншых замест атамаў вадароду да малекулы ДНК; найбольш рэакцыйна здольныя да алкілявання фасфаты, атамы азоту пурынаў і цытазіну і аміногрупы пурынаў.

**АЛЛЕЛИ - АЛЕЛІ** (грэч. allelon - адзін аднаго, узаемна) - пара генаў, якія вызначаюць развіццё той ці іншай прыкметы; дакладней, альтэрнатыўныя станы гена, што абумоўлены змяненнем структуры аднаго і таго ж локуса храмасомы і выклікаюць фенатыпічныя адрозненні па прыкмеце. Алелі лакалізаваны ў гамалагічных частках адной пары храмасомаў (пары алеля або алеламорфныя пары).

**АЛЛЕЛИ МНОЖЕСТВЕННЫЕ - АЛЕЛІ МНОЖНЫЯ** (ням. allele multiple) - серыя алеляў, што ўзніклі ў выніку разнастайных мутацый аднаго і таго ж



гена і адрозніваюцца па сваіх фенатыпічных праявах; адначасова асобіна можа ўтрымліваць у генатыпе 2 алелі з серыі ў выніку парнасці храмасомнага набору.

**АЛЛЕЛИЗМ - АЛЯЛІЗМ** (англ. allelism), або **АЛЕЛАМАРФІЗМ СТУПЕНЬЧАТЫ** - наяўнасць некалькіх параў алеламорфаў (алеляў) у межах аднаго гена; пры графічным адлюстраванні характару ўзаемадзеяння алеляў у выглядзе ўтвараецца малюнак фенатыпічнай "лесвіцы", ступенямі якой служаць асобныя алеламорфы.

**АЛЛЕЛОМОРФНАЯ ПАРА - АЛЕЛАМОРФНАЯ ПАРА** - пара алеляў, лакалізаваная ў ідэнтычных частках гамалагічных храмасомаў і вызначальная для альтэрнатыўных прыкметаў.

**АЛЛЕЛОПАТИЯ - АЛЕЛАПАТЫЯ** (грэч. allelon - узаемна, pathos - пакуты) - узаемаадносіны паміж раслінамі пры дапамозе выдзяляемых біялагічнаактыўных рэчываў (фітанцыдаў, антыбіётыкаў і інш.)

**АЛЛОГЕНЕЗ - АЛАГЕНЕЗ** (грэч. allos - іншы, другі і genesis - паходжанне) - накірунак эвалюцыі груп арганізмаў, пры якім у блізкіх відах адбываецца змена адных прыватных прыстасаванняў другімі без змены ўзроўню арганізацыі у межах адной адаптыўнай зоны. А. адлюстроўваецца ў адаптыўных пераўтварэннях - аламарфізмах, або ідыёадаптацыях. А. - тэрмін, блізкі да тэрміна *ідыёадаптацыя* (гл.).

**АЛЛОГЕННЫЕ ПРОЦЕССЫ - АЛАГЕННЫЯ ПРАЦЭСЫ** (грэч. allos - іншы, другі і genesis - паходжанне) - працэсы ў жывой сістэме, якія выкліканы дзеяннем знешніх сілаў.

**АЛЛОМОРФОЗ - АЛАМАРФОЗ** (грэч. allos - іншы, другі, morphe - від, форма) - пераўтварэнні арганізацыі жывых арганізмаў, якія звязаны з далейшым прыстасаваннем пры захоўванні такіх жа, як і ў продкаў, тыпаў зносін з асяроддзем.

**АЛЛОПОЛИПЛОИД - АЛАПАЛІПЛОІД** (грэч. allos - іншы, другі і паліплоід) - паліплоідны арганізм, які змяшчае храмасомныя комплексы двух ці большай колькасці зыходных відаў.

**АЛЛОПОЛИПЛОИДИЯ - АЛАПАЛІПЛАІДЫЯ** (грэч. allos - іншы, другі і поліплаідыя) - колькасная храмасомная мутацыя, сутнасць якой у падваенні

(амфідыплоідныя, гл.) або шматразовае павелічэнне колькасці храмасомаў за кошт злучэння геномаў розных відаў; узнікае пры міжвідавых скрыжоўваннях.

АЛЛОХОРЫ - АЛАХОРЫ (грэч. allos - іншы, другі, chreo - рухацца) - расліны, што распаўсюджваюцца з дапамогай якога-небудзь знешняга фактару: ветру (анемахарыя), вады (гідрахарыя), жывёлаў (зоахарыя) і г. д.

АЛЬБЕДО - АЛЬБЕДО (лац. albedo - бель) - адносіны колькасці адбітай прамянёвай энергіі да энергіі, якая падае на паверхню. Напрыклад, у лясных супольніцтвах роўнае 10 - 15%.

АМЕНСАЛИЗМ - АМЕНСАЛІЗМ (а - адмоўная часціца і лац. mensa - стол, трапеза) - тып біятычных зносінаў, пры якіх арганізм (папуляцыя) аднаго віду прыгнятае арганізм (папуляцыю) другога без прыкметнага зваротнага ўплыву.

АМИЛОПЛАСТЫ - АМІЛАПЛАСТЫ (грэч. amylon - крухмал і plastos - вылеплены) - неафарбаваныя пластыды (лейкапласты), у якіх утвараюцца крухмальныя зярняты.

АМИТОЗ - АМІТОЗ (грэч. а - адмоўная часціца і mitos - нітка) - прамы, шляхам перашнуроўвання, падзел ядра (у адрозненне ад мітозу - непрамога падзелу, гл.) без бачнай ягонай перабудовы і без утварэння верацяна падзелу з наступным падзелам цытаплазмы або без яго.

АМПЛИФИКАЦИЯ - АМПЛІФІКАЦЫЯ (лац. amplificare - павялічваць, узмацняць) - утварэнне дадатковых (цытаплазматычных) копіяў храмасомных генаў згодна з метадам адваротнай транскрыпцыі з выкарыстаннем у якасці матрыцы малекулы і-РНК.

АМФИБИОНТЫ - АМФІБІЁНТЫ (грэч. amphy - з двух бакоў і bios - жыццё) - арганізмы, прыстасаваныя да пражывання як у вадзе, так і на сушы. Сустракаюцца сярод раслінаў і жывёлаў (стрэлаліст, водны казялец, амфібіі). Да іх адносяцца таксама жыхары прыліўна-адліўнай зоны мораў і акіянаў.

АМФИДИПЛОИД - АМФІДЫПЛОІД (грэч. amphy - з двух бакоў, diploos - падвойны, eidos - від) - міжвідавы гібрыд, храмасомны набор саматычных клетак якога нясе па дыплоідному набору храмасомаў ад кожнага з бацькоў.



АНАБИОЗ - АНАБІЁЗ (грэч. anabiosis - ажыўленне, вяртанне да жыцця) - здольнасць арганізмаў перажываць неспрыяльныя ўмовы (зніжэнне тэмпературы навакольнага асяроддзя, адсутнасць вільгаці і інш.) у стане, пры якім рэзка паніжаецца абмен рэчываў і адсутнічаюць бачныя праявы жыцця. Пры наступленні спрыяльных умоваў арганізм ажывае. З А. мае шмат агульнага зімняя (пры замярзанні) і летняя (пры абязводжванні) спячкі жывёлаў. Аднак для А. характэрна больш глыбокае падаўленне жыццядзейнасці. Напрыклад, жыццё насення многіх раслінаў, якія захоўваюць усходжасць часам дзесяткі гадоў. А. назіраецца ў вірусаў, бактэрыяў, бескрыбетных, земнаводных, паўзуноў, лішайнікаў, імхоў і інш.). З'ява анабіёзу была выяўлена і апісана А. Левенгукам (1701).

АНАБОЛИЯ - АНАБАЛІЯ (грэч. anaboie - пад'ём, уздым) - дабаўленне новай стадыі у канцы морфагенезу якога-небудзь органа з адпаведным падаўжэннем яго антагенетычнага развіцця, адна з формаў філэмбрыягенезу (А. Н. Северцаў, 1912).

АНАГЕНЕЗ - АНАГЕНЕЗ (грэч. ana - зноў і genesis - паходжанне) - 1. Напрамак у адаптацыйных пераўтварэннях арганізмаў, які вядзе да агульнага ўдасканалення іх будовы і функцыянавання, адкрывае шлях да далейшай прагрэсіўнай эвалюцыі ўсёй філагенетычнай галіны (паводле А. Хаята, 1866). 2. Эвалюцыя арганізмаў з пераходам на новы ўзровень адаптыўнай радыяцыі (паводле Б. Рэнша, 1947).

АНАЛИЗИРУЮЩЕЕ СКРЕЩИВАНИЕ - АНАЛІЗОЎНАЕ ЗЛУЧЭННЕ - злучэнне невядомага генатыпу з рэцэсіўнай гамазіготай: згодна з фенатыпам нашчадкаў можна меркаваць аб генатыпе бацькоўскіх асобінаў.

АНАЛОГИЧНЫЕ ОРГАНЫ - АНАЛАГІЧНЫЯ ОРГАНЫ (грэч. analogia - адпаведнасць, падабенства) - органы арганізмаў розных сістэматычных групаў, якія маюць рознае паходжанне, але падобную марфалагічную будову ў сувязі з блізкасцю выконваемых функцыяў. Параўн. - гамалагічныя органы.

АНАЭРОБЫ - АНАЭРОБЫ (грэч. а - не і аэробы) - арганізмы, здольныя жыць пры адсутнасці кіслароду, энергію атрымліваюць у працэсе бескіслароднага "дыхання", гліколізу альбо браджэння. Нядольныя да кіслароднага дыхання з-за адсутнасці неабходных структураў і ферментаў. Тэрмін увёў Л. Пастэр (1861), які адкрыў бактэрыі маслянакіслага браджэння.

**АНДРОГЕНЕЗ - АНДРАГЕНЕЗ** (грэч. aner, родны склон andros - мужчына і genesis - развіццё) - нерэгулярны тып палавога размнажэння, пры якім ядро яйцаклеткі элімінуюцца і развіццё адбываецца за кошт інфармацыі ядра адной мужчынскай палавой клеткі (узнікае гаплоідны арганізм), або двух мужчынскіх прануклеусаў, што зліліся (узнікае дыплоідны арганізм).

**АНИМАЛЬКУЛИЗМ - АНІМАЛЬКУЛІЗМ** (лац. animalculul - звярок, мікраскапічная жывёла) - погляды біёлагаў 17-18 ст. ст., разнавіднасць прэфармізму, згодна з якім лічылася, што ў мужчынскіх палавых клетках размяшчаецца дарослая жывёліна і яе развіццё заканчваецца толькі ў павелічэнні памераў.

**АНТАГАНИЗМ - АНТАГАНІЗМ** (грэч. antagonisma - спрэчка, барацьба) - такі тып адносінаў паміж арганізмамі, калі адзін від поўнасцю прыгнятае другі. Ажыццяўляецца праз антыбіётыкі (у мікраарганізмаў), калінаў (у вышэйшых раслінаў) і інш., часцей хімічных агентаў. Асабліва моцны ў блізкіх відаў і заканчваецца выцясненнем аднаго віду другім (прынцып Гаўзе).

**АНТИБИОТИКИ - АНТЫБІЁТЫКІ** (грэч. anti - супраць і bios - жыццё) - рэчывы, якія выдзяляюцца мікраарганізмамі ў асяроддзе і згубна ўздзейнічаюць на іншыя мікраарганізмы. А. лічаць або адкідам клеткавага метабалізму, які не мае накіраванага дзеяння, або прадуктам другаснага метабалізму, утварэнне якога ўзмацнілася ў працэсе натуральнага адбору і дае перавагу ў барацьбе за існаванне ў прыродных папуляцыях мікраарганізмаў.

**АНТИГЕН - АНТЫГЕН** (грэч. anti - супрацьлегласць, genos - род) - чужая малекула, пранікненне якой у арганізм выклікае сінтэз антыцелаў (імунаглабулінаў, гл.).

**АНТИДАРВИНИЗМ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ - АНТЫДАРВІНІЗМ ГЕНЕТЫЧНЫ** - сукупнасць канцэпцыяў, якія адмаўляюць вядучую ролю натуральнага адбору ў эвалюцыі арганічнага свету. Выдзяляюць некалькі формаў А. Г. Мутацыянізм - звядзенне эвалюцыйных працэсаў відаўтварэння да зменлівасці арганізмаў - новыя віды могуць узнікаць на падставе буйных мутацыяў (Дэ Фрыз, Каржынскі). *Гібрыдагенез* - звядзенне эвалюцыйных працэсаў да перакамбінавання генаў пры гібрыдызацыі або да страты асобных генаў (В. Бэтсан, Я. Лотсі).



**АНТИКОДОН - АНТЫКАДОН** (грэч. anti - супрацьлеглы і code - шыфр) трыплет у малекуле m-РНК, які мае пэўную пастаянную лакалізацыю і камплементарна ўзаемадзейнічае з кадонам (гл.) і РНК.

**АНТИМУТАГЕНЫ - АНТЫМУТАГЕНЫ** (грэч. anti - супрацьлеглы) - агенты, здольныя паніжаць частыню спантанных ці індукаваных мутацый або за кошт парушэння актыўнасці мутагенных фактараў (гл. мутагены), а таксама за кошт павышэння рэпарацыйнай (гл. рэпарацыя) здольнасці клеткі ці арганізма.

**АНТИТЕЛА - АНТЫЦЕЛЫ** (грэч. anti - супрацьлегласць) - бялкі (імунаглабуліны, гл.), якія ўтвараюцца ў арганізме чалавека і цеплакроўных жывёлаў у адказ на ўкараненне антыгенаў (гл.) і нейтралізуюць іх шкоднае ўздзеянне.

**АНТОЦИАН - АНТАЦЫЯН** - водарастваральны сіні (пурпуравы або чырвоны) флаваноідны пігмент, які ўтрымліваецца ў клетачным соку.

**АНТРОПОГЕНЕЗ - АНТРАПАГЕНЕЗ** (грэч. anthropos - чалавек, genesis - паходжанне, узнікненне) - паходжанне чалавека, станаўленне яго як віду ў працэсе эвалюцыі.

**АНТРОПОГЕННОЕ ВОЗДЕЙСТВИЕ - АНТРАПАГЕННАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ** - любы від гаспадарчай дзейнасці чалавека, які аказвае ўплыў на акаляючае яго асяроддзе, аднак не абавязкова прамы.

**АПВЕЛИНГ - АПВЕЛІНГ** (анл. ap - наверх і well - хлынуць) - пад'ём глыбінных водаў, выкліканы адгонам паверхневых слаёў вады ветрамі, што дуюць з мацерыка. Яны ўтрымліваюць вялікую колькасць дэтрыту і вызначаюцца высокай прадукцыйнасцю.

**АПЕРТУРА ПОРЫ - АПЕРТУРА ПОРЫ** - адтуліна з поласці клеткі ў пору. Калі ў аблямаванай поры ёсць поравы канал, то распазнаюць дзве апертуры: унутраную - з поласці клеткі ў канал і вонкавую - з каналу ў поласць поры.

**АППАРАТ ГОЛЬДЖИ - АПАРАТ ГОЛЬДЖЫ** - арганоід эўкарыётнай клеткі, які ўяўляе сабою стосікі сплюснутых мембранных мяшэчкаў (цыстэрна Гольджы) і звязаную з імі сістэму пузыркоў. У раслінных клетках выяўляецца шэраг асобных стосікаў, якія называюць дыктыясомі. Функцыі А. Г. - хімічная мадыфікацыя прадуктаў, якія пастулаюць у яго, транспарт

рэчываў. Утварэнне цыстэрн Гольджы ў клетцы звязваюць з эндаплазматычным рэтыкулюмам. Арганоід адкрыты К. Гольджы ў 1898 г. у нервовых клетках.

**АПОГАМИЯ - АПАГАМІЯ** (грэч. apo - верх і gamete - гамета, муж) - адзін са спосабаў неапалавога размнажэння (апаміксісу, гл.) у вышэйшых раслінаў, пры якім зародак развіваецца з вегетатыўнай дыплоідной клеткі спарафіту.

**АПОМИКСИС - АПАМІКСІС** (грэч. apo - верх і лац. mixtus - змешаны) - нерэгулярны тып палавога размнажэння без апладнення; арганізм развіваецца з яйцаклеткі з нерэдукаванай колькасцю храмасомаў (гл. партэнагенез) або за кошт росту вегетатыўных клетак (гл. апагамія).

**АПОСЕМАТИЧЕСКАЯ ОКРАСКА - АПАСЕМАТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА** (грэч. aposemaino - паказваю, прадвяшчаю) - папераджальная афарбоўка, разнавіднасць дэманстрацыі (гл.).

**АППЕЛЕНТЫ - АПЕЛЕНТЫ** (лац. appelens - які накіроўвае) - хімічныя рэчывы (тэлергоны), свячэнні, гукі, рухі, што служаць для прыцягвання асобінаў свайго віду (палавога партнёра) або іншага віду (ахвяры).

**АППОЗИЦИЯ - АПАЗІЦЫЯ** (лац. appositus - які прымыкае, сумежны) - рост клетачных абалонак шляхам паслядоўнага - пласт за пластам - адкладання рэчываў, якія яе складаюць. Супр. - інтусусэпцыя.

**АРЕАЛ - АРЭАЛ** (лац. area - плошча, прастора) - частка зямной паверхні (тэрыторыі або акваторыі), у межах якой распаўсюджаны той ці іншы род, від, або папуляцыя раслінаў, жывёлаў ці мікраарганізмаў. Вобласць распаўсюджання віду або якой-небудзь іншай групоўкі арганізмаў, у межах якой яны праводзяць поўны цыкл развіцця.

**АРИДНЫЙ КЛИМАТ - АРЫДНЫ КЛІМАТ** (лац. aridus - сухі) - сухі клімат, пры якім выпарэнне пераважае над ападкамі. Характэрны для пустыняў, паўпустыняў.

**АРОГЕНЕЗ - АРАГЕНЕЗ** (грэч. airo - падымаю і genesis - паходжанне, развіццё) - эвалюцыйнае развіццё групы арганізмаў з выхадам у іншую адаптыўную зону пад уплывам набыцця групай якіх-небудзь прынцыпова новых прыстасаванняў. Тэрмін "арагенез" блізкі да тэрміна "арамарфоз" згодна з А. М. Северцавым (1925).



**АРОМОРФОЗ - АРАМАРФОЗ** (грэч. airo - падымаю і morphosis - форма) - эвалюцыйнае змяненне будовы і функцыяў арганізма, якое мае агульнае значэнне для яго ў цэлым і вядзе да марфафізіялагічнага прагрэсу. А. М. Северцаў тэрмінам "арамарфоз" пазначаў таксама марфафізіялагічны прагрэс. Цяпер тэрмінам "арамарфоз" называюць канкрэтныя марфафізіялагічныя змяненні, што абумоўліваюць арагенез той ці іншай групы.

**АРХАЛЛАКСИС - АРХАЛАКСІС** (грэч. arche - пачатак і allaxis - змяненне) - эвалюцыйнае змяненне органа на самых ранніх стадыях яго марфагенезу, якое вядзе да істотнай перабудовы ўсіх яго далейшых стадыяў.

**АРХАНТРОПЫ - АРХАНТРОПЫ** (грэч. archaios - старажытны і anthropos - чалавек) - абагульненая назва выкапнёвых людзей, якіх разглядаюць як самых старажытных прадстаўнікоў чалавечага роду. Да А. адносяць пітэкантрапаў, сінантрапаў, атлантрапаў, гейдэльбергскага чалавека. Усіх А. аб'ядноўваюць у від Homo erectus. А. жылі каля 700 - 300 тыс. гадоў назад. Яны - стваральнікі шэльскай і ашэльскай культураў камянёвых рубілаў.

**АССИМИЛЯЦИЯ, АНАБОЛИЗМ - АСІМІЛЯЦЫЯ** (лац. assimilatio - upaўнаўленне), - **АНАБАЛІЗМ** - працэс, у час якога з больш простых рэчываў сінтэзуюцца больш складаныя (цукрыды, нуклеінавыя кіслоты, бялкі і інш.), аналагічныя кампанентам гэтага арганізму і неабходныя для яго жыццядзейнасці.

**АССОРТАТИВНОЕ СКРЕЩИВАНИЕ, ГОМОГАМИЯ - АСАРТАТЫЎНАЕ ЗЛУЧЭННЕ, ГАМАГАМІЯ** - пераважнае злучэнне асобінаў аднолькавага генатыпу.

**АССОЦИАЦИЯ РАСТИТЕЛЬНАЯ - АСАЦЫЯЦЫЯ РАСЛІННАЯ** (лац. associatio - злучэнне) -адзінка класіфікацыі расліннага покрыва, сукупнасць аднародных фітацэнтозаў з падобнымі структурай, відавым складам, біятычнымі адносінамі, сувязямі з асяроддзем.

**АТАВИЗМ - АТАВІЗМ** (лац. atavus - продак) - з'яўленне ў асобных арганізмаў дадзенага віду прыкметаў, якія існавалі ў далёкіх продкаў і былі страчаныя ў працэсе эвалюцыі.

**АТМОСФЕРА ЗЕМЛИ - АТМАСФЕРА ЗЯМЛІ** (грэч. atmos - пар і sphaira - шар) - газавая абалонка Зямлі, злучаная з ёю сілай цяжару, што прымае

ўдзел у яе сутачным і гадавым вярчэнні. Маса А. каля $5{,}15 \cdot 10^{18}$ кг. Атмасфернае паветра складаецца з азоту - 78,09%, кіслароду - 20,93%, аргону - 0,93%, двувокісу вугляроду - 0,03%, гелію і іншых газаў. Бліжэй да зямной паверхні (20 - 30 км) утрымліваецца пара вады.

**АТРОФИЯ - АТРАФІЯ** (грэч. atropheo - галадаю, чахну) - прыжыццёвае змяншэнне органа або тканкі жывёльнага арганізма, якое суправаджаецца парушэннем або спыненнем функцыі. Фізіялагічная атрафія, або ўзроставая інвалюцыя звязана з узроставымі зменамі ў арганізме (А. вілкаватай (валловай) залозы ў чалавека ў перыяд палавой сталасці; А. палавых залозаў у старасці і інш.). Паталагічная А. надыходзіць пры розных захворваннях.

**АТРОФИЯ КЛЕТОК - АТРАФІЯ КЛЕТАК** (грэч. atropheo - галадаю, чахну) - змяншэнне аб'ёму клетак у выніку ўплыву на іх шкодных фактараў. У адрозненне ад дыстрафіі клетак змяншэнне памераў клетак, якія атрафуюцца, не суправаджаецца глыбокімі парушэннямі клетачнага метабалізму.

**АУКСОТРОФЫ - АЎКСАТРОФЫ** (грэч. auxano - расту throphe - харчаванне) - біяхімічныя мутанты бактэрыяў і грыбоў, што страцілі здольнасць сінтэзаваць усе або некаторыя неабходныя для росту і развіцця рэчывы і ўвыніку гэтага няздольныя расці ў мінімальным харчовым асяроддзі (у адрозненне ад прататрофаў, гл.).

**АУТБРИДИНГ - АЎТБРЫДЗІНГ** (англ. autbreeding) - унутрыпароднае скрыжоўванне асобінаў, што не знаходзяцца у блізкароднасных адносінах (параўн. інбрыдзінг), якое праводзіцца для падтрымання або павелічэння колькасці асобінаў адной пароды.

**АУТВЕЛЛИНГ - АЎТВЕЛІНГ** (англ. aut - па-за і well хлынуць) - вынас у мора багатай біягеннымі рэчывамі вады з эстурыяў.

**АУТОСОМЫ - АЎТАСОМЫ** (грэч. autos - сам і soma - цела) - усе храмасомы, акрамя палавых, у дыплоіднай клетцы ёсць па 2 копіі кожнай аўтасомы.

**АУТЭКОЛОГИЯ - АЎТЭКАЛОГІЯ** (грэч. autos - сам і экалогія) - раздзел экалогіі, які вывучае ўзаемаадносіны арганізмаў з асяроддзем пражывання: заканамернасці ўздзеяння фактараў асяроддзя, формы адаптацыі да ўмоваў, экабіяморфы раслінаў і жывёлаў і г. д. Экалогія паасобных відаў.



**АФАНИЗИЯ - АФАНІЗІЯ** - працэс закладвання органа ў антагенезе, развітага і нармальна функцыянуючага ў продкаў, які стаўся шкодным у нашчадкаў; у ходзе антагенезу закладванне такога органа цалкам рэзабуоцца (рассысаецца).

**АЦИДОФИТЫ - АЦЫДАФІТЫ** (лац. acidus - кіслы, phyton - расліна) - расліны, якія аддаюць перавагу кіслай глебе (напрыклад, хвошч, пічаўе мало, астрабок валасісты і інш.).

**АЭРОБНЫЕ ОРГАНИЗМЫ, АЭРОБЫ - АЭРОБНЫЯ АРГАНІЗМЫ, АЭРОБЫ** (грэч. aer - паветра, bios - жыццё) - арганізмы, здольныя існаваць і развівацца толькі ў прысутнасці свабоднага кіслароду, які яны скарыстоўваюць у якасці акісляльніка.

## Б

**БАЗИГЕН - БАЗІГЕН** (грэч. basis - аснова і gene - ген) - функцыянальна складаны ген згодна з цэнтравай тэорыяй А. С. Сераброўскага, які складаецца з самастойных субадзінак - *трансгенаў* (гл. трансген).

**БАЗОФИЛЫ - БАЗАФІЛЫ** (грэч. basis - аснова і philia - любоў) - лейкацыты, што ўтрымліваюць у цытаплазме спецыфічную зярністасць, якая выбіральна афарбоўваецца асноўнымі фарбавальнікамі. Б. належаць да гранулацытаў (гл.).

**БАКТЕРИОФАГИ (или ФАГИ БАКТЕРИЙ) - БАКТЭРЫЯФАГІ (або ФАГІ БАКТЭРЫЯЎ)** - вірусы, што інфіцуюць бактэрыяў.

**БАТИАЛЬ - БАТЫЯЛЬ** (грэч. bathys - глыбокі) - зона марскога дна, якая адпавядае кантынентальнаму схілу (ад 200 да 3000 м глыбіні) паміж літараллю і абісаллю. Б. абнямоўвае мацерыкі.

**БАТМОГЕНЕЗ - БАТМАГЕНЕЗ** (грэч. bathmos - ступень, genesis - паходжанне, узнікненне) - ідэалістычная эвалюцыйная канцэпцыя, згодна з якой у аснове прагрэсіўнага развіцця жывых істот ляжыць унутранае імкненне да самаўдасканалення - сіла росту, або батмізм.

**БЕЛОК-РЕПРЕССОР - БЯЛОК-РЭПРЭСАР** (лац. repressor - абмежавальны, стрымліваючы) - рэгулятарны бялок, здольны звязвацца з аператарам (гл.) і спыняць транскрыпцыю.

**БЕНТОС - БЕНТАС** (грэч. benthos - глыбіня) - сукупнасць арганізмаў, якія пражываюць на дне вадаёмаў, адаптаваныя да адпаведнага субстрату. Б. дзеляць на расліны (фітабентас), жывёльны (заабентас) і бактэрыйны (бактэрыябентас).

**БЕССМЫСЛЕННЫЕ КОДОНЫ - БЕССЭНСОЎНЫЯ КАДОНЫ** - гл. тэрміноўныя кадоны.

**БИВАЛЕНТЫ - БІВАЛЕНТЫ** (лац. bi - два і valens - моцны, дужы) - пары гамалагічных храмасомаў, што кан'югавалі паміж сабою ў меёзе; маюць у сваім складзе чатыры храматыды.

**БИОГЕНЕТИЧЕСКИЙ ЗАКОН - БІЯГЕНЕТЫЧНЫ ЗАКОН** - абагульненне ў галіне ўзаемаадносінаў анта- і філагенезу, устаноўленае Ф. Мюлерам і сфармуляванае Э. Гекелем: антагенез усялякага арганізма ёсць кароткае і сціслае паўтарэнне (рэкапітуляцыя) філагенезу дадзенага віду.

**БИОГЕННЫЕ ЭЛЕМЕНТЫ - БІЯГЕННЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ** (грэч. bios - жыццё) - хімічныя элементы, якія пастаянна ўваходзяць у склад арганізмаў і неабходныя ім для жыццядзейнасці. У жывых клетках звычайна знаходзяць сляды амаль усіх хімічных элементаў, якія прысутнічаюць у навакольным асяроддзі. Для жыцця арганізмаў неабходна каля 20 хімічных элементаў. Найбольш важныя з іх - кісларод, вуглярод, вадарод, азот, кальцый, фосфар, сера, хлор, натрый.

**БИОГЕОХИМИЧЕСКИЙ КРУГОВОРОТ ВЕЩЕСТВ - БІЯГЕАХІМІЧНЫ КРУГАЗВАРОТ РЭЧЫВАЎ** - паўтаральныя перамяшчэнні і пераўтварэнні хімічных элементаў праз ускосную і арганічную прыроду пры актыўным удзеле жывога рэчыва.

**БИОГЕОЦЕНОЗ - БІЯГЕАЦЭНОЗ** (грэч. bios - жыццё, ge - зямля, koinos - цэноз) - сукупнасць арганізмаў (біяцэноз) і абіятычнага асяроддзя, якая гістарычна склалася на вызначанай тэрыторыі і аб'яднаная абменам рэчываў і энергіі ў адзіны комплекс.



**БИОЛОГИЧЕСКАЯ ПРОДУКТИВНОСТЬ - БІЯЛАГІЧНАЯ ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ** - сукупнасць працэсаў стварэння, трансфармацыі, паглынання і праходжання энергіі праз эколага-біялагічныя сістэмы розных узроўняў - ад асобных арганізмаў да біягеацэнозу (экасістэмы). Іншымі словамі: уласцівасць пасобных папуляцый ці згуртавання (біяцэнозу) у цэлым аднаўляць сваю біямасу, г. зн. утвараць арганічнае рэчыва ў форме тых ці іншых арганізмаў. Трэба адрозніваць Б. п. ад біялагічнай прадукцыі. Мерай Б.п. служыць велічыня прадукцыі (біямасы), што ствараецца за адзінку часу на адзінку прасторы. Матэрыяльна энергетычную аснову Б. п. складае першасная прадукцыя.

**БИОЛОГИЧЕСКИЕ РИТМЫ - БІЯЛАГІЧНЫЯ РЫТМЫ** - рытмы, якія склаліся ў ходзе эвалюцыі жывёлаў, раслінаў як прыстасаванне да перыядычнай рытмікі асяроддзя і замацаваны ў іх генетычнай структуры. Б. р. могуць узнікаць як рэакцыі на перыядычныя змяненні асяроддзя (экзагенныя Б. р.), але часцей яны генеруюцца самім арганізмам (эндагенныя Б. р.).

**БИОЛОГИЧЕСКИЕ СИСТЕМЫ - БІЯЛАГІЧНЫЯ СІСТЭМЫ** - жывыя аб'екты рознай складанасці (клеткі, тканкі, арганізм, папуляцыя, экасістэма, біясфера), якія ўяўляюць сабою цэласную сукупнасць узаемазвязаных і ўзаемадзейных элементаў, што валодаюць дастатковай устойлівасцю, здольныя да самарэгуляцыі, самаўзнаўлення, развіцця і эвалюцыі. Б. с. з'яўляюцца адкрытымі, дынамічнымі сістэмамі, далёкімі ад раўнавагі.

**БИОЛОГИЧЕСКИЕ ЧАСЫ - БІЯЛАГІЧНЫ ГАДЗІННІК** - унутраная сістэма адліку часу, уласцівая ўсім жывым арганізмам. Яна базуецца на перыядычнасці фізіка-хімічных працэсаў, якія працякаюць у клетцы (эндагенных рытмах). Датчыкам часу, неабходным для падладжвання Б. г., лічаць сутачную ці сезонную перыядычнасць сонечнага выпраменьвання, электрычнага ці магнітнага поля, касмічнай радыяцыі. Дзякуючы ім, Б. г. прыводзіць у адпаведнасць эндагенныя рытмы з цыклічнымі змяненнямі знешніх умоваў. Прырода Б. г. да канца не высветлена.

**БИОЛОГИЧЕСКИЙ ИНДИКАТОР - БІЯЛАГІЧНЫ ІНДЫКАТАР** (грэч. bios - жыццё і лац. indicator - паказальнік) - арганізм, від ці згуртаванне, па наяўнасці і стане якога можна меркаваць аб уласцівасцях асяроддзя, у тым ліку аб прысутнасці і канцэнтрацыі шкодных рэчываў.





**БИОЛОГИЧЕСКИЙ КРУГОВОРОТ, КРУГОВОРОТ ВЕЩЕСТВ МАЛЫЙ - БІЯЛАГІЧНЫ КРУГАЗВАРОТ, КРУГАЗВАРОТ РЭЧЫВАЎ МАЛЫ** - кругазварот хімічных элементаў і рэчываў, які ажыццяўляецца жыццядзейнасцю арганізмаў. Асноўную ролю ў Б. к. выконваюць прадуцэнты (зялёныя расліны і хемасінтэзоўныя мікраарганізмы), кансументы (жывёлы) і рэдуцэнты (сапрафітныя арганізмы, пераважна бактэрыі). Б. к. цесна ўзаемадзейнічае з біягеахімічнымі цыкламі.

**БИОЛОГИЧЕСКОЕ САМООЧИЩЕНИЕ - БІЯЛАГІЧНАЕ САМААЧЫШЧЭННЕ** - здольнасць біяцэнозаў нейтралізаваць шкоднае ўздзеянне забруджвальных рэчываў. Мінералізуючы арганічныя рэчывы, разбураючы розныя таксічныя злучэнні і г. д., гідрабіёнты здольныя кандыцыянаваць асяроддзе, перашкаджаць яго адхіленням ад нормы. Гэтая асаблівасць біяцэнозаў шырока выкарыстоўваецца пры ачышчэнні сцёкавай і пітной вады.

**БИОЛОГИЧЕСКОЕ УСИЛЕНИЕ, БИОМАГНИФИКАЦИЯ - БІЯЛАГІЧНАЕ ЎЗМАЦНЕННЕ, БІЯМАГНІФІКАЦЫЯ** - канцэнтраванне, або назапашванне (як правіла, 10-20-кратнае), шэрагу хімічных рэчываў (напр., пестыцыдаў, радыёнуклідаў) у трафічных ланцугах. Некаторыя шкодныя рэчывы не толькі назапашваюцца, але і часта ўзмацняюцца па меры праходжання ў біялагічных цыклах і па харчовых ланцугах. Акрамя таго, пры злучэнні з іншымі рэчывамі навакольнага асяроддзя, яны могуць утвараць новыя ядавітыя рэчывы. Тэрмін прапанавалі К. Мелланбі (1967) і Р. Г. Вагнер (1971).

**БИОЛЮМИНЕСЦЕНЦИЯ - БІЯЛЮМІНЕСЦЭНЦЫЯ** (грэч. bios - жыццё, лац. lumen - святло, escent - суфікс, які азначае слабае дзеянне) - адзін з відаў хемалюмінесцэнцыі. Уяўляе сабою халоднае свячэнне арганізмаў, якое звязана з хімічнымі рэакцыямі. Пры Б. энергія электроннага ўзбуджэння выдзяляецца ў выглядзе шпаняў фатонаў. Крыніцай энергіі для ўзбуджэння электронаў у многіх відаў служыць хімічная рэакцыя акіслення асобых рэчываў - люцыферынаў - ферментам люцыферазай пры ўдзеле кіслароду. Б. шырока распаўсюджана (бактэрыі, грыбы, жывёлы ад прасцейшых да хордавых). Яна з'яўляецца сістэмай арыентацыі ў прасторы, служыць для прыцягнення ахвяры ці палавога партнёра, для адпуджвання ці адцягвання ўвагі драпежнікаў.

**БИОМ - БІЁМ** (грэч. bios - жыццё і лац. oma - заканчэнне) - 1) буйное сістэмна-геаграфічнае (экасістэмнае) падраздзяленне ў межах прыродна-



кліматычнай зоны, напрыклад, біём вільготных трапічных лясоў; 2) гістарычна складзеная біялагічная супольнасць.

**БИОМАССА - БІЯМАСА** (грэч. bios - жыццё і лац. massa - камяк, кавалак) - сумарная маса асобінаў, папуляцый, віду, супольнасці. Вымяраецца ў адзінках масы рэчыва (сырога ці сухога) да адзінкі плошчы ці аб'ёму месца пражывання (у г/м², г/м³, кг/га, кг/м³. Для вызначэння сувязі паміж плынямі энергіі і біямасай, яе выражаюць у Дж/м². Каля 90% Б. біясферы складае Б. раслінаў сушы і толькі 1% - Б. раслінаў водных экасістэмаў і гетэратрофаў. У экасістэме сусветнага акіяна Б. раслінаў складае $0,3 \cdot 10^9$ т, а біямаса жывёлаў - $6 \cdot 10^9$ т, г. зн. у 20 разоў больш. Б. глебавых бактэрый і безхрыбетных складае 200 - 4000 кг/га, хрыбетных - 1 - 15 кг/га.

**БИОМОРФЫ - БІЯМОРФЫ** (грэч. bios - жыццё і morphe - форма) - жыццёвыя формы, якія вылучаюцца ў адпаведнасці з іх сістэматычным становішчам відаў (лішайнікі, імхі, хвашчы), формамі іх росту (дрэвы, кусты і г. д.), біярытмамі, становішчам пупышак узнаўлення і г. д.

**БИОНТ - БІЁНТ** (грэч. bion (biontos) - які жыве) - асобны арганізм ці (часам) мінімальная экалагічная сістэма, здольная да самастойнага існавання ў пэўным асяроддзі. У залежнасці ад асяроддзя адрозніваюць гідрабіёнтаў, аэрабіёнтаў, педабіёнтаў і інш. Упершыню тэрмін прапанаваў Эленберг.

**БИОСЕДИМЕНТАЦИЯ - БІЯСЕДЫМЕНТАЦЫЯ** - працэс біялагічнага злучэння рэчываў, якія забруджваюць ваду, у асадак.

**БИОСФЕРА - БІЯСФЕРА** (грэч. bios - жыццё і sphaira - шар) - 1) сукупнасць усіх жывых арганізмаў Зямлі, а таксама ўсе сферы, якія падвяргаюцца ці падвяргаліся ў мінулым дзеянню жывога рэчыва (гідрасфера, частка атмасферы і літасферы). У. І. Вернадскі (1926) вылучыў некалькі асноўных кампанентаў біясферы: жывое рэчыва, біягеннае рэчыва (створанае і перапрацаванае жывымі арганізмамі), ускоснае рэчыва (ва ўтварэнні яго жывыя арганізмы ўдзел не прымалі) і біяўскоснае рэчыва (ствараецца сумесна працэсамі нежывой прыроды і жывымі арганізмамі); 2) ніжняя частка атмасферы, уся гідрасфера і верхняя частка літасферы Зямлі, якія населены жывымі арганізмамі, "вобласць існавання жывога рэчыва" (У. І. Вернадскі); абалонка Зямлі, у якой сукупная дзейнасць жывых арганізмаў праяўляецца як геахімічны фактар планетарнага маштабу. Б. - самая буйная (глабальная) экалагічная сістэма Зямлі - вобласць узаемадзеяння жывога і ўскоснага рэчыва на планеце.

**БИОТА - БІЁТА** (грэч. biote - жыццё) - гістарычна складзеная сукупнасць арганізмаў на якой - небудзь плошчы (аб'ёме), у тым ліку на тэрыторыі біяцэнозу, экасістэмы.

**БИОТИП - БІЯТЫП** (грэч. bios - жыццё і typos - форма, адбітак) - 1) сукупнасць асобінаў у межах адной папуляцыі, што маюць аднолькавы генатып і падобныя па фенатыпе (напр. клон, гл.), чыстыя лініі, што культывуюцца ва ўмовах строгага самаапылення); 2) тое ж самае, што і жыццёвая форма.

**БИОТИЧЕСКИЕ ВЗАИМООТНОШЕНИЯ - БІЯТЫЧНЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ** - разнастайныя формы адносінаў паміж арганізмамі аднаго ці розных відаў у біяцэнозе.

**БИОТИЧЕСКИЕ ФАКТОРЫ - БІЯТЫЧНЫЯ ФАКТАРЫ** - фактары жывой прыроды, якія праяўляюцца ва ўздзеянні адных відаў на другія праз розныя формы біятычных адносінаў.

**БИОТИЧЕСКИЙ ПОТЕНЦИАЛ - БІЯТЫЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ** - важнейшы ўмоўны паказчык, які адлюстроўвае здольнасць папуляцыі да размнажэння, выжывання і расліцця пры аптымальных экалагічных умовах, г. зн. да павелічэння колькасці пры адсутнасці лімітоўных фактараў. Б. п. вызначаецца альбо сярэдняй велічынёй прыплоду, або хуткасцю, з якой пры гіпатэтычна беспераšкодным размнажэнні асобіны дадзенага віду пакрываюць зямны шар раўнамерным слоем. Розніца паміж Б. п. і рэальнай колькасцю асобінаў папуляцыі адлюстроўвае супраціўленне асяроддзя. Тэрмін прапанаваў А. Гепмен (1928).

**БИОТОП - БІЯТОП** (грэч. bios - жыццё і thopos - месца) - тэрыторыя, занятая біяцэнозам.

**БИОТРОФЫ - БІЯТРОФЫ** (грэч. bios - жыццё і trophe - харчаванне) - арганізмы, якія харчуюцца біямасай іншых жывых арганізмаў. Да іх адносяцца фітафагі, што з'ядаюць расліны, і заафагі, што з'ядаюць жывёлаў (драпежнікі, паразіты).

**БИОЦЕНОЗ - БІЯЦЭНОЗ** (грэч. bios - жыццё і kainos - агульны) - устойлівая сукупнасць жывёлаў, раслінаў, грыбоў і мікраарганізмаў, што насяляюць пэўны участак сушы ці вадаёма. Асноўныя характарыстыкі Б.:



біямаса, прадукцыя, структура (прасторавая, відавая, трафічная). Усе часткі структуры ўзаемазвязаныя і ўзаемазалежныя.

**БИОЭНЕРГЕТИКА - БІЯЭНЕРГЕТЫКА** - раздзел біялогіі, які вывучае працэсы пераўтварэння энергіі ў біялагічных сістэмах.

**БЛАСТУЛА - БЛАСТУЛА** (грэч. blastos - зародак, расток) - зародак шматклетачных жывёлаў у перыяд бластуляцыі (заключнай фазы перыяду драбнення яйца).

**БОЛОТО - БАЛОТА** - тып біёму, прамежкавы паміж сушай і вадаёмам, характэрны для тэрыторыяў з лішкам вільготнасці. Па ступені забяспечанасці іх расліннасці мінеральным харчаваннем Б. падзяляюцца на нізінныя (эўтрофныя), верхавыя (алігатрофныя) і пераходныя (мезатрофныя).

**БОЛОТО ВЕРХОВОЕ (ОЛИГОТРОФНОЕ) - БАЛОТА ВЕРХАВОЕ (АЛІГАТРОФНАЕ)** - сфагнавае балота з расліннасцю, якая расце не на глебе, а на торфе і таму жывіцца пераважна атмасфернымі ападкамі і (рэдка) - грунтовымі водамі. Утвараецца па меры назапашвання торфу з нізінных балотаў.

**БОЛОТО НИЗИННОЕ (ЭВТРОФНОЕ) - БАЛОТА НІЗІННАЕ (ЭЎТРОФНАЕ)** - багатае мінеральнымі салямі балота, знаходзіцца ў нізкіх месцах і жывіцца грунтовымі водамі. Утвараецца ў выніку забалочвання эўтрофных азёраў.

**БОЛОТО ПЕРЕХОДНОЕ (МЕЗОТРОФНОЕ) - БАЛОТА ПЕРАХОДНАЕ (МЕЗАТРОФНАЕ)** - нізіннае балота ў працэсе пераўтварэння (у выніку назапашвання торфу) у верхавое.

**БОНИТЕТ - БАНІТЭТ** (ням. Bonitat, ад лац. bonitas - добраякаснасць) - умоўны паказчык (бал), які прымяняецца для ацэнкі прыродных рэсурсаў і параўнальнай характарыстыкі зямельных угоддзяў, глебы, лесу, жывёльнага свету прыроднага тэрытарыяльнага комплексу і г. д. Вызначаецца ў разліку на канкрэтны від выкарыстання рэсурсу.

**БОНИТИРОВКА - БАНІТАВАННЕ** - ацэньванне экстэр'еру жывёлаў, якія падвяргаюцца штучнаму адбору, іх пароднасці і гаспадарчазначных уласцівасцяў.

**БОРЬБА ЗА СУЩЕСТВОВАНИЕ - БАРАЦЬБА ЗА ІСНАВАННЕ** - адно з асноўных паняццяў у тэорыі эвалюцыі Ч. Дарвіна, якім назначаецца супольнасць адносінаў паміж асобінамі і рознымі фактарамі навакольнага асяроддзя. Вынікам Б. з. і. з'яўляецца элімінацыя (гібель) адных, менш прыстасаваных асобінаў, і выжывальнасць другіх, найбольш прыстасаваных (г. зн. натуральны адбор).

**БРАДИТЕЛИЯ - БРАДЗІТЭЛІЯ** (грэч. bradys - павольны, telos - заканчэнне, здзяйсненне, вынік, мэта) - адносна павольная хада эвалюцыі. Б. характэрна для філагенетычнага развіцця шэрагу
групаў арганізмаў, якія спазналі за апошнія 400 млн. гадоў настолькі нязначныя змены, што сучасныя і выкапнёвыя формы могуць быць аднесены да адных і тых жа родаў (напрыклад, пласціністажаберныя малюскі, кракадзілы). Б. забяспечваецца стабілізуючым адборам.

**БРАХИСКЛЕРЕИДА - БРАХІСКЛЕРЭІДА** (грэч. brachis - кароткі і skleros - цвёрды) - карсткая, амаль ізадыяметрычная склерэіда, якая нагадвае па форме парэнхімную клетку; камяністая клетка.

**БРИОБИОНТ - БРЫЯБІЁНТ** (грэч. bryon - мох і біёнт) - арганізм, які жыве сярод імхоў.

**БРОЖЕНИЕ - БРАДЖЭННЕ** - працэс ферментыўнага расшчаплення арганічных рэчываў, пераважна вугляводаў, які працякае без выкарыстання кіслароду. Служыць крыніцай энергіі для жыццядзейнасці арганізмаў і выконвае вялікую ролю ў кругазвароце рэчываў у прыродзе. Некаторыя віды Б., якія выклікаюцца мікраарганізмамі (спіртовае, малочнакіслае, масляна-кіслае, воцатнакіслае) выкарыстоўваюцца ў вытворчасці этылавага спірту, гліцэрыну і інш. тэхнічных і харчовых прадуктаў.

## В

**ВАГИЛЬНОСТЬ - ВАГІЛЬНАСЦЬ** (лац. vagus - вандраваць), **РУХАВАСЦЬ, РАССЯЛЯЛЬНАСЦЬ** - прыроджаная здольнасць дарослых арганізмаў, зародкавых формаў да перамяшчэння, да актыўнага рассялення. В. спрыяе засяленню новых тэрыторыяў і ўстанаўленню на іх (як і на старых) збалансаванай разнастайнасці.



**ВАКУОЛИЗАЦИЯ - ВАКУАЛІЗАЦЫЯ** (лац. vacuus - пусты) - працэс развіцця вакуоляў у клетцы; у спелым стане - гэта наяўнасць вакуоляў у клетцы.

**ВАКУОЛЬ - ВАКУОЛЯ** (л ц. vacuus - пусты) - поласць у цытаплазме, якая запоўнена вадзяністай гамагеннай вадкасцю (клетачным сокам) і абкружана элементарнай мембранай (таналастам). Удзельнічае ў паглынанні вады ў час прарастання і росту, а таксама ўтрымлівае ваду ў клетцы. Мае ў сваім складзе гідралітычныя ферменты і валодае літычнай функцыяй. Згодна з механізмам утварэння вакуолі ўяўляюць сабой або паглыбленыя ўсярэдзіну цытаплазмы складкі цытаплазмавай мембраны (пінацытозныя пузыркі), або павялічаныя пузыркі комплексу Гольджы, або пузыркі з вадкім змесцівам, якое ўзнікла ў эндаплазматычным рэтыкулуме ў працэсе біясінтэзу.

**ВАЛЕНТНОСТЬ ЭКОЛОГИЧЕСКАЯ - ВАЛЕНТНАСЦЬ ЭКАЛАГІЧНАЯ** (лац. valentia - сіла) - ступень здольнасці пэўнага віду вытрымліваць змяненні якога-небудзь фактара асяроддзя (напр., тэмпературы). Віды з шырокай В. э. называюць эўрыбіёнтнымі, з вузкай - стэнабіёнтнымі.

**ВЕДУЩАЯ ЦЕПЬ - ВЯДУЧЫ ЛАНЦУГ** - ланцуг ДНК, які рэплікуецца бесупынна ў 5' - 3' накірунках.

**ВЕТВИСТАЯ ПОРА - ГАЛІНАСТАЯ ПОРА** - пора, якая здаецца разгалінаванай у сувязі з тым, што яна фармуецца шляхам зліцця дзвюх або некалькіх простых пораў у працэсе патаўшчэння другаснай абалонкі.

**ВЕЩЕСТВО БИОКОСНОЕ - РЭЧЫВА БІЯЎСКОСНАЕ** - рэчыва біялагічнага паходжання, пераўтворанае ў біяхімічных працэсах (каменны вугаль, торф, нафта, сапрапелі, гаручыя газы і сланцы, каралавыя рыфы).

**ВЕЩЕСТВО ЖИВОЕ - РЭЧЫВА ЖЫВОЕ** - сукупнасць целаў жывых арганізмаў, што насяляюць Зямлю незалежна ад іх сістэматычнай прыналежнасці. Агульная вага жывога рэчыва ацэньваецца велічынёй 2,4 - $3{,}6 \cdot 10^{12}$ т (у сухой вазе).

**ВЕЩЕСТВО КОСНОЕ - РЭЧЫВА ЎСКОСНАЕ** - утвараецца працэсамі, у якіх не ўдзельнічае жывое рэчыва (У. І. Вярнадскі, 1965). Р. у. з'яўляюцца прадуктамі тэктанічнай дзейнасці, метэарытамі і інш. Часта замест Р. у. выкарыстоўваюць тэрміны "мінеральныя элементы", "неарганічнае рэчыва", "абіягеннае рэчыва".

**ВЗРЫВ ПОПУЛЯЦИОННЫЙ - ВЫБУХ ПАПУЛЯЦЫЙНЫ** - рэзкае павелічэнне шчыльнасці (колькасці) папуляцыі ва ўмовах амаль поўнай адсутнасці лімітуючых фактараў. Для многіх відаў (грызуноў, насякомых) мае хвалепадобны характар.

**ВЗРЫВ ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ - ВЫБУХ ЭКАЛАГІЧНЫ** - масавае размнажэнне віду ў вобласці, у якую ён быў завезены выпадкова і дзе не аказалася яго натуральных ворагаў.

**ВИД - ВІД** - асноўная структурная адзінка ў сістэме жывых арганізмаў, якасны этап эвалюцыі. Пад відам разумеюць гістарычна складзеную групу папуляцый асобінаў, якія злучаюцца паміж сабою з утварэннем плядавітых нашчадкаў, што займаюць дадзены геаграфічны арэал, маюць шэраг марфафізіялагічных і інш. прыкметаў і тыпаў узаемаадносінаў з абіятычным і біятычным асяроддзем і адрозніваюцца ад другіх такіх жа групаў асобінаў практычна поўнай адсутнасцю гібрыдных формаў.

**ВИДООБРАЗОВАНИЕ - ВІДАЎТВАРЭННЕ** - працэс узнікнення новых відаў. *Алапатрычнае* В. - утварэнне відаў з алапатрычных групаў. У аснове А. В. ляжыць генетычная дывергенцыя і прасторавая (геаграфічная або тэрытарыяльна-механічная) ізаляцыя. *Сімпатрычнае* В. - узнікненне новых відаў з сімпатрычных групаў на падставе тэрытарыяльна адзінай папуляцыі (дывергенцыя ў выніку экалагічнай або генетычнай ізаляцыі). Асобны выпадак сімпатрычнага відаўтварэння - узнікненне відаў на падставе паліплоідыі і гібрыдызацыі.

**ВИДЫ АЛЛОПАТРИЧЕСКИЕ - ВІДЫ АЛАПАТРЫЧНЫЯ** (грэч. allos - другі, іншы, patris - радзіма) - віды, якія маюць арэалы, што не перакрываюцца.

**ВИДЫ-ДВОЙНИКИ - ВІДЫ-ДВАЙНІКІ** - віды, якія марфалагічна не адрозніваюцца паміж сабою і маюць арэалы, што часткова або поўнасцю супадаюць.

**ВИДЫ СИМПАТРИЧЕСКИЯ - ВІДЫ СІМПАТРЫЧНЫЯ** (грэч. syn - разам, patris - радзіма) - віды, арэалы якіх у большай ці меншай ступені перакрываюцца або супадаюць.



**ВИКАРИЗМ - ВІКАРЫЗМ** - узаемная замена відаў у аднолькавых экасістэмах, размешчаных у вобласцях, якія знаходзяцца далёка адна ад адной.

**ВИРИОН - ВІРЫЁН** - поўная, спелая вірусная часцінка (элементарнае цельца віруса), што складаецца з нуклеакапсіду (гл.), дадатковых структурных бялкоў і знешніх абалонак.

**ВИРУЛЕНТНЫЕ ФАГИ - ВІРУЛЕНТНЫЯ ФАГІ** (лац. virulentus - ядавіты, хваробатворны і грэч. phagos - паглынальны) - фагі, што інфіцуюць бактэрыйныя, раслінныя і жывёльныя клеткі, а таксама клеткі грыбоў (адпаведна бактэрыёфагі, фітафагі, фагі жывёлаў і актынафагі) і выклікаюць іх лізіс.

**ВИРУСЫ - ВІРУСЫ** (лац. virus - яд) - форма жыцця, што ўяўляе сабою малекулу РНК або ДНК (адпаведна РНК-утрымальныя і ДНК-утрымальныя вірусы), пакрытую бялковай, ліпіднай абалонкамі (гл. вірыён), г. зн., якія валодаюць запасам спадчыннай інфармацыі, але не маюць механізму яе рэалізацыі. Здольныя жыць толькі ўнутры клетак пра- і эўкарыёт або выклікаюць іх пагібель (вірулентныя фагі, гл.) або ўваходзяць у яго геном і робяць клеткі лізагеннымі (памяркоўныя фагі, гл.). Для аднаўлення вірусы выкарыстоўваюць клеткавыя структуры.

**ВИТАЛИЗМ - ВІТАЛІЗМ** (лац. vitalis - жыццёвы) - ідэалістычны напрамак у біялогіі, які дапускае наяўнасць у арганізмах нематэрыяльнай жыццёвай сілы.

**ВКЛЮЧЕНИЕ ЦИТОПЛАЗМЫ - УКЛЮЧЭННЕ ЦЫТАПЛАЗМЫ** - часовыя часткі цытаплазмы, якія з'яўляюцца часцей за ўсё прадуктамі ўнутрыклетачнага абмену або рэчывамі, што выпрацоўваюцца ў працэсе сакрэцыі ці пігментаўтварэння, або часцінкамі, якія заглынутыя клеткай з навакольнага асяроддзя шляхам фагацытозу і пінацытозу. Вадкія ўключэнні называюцца вакуолямі, шчыльныя - гранулямі. Адрозніваюць некалькі групаў уключэнняў: 1) трафічныя (кропелькі тлушчу, бялковыя гранулы, глыбкі глікагену і інш.); 2) пігментныя (гемаглабін, меланін, ліпафусцын і інш.); 3) сакрэторныя (зімагенныя гранулы і інш.); 4) экскрэторныя (жоўцевыя кіслоты, мачавіна і інш.); 5) рэкрэторныя (кропелькі вады); 6) спецыфічныя (вітамін А, С і інш., радапсін); 7) неспецыфічныя.

**ВОЗРАСТНАЯ СТРУКТУРА ПОПУЛЯЦИИ - УЗРОСТАВАЯ СТРУКТУРА ПАПУЛЯЦЫІ** - статычны параметр папуляцыі, які характарызуе суадносіны розных узроставых групаў у папуляцыях і вызначае яе здольнасць да размнажэння. У любой папуляцыі можна вылучыць 3 экалагічныя ўзросты: перадрэпрадуктыўны (да размнажэння), рэпрадуктыўны (у перыяд размнажэння), пострэпрадуктыўны (пасля размнажэння).

**ВОЗВРАТНОЕ СКРЕЩИВАНИЕ - ЗВАРОТНАЕ СКРЫЖОЎВАННЕ** - скрыжоўванне гібрыдаў 1-га пакалення з бацькоўскімі гомазіготнымі асобінамі. Адным з выпадкаў зваротных скрыжоўванняў з'яўляецца аналізоўнае (гл.).

**ВОЛНЫ ЖИЗНИ, ПОПУЛЯЦИОННЫЕ ВОЛНЫ - ХВАЛІ ЖЫЦЦЯ, ПАПУЛЯЦЫЙНЫЯ ХВАЛІ** - ваганні колькасці асобінаў усялякай папуляцыі жывых арганізмаў пад уплывам абіятычных і біятычных фактараў асяроддзя, якія ўздзейнічаюць на папуляцыю ці ўмовы іх існавання. Выдзяляюць перыядычныя і неперыядычныя ваганні колькасці асобінаў. Адзін з фактараў эвалюцыі. Эвалюцыйнае значэнне зводзіцца да выпадковага змянення канцэнтрацыі розных мутацый і генатыпаў, якія ўтрымліваюцца ў папуляцыі, а таксама да змены напрамку і інтэнсіўнасці адбору. Х. ж. могуць быць небяспечнымі для выжывання нешматлікіх папуляцыяў.

**ВОЛОКНО - ВАЛАКНО** - выцягненая, звычайна завостраная на канцах склеранхімная клетка з лігніфікаванай або нелігніфікаванай другаснай абалонкай; у дыферэнцаваным стане часам утрымлівае жывы пратапласт.

**ВОЛОКНО ЛИБРИФОРМА - ВАЛАКНО ЛІБРЫФОРМА** (лац. liber, р. с. libri - луб, лыка і forma - форма, від) - ксілемнае валакно, як правіла, з тоўстымі абалонкамі і простымі порамі; звычайна В. л. - самыя доўгія клеткі ў тканцы.

**ВТОРИЧНАЯ КЛЕТОЧНАЯ ОБОЛОЧКА - ДРУГАСНАЯ КЛЕТАЧНАЯ АБАЛОНКА** - клетачная абалонка, якая адкладзена ў некаторых клетках на першасную абалонку пасля таго, як яе паверхня павялічваецца. Пры ўтварэнні другаснай абалонкі цэлюлозныя мікрафібрылы арыентуюцца строга паралельна.

**ВТОРИЧНАЯ ПЕРЕТЯЖКА - ДРУГАСНАЕ ПЕРАЦЯГВАННЕ** - пастаяннае звужэнне ў дыстальным аддзеле храмасомнага пляча, якое аддзяляе ад храмасомы канцавы сегмент, што называюць *спадарожнікам*.



**ВЫЖИВАЕМОСТЬ - ВЫЖЫВАЛЬНАСЦЬ** - сярэдняя для папуляцыяў верагоднасць захавання асобінаў кожнага пакалення за вызначаны прамежак часу. В. вымяраюць звычайна адносінамі ліку дарослых асобінаў, якія ўдзельнічаюць у размнажэнні, да ліку тых, якія нарадзіліся ў кожным пакаленні. На працягу эвалюцыі В. узрастае: у бактэрыяў яна $10^{-7}$ - $10^{-6}$ %, а ў вышэйшых жывёлаў 10-30%. В. выражаецца крывой выжывальнасці, форма якой у розных відаў розная.

**ВЫРОЖДЕННОСТЬ ГЕНЕТИЧЕСКОГО КОДА - ВЫРОДНАСЦЬ ГЕНЕТЫЧНАГА КОДА** - асаблівасць кода, заключаная, з аднаго боку, у яго збыткоўнасці (кожнай амінакіслаце адпавядае некалькі кадонаў), з другога - у наяўнасці бессэнсоўных трыплетаў, г. зв. тэрмінальных кадонаў або тэрмінатараў (гл.).

# Г

**ГАЛОФИЛЫ - ГАЛАФІЛЫ** (грэч. hals - соль, phileo - люблю) - арганізмы, якія пражываюць толькі ва ўмовах высокай засоленасці. Да Г. належаць радыёлярыі, рыфаўтваральныя каралы, жыхары каралавых рыфаў і мангравых зарасцяў, большасць ігласкурых, галаваногія малюскі, многія ракападобныя. Галафільныя мікраарганізмы растуць на асяроддзі з высокай канцэнтрацыяй $NaCl$ (да 32%). Расліны-галафілы называюць галафітамі. Гэта жыхары салянцоў і саланчакоў,ліманаў і марскіх узбярэжжаў, водарасці мораў і акіянаў (першасныя галафіты).

**ГАЛОФИТЫ - ГАЛАФІТЫ** (гл. галафілы).

**ГАЛОФОБЫ - ГАЛАФОБЫ** (грэч. hals - соль і phobos - страх) - водныя арганізмы, якія не пераносяць вялікіх канцэнтрацый засоленасці і пражываюць толькі ў прэсных або слабасалёных вадаёмах. Да Г. адносяць многія водарасці многіх прасцейшых, большасць п'явак, большасць водных насякомых і прэснаводных рыбаў. Да Г. адносяцца глебавыя жывёлы, як напрыклад, дажджавы чарвяк.

**ГАМЕТЫ - ГАМЕТЫ** (грэч. gametēs - муж, gametē - жонка) - палавыя клеткі жывёлаў або раслінаў.

**ГАПЛОИД - ГАПЛОІД** (грэч. haplos - адзіны, просты і eidos - від) - арганізм (клетка, ядро) з адзінарным (гаплоідным) наборам храмасомаў (n)

**ГАПЛОФАЗА - ГАПЛАФАЗА** (грэч. haplos - адзіны) - частка жыццёвага цыклу асобіны, калі клеткі маюць гаплоідную колькасць храмасомаў.

**ГАРЕМ - ГАРЭМ** - невялікая ўстойлівая група палігамных марскіх млекакормячых (вушасты цюлень, марскі слон, шэры цюлень), што распладжваюцца. На аднаго полаваспелага самца ў Г. прыпадае ад некалькіх да некалькіх дзесяткаў дарослых самак.

**ГАСТРЕИ ТЕОРИЯ - ГАСТРЭІ ТЭОРЫЯ** - тэорыя, згодна з якой будова продкавай формы шматклетачных жывёлаў (гастрэі) паўтараецца на ранніх стадыях антагенезу (стадыя бластулы і гаструлы) у сучасных шматклетачных жывёлаў. Згодна з гэтай тэорыяй, продкамі ўсіх шматклетачных жывёлаў з'яўляюцца каланіяльныя арганізмы, якія ўтвараюць аднапластовую сферычную калонію, падобную бластуле - бластэю. Далейшая эвалюцыя ідзе аналагічна інвагінацыі ў працэсе эмбрыянальнага развіцця некаторых сучасных шматклетачных жывёлаў. Гэта прыводзіць да стварэння двухпластовага шматклетачнага арганізма, падобнага гаструле - гастрэі. Будова гастрэі падобная да будовы кішачнаполасцевых, якія разглядаюцца, згодна з Г. т. як продкавая форма шматклетачных жывёлаў (Э. Геккель, 1872).

**ГАСТРУЛА - ГАСТРУЛА** (грэч. gaster - страўнік) - зародак шматклетачных жывёлаў у перыяд гаструляцыі.

**ГАСТРУЛЯЦИЯ - ГАСТРУЛЯЦЫЯ** - працэс адасаблення двух першасных зародкавых лісткоў (эктадэрмы і энтадэрмы) у зародкаў шматклетачных жывёлаў. У працэсе Г. ва ўсіх жывёлаў (акрамя губак і кішэчнаполасцевых) пачынае адасабляцца трэці зародкавы лісток - мезадэрма.

**ГЕЛИОФИЛЫ, -ФИТЫ - ГЕЛІЯФІЛЫ, -ФІТЫ** (грэч. helios - сонца, phileo - люблю, phyton - расліна) - жывёлы (расліны), якія маюць вялікую патрэбу да інтэнсіўнасці сонечнага выпрамянення. Геліяфілы - большасць жывёлаў, а таксама расліны адкрытых, добра асвечаных месцаў.

**ГЕМИКРИПТОФИТЫ - ГЕМІКРЫПТАФІТЫ** (грэч. hemi - палова, kryptos - утоены, скрыты, phyton - расліна) - расліны, у якіх пупышкі ўзнаўлення знаходзяцца на ўзроўні паверхні зямлі, абароненыя лускавінкамі, падсціл.кай, снежным покрывам.



**ГЕМИЦЕЛЛЮЛОЗЫ - ГЕМІЦЭЛЮЛОЗЫ** - група поліцукрыдаў вышэйшых раслінаў, якія разам з цэлюлозай уваходзяць у склад клетачнай абалонкі. Найбольш распаўсюджаны глюкуранаксіланы, глюкамананы, галактаглюкамананы і арабінагалактаны. Агульнае ўтрыманне Г. у раслінах можа дасягаць 40%. Большасць Г. мае адносна нізкую ступень полімерызацыі (50 - 200 монацукрыдных рэшткаў) і менш упарадкаваную ў параўнанні з цэлюлозай надмалекулярную структуру. Г. разам з лігнінам у клетачных абалонках выконвае функцыю аморфнага цэментоўнага матэрыялу

**ГЕММУЛЫ - ГЕМУЛЫ** (лац. gemmula - маленькая пупышка) - найдрабнейшыя часцінкі, якія па меркаванні Ч. Дарвіна быццам бы выдзяляюцца ўсімі клеткамі цела, збіраюцца разам і ўтвараюць палавыя элементы, праз якія здзяйсняецца наследаванне прыкметаў (уласцівасцяў) арганізмаў (тэорыя пангенезу Ч. Дарвіна; не пацвердзілася на практыцы).

**ГЕМОГЛОБИН - ГЕМАГЛАБІН** - бялок, які пераносіць кісларод ад лёгкіх да тканак і ажыццяўляе транспарт вуглякіслага газу ад тканак назад да лёгкіх. Гемаглабін лакалізаваны ў эрытрацытах.

**ГЕМОЛИЗ - ГЕМОЛІЗ** (грэч. haima - кроў і lisis - растварэнне) - працэс разбурэння эрытрацытаў, які складаецца з дзвюх стадыяў: эрамоліз - выхад гемаглабіну з эрытрацытаў і спірамоліз - поўнае іх разбурэнне.

**ГЕМОЦИТОБЛАСТЫ - ГЕМАЦЫТАБЛАСТЫ** (грэч. haima - кроў, cytos - клетка, blastos - зародак) - першасныя крывяныя клеткі, якія даюць пачатак развіццю ўсіх клетак крыві ў крыватворных органах жывёлаў і чалавека. Азначэнне дадзена Ферата (1918).

**ГЕН - ГЕН** (грэч. genēs - народжаны) - участак малекулы ДНК, які кадуе першасную структуру адной малекулы бялка або адной малекулы РНК (р-РНК або м-РНК). Згодна з Дж. Уотсанам, ген - дыскрэтная вобласць храмасомы, што адказвае за ўтварэнне пэўнага клетачнага прадукту; ён складваецца з шэрагу лінейна размешчаных адзінак, патэнцыйна здольны да змяненняў (мутоўныя ўчасткі); кожны такі ўчастак можа існаваць у некалькіх альтэрнатыўных формах і паміж рознымі ўчасткамі можа адбывацца красінговер.

**ГЕНОМ - ГЕНОМ** (грэч. genos - паходжанне) - гаплоідны набор храмасомаў з лакалізаванымі ў ім генамі

**ГЕНОТИП - ГЕНАТЫП** (грэч. genes - народжаны і typos - адбітак) - сукупнасць генаў арганізма.

**ГЕНОФОНД - ГЕНАФОНД** (грэч. genes - народжаны і fundus - аснова) - сукупнасць усіх генаў усіх асобінаў адной папуляцыі.

**ГЕОБОТАНИКА - ГЕАБАТАНІКА** (грэч. ge - зямля, botanicos - які адносіцца да раслінаў) - навука аб раслінных супольнасцях (фітацэнозах) Зямлі, іх складзе, будове, біятычных узаемаадносінах, прадуктыўнасці, гістарычным развіцці, выкарыстанні, класіфікацыі. У айчыннай літаратуры Г. часта разглядаецца як сінонім фітацэналогіі.

**ГЕОСФЕРЫ - ГЕАСФЕРЫ** (грэч. ge - зямля, sphaira - шар) - канцэнтрычныя абалонкі рознай шчыльнасці і зместу, якія складаюць Зямлю. Ад перыферыі да цэнтра пласты адрозніваюць магнітасферу, атмасферу, гідрасферу, літасферу, мантыю і ядро Зямлі. З гідрасферай, атмасферай і літасферай узаемадзейнічае жывая абалонка Зямлі - біясфера.

**ГЕОФИЛЫ - ГЕАФІЛЫ** (грэч. ge - зямля, phileo - люблю) - жывёліны, якія жывуць у глебах, ілах.

**ГЕОФИТЫ - ГЕАФІТЫ** (грэч. ge - зямля, phyton - расліна) - расліны, пупышкі ўзнаўлення ў якіх (цыбуліны, клубні, карэнні) размяшчаюцца ў глебе. Зверху закрыты слоем зямлі, снегу, сухім лісцем. У многіх геафітаў пупышкі ўзнаўлення могуць паглыбляцца ў глебу шляхам уцягвання каранямі, якія скарачаюцца.

**ГЕРОНТОМОРФОЗ - ГЕРАНТАМАРФОЗ** (грэч. geronios - стары і morphe - форма) - змяненні антагенезу, якія звязаны з яго падоўжаннем у параўнанні з продкамі (Г. Дэ Бір, 1930).

**ГЕТЕРОБАТМИЯ - ГЕТЭРАБАТМІЯ** (грэч. heteros - іншы, другі і bathmos - ступень) - неаднолькавы ўзровень развіцця і спецыялізацыі розных органаў, дасягнуты ў выніку адноснай незалежнасці ў развіцці розных частак арганізма ў працэсе эвалюцыі.

**ГЕТЕРОГАМЕТНЫЙ ПОЛ - ГЕТЭРАГАМЕТНЫ ПОЛ** (грэч. heteros - іншы, другі і gamete - жонка) - пол, які ўтварае два тыпы гаметаў, што ўплываюць на вызначэнне полу; гамета, якая ўтрымлівае *x*-храмасому і гамета, якая ўтрымлівае *y*-храмасому.



**ГЕТЕРОГАМИЯ - ГЕТЭРАГАМІЯ** (грэч. heteros - іншы, другі і гаметы, гл.) - марфалагічныя адрозненні мужчынскіх і жаночых гаметаў у асобінаў аднаго віду.

**ГЕТЕРОГЕНЕЗ - ГЕТЭРАГЕНЕЗ** (грэч. heteros - іншы, другі і genesis - паходжанне, развіццё) - раптоўнае з'яўленне асобінаў, якія істотна адрозніваюцца шэрагам прыкметаў ад бацькоўскіх формаў. Адкрыццё Г. дало магчымасць стварыць аднайменную гіпотэзу паходжання відаў і з'явілася папярэднікам мутацыйнай тэорыі.

**ГЕТЕРОЗИГОТА - ГЕТЭРАЗІГОТА** (грэч. heteros - іншы, другі і zygon - пара) - асобіна, у генатыпе якой прысутнічаюць неаднолькавыя алелі (гл.) - дамінантны і рэцысіўны - па пэўным гене.

**ГЕТЕРОЗИС - ГЕТЭРОЗІС** (грэч. heteroiosis - змяненне, пераўтварэнне) - "гібрыдная моц", г. зн. якасць гібрыдаў першага пакалення пераўзыходзіць бацькоўскія формы па пэўных прыкметах:
канстытуцыйных у жывёлаў або вегетатыўных у раслінаў (саматычны гетэрозіс); рэпрадуктыўных (рэпрадуктыўны гетэрозіс) і прыстасаванасці да знешніх умоваў (адаптацыйны гетэрозіс) (Дж. Шэл, 1914). У другім і наступных пакаленнях Г. звычайна затухае. Г раслінаў і жывёлаў выкарыстоўваецца як важны сродак павышэння ўраджайнасці і прадукцыйнасці.

**ГЕТЕРОКАРИОН - ГЕТЭРАКАРЫЁН** (грэч. heteros - іншы, другі і karyon - ядро арэха) - гібрыдныя клеткі, атрыманыя пры зліцці саматычных клетак аддаленых у сістэматычных адносінах арганізмаў (напр., расліны і жывёлы) і маюць два або некалькі ядраў (у адрозненне ад сапраўдных клетачных гібрыдаў, атрыманых пры зліцці клетак больш блізкіх у эвалюцыйным плане арганізмаў і маючых адно агульнае ядро).

**ГЕТЕРОМОРФОЗ - ГЕТЭРАМАРФОЗ** (грэч. heteros - іншы, другі і morphe - від, форма) - замяшчэнне ў жывёлаў аднаго органа другім, не гамалагічным выдаленаму, шляхам рэгенерацыі (напрыклад, развіццё ў дажджавога чарвяка хваставой часткі цела замест ампутаванага галаўнога канца; развіццё вусіка замест страчанага складанага сцябліністага вока ў дзесяціногіх ракаў).

**ГЕТЕРОПЛОИДИЯ - ГЕТЭРАПЛАІДЗІЯ** - гл. Анеўплаідзія.

**ГЕТЕРОСТИЛИЯ - ГЕТЭРАСТЫЛІЯ** (грэч. heteros - іншы, другі і stylos - слуп, апора) - рознаслупкаватасць, прысутнасць у раслінаў аднаго і таго ж віду двух або трох формаў кветак, якія адрозніваюцца па даўжыні слупкоў і размяшчэнні тычынак. Прыстасаванне раслінаў з двухполымі кветкамі да перакрыжаванага апылення.

**ГЕТЕРОТОПИЯ - ГЕТЭРАТОПІЯ** (грэч. heteros - іншы, другі і topos - месца) - ссоўванне ў зародках месца закладвання таго ці іншага органа ў працэсе эвалюцыі (Э. Геккель, 1866).

**ГЕТЕРОТЕРМНЫЕ ОРГАНИЗМЫ - ГЕТЭРАТЭРМНЫЯ АРГАНІЗМЫ** (грэч. heteros - іншы, другі і therme - цяпло) - гамайятэрмныя жывёлы, здольныя рэгуляваць свой цеплаабмен і падтрымліваць пастаянную тэмпературу цела, аднак у асобныя перыяды істотна зніжаць яе (пад час спячкі або сну).

**ГЕТЕРОТРОФИЯ - ГЕТЭРАТРАФІЯ** (грэч. heteros - іншы, другі і trophe - харчаванне) - харчаванне жывёлаў і некаторых раслінаў гатовымі арганічнымі рэчывамі.

**ГЕТЕРОТРОФНЫЕ ОРГАНИЗМЫ - ГЕТЭРАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ** (грэч. heteros - іншы, другі і trophe - ежа, харчаванне) - арганізмы, якія выкарыстоўваюць у якасці крыніцы вугляроду экзагенныя арганічныя рэчывы. Як правіла, гэтыя ж рэчывы з'яўляюцца для іх у той жа час і крыніцай энергіі (арганатрафія). Згодна са спосабам пагльнання ежы Г. а. падзяляюцца на *галазойных* (жывёлы), якія захопліваюць цвёрдыя часцінкі і *асматрофныя* (грыбы, бактэрыі), што харчуюцца растворанымі рэчывамі.

**ГЕТЕРОХРОМАТИН - ГЕТЭРАХРАМАТЫН** (грэч. heteros - іншы, другі і chroma - колер) - кампактныя, моцна афарбоўваемыя ўчасткі або цэлыя храмасомы, якія пастаянна знаходзяцца ў кандэнсаваным стане, слаба дэспіралізуюцца на стадыі інтэрфазы і з'яўляюцца генетычна інертнымі. Адрозніваюць *канстытутыўны*, або структурны (што не ўтрымлівае генаў, ніколі не пераходзіць у эўхраматын) і *факультатыўны* (што ўтрымлівае ДНК, якая ў далейшым можа быць актыўнай, г. зн. здольнай да транскрыпцыі, і можа пераходзіць у эўхраматын) гетэрахраматын.

**ГЕТЕРОХРОНИЯ - ГЕТЭРАХРОНІЯ** (грэч. heteros - іншы, другі і chronos - час) - змяненне часу закладвання тэмпаў эмбрыягенезу розных органаў у працэсе эвалюцыі. Г. адбываецца ў дзвюх формах: акселерацыі і рэтардацыі.



*Акселерацыя* - зрухі ў закладванні органаў на больш раннія стадыі эмбрыягенезу. *Рэтардацыя* - фармаванне органаў на больш позніх стадыях, чым у прымітыўных групаў.

**ГИАЛОПЛАЗМА - ГІЯЛАПЛАЗМА** (грэч. hyalos - шкло, plasma - вылеплены), асноўная плазма, цытаплазматычны матрыкс - гамагенная неафарбаваная калоідная маса цытаплазмы, якая знаходзіцца паміж дыферэнцаванымі ў ёй структурнымі кампанентамі - арганоідамі і ўключэннямі. У гіялаплазме ва ўзважаным стане прысутнічаюць вольныя рыбасомы, мікрацельцы, мікратрубачкі і інш. У склад Г. уваходзяць растваральныя бялкі, растваральныя РНК, поліцукрыды, ліпіды. Праз Г. ідзе транспарт амінакіслотаў, тлустых кіслотаў, нуклеатыдаў, цукраў, неарганічных рэчываў, перанос АТФ. Склад Г. вызначае буферныя і асматычныя ўласцівасці клеткі.

**ГИГРОФИТЫ - ГІГРАФІТЫ** (грэч. hygros - вільготны) - наземныя расліны, якія жывуць ва ўмовах павышанай вільготнасці паветра на вільготнай глебе. Ценявыя Г. - расліны ніжніх ярусаў сырых лясоў (бальзамін, чартапалох агародны і інш.). Светлавыя Г. - віды, якія жывуць на адкрытых мясцовасцях, на заўсёды вільготных глебах і ў вільготным паветры (папірус, рыс, балотная расіца і інш.).

**ГИДАТОФИТЫ - ГІДАТАФІТЫ** (грэч. hydor - вада) - водныя расліны, якія цалкам ці амаль цалкам апушчаныя ў ваду. Сярод іх - кветкавыя, якія паўторна перайшлі да воднага вобразу жыцця (элодэя, урэчнікі, ваконныя казялец, валіснерыя і інш.). Калі выняць гэтыя расліны з вады, яны хутка высыхаюць і гінуць. У іх рэдукаваны вусцейкі і адсутнічае кутыкула.

**ГИДРОБИОНТЫ - ГІДРАБІЁНТЫ** (грэч. hydor - вада, bios, biontos - які жыве) - арганізмы, што жывуць у водным асяроддзі.

**ГИДРОБИОЛОГИЯ - ГІДРАБІЯЛОГІЯ** - навука, якая вывучае асаблівасці жыцця ў вадзе. Многія вучоныя лічаць Г. экалогіяй водных арганізмаў.

**ГИДРОСФЕРА - ГІДРАСФЕРА** (грэч. hydor - вада і sphaira - шар) - перарывістая водная абалонка Зямлі. З'яўляецца асяроддзем пражывання гідрабіёнтаў.

**ГИДРОФИТЫ - ГІДРАФІТЫ** (грэч. hydor - вада, phyton - расліна) - наземна-водныя расліны, якія часткова апушчаныя ў ваду, растуць на

берагах вадаёмаў, на мелкаводдзі, на балотах. Сустракаюцца ў раёнах з рознымі кліматычнымі ўмовамі. Да іх можна аднесці трыснёг звычайны, шальнік трыпутнікавы, лотаць балотную і іншыя віды. Г. маюць эпідэрміс з вусцейкамі, інтэнсіўнасць транспірацыі вельмі высокая, і яны могуць расці толькі пры пастаянным інтэнсіўным пагльшанні вады.

**ГИНАНДРОМОРФИЗМ - ГІНАНДРАМАРФІЗМ** (грэч. gynē - жанчына, andras або aner - мужчына, morphē - форма) - палавая анамалія, што сустракаецца ў насякомых, у якіх не ўтвараюцца палавыя гармоны і ў выніку гэтага магчымае развіццё мазаічнай па полу асобіны (адна частка цела - жаночая, другая - мужчынская) з клетак як з нармальным (XX) наборам палавых храмасомаў, так і з клетак, што страцілі ў працэсе эмбрыёгенезу адну *x*-храмасому.

**ГИНОГЕНЕЗ - ГІНАГЕНЕЗ** (грэч. gyne - жанчына і genesis - развіццё) - варыянт развіцця зародка толькі з ядра і плазмы яйцаклеткі. У адрозненне ад партэнагенезу, сперматазоід пранікае ў яйцаклетку, але зліцця яго ядра з ядром яйцаклеткі не адбываецца (несапраўднае апладненне, або псеўдагамія).

**ГИПЕРГЕНЕЗ - ГІПЕРГЕНЕЗ** (грэч. hyper - над, звыш і genesis - паходжанне, развіццё) - гіпертэлія, звышспецыялізацыя, шлях філагенетычнага развіцця арганізмаў, які звязаны з парушэннем іх узаемаадносінаў з асяроддзем з прычыны хуткага змянення асяроддзя і пераразвіцця (гіпертрафіі) арганізма ў якім-небудзь напрамку. У выпадках Г. асобных арганізмаў ён з'яўляецца або спецыфічнай адаптацыяй - вузкая спецыялізацыя (напрыклад, гіганцкія іклы ў шаблязубага тыгра), або вынікам палавога адбору (напрыклад, рогі ў вялікарогага аленя). Г. - вынік выключнай спецыялізацыі арганізмаў звычайна да вельмі вузкіх умоваў існавання і пры нязначным змяненні асяроддзя можа прывесці да выміранння дадзенай групы арганізмаў.

**ГИПЕРМОРФОЗ - ГІПЕРМАРФОЗ** (грэч. hiper - над, звыш і morphe - форма) - прыватныя змяненні будовы арганізмаў, якія вядуць да гіпергенезу.

**ГИПЕРПЛАЗИЯ - ГІПЕРПЛАЗІЯ** (грэч. hiper - над, звыш і plasis - утвараць) - збыткоўнае павелічэнне ліку клетак у выніку іх інтэнсіўнага падзелу.

**ГИПЕРТРОФИЯ - ГІПЕРТРАФІЯ** (грэч. hiper - звыш і trophe - ежа, харчаванне) - анамальнае разрастанне клетак і тканак. Г. клеткі або яе частак не звязаная з клетачным падзелам. Г. органа можа быць абумоўлена



як расцягваннем клетак, так і анамальным павелічэннем іх колькасці (гіперплазіяй).

**ГИПОГЕНЕЗ - ГІПАГЕНЕЗ** (грэч. hypo - пад, уніз і genesis - развіццё, паходжанне) - прыватная форма катагенезу, якая выяўляецца ў недаразвіцці арганізма пры захаванні адносінаў з асяроддзем, характэрных для лічыначнай або ювенільнай стадыі (напрыклад, неатэнія ў аксалотля).

**ГИПОМОРФОЗЫ - ГІПАМАРФОЗЫ** (грэч. hypo - пад, уніз і morphe - форма) - змены ўзроўню складанасці арганізмаў, якія вядуць да гіпагенезу.

**ГИПОПЛАЗИЯ - ГІПАПЛАЗІЯ** (грэч. hypo - пад, ніжэй і plasis - утвараць) - недаразвіццё клетак у сувязі з парушэннямі нармальнага ходу гістагенезу.

**ГИПОТРОФИЯ - ГІПАТРАФІЯ** (грэч. hypo - пад, уніз і trophe - ежа, харчаванне) - памяншэнне аб'ёму клетак і тканак у выніку пагаршэння іх харчавання.

**ГИСТОНЫ - ГІСТОНЫ** - эвалюцыйна кансерватыўныя бялкі эўкарыётаў, што звязваюць ДНК і ўдзельнічаюць ва ўтварэнні нуклеасомаў.

**ГЛИКОКАЛИКС - ГЛІКАКАЛІКС** (грэч. glykis - салодкі і лац. callum - тоўстая скура) - глікапратэідны комплекс, уключаны ў вонкавую паверхню плазматычнай мембраны ў жывёльных клетках. У Г. адбываецца пазаклеткавае страваванне, у ім размяшчаюцца многія
рэцэптары клеткі, з яго дапамогай, відаць, адбываецца адгезія клетак.

**ГЛИКОЛИЗ - ГЛІКОЛІЗ** (грэч. glykis - салодкі і lysis - расшчапленне) - працэс расшчаплення вугляводаў (пераважна глюкозы) у адсутнасці кіслароду пад уздзеяннем ферментаў. Канцовы прадукт Г. у клетках жывёлаў - малочная кіслата. Для раслінаў характэрна відазмененая форма Г., канцовы прадукт якога - піравінаградная кіслата. Вызваленая пры Г. энергія выкарыстоўваецца для жыццядзейнасці жывых арганізмаў. Г. цесна звязаны з дыханнем і браджэннем (гл.).

**ГЛИОКСИСОМЫ - ГЛІЯКСІСОМЫ** (грэч. glykis - салодкі, oxy - акісленне, soma - цела) - мікрацельцы, якія ўтрымліваюць ферменты, неабходныя для пераўтварэння тлушчаў у вугляводы.

**ГОМЕОЗИС - ГАМЕОЗІС** (грэч. homoisis - падобны) - замяшчэнне структураў адной часткі арганізма гамалагічнымі структурамі, звычайна сфармаванымі ў іншым месцы; адбываецца, як правіла, у выніку парушэння рэгуляцыі развіцця на генетычным або постгенетычным узроўнях.

**ГОМЕОСТАЗ - ГАМЕАСТАЗ** (грэч. homoisis - падобны і statos - нерухомы) - устойлівасць, стабільнасць сістэмы за кошт розных механізмаў самарэгуляцыі, якія падтрымліваюць яе раўнавагу ў пастаянна зменлівых умовах.

**ГОМЕОСТАЗ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ - ГАМЕАСТАЗ ГЕНЕТЫЧНЫ** (грэч. homoisis - падобны і stasis - стан) - з'ява, пры якой часціня гена ў папуляцыі захоўвае нязменнасць і вяртаецца да папярэдняга ўзроўню ў тых выпадках, калі яна была парушана пад уздзеяннем штучнага адбору або ў выніку змянення ўмоваў асяроддзя.

**ГОМОГАМЕТНЫЙ ПОЛ - ГАМАГАМЕТНЫ ПОЛ** (грэч. homos - роўны, gamete - жонка) - пол, які ўтварае адзін тып гаметаў: з х-храмасомай.

**ГОМОЗИГОТА - ГАМАЗІГОТА** (грэч. homos - роўны, аднолькавы і zygotos - спалучаны) - асобіна з аднолькавымі алелямі (дамінантнымі або рэцэсіўнымі) згодна з пэўным локусам гамалагічных храмасомаў.

**ГОМОЙОТЕРМНЫЕ ОРГАНИЗМЫ - ГАМАЙЯТЭРМНЫЯ АРГАНІЗМЫ** (грэч. homoios - падобны, therme - цяпло) - арганізмы, здольныя рэгуляваць свой цеплаабмен і падтрымліваць пастаянную тэмпературу цела, адрозную ад тэмпературы навакольнага асяроддзя.

**ГОМОЛОГИЧНЫЕ (ПАРНЫЕ) ХРОМОСОМЫ - ГАМАЛАГІЧНЫЯ (ПАРНЫЯ) ХРАМАСОМЫ** - храмасомы, ідэнтычныя марфалагічна і маюць аднолькавыя генетычныя лакусы; у дыплоіднай клетцы змяшчаецца па 2 копіі кожнага гамолага (па адной ад кожнага з бацькоў).

**ГОМОЛОГИЧНЫЕ ОРГАНЫ - ГАМАЛАГІЧНЫЯ ОРГАНЫ** (грэч. homologia - адпаведнасць, згода) - органы, якія маюць аднолькавае паходжанне, але часта розную марфалагічную будову пад уплывам выконваемых функцыяў.



**ГОРОТЕЛИЯ - ГАРАТЭЛІЯ** (грэч. hora - звычайны час, працяглаcць і telos - канчатак, ажыццяўленне, вынік, мэта) - сярэднія тэмпы эвалюцыі, якія характэрны большасці групаў арганізмаў.

**ГРАДАЦИЯ - ГРАДАЦЫЯ** (лац. gradatio - ступень) - ступеньчатае ўдасканаленне арганізацыі жывых істотаў у працэсе эвалюцыі згодна з эвалюцыйным вучэннем Ж. Б. Ламарка (1809).

**ГРАНУЛОКРИНОВАЯ СЕКРЕЦИЯ - ГРАНУЛАКРЫНАВАЯ САКРЭЦЫЯ** - тып сакрэцыі, пры якой сакрэт пераносіцца ўнутранай цытаплазматычнай мембранай, звычайна мембранай пузырка, і выдзяляецца з клеткі пасля таго, як пузырок зальецца з плазмалемай і вызваліць сваё змесціва наверх. Параўн. экрынавая сакрэцыя.

**ГРАНУЛОЦИТЫ - ГРАНУЛАЦЫТЫ** (лац. granulum - зерне і грэч. cytos - клетка) - лейкацыты, якія ўтрымліваюць у сваёй цытаплазме спецыфічную зярністасць. У залежнасці ад афарбоўкі гэтай зярністасці адрозніваюць *базафілы* (фарбуюцца асноўнымі фарбавальнікамі), *эазінафілы* (фарбуюцца кіслымі фарбавальнікамі) і *нейтрафілы* (фарбуюцца фарбавальнікамі абодвух тыпаў). У крыві чалавека Г. складаюць асноўную масу лейкацытаў. Функцыі Г. - захоп і пераtraўленне чужародных часцінак, асабліва бактэрыяў, і ўдзел у імуналагічных рэакцыях.

**ГРАНЫ - ГРАНЫ** - суб'адзінкі хларапластаў, якія бачныя як зялёныя гранулы ў светлавым мікраскопе і як стосікі дыскаватых цыстэрнаў (тылакоідаў) у электронным мікраскопе; у гранах лакалізаваны хларафіл і караціноіды якія ўдзельнічаюць у фотасінтэзе.

**ГРУЗ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ - ЦЯЖАР ГЕНЕТЫЧНЫ** - назапашванне шкодных мутацыяў у папуляцыі, што паніжаюць ступень прыстасаванасці асобінаў да ўмоваў пражывання, а таксама выбіральная пагібель меней прыстасаваных гамазіготаў.

**ГРУППА СЦЕПЛЕНИЯ - ГРУПА СЧЭПЛІВАННЯ** - сукупнасць усіх генаў, лакалізаваных у адной храмасоме (тэрмін эквівалентны храмасоме). Колькасць групаў счэплівання ў клетцы адпавядае гаплоіднай колькасці храмасомаў.

# Д

**ДАВЛЕНИЕ АСМАТИЧЕСКОЕ - ЦІСК АСМАТЫЧНЫ** - залішні вонкавы ціск, які неабходна прыкласці да раствору, каб процідзейнічаць паступленню ў яго растваральніка праз паўпранікальную мембрану, што іх падзяляе.

**ДАВЛЕНИЕ ТУРГОРНОЕ, ТУРГОР - ЦІСК ТУРГОРНЫ, ТУРГОР** (лац. turgor - уздуцце, напаўненне) - напружаны стан клетачнай абалонкі, які ствараецца гідрастатычным ціскам унутрыклетачнай вадкасці. У раслінных клетках унутраны ціск на клетачную абалонку заўсёды перавышае ціск на яе вонкавага раствору. У большасці раслінаў тургорны ціск ляжыць у межах 5 - 10 атм, у галафітаў, грыбоў - 50 - 100 атм.

**ДАРВИНИЗМ - ДАРВІНІЗМ** - матэрыялістычная тэорыя эвалюцыі арганічнага свету, якая заснавана на поглядах Ч. Дарвіна.

**ДЖУНГЛИ - ДЖУНГЛІ** (англ. jingle, джангал на мове хіндзі - зараснікі) - густыя, цяжкапраходныя драўнінна-кустовыя лясы тэрыторый з вільготным кліматам. Д. распаўсюджаны галоўным чынам у Індыі, Індакітаі, на Зондскіх астравах.

**ДЕВИАЦИЯ - ДЭВІЯЦЫЯ** (лац. deviatio - адхіленне) - адхіленне ў развіцці, эвалюцыйная змена марфагенезу якога-небудзь органа на адной з сярэдніх стадыяў (Ф. Мюлер, 1864).

**ДЕГЕНЕРАЦИЯ ДЭГЕНЕРАЦЫЯ** (лац. degenero - выраджацца, зводзіцца, выміраць) - 1) спраш-чэнне структуры органаў і тканак у працэсе антагенезу (напрыклад, знікненне хваста ў галавасціка ў ходзе ператварэння яго ў жабу); 2) рэдукцыя асобных органаў і цэлых сістэмаў у працэсе філагенезу.

**ДЕГРАДАЦИЯ ПРИРОДЫ - ДЭГРАДАЦЫЯ ПРЫРОДЫ** - парушэнне экалагічнай раўнавагі, якое выклікаецца прыроднымі (землетрасенні, паводкі і інш.) або антрапагеннымі (забруджванне вадаёмаў, глебы, высечка лесу і г. д.) прычынамі.

**ДЭИЗМ - ДЭІЗМ** - філасофскае вучэнне, якое прызнае бога ў якасці першапрычыны ўзнікнення прыроды і чалавека. Бог прызнаецца дэістамі стваральнікам свету, але яго штодзённае ўмешванне ў жыццё прыроды і грамадства адмаўляецца.



**ДЕЛЕЦИЯ - ДЭЛЕЦЫЯ** (лац. deletio - недахоп) - храмасомная перабудова, пры якой у выніку, як правіла, двух разрываў у храмасоме адсутнічае інтэрстэцыйны, або ўнутраны, фрагмент храмасомы.

**ДЕМ - ДЭМ** (грэч. demos - народ, насельніцтва) - 1) племя, род, лакальная папуляцыя (да некалькіх дзесяткаў экзэмпляраў), адносна ізаляваная ад іншых падобных групоўка, для якой характэрна падвышаная ступень панміксіі. Д. - адносна кароткатэрміновая (існуе некалькі пакаленняў) групоўка асобінаў. Асноўная прыкмета Д. - устойлівасць тэрыторыі, якую займае дадзеная групоўка арганізмаў. (С. П. Сямёнаў-Цянь-Шанскі, 1906); 2) параўнальна нешматлікая папуляцыя людзей (ад 1500 да 4000 чалавек), у якой часціня ўнутрыгрупавых шлюбаў не перавышае 90%.

**ДЕМОГРАФИЯ - ДЭМАГРАФІЯ** (грэч. demos - народ, насельніцтва і grapho - пісьмо) - навука аб народанасельніцтве, яго геаграфіі, структуры, колькаснай, прастаравай і якаснай дынаміцы (лік, шчыльнасць, узросставая і палавая структура, узаемасувязі).

**ДЕМОНСТРАЦИЯ - ДЭМАНСТРАЦЫЯ** (лац. demonstratio - паказваю) - 1) стэрэатыпныя акты паводзінаў жывёлаў, якія выконваюць ролю галоўных або адзіных сігналаў зносінаў паміж жывёламі (рух цела, паставы, гукі і г. д.); 2) афарбоўка жывёлаў, якая робіць іх прыкметнымі на фоне навакольнага асяроддзя; адзін з тыпаў ахоўнай афарбоўкі і формы. Выдзяляюць папераджальную, пагражальную і прывабную афарбоўкі. *Папераджальная афарбоўка* - яркая афарбоўка, што спалучаецца з ахоўнымі прыстасаваннямі (напрыклад, восы, шмялі, вужакі, божая кароўка і інш.). *Пагражальная афарбоўка* (апасематычная, або адпуджвальная) - ахоўны эфект заснаваны на выглядзе, пагражальных паставах, гуках калі драпежнік прымае прыдатную для ежы жывёлу за небяспечную (напрыклад яркае пуза жабы жарлянкі, якое яна паказвае драпежніку. *Прывабная афарбоўка* - яркая афарбоўка жывёлаў, што спрыяе прывабліванню асобінаў супрацьлеглага полу.

**ДЕМЭКОЛОГИЯ, ПОПУЛЯЦИОННАЯ ЭКОЛОГИЯ - ДЭМЭКАЛОГІЯ, ПАПУЛЯЦЫЙНАЯ ЭКАЛОГІЯ** - раздзел экалогіі, які вывучае структуру, дынаміку, склад, экалогію і эталогію папуляцыяў і ўнутрыпапуляцыйных груповак.

**ДЕНДРОФИЛЫ - ДЭНДРАФІЛЫ** (лац. dendron - дрэва і phileo - люблю) - арганізмы, якія жывуць на дрэвах або звязаны ў сваёй жыццядзейнасці з дрэвамі.

**ДЕНИТРИФИКАЦИЯ - ДЭНІТРЫФІКАЦЫЯ** (лац. de - адмена і нітрыфікацыя) - анаэробнае дыханне - мікрабіялагічны натуральны працэс аднаўлення дэнітрыфіцоўнымі бактэрыямі нітратаў і нітрытаў да аміяку і газападобнага азоту.

**ДЕРЕВЬЯ - ДРЭВЫ** - жыццёвая форма, шматгадовыя расліны, якія маюць адраўнелы просты або разгалінаваны ствол.

**ДЕРНИНА, ДЁРН - ДЗІРВАН, ДЗЁРАН** - верхні гарызонт глебы, густа працізаны пераплеценымі жывымі і нежывымі карэннямі і парасткамі раслінаў, багаты пажыўнымі арганічнымі рэчывамі. Характэрны для лугоў і цалiннага стэпу. Пры глыбокім ворыве, перавышасванні Д. разбураецца.

**ДЕРНОВИНА - ДЗЁРАН** - вялікая колькасць лістоў і сцябліnаў шматналакуставых травяністых раслінаў, звычайна злакаў, асоту. Уяўляе сабою від адаптыўнай рэакцыі да неспрыяльных умоваў асяроддзя. Адрозніваюць наступныя тыпы Д.: балотны (асноўная маса дзярновых раслінаў знаходзіцца над глебай), лугавы (паўапушчаны) і стэпавы (значна апушчаны ў глебу).

**ДЕСМОСОМЫ - ДЭСМАСОМЫ** (грэч. desmos - сувязі і soma - цела) - спецыялізаваныя структуры цытаплазматычнай мембраны, якія забяспечваюць сувязь паміж дзвюма суседнімі жывёльнымі клеткамі.

**ДЕСМОТРУБОЧКА - ДЭСМАТРУБАЧКА** - трубачка, якая звязвае дзве цыстэрны эндаплазма-тычнага рэтыкулуму, размешчаная на двух супрацьлеглых канцах плазмадэсмы.

**ДЕСТРУКЦИЯ - ДЭСТРУКЦЫЯ** (лац. destructio - разбурэнне) - 1) раскладанне і пераўтварэнне арганічнага рэчыва ў неарганічнае; 2) у адносінах да экасістэмы - парушэнне структуры, стабільнасці і функцыянавання экасістэмы катастрафічнымі фактарамі (прыроднымі ці антрапагеннымі).



**ДЕТЕРМИНАНТЫ - ДЭТЭРМІНАНТЫ** (лац. determinante - абмяжоўваю) - расліны, якія вызначаюць умовы асяроддзя ў біяцэнозе. Часта ў гэтай ролі выступаюць дамінантныя віды.

**ДЕТРИТ - ДЭТРЫТ** (лац. detritus - сцёрты, пацёрты) - сукупнасць рэштаў адмерлых раслінаў і жывёлаў, якія назапашваюцца на дне вадаёмаў. На сушы дэтрытнымі называюць адмерлыя арганічныя рэчывы, што падвергліся працэсу разбурэння.

**ДЕФИШЕНСИ - ДЭФІШЭНСІ** - храмасомная перабудова, пры якой адбываецца страта канцовага фрагменту храмасомы.

**ДИАПАУЗА - ДЫЯПАЎЗА** (грэч. diapausa - перапынак) - перапынак у жыццядзейнасці і развіцці арганізмаў, які суправаджаецца паніжэннем абмену рэчываў і дазваляе захаваць жыццядольнасць у неспрыяльны перыяд. Уласціва шматлікім жывёлам. Лепш вывучана ў насякомых і млекакормячых. Вядома зімняя (гібернацыя) і летняя (эстівацыя) дыяпаўзы. У кожнага віду прыпадае на пэўную стадыю развіцця. Уступленне і выхад з Д. рэгулююцца гармонамі, але актывізуецца знешнімі фактарамі.

**ДИАСТЕМА - ДЫЯСТЭМА** (грэч. diastema - адлегласць, прамежак) - прамежак паміж зубамі, які ўзнікае ў выніку частковай рэдукцыі зубной сістэмы ў млекакормячых. У драпежных млекакормячых Д. узнікае ў сувязі з павелічэннем іклаў: у верхняй сківіцы Д. знаходзіцца паміж іклом і разцом і ў яе ўваходзіць ікол ніжняй сківіцы, а ў ніжняй - паміж іклом і пярэднім іпжэкарэнным зубам і ў яе ўваходзіць ікол верхняй сківіцы. Такім чынам, пры змыканні сківіцаў у драпежнікаў іклы заходзяць адзін за другі і ўтвараюць трывалы замок, які спрыяе ўтрыманню здабычы.

**ДИВЕРГЕНЦИЯ - ДЫВЕРГЕНЦЫЯ** (лац. divergo - адхіляюся, адыходжу) - разыходжанне прыкметаў арганізмаў у ходзе эвалюцыі розных філетычных ліній, якія ўзніклі ад агульнага продка (Ч. Дарвін, 1859).

**ДИГРЕССИЯ - ДЫГРЭСІЯ** (лац. digressio - адступленне, адхіленне) - пагаршэнне складу, структуры, прадуктыўнасці супольніцтва, выклікана знешнімі і ўнутранымі прычынамі (адпаведна экза і эндадынамічная дыгрэсія). Фактары экзадынамічнай Д. - працяглае затапленне, другаснае засольванне, перавыпасванне жывёлы, высяканне, выкошванне, рэкрэацыі. Фактары эндадынамічнай Д. - біягеннае засольванне глебы.

**ДИКТИОСОМА - ДЫКТЫЯСОМА** (грэч. diktion - сетка і soma - цела) - мембранная сістэма, структурна-функцыйная адзінка комплексу Гольджы, якая складаецца са стосіка паралельных плоскіх мембранных мяшэчкаў (цыстэрнаў). Кожная з цыстэрнаў утварае па перыферыі пузыркі; калі ўтварэнне пузыркоў адбываецца вельмі актыўна, цыстэрна можа выглядаць сеткаватай. У раслінных клетках Д. адасоблены. Д. называюць таксама цельцам Гольджы, або апаратам Гольджы.

**ДИМОРФИЗМ - ДЫМАРФІЗМ** (грэч. di - двойчы і morphe - форма) - наяўнасць у межах аднаго і таго ж віду жывёлаў або раслінаў дзвюх большменш істотна адрозных паміж сабой формаў (палавы Д., сезонны Д.); разнавіднасць полімарфізму.

**ДИССИМИЛЯЦИЯ - ДЫСІМІЛЯЦЫЯ** (лац. dissimilatio - распадабненне) - катабалізм, акісляльна-аднаўленчы працэс распаду складаных арганічных рэчываў у арганізме. Упершыню ролю адзінства паміж асіміляцыяй і Д. у падтрыманні раўнаважнага стану жыццёвых працэсаў заўважыў французскі фізіёлаг К. Бернар (1875).

**ДИФФУЗИЯ - ДЫФУЗІЯ** (лац. diffusio - распаўсюджванне, расцяканне, рассейванне) - працэс перамяшчэння рэчываў праз біялагічную мембрану з вобласці з больш высокай канцэнтрацыяй у вобласць з нізкай у выніку броўнаўскага руху. Хуткасць перамяшчэння рэчываў прапарцыйная рознасці канцэнтрацый.

**ДИФФУЗИЯ ОБЛЕГЧЁННАЯ - ДЫФУЗІЯ АБЛЕГЧАНАЯ** - працэс перамяшчэння рэчываў, пры якім малекулы рухаюцца з вобласці з высокай канцэнтрацыяй у вобласць з нізкай канцэнтрацыяй пры дапамозе бялкоўпераносчыкаў, што лакалізаваны ў плазматычнай мембране.

**ДОЖДЕВАЯ ТЕНЬ - ДАЖДЖАВЫ ЦЕНЬ** - засушлівая вобласць на падветраным баку горнага хрыбта. Кандэнсацыя і выпадзенне ападкаў адбываецца звычайна на наветраным схіле.

**ДОЖДЬ КИСЛОТНЫЙ - ДОЖДЖ КІСЛОТНЫ** - дождж (і снег), падкіслены (pH ніжэй 5,6) у выніку растварэння ў атмасферы прамысловых выкідаў ($SO_2$, $NO_2$, HCl і інш.). У сваю чаргу, кіслотныя ападкі падкісляюць вадаёмы і глебу, што прыводзіць да пагібелі рыбы, іншых водных арганізмаў і рэзкага зніжэння прыросту лясоў, іх высыхання.



**ДОМИНАНТЫ - ДАМІНАНТЫ** (лац. dominantus - пануючы) - віды раслінаў, якія пераважаюць колькасна ці па біямасе ў біяцэнозе. Прадуцыруюць большую частку арганічнага рэчыва, іграюць вядучую ролю ў стварэнні асяроддзя сярод эдыфікатараў; асобіна, што пануе ў групе (статке, чарадзе і да т. п.).

**ДРЕЙФ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ (ДРЕЙФ ГЕНОВ) - ДРЭЙФ ГЕНЕТЫЧНЫ (ДРЭЙФ ГЕНАЎ)** - змена часціні генаў або алеляў у папуляцыі ў выніку выпадковых хістанняў яе колькасці (напр. малыя памеры папуляцыі). Дрэйф генаў не прыводзіць да генатыпічнай адаптацыі да асяроддзя.

**ДРИОПИТЕКИ - ДРЫЯПІТЭКІ** (лац. Driopithecine - напаўдрэўныя малпы) - падсямейства чалавекападобных малпаў, якое ўключае адзін род з трыма падродамі (дрыяпітэкі, сівапітэкі і праконсулы). Д. - напаўдрэўныя малпы, што з'яўляюцца зыходнай агульнай продкавай групай, ад якой паходзяць сучасныя афрыканскія чалавекападобныя малпы і чалавек.

**ДРУЗА - ДРУЗА** (чэшск. druza - група) - складаны крышталік аксалату кальцыя са шматлікімі адросткамі. Друзы ўтвараюцца ў вакуолях раслінных клетак.

**ДУПЛИКАЦЫЯ - ДУПЛІКАЦЫЯ** (лац. duplicatio - падваенне) - храмасомная перабудова, пры якой адбываецца падваенне аднаго з яе ўчасткаў у выніку разрыву храмасомаў і абмену іх ўчасткамі або пры няроўным красінговеры, калі адзін з участкаў аказваецца прадстаўленым у храмасоме больш за адзін раз.

**ДЫМ - ДЫМ** - узвешаныя ў газападобным асяроддзі цвёрдыя часцінкі. Часта ўтрымлівае таксічныя рэчывы.

**"ДЫРА" ОЗОНОВАЯ -"ДЗІРКА" АЗОНАВАЯ** - значная прастора ў азонасферы з прыкметна паніжаным (да 50%) утрыманнем азону.

**ДЫХАНИЕ - ДЫХАННЕ** - сукупнасць працэсаў, якія забяспечваюць паступленне ў арганізм кіслароду, выкарыстанне яго для метабалічнага разбурэння арганічных злучэнняў з мэтай атрымаць заключаную ў іх хімічную энергію, а таксама выдаленне вуглякіслага газу і некаторых іншых злучэнняў.

## Е

**ЕВГЕНИКА - ЯЎГЕНІКА** (грэч. eugenes - пародзісты) - навука, якая вывучае пытанні паляпшэння прыроды чалавека. Адрозніваюць негатыўную яўгеніку, што мае на мэце папярэджанне нараджэння спадчынна абцяжарных асобаў, і пазітыўную, якая лічыць за свой клопат нараджэнне паўнацэнных, "палепшаных" на шэрагу прыкметаў людзей.

**ЕВФЕНИКА - ЯЎФЕНІКА** - навука пра "добрае" праяўленне спадчынных задаткаў пры правільнай ацэнцы ролі асяроддзя.

## Ж

**ЖГУТИКИ - ЖГУЦІКІ** - гл. раснічкі.

**ЖЕРТВА - АХВЯРА** - асобіна, што падвяргаецца прамому нападу з боку драпежніка. Неабходнае звяно ў сістэме "драпежнік - ахвяра", у якой ахвяра - крыніца харчавання для драпежніка.

**ЖИЗНЕННАЯ ФОРМА - ЖЫЦЦЁВАЯ ФОРМА** - марфалагічны тып прыстасавання раслінаў і жывёлаў да асноўных фактараў месцапражывання і пэўнага вобразу жыцця.

**ЖИЗНЕННОЕ ПРОСТРАНСТВО - ЖЫЦЦЁВАЯ ПРАСТОРА** - мінімум прасторы, якая забяспечвае нармальнае існаванне арганізма.

**ЖИЗНЕННЫЙ ЦИКЛ, ЦИКЛ РАЗВИТИЯ - ЖЫЦЦЁВЫ ЦЫКЛ, ЦЫКЛ РАЗВІЦЦЯ** - сукупнасць усіх фазаў развіцця, ў выніку праходжання праз якія, пачынаючы ад зіготы, арганізм дасягае сталасці і здольны даваць наступнае пакаленне.

**ЖИЗНЕСПОСОБНОСТЬ - ЖЫЦЦЯЗДОЛЬНАСЦЬ** - здольнасць асобіны захоўваць сваё існаванне ў зменлівых умовах навакольнага асяроддзя.

**ЖОРДАНИЗМ - ЖАРДАНІЗМ** - сукупнасць поглядаў А. Жардана, які лічыў відамі толькі ідэальныя манатыпічныя формы, што захоўваюцца ў нашчадкаў пры шматгадовай культуры раслінаў.



**ЖОФФРУИЗМ - ЖАФРУІЗМ** - вучэнне аб адэкватным змяненні арганізма пад непасрэдным уплывам асяроддзя. Ж. не зусім дакладна часам атаесамліваюць з ламаркізмам.

## З

**ЗАБОЛАЧИВАНИЕ - ЗАБАЛОЧВАННЕ** - гідрагенная сукцэсія экзадынамічнага тыпу - аглеенне і атарфяненне арганічных рэчываў біяцэнатычнага асяроддзя, у першую чаргу глебы, якое суправаджаецца змяненнем расліннага і жывёльнага складу (з'яўленне гідрафільных і гіграфільных відаў). З. адбываецца ў выніку выпадзення вялікай колькасці ападкаў, падняцця і апускання грунтовых водаў, памылковых меліяратыўных работаў.

**ЗАГРЯЗНЕНИЕ - ЗАБРУДЖВАННЕ** - прынясенне ў асяроддзе новых, не характэрных для яго ў разглядаемы час хімічных, фізічных, біялагічных фактараў або перавышэнне натуральнага сярэднешматгадовага ўзроўню гэтых фактараў.

**ЗАКАЗНИК - ЗАКАЗНІК** - часова ахоўваемая тэрыторыя або акваторыя, на якой ахоўваюць асобныя віды раслінаў, жывёлаў, геалагічныя аб'екты, элементы ландшафту. Арганізуецца на зямлі гаспадарак, дзейнасць якіх рэгламентуецца ў такім аб'ёме, каб не нанесці шкоды ахоўваемым аб'ектам.

**ЗАКОН ЗАРОДЫШЕВОГО СХОДСТВА - ЗАКОН ЗАРОДКАВАГА ПАДАБЕНСТВА** - эмпірычнае абагульненне К. М. Бэра (1828): у антагенезе ўсіх жывёлаў спачатку развіваюцца прыкметы вышэйшых таксанамічных катэгорыяў (тып, клас); у ходзе далейшай эмбрыялагічнай дыферэнцыяцыі развіваюцца асаблівасці атрада, сямейства, роду, віду і асобіны. У выніку гэтай заканамернасці прадстаўнікі розных групаў арганізмаў на ранніх стадыях эмбрыёгенезу звычайна больш падобныя адзін на аднаго, чым на дарослыя асобіны.

**ЗАКОН ЛИНДЕМАНА (1942) - ЗАКОН ЛІНДЭМАНА (1942)** - тэрмадынамічная інтэрпрэтацыя цыркуляцыі патоку энергіі праз трафічныя ўзроўні ў экасістэме. Закон, згодна з якім толькі частка энергіі (10%), што паступіла на вызначаны трафічны ўзровень біяцэнозу, перадаецца арганізмам, якія знаходзяцца на больш высокіх трафічных узроўнях. Напрыклад, колькасць энергіі, якая даходзіць да 5-га трафічнага ўзроўню,

складае каля $10^{-4}$ энергіі, паглынутай прадуцэнтамі. Гэта тлумачыць абмежаваную колькасць (5 - 6) звенняў (узроўняў) у харчовым ланцугу.

**ЗАКОН МИНИМУМА ЛИБИХА - ЗАКОН МІНІМУМУ ЛІБІХА** - вынослівасць арганізму вызначаецца самым слабым звяном у ланцугу яго экалагічных патрэбаў. Згодна з З. м. Л. рост раслінаў, велічыня і ўстойлівасць ураджаю залежаць ад рэчыва, канцэнтрацыя якога ляжыць у мінімуме. З. м. Л. - закон аб ролі экалагічных фактараў у распаўсюджванні і колькасным развіцці арганізмаў не прымяняецца да сістэмаў з няўстойлівым станам, калі паступленне ў іх розных рэчываў незакан...мерна мяняецца і лімітоўнымі папераменна або адначасова становяцца многія фактары. З. м. Л. адкрыты ў 1940 г.

**ЗАКОН НЕОБРАТИМОСТИ ЭВОЛЮЦИИ (закон Л. ДОЛЛО) - ЗАКОН НЕАБАРАЧАЛЬНАСЦІ ЭВАЛЮЦЫІ (закон Л. ДАЛО)** - заканамернасць гістарычнага развіцця арганізмаў, якая праяўляецца ў тым, што арганізмы, трапляючы ў сваё папярэдняе асяроддзе існавання, поўнасцю ўжо не вяртаюцца да продкавага стану. Закон сфармуляваны ў 1893 г.

**ЗАКОН ОГРАНИЧИВАЮЩИХ ФАКТОРОВ, ЗАКОН ЛИМИТИРУЮЩИХ ФАКТОРОВ - ЗАКОН АБМЯЖОЎНЫХ ФАКТАРАЎ, ЗАКОН ЛІМІТОЎНЫХ ФАКТАРАЎ** (з'яўляецца пашырэннем Закона талерантнасці Шэлфарда), згодна з якім фактары асяроддзя, што маюць у дадзеных умовах песімальнае значэнне г. зн. найбольш аддаленыя ад оптымуму асабліва абцяжарваюць, абмяжоўваюць магчымасць існавання віду ў дадзеных умовах, нягледзячы на аптымальнае спалучэнне астатніх умоваў. З. а. ф. адкрыты Ф. Блэкманам (1909 г.).

**ЗАКОН ОДНОСТОРОННЕГО ПОТОКА ЭНЕРГИИ в биоценозах - ЗАКОН АДНАБАКОВАГА ПАТОКУ ЭНЕРГІІ ў біяцэнозах**, згодна зякім энергія, што атрымана біяцэнозам шляхам эндатэрмічнага фотасінтэзу аўтатрофнымі арганізмамі-прадуцэнтамі разам з іх біямасай, перадаецца гетэратрофным арганізмамі-кансументам і мікраарганізмам-рэдуцэнтам. Накірунак гэтага энергетычнага патоку незваротны і выражаны ў выглядзе экалагічнай піраміды.

**ЗАКОН ПРОГРЕССИВНОЙ СПЕЦИАЛИЗАЦИИ (закон Ш. ДЕПЕРЕ, 1907) - ЗАКОН ПРАГРЭСІЎНАЙ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫІ (закон Ш. ДЭПЕРЭ, 1907)** - група арганізмаў, якая ў працэсе эвалюцыі ўступіла на шлях спецыялізацыі, непазбежна вымушана ісці да ўсё больш глыбокай і вузкай



спецыялізацыі і пры нязначных змяненнях умоваў існавання, як правіла, вымірае.

**ЗАКОН ТОЛЕРАНТНОСТИ ШЭЛФАРДА - ЗАКОН ТАЛЕРАНТНАСЦІ ШЭЛФАРДА** - закон, згодна з якім лімітоўным фактарам росквіту можа быць як мінімум, так і максімум экалагічнага фактара, дыяпазон паміж якімі вызначае велічыню талерантнасці (вынослівасці) арганізма да дадзенага фактара. Адкрыты В. Шэфілдам (1913), пашырае Закон мінімуму Лібіха.

**ЗАКРЫТАЯ ПАРА - ЗАКРЫТАЯ ПАРА** - аблямаваная пора, у якой замыкальная плёнка латэральна зрушаная і торус закрывае апертуру; З. п. сустракаецца ў драўніне голанасенных.

**ЗАРОДЫШЕВЫЕ ЛИСТКИ, ЗАРОДЫШЕВЫЕ ПЛАСТЫ - ЗАРОДКАВЫЯ ЛІСТКІ, ЗАРОДКАВЫЯ ПЛАСТЫ** - пласты цела зародка шматклетачных жывёлаў, якія ўзнікаюць у працэсе гаструляцыі.

**ЗАРОДЫШЕВОЕ РАЗВИТИЕ, ЭМБРИОГЕНЕЗ - ЗАРОДКАВАЕ РАЗВІЦЦЁ, ЭМБРЫЯГЕНЕЗ** - развіццё тыповага арганізма, якое адбываецца ў сярэдзіне яйцавых абалонак па-за мацярынскім арганізмам або ў сярэдзіне яго ў зародкавых абалонках.

**ЗАМОР - ЗАМОР** - пагібель вадзяных жывёлаў, выкліканая паніжэннем колькасці кіслароду да 5 - 30% нормы ў выніку забруджвання вадаёму арганічнымі рэчывамі (эўтрафікацыя), што патрабуюць для акіслення вялікай колькасці кіслароду або замярзання.

**ЗАПОВЕДНИК - ЗАПАВЕДНІК** - ахоўная тэрыторыя або акваторыя, на якой захоўваецца ўвесь прыродны комплекс з уключэннем тыповых або рэдкіх ландшафтаў, уласцівы дадзенаму рэгіёну генафонд арганізмаў. Назаўсёды выключаецца з гаспадарчага выкарыстання. Любыя віды гаспадарчай дзейнасці забаронены. З. арганізуюцца з мэтай захоўвання і аднаўлення эталонных прыродных экасістэмаў. Запаведнікі з тыповымі для дадзенай геаграфічнай зоны біяцэнозамі адносяцца да біясферных.

**ЗАСОЛЕНИЕ ПОЧВ - ЗАСОЛЬВАННЕ ГЛЕБЫ** - павышэнне ў глебе лёгкараствaральных соляў (карбанату натрыю, хларыдаў і сульфатаў), абумоўленае засоленасцю глебаўтваральных пародаў, прыўнясеннем соляў грунтовымі і паверхневымі водамі, можа быць абумоўлена няправільным арашэннем (адна з галоўных прычынаў).

ЗЕМНАЯ КОРА - ЗЯМНАЯ КАРА - частка літасферы, верхняя "цвёрдая" абалонка Зямлі ад 3 - 4 да 50 - 75 км у таўшчыню (пад акіянам 5 - 10 км).

ЗИГОТА - ЗІГОТА (грэч. zygote - злучаная ў пару) - клетка, якая ўтвараецца ў выніку зліцця дзвюх гаметаў.

ЗИНДЖАНТРОП - ЗІНДЖАНТРОП (зіндж - арабская назва Афрыкі і грэч. anthropos - чалавек) - чалавек паўднёва-усходняй Афрыкі, адзін з відаў аўстралапітэкавых, якія жылі каля 2 млн. гадоў назад. Блізкія да яго формы былі шырока распаўсюджаны ў Паўднёвай і Ўсходняй Афрыцы.

ЗНАЧИМОСТЬ ВИДА - ЗНАЧЫМАСЦЬ ВІДУ - доля яго ўдзелу ў структуры і прадуктыўнасць супольніцтва. Выражаецца ў працэнтах удзелу (адноснае пакрыццё, запас фітамасы, заамасы, біямасы, доля ад агульнай прадуктыўнасці).

ЗОНА - ЗОНА (грэч. zone - пояс) - вобласць або частка якога-небудзь раёна, якая характарызуецца асаблівасцямі клімату, падабенствам жыцця жывёлаў і раслінаў; пэўная паласа прасторы.

ЗОНА АФОТИЧЕСКАЯ - ЗОНА АФАТЫЧНАЯ - глыбінная марская зона, якая знаходзіцца ніжэй за 200 - 300 м, куды не пранікае сонечнае святло, дзе адсутнічаюць фотасінтэзоўныя расліны і жывуць толькі гетэратрофныя арганізмы.

ЗОНА БОРЕАЛЬНАЯ - ЗОНА БАРЭЯЛЬНАЯ - памяркоўная тэмпературная зона, у межах якой сезонныя хістанні тэмпературы дасягаюць 8 - 12°C, сярэдняя тэмпература роўная 8 - 10°C. Тэмпературная зона Сусветнага акіяну да глыбіні 700 - 1000 м, што ляжыць на поўнач ад трапічнай, г. зн. ад 40° п. ш. да 60° п. ш.

ЗОНА ДИСФОТИЧЕСКАЯ - ЗОНА ДЫСФАТЫЧНАЯ - зона таўшчыні вады, прамежкавая паміж эўфатычнай і афатычнай зонамі; змрокавая зона.

ЗОНА КОМФОРТА - ЗОНА КАМФОРТУ - дыяпазон інтэнсіўнасці фактараў навакольнага асяроддзя, які адпавядае экалагічнаму оптымуму віду або арганізма.

ЗОНА ЛИМНИЧЕСКАЯ - ЗОНА ЛІМНІЧНАЯ - таўшчыня вады ўнутранага (прэснага) вадаёму да глыбіні эфектыўнага пранікнення святла.



ЗОНА ОПТИМУМА - ЗОНА ОПТЫМУМУ - участак дыяпазону хістання экалагічнага фактару, у межах якога максімальна праяўляюцца жыццёвыя функцыі арганізма (папуляцыі).

ЗОНА ПЕССИМУМА - ЗОНА ПЕСІМУМУ - крайнія (за межамі оптымуму) участкі дыяпазону хістання экалагічнага фактару, дзе назіраецца прыніжэнне жыццядзейнасці арганізма (папуляцыі).

ЗОНА ФОТИЧЕСКАЯ - ЗОНА ФАТЫЧНАЯ - гл. зона эўфатычная.

ЗОНАЛЬНОСТЬ ШИРОТНАЯ - ЗАНАЛЬНАСЦЬ ШЫРОТНАЯ - геаграфічнае дзяленне зямной паверхні на зоны па кліматычных і біягеаграфічных асаблівасцях у сувязі з пераважна шыротным размеркаваннем сонечнай радыяцыі. Занальныя экасістэмы найбольш яскрава выражаны на раўнінах, у далечыні ад заходніх і ўсходніх ускраінаў кантынентаў, якія адчуваюць дзейнасць марскога клімату.

ЗОНА ЭВФОТИЧЕСКАЯ - ЗОНА ЭЎФАТЫЧНАЯ - верхняя зона вадаёму, дзе асвечанасць дастатковая для фотасінтэтычнай жыццядзейнасці раслінаў. Таўшчыня слоя вады (вызначальная яе празрыстасць) у З. э. у сусветным акіяне складае ў сярэднім 200 м. Да З. э. прывязаныя трафічна ўсе водныя экасістэмы.

## И

ИДИОАДАПТАЦИЯ - ІДЫЁАДАПТАЦЫЯ (грэч. idios - асаблівы, своеасаблівы і адаптацыя) - 1) алламарфоз, прыватнае прыстасаванне арганізмаў да пэўнага спосабу жыцця ў канкрэтных умовах навакольнага асяроддзя; 2) напрамак эвалюцыі паводле А. М. Северцава; тое ж самае, што і алагенез. Ідыёадаптацыю І. Шмальгаўзен падзяліў на два тыпы прыстасаванняў - алламарфоз і спецыялізацыю. Спецыялізацыя - памяншэнне адаптыўнай зоны нашчадкаў у параўнанні з продкамі.

ИДИОБЛАСТ - ІДЫЯБЛАСТ (грэч. idios - асаблівы, своеасаблівы і blastos - зародак) - клетка ў тканцы, якая прыкметна адрозніваецца па форме або

змесціве ад іншых клетак той жа тканкі, напрыклад, склераіды (апорныя клеткі) у парэнхіме ліста.

**ИДИОГРАММА - ІДЫЁГРАМА** (грэч. idios - асаблівы, своеасаблівы і gramma - запіс) - схематычнае адлюстраванне храмасомнага набору, якое паказвае адносныя памеры храмасомаў і іх плячэй, становішча цэнтрамераў, спадарожнікаў, другасных перацяжак. Ідыёграма - карыятып (гл.), прадстаўлены ў выглядзе дыяграмы.

**ИДИОТИП - ІДЫЁТЫП** (грэч. idios - асаблівы, своеасаблівы, typos - вобраз) - сукупнасць спадчынных фактараў асобіны, інакш, генная сістэма эўкарыётаў, прадстаўленая *генатыпам* (ядзерным спадчынным апаратам) і *плазматыпам* (цытаплазматычнымі спадчыннымі фактарамі).

**ИЗМЕНЧИВОСТЬ - ЗМЕНЛІВАСЦЬ** - здольнасць жывых арганізмаў у перыяд антагенезу пад уздзеяннем фактараў знешняга асяроддзя страчваць старыя прыкметы і ўласцівасці і набываць новыя, г. зн. змяняцца. Адрозніваюць *спадчынную* зменлівасць (камбінатыўная, мутацыйная), звязаная са структурнымі перабудовамі спадчыннага апарату, і *неспадчынную* (мадыфікацыі, марфозы), пры якой структурных зменаў у генатыпе не адбываецца.

**ИЗОГАМИЯ - ІЗАГАМІЯ** (грэч. isos - роўны, аднолькавы і gamos - шлюб) - апладненне шляхам зліцця знешне і фізіялагічна (абедзве нерухомыя) аднолькавых мужчынскіх і жаночых гаметаў, якія пазначаюцца як мінус- і плюс-гаметы.

**ИЗОЛИНИЯ - ІЗАЛІНІЯ** - лінія на карце або плане, якая злучае кропкі з аднолькавымі значэннямі якой-небудзь велічыні і дае наглядное ўяўненне аб яе размеркаванні на паверхні Зямлі.

**ИЗОЛЯТЫ - ІЗАЛЯТЫ** (фр. isolateur - ізалятар) - элементарныя мендэлееўскія папуляцыі, дастаткова жорстка ізаляваныя (геаграфічна, экалагічна або біялагічна) ад іншых папуляцыяў дадзенага віду і



характарызуюцца высокай часцінёй (у чалавечых папуляцыях больш за 90%) блізкапародна сных скрыжоўванняў.

**ИЗОЛЯЦИЯ - ІЗАЛЯЦЫЯ** (фр. isolation - аддзяленне, разлучэнне, раз'яднанне) - выключэнне або поўныя цяжкасці вольнага спарвання паміж асобінамі аднаго віду, якія вядуць да адасаблення
ўнутрывідавых груп аў. Выдзяляюць геаграфічную і рэпрадукцыйную І. *Геаграфічная* (тэрытарыяльна-механічная, або прасторавая) ізаляцыя - адасабленне дадзеных папуляцыяў ад іншых папуляцыяў таго ж віду якімі-небудзь цяжка пераадольнымі геаграфічнымі бар'ерамі.
*Рэпрадукцыйная* (біялагічная) ізаляцыя - нязлучальнасць у прыродных умовах паміж арганізмамі аднаго і таго ж віду, што жывуць сумесна. У межах біялагічнай ізаляцыі выдзяляюць эталагічную (адрозненні асобінаў у паводзінах), *экалагічную або біятапічную* (заснавана на пераважна розным месцажыхарстве), *марфафункцыйную або фізіялагічную* (заснавана на розніцы ў памерах цела, прапорцыях і структуры арганізмаў і іх асобных органаў) і генетычную ізаляцыю (адрозненні спадчыннага апарату, якія прыводзяць да несумяшчальнасці палавых клетак).

**ИЗОТОПЫ - ІЗАТОПЫ** (грэч. isos - роўны, аднолькавы і topos - месца) - элементы з аднолькавым парадкавым нумарам, але з рознай атамнай масай. Большасць радыёактыўных ізатопаў, важных для экалогіі,

**ИЕРАРХИЯ - ІЕРАРХІЯ** (грэч. hieros - свяшчэнны і arche - улада) - адна з формаў эталагічнай структуры папуляцыі. Адлюстроўваецца ў падпарадкаванні адных асобінаў другімі, заснаванымі на іх генетычнай і фізіялагічнай разнаякаснасці.

**ИЛ - ГЛЕЙ** - донныя ападкі вадаёмаў рознага паходжання. Г. - пачатковая стадыя фармавання мноства ападкавыхародаў. Адрозніваюць *марскі і кантынентальны* (азёрны, балотны) Г. Згодна з генезісам адрозніваюць: *тэрыгенны* (гліністы і інш.), *біягенны* (дыятомавы, глыбагерынавы і інш.), *хемагенны* (карбанаты і інш.), *вусканагенны* . Г. уяўляе сабою адзін з асноўных тыпаў субстратаўдля донных (бентасных) біяцэнозаў.

**ИЛ АКТИВНЫЙ - ГЛЕЙ АКТЫЎНЫ** - камякі, якія складаюцца з аэробных заглееўтваральных бактэрыяў, грыбкоў і інш. мікраарганізмаў, што ажыццяўляюць біяхімічны працэс у аэрацыйных збудаваннях пры ачыстцы сцёкавых водаў. Г. а. - прыклад няпоўнай экасістэмы, прадстаўленай толькі

рэдуцэнтамі (прадуцэнты і кансументы адсутнічаюць). Тэрмін прапанаваны ў 1914 г.

**ИММИГРАЦИЯ - ІМІГРАЦЫЯ** (лац. immigro - засяляюся) - засяленне на новую для дадзенай асобіны або групы асобінаў тэрыторыю.

**ИММУНОГЛОБУЛИНЫ - ІМУНАГЛАБУЛІНЫ** (лац. immunus - вольны ад чаго-небудзь і globulus - шарык) - спецыфічныя складаныя малекулы з групы глікапратэідаў (іх вядома 5 класаў - JgG, JgM, JgA, JgD, JgE), якія нейтралізуюць антыгены (гл.). Выпрацоўваюцца ў клетках лімфоідных тканак, затым або выдзяляюцца ў кроў, або ўключаюцца ў клеткавую мембрану, утвараючы спецыфічныя рэцэптары.

**ИНБРИДИНГ, ИНЦУХИТ - ІНБРЫДЗІНГ** (англ. inbreeding ад in - у, усярэдзіне + breeding - развядзенне), **ІНЦУХІТ** (у раслінаў, гл.) - скрыжоўванне блізкароднасных асобінаў у межах адной папуляцыі . Крайняй формай інбрыдзінгу з'яўляецца самаапыленне.

**ИНВЕРСИЯ - ІНВЕРСІЯ** (лац. inversio - пераварочванне) - структурная храмасомная мутацыя, пры якой адбываецца разрыў храмасомы ў двух пунктах і паварот вылетаванага сегменту на 180° з наступным убудоўваннем у храмасому.

**ИНВОЛЮЦИЯ - ІНВАЛЮЦЫЯ** (лац. involuto - выгін, завіток. скарачэнне) - 1) рэдукцыя або страта ў працэсе эвалюцыі асобных органаў, спрашчэнне іх будовы і функцыяў; 2) зваротнае развіццё органаў, тканак і клетак (напрыклад, інвалюцыя маткі пасля родаў); 3) атрафія органаў пры паталогіі і старэнні.

**ИНДЕКС ЛИСТОВОЙ ПОВЕРХНОСТИ - ІНДЭКС ЛІСТАВОЙ ПАВЕРХНІ** (*J*) - адносіна плошчы лістоў і шыпулек да плошчы глебы біяцэнозу. На лугах роўны 30, у хвойных лясах - 28, у стэпах - 2,5.

**ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ ОТБОР - ІНДЫВІДУАЛЬНЫ АДБОР** - адзін з відаў метадычнага штучнага адбору, які дазваляе ацаніць гаспадарча карысныя якасці асобінаў згодна са ступенню іх спадчыннасці. Ацэнка генатыпу пры індывідуальным адборы можа праводзіцца шляхам вывучэння характару атрымання ў спадчыну прыкметы ў шэрагу пакаленняў (адбор па нашчадках), аналізу радаслоўных і прадуктыўнасці роднасных асобінаў з дапамогай сіб-селекцыі ў сібсаў даследуемай асобіны.



**ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ УЧАСТОК, АРЕАЛ - ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЎЧАСТАК, АРЭАЛ** - участак, які заняты адной асобінай, сямейнай парай, сям'ёй. Індывідуальныя ўчасткі некалькіх сем'яў могуць часткова перакрывацца. Многія віды пазначаюць межы ўчастка (мачой, калам (экскрэментамі), пахучымі выдзяленнямі, драпінамі на дрэвах, спевамі). І. у., што актыўна ахоўваюцца ад асобінаў свайго віду, называюцца тэрыторыяй. Часам І. у. ахоўваюцца толькі ў перыяд размнажэння.

**ИНТРОДУКЦИЯ - ІНТРАДУКЦЫЯ** (лац. introductio - увядзенне) - 1) увядзенне сартоў раслінаў у месцы, вобласці, дзе яны раней нераслі; 2) увядзенне ў культуру дзікарослых відаў. І. з'яўляецца пачатковым этапам акліматызацыі; 3) распаўсюджванне жывёлаў за межы натуральнага арэалу і іх прыстасаванне да новых умоваў.

**ИНТРУЗИВНЫЙ РОСТ - ІНТРУЗІЎНЫ РОСТ** - тып росту, пры якім клетка, што расце, укараняецца сваім канцом паміж другімі клеткамі, аддзяляючы іх адну ад другой па сярэдняй пласцінцы.

**JS-ИНСЕРЦИОННЫЕ СЕГМЕНТЫ - JS-ІНСЕРЦЫЙНЫЯ СЕГМЕНТЫ** (англ. insertion sequence - паслядоўныя ўстаўкі) - уставачныя паслядоўнасці ДНК, у якіх знаходзяцца гены, неабходныя для транспазіцыі (гл.), маюць праматорныя і тэрмінаторныя ўчасткі (гл.) і здольныя перамяшчацца ў геноме з аднаго месца ў другое, адначасова рэпліцуючы, але ніколі не пераходзячы ў вольны аўтаномны стан.

**ИНСЕРЦИЯ - ІНСЕРЦЫЯ** - перамяшчэнне і змена лакалізацыі ўчастка храмасомы па яе даўжыні.

**ИНТЕРСЕКС - ІНТЭРСЕКС** (лац. inter - паміж і sexuales - палавы) - раздзельнаполыя асобіны з прамежкавым праяўленнем прыкметаў полу. У адрозненне ад гінандраморфаў у інтэрсексаў адсутнічаюць па-рознаму дэтэрмінаваныя згодна з полам сектары цела.

**ИНТЕРФАЗА - ІНТЭРФАЗА** (лац. inter - паміж) - фаза клеткавага цыклу паміж двума падзеламі клеткі; падзяляецца на перыяды: G1, S, G2 (перадсінтэтычны, сінтэтычны і постсінтэтычны).

**ИНТРОН - ІНТРОН** (англ. intron, agintervening sequence - літаральна прамежкавая паслядоўнасць) - транскрыбуемы, але які не нясе сэнсавай

нагрузкі, участак ДНК, што аддзяляецца з *i*-РНК пры сплайсінгу, у выніку чаго паслядоўнасці, якія знаходзяцца па абодва бакі ад інтрону (экзоны, гл.) аб'ядноўваюцца.

**ИНТУСУССЕПЦИЯ - ІНТУСУСЕПЦЫЯ** - рост клетачнай абалонкі шляхам укаранення новага матэрыялу ў раней сфармаваную абалонку. Параўн. апазіцыя.

## К

**КАЛЛОЗА - КАЛЁЗА** - поліцукрыд *в*-1,3-глюкан, які ўтварае пры гідролізе глюкозу. Звычайны кампанент клетачнай абалонкі ў сітаватых элементах; утвараецца таксама ў сітаватых элементах і парэнхімных клетках пасля іх пашкоджання.

**КАНАЛИЗАЦИЯ - КАНАЛІЗАЦЫЯ** - стабілізацыя шляхоў антагенетычнага развіцця ў працэсе эвалюцыі (гл. адбор стабілізуючы).

**КАПСИД - КАПСІД** - знешняя бялковая абалонка вірусная часцінкі.

**КАРИОЛЕММА - КАРЫЯЛЕМА** (грэч. karyon - ядро і lemma - абалонка) - тое ж самае, што і карыятэка.

**КАРИОПЛАЗМА - КАРЫЯПЛАЗМА** (грэч. karyon - арэх, ядро арэха і plasma - вылеплены, сфармаваны), ядзерны сок - змесціва клетачнага ядра,у якое апушчаны ўнутрыядзерныя гранулы.

**КАРИОТЕКА - КАРЫЯТЭКА** (грэч. karyon - ядро і theke - абалонка), ядзерная абалонка, ядзерная мембрана - вельмі тонкая абалонка, якая адмяжоўвае змесціва клетачнага ядра ад цытаплазмы. Яна складаецца з дзвюх мембранаў: унутранай безупыннай і вонкавай порыстай, паміж якімі знаходзіцца перынуклеарная прастора. Таўшчыня мембраны [illegible] - 8 нм. Карыятэка пранізана порамі дыяметрам 60 - 100 нм, на краях якіх вонкавая мембрана пераходзіць ва ўнутраную. Праз поры адбываецца транспарціроўка бялкоў, рыбануклеідаў і інш. Вонкавая месцамі можа часова пераходзіць у мембраны эндаплазматычнага рэтыкулума, звычайна яна нясе рыбасомы.

**КАРИОТИП - КАРЫЯТЫП** (грэч. karyon - ядро і typas - вобраз) - характэрныя для кожнага віду асаблівасці дыплоіднага храмасомнага набору



саматычнай клеткі, якія адносяцца да колькасці, памераў і формы храмасомаў.

**КАТАБОЛИТЫ - КАТАБАЛІТЫ** (грэч. katabole - скідванне ўніз) - канцовыя прадукты абмену рэчываў (напрыклад, аксалат кальцыю ў раслінаў).

**КАТАСТРОФА ЭКОЛОГИЧЕСКАЯ - КАТАСТРОФА ЭКАЛАГІЧНАЯ** (грэч. katastrophe - пераварот) - поўнае парушэнне экалагічнай раўнавагі ў прыродных жывых сістэмах, што ўзнікае, як правіла, у выніку прамога ці ўскоснага ўздзеяння чалавечай дзейнасці. К. э. можа быць прадухілена навукова абгрунтаванай сістэмай рацыянальнага выкарыстання і аховы рэсурсаў біясферы.

**КАТАСТРОФИЗМ; ТЕОРИЯ КАТАСТРОФ - КАТАСТРАФІЗМ, ТЭОРЫЯ КАТАСТРОФАЎ** (грэч. katastrophe - пераварот) - вучэнне, якое разглядае геалагічную гісторыю Зямлі як чаргаванне працяглых эпохаў адноснага спакою і кароткіх катастрафічных падзеяў, што пераўтвараюць аблічча планеты (Ж. Кюв'е, 1912).

**КВАНТОВАЯ ЭВОЛЮЦИЯ - КВАНТАВАЯ ЭВАЛЮЦЫЯ** - хуткае філагенетычнае пераўтварэнне групы арганізмаў, якое вядзе да ўзнікнення новага буйнога таксону за параўнальна непрацяглы час у выніку пранікнення ў новае асяроддзе (паводле Д. Сімпсана).

**КВАНТОСОМЫ - КВАНТАСОМЫ** (лац. quantum - колькі і soma - цела) - гранулы, якія размяшчаюцца на ўнутранай паверхні мембранаў хларапласту, што ўтвараюць тылакойды. Лічаць, што К. з'яўляюцца функцыйнымі адзінкамі фотасінтэзу.

**КЕРАТИН - КЕРАЦІН** (грэч. keras - рог) - бялковы кампанент валасоў, шэрсці, пазногцяў і пёраў.

**КЛАДОГЕНЕЗ - КЛАДАГЕНЕЗ** (грэч. klados - галінка і genesis - паходжанне, развіццё) - разгалінаваная эвалюцыя, форма эвалюцыі арганізмаў, якая прыводзіць пры дапамозе адаптыўнай радыяцыі да ўзнікнення з адной групы (таксону) арганізмаў некалькіх у межах папярэдняга ўзроўню арганізацыі (паводле Р. Раншу) Паняцце блізкае да тэрміна "*ідыёадаптацыя*".

**КЛЕЙКОВИНА - КЛЕЙКАВІНА** - аморфны бялок, які знаходзіцца ў крухмалістым эндасперме злакаў.

**КЛЕТКА ОКРЕМНЕВШАЯ - КЛЕТКА АКРАМЯНЕЛАЯ** - клетка, запоўненая крэмніем, гэтаксама як і ў эпідэрме злакаў.

**КЛЕТОЧНАЯ МЕМБРАНА, ПЛАЗМОЛЕММА, ПЛАЗМАТИЧЕСКАЯ МЕМБРАНА, ЦИТОПЛАЗМАТИЧЕСКАЯ МЕМБРАНА - КЛЕТАЧНАЯ МЕМБРАНА, ПЛАЗМАЛЕМА, ПЛАЗМАТЫЧНАЯ МЕМБРАНА, ЦЫТАПЛАЗМАТЫЧНАЯ МЕМБРАНА** (cytolemma, plasmalemma) - мембрана, якая адасабляе цытаплазму клеткі ад навакольнага асяроддзя або абалонкі клеткі (у раслінных і грыбных клетках). Таўшчыня К. м. 7 - 10 нм. К. м. фармуецца ў гранулярнай эндаплазматычнай сетцы, потым мадыфікуецца ў апараце Гольджы. Адыгрывае важную ролю ў абмене рэчываў паміж клеткай і навакольным асяроддзем. У руху клетак і сашчэпліванні іх адна з адной. К. м. напаўпранікальная: свабодна прапускае ваду; хуткасць дыфузіі другіх рэчываў прама прапарцыйная іх растваральнасці ў ліпідах і адваротна прапарцыйная іх малекулярнай масе. К. м. здольная да піна- і фагацытозу, утварае розныя тыпы міжклетачных кантактаў.

**КЛЕТОЧНАЯ ОБОЛОЧКА РАСТЕНИЙ, ГРИБОВ, КЛЕТОЧНАЯ СТЕНКА - КЛЕТАЧНАЯ АБАЛОНКА РАСЛІНАЎ, ГРЫБОЎ, КЛЕТАЧНАЯ СЦЕНКА** (membrana cellulae) - структурнае ўтварэнне на перыферыі клеткі (за межамі клетачнай мембраны), якое надае ёй трываласць, засцерагае яе форму і абараняе пратапласт. Аснова К. а. - высокамалекулярныя вугляводы: цэлюлоза, геміцэлюлоза і інш. Часам К. а. ёсць у клетак прасцейшых і шматклетачных жывёлаў. Яна адрозніваецца большай разнастайнасцю і можа выконваць функцыю вонкавага каркаса (пелікула прасцейшых, хіцінавая кутікула членістаногіх), адыгрывае абарончую ролю (шматпластовая абалонка яйцаклетак, абалонка цыстаў і г. д.).

**КЛЕТОЧНАЯ ПЛАСТИНКА - КЛЕТАЧНАЯ ПЛАСЦІНКА** - перагародка, якая ўзнікае ў тэлафазе паміж двума ядрамі ў працэсе мітозу або меёзу. У клетках зародка, якія дзеляцца, К. п. называецца баразной драблення. Утварэнне К. п. звязваюць з фрагмапластам.

**КЛЕТОЧНАЯ СТЕНКА БАКТЕРИЙ - КЛЕТАЧНАЯ СЦЕНКА БАКТЭРЫЯЎ** - спецыфічная па хімічным складзе абалонка, якая абкружвае пратапласт. Таўшчыня 10 - 50 нм. У большасці бактэрыяў у склад К. с. уваходзіць апорны палімер пептыдагліказ (мурэін). У грамдадатных бактэрыяў мурэін можа складаць да 95%. У грамадмоўных бактэрыяў акрамя тонкага пептыдагліканавага пласта звонку ёсць трохпластовая ліпапратэідная мембрана ( каля 8 нм).



**КЛЕТОЧНАЯ ТЕОРИЯ - КЛЕТАЧНАЯ ТЭОРЫЯ** - адно з найбольш важных біялагічных абагульненняў, згодна з якім усе арганізмы маюць клетачную будову. К. т. сфармулявана Т. Шванам (у 1839 г.), які выкарыстаў асабістыя даследы і вынікі М. Шлейдэна (1838). У далейшым К. т. была развітая ў працах многіх навукоўцаў.

**КЛЕТОЧНЫЙ ЦИКЛ - КЛЕТАЧНЫ ЦЫКЛ** - гл. мітатычны цыкл.

**КЛИМАКС ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ, КЛИМАКС СУКЦЕССИОННЫЙ - КЛІМАКС ЭКАЛАГІЧНЫ, КЛІМАКС СУКЦЭСІЙНЫ** - апошняя адносна ўстойлівая фаза натуральнага развіцця (сукцэсіі) экасістэмы, якая найбольш адпавядае экалагічным характарыстыкам дадзенай мясцовасці ў пэўны перыяд геалагічнага часу.

**КЛИМАКСНАЯ ЭКОСИСТЕМА - КЛІМАКСНАЯ ЭКАСІСТЭМА** - экасістэма, якая дасягнула стабільнага стану з устойлівым гамеастазам. У К. э. назіраецца тэндэнцыя да раўнавагі паміж звязанай энергіяй і энергіяй, што затрачваецца на падтрымку экасістэмы.

**КЛИМАТ - КЛІМАТ** (грэч. klima (klimatos) - нахіл) - шматгадовы рэжым надвор'я, характэрны для дадзенай мясцовасці.

**КЛИМАТОГРАММА, КЛИМАГРАММА - КЛІМАТАГРАМА, КЛІМАГРАМА** - графічнае адлюстраванне гадавога ходу якіх-небудзь элементаў клімату, звычайна тэмпературы і ападкаў.

**КЛИНА - КЛІНА** (грэч. klino - нахіляю) - клінная зменлівасць, паступовае змяненне колькасных прыкмет ў прадстаўнікоў аднаго віду пры пераходзе ад адной часткі арэала да другой; адзін з выразаў унутрывідавой геаграфічнай зменлівасці.

**КЛОН - КЛОН** (грэч. klon - галінка, атожылак) - генетычна аднародныя нашчадкі адной клеткі або асобіны, якія ўзніклі бясполым шляхам.

**КОАДАПТАЦИЯ - КААДАПТАЦЫЯ** (лац. coadaptatio - узаемнае прыстасаванне) - 1) узаемнае прыстасаванне розных органаў у цэласным арганізме, якое забяспечвае максімальную ўзгодненасць іх функцыяў у працэсе жыццядзейнасці; 2) узаемная адаптацыя розных відаў у працэсе коэвалюцыі.

**КОД ГЕНЕТИЧЕСКИЙ - КОД ГЕНЕТЫЧНЫ** (фр. code - сістэма ўмоўных скарочаных абазначэнняў, якія прымяняюцца для захавання і перадачы разнастайнай інфармацыі) - сістэма запісу спадчыннай інфармацыі ў малекуле ДНК. Алфавіт генетычнага кода складаецца з 4-х літар (А, Г, Т, Ц), генетычнае слова (трыплет, гл.; кадон, гл.) - з трох.

**КОДОМИНИРОВАНИЕ - КАДАМІНАВАННЕ** (лац. co - з, разам і dominare - дамінаваць) - сумеснае фенатыповае праяўленне двух алеляў у гетэразіготы $A_1A_2$.

**КОДОН - КАДОН** (фр. code - шыфр) - адзінка (слова) генетычнага кода - трыплет нуклеатыдаў, што адпавядае пэўнай амінакіслаце або тэрмінoўнаму сігналу.

**КОИНЦИДЕНЦИЯ - КАІНЦЫДЭНЦЫЯ** - генетычная мера інтэрферэнцыі, якая ўяўляе сабою адносіну падвойнага красінговера, што назіраецца на даследзе, да тэарэтычна пажаданай часціні яго пры адсутнасці інтэрферэнцыі. Каінцыдэнцыя адваротна прапарцыйная інтэрферэнцыі.

**КОЛЛАГЕН - КАЛАГЕН** (грэч. kolla - клей і gen - род, паходжанне) - фібрылярны бялок, які складае аснову калагенавых валокнаў злучальнай тканкі (косці, сухажыллі, храсток, звязкі і інш.) і забяспечвае яе трываласць. Пры працяглым награванні ў вадзе і арганічных растваральніках К. дэнатуруе і пераўтвараецца ў жэлацін.

**КОММЕНСАЛИЗМ - КАМЕНСАЛІЗМ** (лац. commensalis - сатрапезнік) - сімбіятычныя ўзаемаадносіны паміж двума відамі, калі адзін харчуецца за кошт другога, не наносячы яму ніякай шкоды.

**КОМПЕНСАЦИОННЫЙ ГОРИЗОНТ - КАМПЕНСАЦЫЙНЫ ГАРЫЗОНТ** - глыбіня вадаёма, на якой працэсы дыхання і фотасінтэзу ўраўнаважваюцца: ніжняя мяжа эўфатычнай зоны.

**КОМПЛЕМЕНТАРНОСТЬ - КАМПЛЕМЕНТАРНАСЦЬ** (лац. complementatum - дапаўненне, дадатак) - сумеснае фенатыповае праяўленне дамінантных генаў з розных параў храмасомаў у выпадках калі яны: 1) не маюць, або 2) маюць самастойны фенатыповы выраз, або 3) прынамсі, адзін з іх валодае ўласным фенатыповым дзеяннем.



**КОНВЕРГЕНЦИЯ - КАНВЕРГЕНЦЫЯ** (лац. convergo - набліжаюся) - незалежнае развіццё падобных прыкметаў у розных групаў арганізмаў у сувязі з уплывам падобных умоваў навакольнага асяроддзя. Канвергенцыя спрыяе ўзнікненню аналагічных органаў (Ч. Дарвін, 1859).

**КОНГРУЕНЦИИ - КАНГРУЭНЦЫІ** (лац. congruens - сувымерны, адпаведны, супадальны) - вялікія групы марфафізіялагічных і паводзінных прыкметаў асобінаў і асаблівасцяў арганізацыі віду, якія забяспечваюць існаванне яго як цэласнай сістэмы. Выдзяляюць, напрыклад, рэпрадуктыўныя кангруэнцыі (адпаведнасць у будове капулятыўных органаў, узаемныя прыстасаванні ў дзіцяці і маці да выкормлівання і г. д.). Да кангруэнцыі адносяць усе формы ўнутрывідавой кааперацыі - рэпрадуктыўную (аб`яднанне арганізмаў для больш паспяховага ўтварэння нашчадкаў), трафічную (аб`яднанне з мэтай больш выніковай здабычы ежы) і канстытуцыйную (аб`яднанне для больш паспяховага перанясення неспрыяльных уздзеянняў навакольнага асяроддзя).

**КОНКУРЕНЦИЯ - КАНКУРЭНЦЫЯ** (лац. concurro - збягацца, сапштурхоўвацца) - узаемаадносіны паміж арганізмамі аднаго (унутрывідавая) або розных (міжвідавая) відаў, якія спаборнічаюць за адны і тыя ж рэсурсы знешняга асяроддзя пры недахопе апошніх.

**КОНСОРЦИЯ - КАНСОРЦЫЯ** - сукупнасць відаў, якія звязаны паміж сабою і залежаць ад цэнтральнага члена ці ядра супольніцтва. У якасці ядра К. звычайна выступае расліна-эдыфікатар, а кампанентамі (кансортамі) служаць непасрэдна звязаныя з ёю арганізмы, у тым ліку жывёліны.

**КОНСУМЕНТЫ - КАНСУМЕНТЫ** (лац. consumo - спажываю) - арганізмы, якія харчуюцца гатовым арганічным рэчывам (жывёлы, большасць мікраарганізмаў, часткова насякомаедныя расліны), г. зн. падтрымліваюць сваё існаванне з дапамогай пераўтварэння рэчыва, выробленага прадуцэнтамі.

**КОРРЕЛЯЦИЯ - КАРЭЛЯЦЫЯ** (лац. correlatio - суадносіны) - узаемасувязь розных прыкметаў у цэласным арганізме. Прынцып К. - у кожным арганізме ўсе структуры і функцыйныя асаблівасці звязаны пастаяннымі суадносінамі (Ж. Кюв`е, 1800).

**КОСМОПОЛИТЫ - КАСМАПАЛІТЫ** (грэч. kosmopolites - грамадзянін сусвету) - віды жывёлаў, раслінаў, якія распаўсюджваны ва ўсіх геаграфічных зонах (біятопах) Зямлі: злакі, некаторыя водныя і балотныя расліны, многае

пустазелле, пакаёвая муха, шэры палук і інш. К. звычайна ўключаюць асобіны з вялікімі адаптыўнымі здольнасцямі, высокай экалагічнай валентнасцю, вагільнасцю.

**КОЭВОЛЮЦИЯ - КАЭВАЛЮЦЫЯ** (лац. со - разам і эвалюцыя) - эвалюцыйныя ўзаемадзеянні арганізмаў розных відаў, якія не абменьваюцца генетычнай інфармацыяй, але цесна звязаныя біялагічна.

**КОЭФФИЦИЕНТ НАСЛЕДУЕМОСТИ ($h_2$) - КАЭФІЦЫЕНТ СПАДЧЫННАСЦІ ($h_2$)** - адзін з метадаў ацэнкі эфектыўнасці масавага адбору, які дазваляе ўлічваць долю генатыпу ў агульнай фенатыповай зменлівасці да агульнага ўзроўню фенатыповай зменлівасці (у працэнтах). Калі $h_2$ роўны 100% або набліжаецца да гэтага значэння, то фенатыповая разнастайнасць вызначаецца ў асноўным адрозненнямі асобінаў згодна з генатыпам.

**КРАССУЛЫ - КРАСУЛЫ** (мн. лік) - патаўшчэнні сярэдняй пласцінкі або першаснай абалонкі ўздоўж верхняга або ніжняга краёў пары пораў у трахеідных голанасенных.

**КРЕАЦИОНИЗМ - КРЭАЦЫЯНІЗМ** (лац. creatio - стварэнне) - канцэпцыя нязменнасці відаў, якая разглядае разнастайнасць арганічнага свету як вынік боскага тварэння.

**КРИПТИЧЕСКАЯ ОКРАСКА - КРЫПТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА** - гл. маскіроўка.

**КРИПТОМЕРИЯ - КРЫПТАМЕРЫЯ** (грэч. kryptos - патаемны і meros - доля, удзел) - інакш, рэцэсіўны эпістаз (гл.), калі рэцэсіўная гамазігота (*аа*) з адной пары храмасомаў можа ўплываць і падаўляць фенатыповае праяўленне дамінантнага гена (*B*) з іншай пары алеляў (храмасомаў).

**КРИСТЫ МИТОХОНДРИЙ - КРЫСТЫ МІТАХОНДРЫЙ** (лац. crista - грэбень) - складкі ўнутранай мембраны мітахондрый, якія паглыблены ўсярэдзіну мітахондрыі ў выглядзе грэбеняў і перасякаюцца падобна да перагародак. У грэб евятых мембранах мітахондрый лакалізаваны дыхальныя ферменты.

**КРИТЕРИИ ВИДА - КРЫТЭРЫІ ВІДУ** - прыкметы віду, пры дапамозе якіх адзін від можна адрозніць ад другога.



**КРОССИНГОВЕР - КРАСІНГОВЕР** (лац. crossingower - скрыжаванне) - механізм, які вядзе да абмену генамі або ідэнтычнымі ўчасткамі гамалагічных храмасомаў, што кан'югіруюць у меёзе, іначай, узаемны абмен участкамі паміж гамалагічнымі храмасомамі, на якім заснавана генетычная рэкамбінацыя.

**КСЕРОФИЛЫ - КСЕРАФІЛЫ** (грэч. xeros - сухі) - арганізмы (расліны і жывёлы), прыстасаваныя да жыцця ў месцах з паніжанай вільготнасцю (саксаул, кавыль, многія грызуны і насякомыя, якія здавольваюцца вільгаццю, атрыманай з ежай, вярблюды, што атрымліваюць ваду ў выніку метабалічнага распаду тлушчу і вугляводаў, суслікі, якія ўпадаюць у спячку на сухі перыяд і інш.).

**КУСТАРНИК - КУСТОЎЕ** - жыццёвая форма шматгадовых драўністых раслінаў, якая характарызуецца мноствам шкілетных восяў - ствалоў, што не дасягаюць значнай вышыні (звычайна да 6 м).

**КУСТАРНИЧЕК - КУСЦІК** - жыццёвая форма раслінаў, якая мае некалькі восяў, што аднаўляюцца з працягласцю жыцця восі 5 - 10 гадоў і іх вышынёй да 60 - 80 см.

**КУТИКУЛА - КУТЫКУЛА** (лац. cuticula - скурка) - 1) шчыльнае няклетачнае ўтварэнне на паверхні клетак тканкі жывёлаў; 2) сістэма вырастаў на паверхні цытаплазмы - мікраварсінак на вольнай паверхні эпітэліяльных клетак, якія высцілаюць унутраныя органы ў хрыбетных (страўнік, паветраносныя шляхі); 3) слой тлушчавага рэчыва (куцін), які пакрывае суцэльным налётам паверхню органаў у раслінаў.

## Л

**ЛАМЕЛЛЫ - ЛАМЕЛЫ** (грэч. lamella - абалонка) - унутраныя мембраны пластыдаў або мітахондрыяў. Ламелы мітахондрыяў утвараюць крысты.

**ЛЕЙКОПЛАСТЫ - ЛЕЙКАПЛАСТЫ** (грэч. leukos - белы і plastos - вылеплены) - бясколерныя пластыды раслінных клетак, у якіх адбываецца другасны сінтэз арганічных рэчываў. Л. могуць ператварацца у хларапласты, радзей у храмапласты.

**ЛЕЙКОЦИТЫ - ЛЕЙКАЦЫТЫ** (грэч. leukos - белы і cytos - клетка) - бясколерныя клеткі хывёлаў і чалавека, якія выконваюць у асноўным абаронную (фагацытарную) функцыю. Адрозніваюць зярністыя Л., або *гранулацыты* (нейтрафілы, эазінафілы і базафілы) і незярністыя, або *агранулацыты* (лімфацыты і манацыты).

**ЛЕС - ЛЕС** - прыродны комплекс, у якім пераважаюць дрэвы аднаго ці многіх відаў, што растуць блізка адзін да аднаго і ўтвараюць больш ці менш замкнёны дрэвастой. У лясных супольніцтвах звычайна адрозніваюць некалькі ярусаў. Лясныя біяцэнозы маюць своеасаблівы тып абмену рэчываў і энергіі. Л. істотна ўплываюць на глебаўтварэнне, клімат, гідралагічны рэжым і інш. Л. актыўна ўзаемадзейнічае з атмасферай і вызначае ўзровень абмену $O_2$ і $CO_2$.

**ЛЕС ДОЖДЕВОЙ - ЛЕС ДАЖДЖАВЫ** - тыповы для дажджлівых раёнаў гарачай (трапічнай) зоны, што складаецца пераважна з вечназялёных вільгацелюбівых пародаў дрэваў. Сустракаецца і ў сярэдняй зоне, аднак у якасці падпарадкаванага кампаненту ў ім з'яўляюцца лістападныя дрэвы.

**ЛЕС ДОЖДЕВОЙ ТРОПИЧЕСКИЙ - ЛЕС ДАЖДЖАВЫ ТРАПІЧНЫ** - тыповая раслінная фармацыя тропікаў, самая пышная форма вегетацыі на Зямлі (паміж 10° пн. ш. і 10° пд. ш.), дзе маюцца максімальныя і рэгулярныя ападкі. Належыць да самых старажытных лясоў планеты; характарызуецца бесперапыннай вегетацыяй, значнай разнастайнасцю, складанай стратыфікацыяй і вельмі вялікай біямасай на корані.

**ЛЕС ЖЕСТКОЛИСТНЫЙ - ЛЕС ЦВЁРДАЛІСТЫ** - тып лясных экасістэмаў, якія характарызуюцца ксераморфнай структурай (цвёрдымі лістамі, прутападобнымі сцяблямі), склерафільнасцю, слабай асіміляцыяй у час летняй спёкі. Распаўсюджаны пераважна ў Міжземнамор'і, Аўстраліі, Амерыцы.

**ЛЕС ЛИСТВЕННЫЙ - ЛЕС ЛІСТАВЫ** - лістападны лес, у якім дамінуюць шыракалістыя (дуб, граб, бук, вяз і інш.), драбналістыя (бяроза, асіна) ці цвёрдалістыя пароды. Расце амаль ва ўсіх геаграфічных паясах.

**ЛЕС СВЕТЛОХВОЙНЫЙ - ЛЕС СВЕТЛАХВАЁВЫ** - лес, у якім пераважаюць сасна і лістоўніца.



**ЛЕС СУБТРОПИЧЕСКИЙ - ЛЕС СУБТРАПІЧНЫ** - густы шыракалісты лес, які ўключае таксама вечназялёныя драўнінныя і кустовыя пароды. Распаўсюджаны ў субтропіках, галоўным чынам у Міжземнамор'і.

**ЛЕСНАЯ ПОДСТИЛКА - ЛЯСНЫ ПОДСЦІЛ** - лісты і інш. рэшткі раслінаў, якія ствараюць паверхневы гарызонт глебы ў лесе.

**ЛЕСТНИЦА СУЩЕСТВ - ЛЕСВІЦА ІСТОТАЎ** - ідэя аб ступенях іерархіі аб'ектаў прыроды ў адпаведнасці з узроўнем складанасці арганізацыі (Арыстоцель, Банэ, Ламарк).

**ЛИГНИФИКАЦИЯ - ЛІГНІФІКАЦЫЯ** (лац. lignum - драўніна) - адкладанне лігніну ў клетачных абалонках, што выклікае значныя змяненні яе ўласцівасцяў - паніжэнне эластычнасці, рэзкае павышэнне цвёрдасці і трываласці на сціскание, паніжэнне пранікальнасці для вады.

**ЛИЗИС - ЛІЗІС** (лац. lisis - раскладанне, растварэнне, рашчыненне) - 1) разбурэнне і растварэнне клетак, у тым ліку мікраарганізмаў пад уздзеяннем ферментаў, якія ўтрымліваюцца ў лізасомах (аўтоліз), або іншых агентаў, што валодаюць лізічным уздзеяннем, 2) разбурэнне бактэрыйных клетак пасля завяршэння фагавага інфекцыйнага цыклу з выхадам спелых фагавых часцінак.

**ЛИЗОГЕННАЯ БАКТЕРИЯ - ЛІЗАГЕННАЯ БАКТЭРЫЯ** (гл. лізагенія) - бактэрыя, якая мае ў сваім геноме прафаг у рэпрэсаваным стане.

**ЛИЗОГЕНИЯ - ЛІЗАГЕНІЯ** (грэч. lysis - рашчыненне і gennao - параджаю) - здольнасць фага існаваць ў выглядзе прафага (гл.), які з'яўляецца часткай бактэрыйнага генома; *лізіс* (гл.) такіх бактэрыяў магчымы толькі пры пэўных умовах, калі прафаг (сярэдні лізагенны фаг) пераходзіць у актыўную літычную форму.

**ЛИЗОСОМЫ - ЛІЗАСОМЫ** (грэч. lysis - растварэнне, раскладванне і soma - цела) - арганоід клет к жывёлаў і грыбоў, які здзяйсняе ўнутрыклетачнае ператраўленне. Уяўляе сабою аднамембранны пузырок, што ўтрымлівае як у матрыксе, так і ў мембране набор гідралітычных ферментаў. Утвараецца ў апараце Гольджы. У клетках раслінаў не выяўлены.

**ЛИМФОЦИТЫ - ЛІМФАЦЫТЫ** (грэч. lympha - вільгаць і cytos - клетка) - бясколерныя клеткі крыві, адна з формаў незярністых лейкацытаў.

Адрозніваюць вялікія, сярэднія і малыя Л. Ім прыпісваюць імунагенную і фагацытную функцыю.

**ЛИННЕОН - ЛІНЕЁН** - лінееўскі від, тэрмін, якім пазначалі сукупнасць падобных па марфалогіі і блізкародных групаў (формаў) раслінаў, але не абавязкова абсалютна раўнацэнных генетычна і экалагічна. Тэрмін мае гістарычную цікавасць.

**ЛИТИЧЕСКИЙ ФАГ - ЛІТЫЧНЫ ФАГ** - актыўная форма жыццёвага цыклу фага, якая выклікае разбурэнне (лізіс) бактэрыйных клетак з выхадам фагавых нашчадкаў.

**ЛИТОРАЛЬ - ЛІТАРАЛЬ** (лац. litoralis - берагавы, прыбярэжны) - экалагічная зона мора або вадаёма, што займае прыбярэжную ці донную частку мелкаводдзя, у якой святло праходзіць да дна. Для літаралі характэрна вышэйшая водная расліннасць. На асобных участках на 1 кв. м Л. мораў і акіянаў прыпадае да 1 млн. арганізмаў (бактэрыі, інфузорыі, водарасці, ракападобныя, насякомыя, рыбы і інш.). Л. лічаць прамежкавым асяроддзем, праз якое многія формы жывых істотаў, што першапачаткова ўзніклі ў акіяне, выйшлі на сушу або трапілі ў прэсныя воды.

**ЛИТОСФЕРА - ЛІТАСФЕРА** (грэч. lithos - камень і sphaira - шар) - верхняя цвёрдая абалонка Зямлі. Магутнасць Л. хістаецца ў межах 50 - 200 км.

**ЛИТОЦИТЫ - ЛІТАЦЫТЫ** (грэч. lithos - камень і kistis - пузыр) - клеткі раслінаў, якія ўтрымліваюць цысталіты.

**ЛОКУС - ЛОКУС** (лац. locus - месца) - месца лакалізацыі пэўнага гена ў храмасоме або на храмасомнай карце; локус можа быць прадстаўлены любым алелем дадзенага гена.

**ЛУГ - ЛУГ** - біяцэноз, раслінны кампанент якога прадстаўлены суполь-ніцтвамі мезафільных і гіграфільных траваў (у асноўным злакавых). Л. распаўсюджаны ў поймах рэк (пойменныя Л.), на міжрэччах ці воданадзелах (сухадольныя ці мацерыковыя Л.) і ў гарах, вышэй граніцы лесу (субальпійскія і альпійскія Л.).



# M

**МАКРОКОНСУМЕНТЫ - МАКРАКАНСУМЕНТЫ** (грэч.makros - вялікі, доўгі і кансументы) - гетэратрофныя арганізмы; галоўным чынам жывёлы, якія з`ядаюць арганізмы ці часцінкі арганічнага рэчыва.

**МАКРОСКЛЕРЕИДА - МАКРАСКЛЕРЭІДА** (грэч.makros - вялікі, доўгі і skleros - цвёрды, жорсткі) - выцягненая склераіда з нераўнамерна размеркаванымі патаўшчэннямі клетачных абалонак.

**МАКРОФАГИ - МАКРАФАГІ** (грэч.makros - вялікі, доўгі і phago - з`ядаю, пажыраю) - буйныя клеткі, здольныя да захоплівання і ператраўлення бактэрыяў; рэшткаў с арганізма часцінак. Тэрмін увёў І. І. Мечнікаў (1892). Уяўляюць сабою буйныя клеткі зменлівай формы, з псеўдаподзіямі? Утрымліваюць мноства лізасомаў. М. маюцца ў крыві (манацыты), злучальнай тканцы (гістыяцыты), крыватворных органах, печані (купфераўскія клеткі), сценках альвеолаў лёгкага (лёгачныя М.), брушной і плеўральнай поласцях (перытанеяльныя і плеўральныя М.).

**МАКРОЭВОЛЮЦИЯ - МАКРАЭВАЛЮЦЫЯ** (грэч.makros - вялікі, доўгі і ... эвалюцыя) - эвалюцыйныя пераўтварэнні, якія вядуць да фармавання над-відавых таксонаў - родаў, сямействаў, атрадаў, класаў і г. д. (Ю. А. Філіпчанка, 1927).

**МАЛЬТУЗИАНСТВО - МАЛЬТУЗІЯНСТВА** - вучэнне, заснаванае на рабоце Р. Мальтуса, якое сцвярджае, што існуюць вечныя "натуральныя" законы насялення, згодна з якімі людзі размнажаюцца хутчэй, чым павялічваюцца сродкі, неаб-ходныя для іх існавання.

**МАРШИ - МАРШЫ** (ням. marsh - урадлівая нізіна) - паласа нізінных пры-бярэжных раёнаў мораў, вусці рэкаў, якія затапляюцца ў час высокіх прыліваў. Як правіла, М. пакрыты лугамі і балотамі з галафітнай расліннасцю. Аналагам М. з`яўляюцца *лайды*.

**МАСКИРОВКА - МАСКІРОЎКА** - афарбоўка і форма жывёлаў, якая робіць іх у спалучэнні з паводзінамі менш прыкметнымі на фоне навакольнага асяроддзя, тып ахоўнай афарбоўкі і формы. Выдзяляюць некалькі відаў мас-кіроўкі. *Крыптычная* (грэч. kriptos - тайны), або схоўная афарбоўка - афар-боўка жывёлаў пад колеры месцапражывання. Разнавіднасцю крыптычнай

з'яўляецца *дызруптыўная*, або *падзяляльная* афарбоўка, якая характарызуецца наяўнасцю кантрасных плямаў і палосаў, што парушае зрокавае ўражанне аб контурах цела і робіць жывёлаў непрыкметнымі на навакольным фоне. *Скрадвальная* афарбоўка заснавана на эфекце супрацьценю: больш ярка асветленыя ўчасткі цела афарбаваныя цямней за менш асветленыя; пры гэтым афарбоўка здаецца больш манатоннай, а абрысы жывёлаў зліваюцца з фонам (цёмная спіна - светлае чэрава ў большасці рыбаў).

МАССОВЫЙ ОТБОР - МАСАВЫ АДБОР - адзін з відаў метадычнага штучнага адбору, сэнс якога заключаны ў адборы асобінаў у папуляцыі (адбор у масе асобінаў) з дакладным фенатыпічным выражэннем станоўчых прыкметаў без уліку іх спадчыннасці. У той жа час для эфектыўнасці масавага адбору неабходна ўлічваць долю фенатыпу ў агульнай фенатыпічнай зменлівасці, г. зн., так званы каэфіцыент *спадчыннасці*.

МАТРИКС - МАТРЫКС (лац. matrix, ад mater - аснова) - часцей за ўсё гэтым тэрмінам пазначаюць асяроддзе, у якім што-небудзь знаходзіцца, г. зн. асноўнае гамагеннае або тонказярністае рэчыва клеткі, што запаўняе ўнутраныя пра-межкі паміж структурамі.

МАЦЕРАЦИЯ - МАЦЭРАЦЫЯ (лац. maceratio ад macero - размякчаю, размочваю) - раз'яднанне раслінных або жывёльных клетак у тканках пры раствярэнні або разбурэнні міжклетачнага рэчыва.

МЕЗОФИТЫ - МЕЗАФІТЫ (грэч. mesos - сярэдні, прамежкавы і phyton - расліна) - расліны, якія займаюць прамежкавае становішча паміж гіграфітамі і ксерафітамі. М. умерана патрабавальныя да ўвільготненасці месцапражывання. Да мезафітаў адносяцца амаль усе расліны ўмеранай зоны.

МЕЗОСОМА - МЕЗАСОМА (грэч. mesos - сярэдні і soma - цела) - унутрыцытаплазматычныя мембранныя структуры везікулярнай і трубкаватай формы, якія ўтвараюцца шляхам упінання плазматычнай мембраны ўнутр цытаплазмы.

МЕЙОЗ - МЕЁЗ (грэч. meiosis - памяншэнне, рэдукцыя) - асаблівы спосаб падзелу клетак, у выніку якога адбываецца рэдукцыя (памяншэнне) ліку храмасомаў і пераход клетак з дыплоіднага стану ў гаплоідны. М. - асноўнае звяно гаметагенезу. М. адкрыў В. Флемінг (1882) у жывёлаў; Э. Страсбургер (1889) устанавіў рэдукцыю ліку храмасомаў у раслінаў. М. адбываецца пасля



рэплікацыі ДНК. Ён забяспечвае выпадковую, незалежную рэкамбінацыю генаў. У залежнасці ад месца ў жыццёвым цыкле арганізма адрозніваюць тры асноўныя тыпы М.: *зіготны* або *пачатковы* (у многіх грыбоў і водарасцяў), адбываецца ў зіготе адразу пасля апладнення і прыводзіць да ўтварэння гаплоіднага міцэлію або талому, а потым спораў і гаметаў; *гаметны* або *канчатковы* (ва ўсіх шматклетачных жывёлаў і шэрагу водарасцяў), адбываецца ў палавых органах і прыводзіць да ўтварэння гаметаў (у жыццёвым цыкле такіх арганізмаў дамінуе дыплоідная фаза); *споравы* або *прамежкавы* (у вышэйшых раслінаў), адбываецца перад цвіценнем і прыводзіць да ўтварэння гаплоіднага гамафіту, у якім пазней утвараюцца гаметы. Мейёз складваецца з двух паслядоўных падзелаў клеткі, у выніку чаго з адной зыходнай дыплоіднай клеткі ўтвараецца чатыры гаплоідныя разнародныя клеткі.

МЕЛАНИЗМ - МЕЛАНІЗМ (грэч. melas - чорны) - 1) павелічэнне ліку цёмнаафарбаваных асобінаў папуляцыі; 2) падвышэнне часціні меланічных (цёмнаафарбаваных) асобінаў (морфаў) у папуляцыях шэрагу відаў, якое назіраецца ў прамысловых раёнах (індустрыяльны меланізм).

МЕТАМОРФОЗ - МЕТАМАРФОЗА (грэч. metamorphosis - пераўтварэнне) - глыбокае пераўтварэнне арганізма жывёлы, у працэсе якога лічынка пераўтвараецца ў дарослую асобіну. У раслінаў М. - відазмяненні асноўных органаў, якія адбываюцца ў антагенезе і звязаныя са зменай выконваемых функцыяў або ўмоваў функцыянавання.

МЕТАФИЗИКА - МЕТАФІЗІКА (грэч. "Meta ta physika" - "пасля фізікі" - так былі названыя філасофскія сачыненні Арыстоцеля, змешчаныя пасля яго трактатаў па фізіцы) - 1) метад мыслення, процілеглы дыялектыцы, які разглядае з'явы рэчаіснасці не ў іх развіцці і ўзаемасувязі, а ў стане спакою, разрозна; 2) у ідэалістычнай філасофіі - сцвярджэнні аб духоўных першапачатках быцця, аб прадметах, якія недаступныя адчувальнаму вопыту (пра бога, душу і г. д.).

МЕТИЗАЦИЯ - МЕТЫЗАЦЫЯ - 1) адзін са спосабаў развядзення сельскагаспадарчых жывёлаў, пры якім злучаюцца жывёлы розных народаў; 2) змешванне розных чалавечых расаў паміж сабою (нашчадкі ад міжрасавых шлюбаў называюцца метысамі).

МИГРАЦИИ - МІГРАЦЫЯ (лац. migratio - перамяшчэнне) - 1) перасяленне арганізмаў за межы папуляцыі, у выніку якога адбываецца аднаўленне

генафонду другой папуляцыі пры спароўвані мігрантаў з асобінамі другой папуляцыі. Аднаўленне генафонду папуляцыя, можа адбывацца ў выніку *плыні генаў* (абменьванне генамі паміж папуляцыямі аднаго і таго ж віду) або інтагрэсіі генаў (абменьванне генамі паміж папуляцыямі розных відаў); 2) перамяшчэнне жывёлаў на адносна значныя адлегласці, якое выклікана зменамі ўмоваў існавання ў месцы пражывання гэтых жывёлаў або звязанае з праходжаннем імі цыклу развіцця; адрозніваюць міграцыі перыядычныя і неперыядычныя (спарадычныя).

МИКОРИЗА - МІКАРЫЗА (грэч. mykes - грыб і rhisa - корань) - адна з формаў біятычных сувязяў вышэйшых раслінаў і грыбоў (грыба-корань).

МИКРОВОРСИНКИ - МІКРАВАРСІНКІ (грэч. mikros - малы і варсінкі) - пальцаватыя выросты клетачнай мембраны эпітэліяльных клетак шэрагу органаў у жывёлаў.

МИКРОКОНСУМЕНТЫ - МІКРАКАНСУМЕНТЫ (грэч. mikros - малы і кансументы), САПРАТРОФЫ - гетэратрофныя арганізмы (мікраарганізмы), якія разбураюць складаныя злучэнні мёртвай пратаплазмы, паглынаюць асобныя прадукты раскладання і выслабаняюць неарганічныя пажыўныя рэчывы, прыгодныя для выкарыстання прадуцэнтамі, а таксама арганічныя рэчывы, што здольныя служыць крыніцай энергіі, інгібітарамі ці стымулятарамі для іншых біятычных кампанентаў экасістэмы. Гл. таксама рэдуцэнты.

МИКРООРГАНИЗМЫ, МИКРОБЫ - МІКРААРГАНІЗМЫ, МІКРОБЫ (грэч. mikros - малы) - найдрабнейшыя арганізмы, якія распазнаюцца толькі пад мікраскопам. Адкрыты ў XVII стагоддзі А. ван Левенгукам. Сярод М. прадстаўнікі розных царстваў арганічнага свету, што адносяцца да пракарыётаў (бактэрыі, ці набактэрыі, архебактэрыі) і эўкарыёты (мікраскапічныя грыбы, водарасці і прасцейшыя).

МИКРОТЕЛЬЦА, ПЕРОКСИСОМЫ - МІКРАЦЕЛЬЦЫ, ПІРАКСІСОМЫ - плазматычныя пузыркі (Ø 0,3 - 1,5 мкм) у клетцы, якія абкружаныя адзінарнай мембранай. М. - вытворныя эндаплазматычнай сеткі. У іх маюць каталазу і некаторыя акіслялныя ферменты. Удзельнічаюць у расшчапленні пераксісу вадароду і, відавочна, у абмене ліпідаў і вугляводаў.



МИКРОТРУБОЧКИ - МІКРАТРУБАЧКІ (mikrotubula)- полая цыліндрычная структура клетак эўкарыётных арганізмаў. Аснову М. складае бялок тубулін. М. утвараюць сетку ў цытаплазме інтэрфазных клетак (цытакаркас), верацяно падзелу клеткі, уваходзяць у склад расонічак і жгуцікаў, базальных цельцаў і цэнтрыоляў.

МИКРОСПОРАЦИТ - МІКРАСПАРАЦЫТ (грэч. mikros - малы і cytos - клетка) - матчына клетка, з якой у выніку меёзу ўтвараецца тэтрада мікраспораў.

МИКРОФИБРИЛЛЫ - МІКРАФІБРЫЛЫ (грэч. mikros - малы і fibrilla - валаконца, ніткаа) - ніткаватыя кампанент клетачнай абалонкі, які складаецца з малекулаў цэлюлозы.

МИКРОФИЛАМЕНТЫ - МІКРАФІЛАМЕНТЫ (грэч. mikro - малы і лац. filamentum - ніткаватае ўтварэнне, нітка) - ніткі бялку акціну пямышачнага паходжання ў цытаплазме эўкарыётных клетак. У склад М. ўваходзяць таксама і інш. скарачальныя бялкі: міязін, трапаміязін, актын. М. з'яўляюцца скарачальнымі элементамі цытакаркасу і непасрэдна ўдзельнічаюць у змяненні формы клеткі пры распластванні, прымацаванні да субстрату, амёбным руху, эндамітозе, цыклозе.

МИКРОЭВОЛЮЦИЯ - МІКРАЭВАЛЮЦЫЯ (грэч. mikros - малы і эвалюцыя) - сукупнасць эвалюцыйных працэсаў, якія ажыццяўляюцца ў папуляцыях віду і прыводзяць да зменаў генафондаў гэтых папуляцыяў і ўтварэння новых відаў.

МИКСОТРОФЫ - МІКСАТРОФЫ (грэч. mikis - сумесь і trophe - харчаванне) - арганізмы, якія харчуюцца як за кошт фотасінтэзу, так і гатовымі арганічнымі рэчывамі (хларафіланосныя жгуцікавыя арганізмы, расліны - паўпаразіты з сям. Грушанкавых, З лознікакветачных і інш.).

МИМИКРИЯ - МІМІКРЫЯ (грэч. mimikos - пераймальнік, акцёр)*- і псеўдаапасемія (грэч. pseudos - хлусня, няпраўда і aposemaino - указваю, прадракаю) - імітацыйнае падабенства неабароненага арганізма з абароненымі або неядомымі, адзін з тыпаў ахоўнай афарбоўкі і формы. Існуе некалькі формаў М.: *Мімезія* - падабенства неабароненых жывёлаў з прадметамі навакольнага асяроддзя або раслінамі. *Міметызм* - падабенства неабароненых жывёлаў з

нсядомымі: *Мюлераўская мімікрыя* - падабенства паміж некалькімі абароненымі відамі жывёлаў па знешнасці і афарбоўцы (пры гэтым узнікае кольца мімікрыі). *Бэйтсаўская мімікрыя* - тып мімікрыі, пры якой імітатары падобныя да нсядомай або абароненай прыстасаваннямі мадэлі (напрыклад, імітаванне мухамі пчолаў).

**МИОБЛАСТ - МІАБЛАСТ** (грэч. myos - мышца і blastos - зачатак) - аднаядзерныя верацёнаватыя клеткі мышачнага зачатку, якія даюць пачатак утварэнню папярэчна-паласатага мышачнага валакна.

**МИОФИБРИДЛЫ - МІАФІБРЫЛЫ** (грэч. mys, р. скл. myos - мышца і fibrilla) - скарачальныя ніткі ў саркаплазме папярэчна-паласатых мышачных валокнаў, сардэчнай мышцы і мышцаў з двайной касой скрэсленасцю, якія забяспечваюць мышачнае скарачэнне. Асноўную масу М. складаюць бялковыя ніткі - міафіламенты, або пратафібрылы двух тыпаў - тоўстыя міязінавыя і тонкія - актынавыя.

**МИТОЗ - МІТОЗ** (грэч. mitos - нітка) - сінонімы: карыёкінез, непрамы падзел клеткі - асноўны спосаб падзелу эўкарыётнай саматычнай клеткі, сэнс якога ў рэгуляцыйных працэсах падваення храмасомаў з наступным раўнамерным размеркаваннем іх паміж дзвюма дачынымі клеткамі такім чынам, што захоўваецца пастаянная дыплоідная колькасць храмасомаў. Для мітозу характэрная змена фазаў (прафаза, метафаза, анафаза, тэлафаза), што характарызуюцца розным узроўнем спіралізацыі (максімум - у метафазе, мінімум - у інтэрфазе, гл.) і функцыйнай актыўнасці (наадварот, максімум - у інтэрфазе, мінімум - у метафазе) храмасомаў.

**МИТОТИЧЕСКИЙ,** *или* **КЛЕТОЧНЫЙ ЦИКЛ - МІТАТЫЧНЫ,** *або* **КЛЕТАЧНЫ ЦЫКЛ** - час існавання клеткі ад пачатку аднаго падзелу да пачатку наступнага падзелу, які ўключае сукупнасць працэсаў у клетцы пры падрыхтоўцы яе да падзелу і на працягу самога мітозу. Заканчэнне клетачнага цыклу супадае або з падзелам клеткі, або з яе смерцю.

**МИТОХОНДРИЯ - МІТАХОНДРЫЯ** (грэч. mitos - нітка і chondrion - зярнятка, крупінка) - арганоід эўкарыётнай клеткі, акруглай або палачкаватай формы, які забяспечвае арганізм энергіяй. М. абкружана абалонкай з дзвюх мембранаў; унутраная мембрана ўтварае складкі (крысты). Паміж вонкавай і



ўнутранай мембранай знаходзіцца перымітахандрыйная прастора, а ўнутры мітахондрыі - матрыкс. У матрыксе ўтрымліваюцца малекулы мітахандрыйнай ДНК, спецыфічныя іРНК, тРНК і рыбасомы пракарыётнага тыпу. Тэрмін увёў К. Бенда (1897).

**МИЦЕЛЛА - МІЦЭЛА** (лац. micella) - участкі ў цэлюлозных мікрафібрылах абалонак клетак, у якіх малекулы цэлюлозы размешчаныя паралельна адна адной так, што ўтвараецца крышталічная рашотка структуры.

**МОДИФИКАЦИИ - МАДЫФІКАЦЫІ** (лац. modificatio - відазмяненне, пераўтварэнне) - неспадчынныя адаптыўныя змены ступені выражанасці той ці іншай прыкметы, што ўзнікла пад уплывам умоваў знешняга асяроддзя, якія ўплываюць на функцыйную актыўнасць генаў і адчувальныя перыяды развіцця. Структурных зменаў генатыпа пры мадыфікацыях не адбываецца.

**МОНИТОРИНГ - МАНІТОРЫНГ** (англ. monitoring, ад лац. - monitor - напамінальны,назіральны) - комплексная сістэма назіранняў, ацэнкі і прагнозу змяненняў стану навакольнага асяроддзя пад уплывам антрапагенных уздзеянняў.

**МОНОФАГИЯ - МАНАФАГІЯ** (грэч. monos - адзінкавы і phagein - харчавацца) - харчаванне якім-небудзь адным відам ежы.

**МОНОФИЛИЯ - МОНАФІЛІЯ** (грэч. monos - адзін і phylon - племя, род, від) - 1) паходжанне арганізмаў ад агульнага продка; таксон лічыцца монафілічным, калі ён паходзіць ад аднаго таксона таго ж рангу (напрыклад, клас млекакормячых, які ўзнік некалькімі лініямі ад класа паўзуноў, лічыцца монафілетычным).

**МОРГАНИДА - МАРГАНІДА** (ад імя Т. Моргана) - адзінка часціні красінговера, роўная 1%, якая адлюстроўвае адлегласць паміж двума геннымі локусамі.

**МОРУЛА - МОРУЛА** (новалац. morula, ад лац. morum - шаўкоўніца) - адна са стадыяў развіцця шматклетачных арганізмаў. На стадыі М. зародак уяўляе сабою вялікую колькасць клетак, якія нагадваюць па знешнім выглядзе плады маліны або шаўкоўніцы, без адасобленай поласці.

**МОРФА - МОРФА** (грэч. morphe - від, форма) - рэзка адрозная па знешнім выглядзе група фенатыпаў унутры віду або папуляцыі. Прыкладам М. служаць альбіносы або меланісты розных хрыбетных, рыжавалосыя асобіны (храмісты) у еўрапеідных расе чалавека і г. д. Віды і папуляцыі, якія маюць морфы, называюцца поліморфнымі. Часам морфамі называюць сезонныя (вясеннія, восеньскія) формы некаторых насякомых, азёрныя і рачныя формы асобных рыбаў.

**МОРФОЗЫ - МАРФОЗЫ** (грэч. morphe - форма) - неспадчынныя неадэкватныя якасныя змены прыкметы, выкліканыя ўздзеяннем на адчувальныя перыяды развіцця незвычайных фактараў знешняга асяроддзя, з якімі асобіны дадзенага віду ў працэсе філагенезу раней не сустракаліся (хімічныя рэчывы, радыяцыя). Марфозы фенатыпова часта падобныя на мутацыі (гл. фенакопіі).

**МУЛЬТИФУНКЦИОНАЛЬНОСТЬ ОРГАНОВ - МУЛЬЦІФУНКЦЫЙНАСЦЬ ОРГАНАЎ** выкананне дадзеным органам некалькіх функцыяў. У канцэпцыі М. о. пад функцыяй разумеюць біялагічную ролю органа (яго адаптыўнае значэнне).

**МУТАГЕНЫ - МУТАГЕНЫ** (лац. mutatio - змяненне і genes - народжаны) - агенты знешняга асяроддзя, здольныя выклікаць генныя і храмасомныя мутацыі, разнастайныя віды іанізоўных выпраменьванняў, шэраг хімічных спалучэнняў, тэмпературу, біялагічныя фактары (напр., вірусы).

**МУТАЦИИ - МУТАЦЫІ** (лац. mutatio - змяненне) - нечакана ўзніклыя, стойкія спадчынныя змены фенатыпу, што праяўляюцца ў выглядзе якасна новай прыкметы і ўзнікаюць у выніку структурных зменаў генатыпу пад уздзеяннем *мутагенаў* (гл.).

**МУТАЦИОНИЗМ - МУТАЦЫЯНІЗМ** - уяўленні, якія разглядаюць мутацыі як адзіны спосаб узнікнення новых відаў у прыродзе. Натуральнаму адбору М. адводзіць ролю сіта. (Дэ Фрыз, Каржынскі, гл. антыдарвінізм).

**МУТАЦИОННОЕ ДАВЛЕНИЕ - МУТАЦЫЙНЫ ЦІСК** - пэўная часціня мутавання ў папуляцыі дадзенага гена, што вядзе да зменаў у ёй раўнаважнага стану алеляў, генатыпаў і фенатыпаў.

**МУТОН - МУТОН** - адзінка мутавання, г. зн. найменшы элемент гена (гл.), змена якога можа прыводзіць да ўзнікнення новай мутантнай формы арганізацыі (згодна з Бензерам).



**МУТУАЛИЗМ - МУТУАЛІЗМ** (лац. mutuus - узаемны) - разнавіднасць сімбіёзу, пры якім адносіны паміж двума і больш партнёрамі засноўваюцца на ўстойлівых, узаемнавыгадных адносінах, так што ні адзін з іх не можа сінаваць без другога; тэрміты і жгуцікfaносьбіты ў іх кішэчніку, бактэрыі рубца ў жвачных і сама жывёла, мікарыза эктрофная, лішайнікі.

## Н

**НАСЛЕДСТВЕННОСТЬ - СПАДЧЫННАСЦЬ** - уласцівасць арганізмаў забяспечваць матэрыяльную і функцыйную пераемнасць паміж пакаленнямі. С. рэалізуецца ў працэсе наследавання або аднаўлення ў шэрагу пакаленняў спецыфічнага характару абмену рэчываў і індывідуальнага развіцця ў пэўных умовах навакольнага асяроддзя. Разам са зменлівасцю С. забяспечвае пастаянства і разнастайнасць формаў жыцця і ляжыць у аснове эвалюцыі жывой прыроды.

**НАТИВНЫЙ - НАТЫЎНЫ** (лац. nativus - прыроджаны) - натуральны, не пашкоджаны пры даследаванні. Напрыклад, Н. бялкі - бялкі, якія захавалі структуру, характэрную ім для жывой клеткі; бялкі, якія не дэнатуравалі.

**НАЦИОНАЛЬНЫЕ ПАРКИ - НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПАРКІ** - ахоўныя прыродныя тэрыторыі ці акваторыі; уключаюць прыродныя комплексы, якія маюць асаблівую эканамічную, гістарычную, эстэтычную каштоўнасць. У іх праводзяцца працы па захаванні рэдкіх і знікальных відаў, аднаўленні ландшафтаў. У адрозненне ад запаведнікаў уся ці амаль уся тэрыторыя адкрытая для рэгулярнага наведвання (прыклады Н. п. - Лахемааскі ў Эстоніі, Карпацкі на Украіне, Белавежская пушча на Беларусі).

**НЕАЛЛЕЛЬНЫЕ ГЕНЫ - НЕАЛЕЛЬНЫЯ ГЕНЫ** - гены, лакалізаваныя ў розных парах гамалагічных храмасомаў.

**НЕЙРОБЛАСТЫ - НЕЙРАБЛАСТЫ** (грэч. neuron - жыла, нерв і blastos - расток, зародак) - клеткі-папярэднікі нейронаў, ад якіх адрозніваюцца здольнасцю да падзелу, малымі памерамі, нізкім утрыманнем бялку і РНК, адсутнасцю стабільных адросткаў.

**НЕЙТРОФИЛЫ - НЕЙТРАФІЛЫ** (лац. neutrum - ні той, ні іншы і philia - любоў) - бясколерныя клеткі крыві - зярністыя лейкацыты, якія маюць сегментаванае ядро і цытаплазму з зярністасцю. Н. здольныя да фагацытозу і ў гэтай сувязі атрымалі назву мікрафагі. Гл. таксама гранулацыты.

**НЕЙСТОН - НЕЙСТОН** (грэч. neustos - плавальны) - сукупнасць арганізмаў, якія плаваюць на паверхні вады, або прымацоўваюцца да яе паверхневай плёнкі (прасцейшыя, клапы, лічынкі камароў, вадамеркі, аднаклетачныя водарасці).

**НЕКРОФАГИ - НЕКРАФАГІ** (грэч. nekros - мёртвы і phagos - пажыральнік) - трупаеды.

**НЕКТОН - НЕКТОН** (грэч. nektos - які плыве) - сукупнасць арганізмаў, якія актыўна перамяшчаюцца ў тоўшчы вады (рыбы, кальмары, кітападобныя), здольныя процістаяць цячэнню і пераадольваць вялікія адлегласці.

**НЕОАНТРОПЫ - НЕААНТРОПЫ** (грэч. neos - новы і anthropos - чалавек) - абагульненая назва людзей сучаснага віду Homo sapiens, як выкапнёвыя, так і існуючыя зараз.

**НЕОКАТАСТРОФИЗМ - НЕАКАТАСТРАФІЗМ** - сукупнасць эвалюцыйных канцэпцыяў аб раптоўным умяшанні ў працэсы эвалюцыі фактараў, якія прыводзяць да хуткіх і буйных пераўтварэнняў у арганічным свеце. Адрозніваюць 3 формы: *аўтагенетычны Н.* - пастулюе дзеянне ўнутраных фактараў, якія выклікаюць карэнныя змены зыходных формаў; *эктагенетычны Н.* - звязвае розныя змены ў арганічным свеце з раптоўнымі знешнімі пераўтварэннямі - геалагічнымі, фізіка-геаграфічнымі і касмічнымі; *сінтэтычны Н.* - уяўленне аб катастрофах, якое заснавана на сальтацыях, антамутацыях і інш. як фактарах узнікнення новых відаў.

**НЕОТЕНИЯ - НЕАТЭНІЯ** (грэч. neos - новы і teino - расцягваю) - затрымка антагенезу ў некаторых відаў арганізмаў з набыццём здольнасці да палавога размнажэння на стадыі, якая папярэднічае даросламу становішчу.

**НЕОФОРМОГЕННОЕ ВИДООБРАЗОВАНИЕ - НЕАФАРМАГЕННАЕ ВІДА-ЎТВАРЭННЕ** - выпадкі відаўтварэння, пры якіх даччын від аказваецца з самага пачатку ізаляваным ад зыходнага і працягвае эвалюцыянаваць (К. М. Завадскі, 1968).

**НЕСТАБИЛЬНАЯ МУТАЦИЯ - НЕСТАБІЛЬНАЯ МУТАЦЫЯ** - мутацыя, якая валодае высокай здольнасцю вяртання да дзікага тыпу.

**НИЗКИЕ ШИРОТЫ - НІЗКІЯ ШЫРОТЫ** - умоўная назва зоны па паверхні зямнога шара, размешчанай паміж 40° пн. ш. і той жа самай шыротай Паўднёвага паўшар'я, агульная назва трапічных і субтрапічных шыротаў. Н. ш. характарызуюцца спецыфічнымі экалагічнымі асаблівасцямі: у параўнанні з высокімі шыротамі, тут назіраецца вялікая відавая разнастайнасць расліннага і жывёльнага свету, вялікая ўстойлівасць экасістэмаў, больш высокая біялагічная прадуктыўнасць і інш.



**НОМОГЕНЕЗ - НОМАГЕНЕЗ** (грэч. nomos - закон і genesis - паходжанне, развіццё) - эвалюцыйная канцэпцыя аб унутранай запраграмаванасці гістарычнага развіцця жывой прыроды. Дадзеная канцэпцыя заснавана на ўяўленнях аб першапачатковай мэтазгоднасці жывога. Канцэпцыя мае тэлеалагічны характар (Л. С. Берг, 1922).

**НООСФЕРА - НААСФЕРА** (грэч. noos - разум і сфера) - якасна новы стан біясферы, пры якім існаванне і развіццё рэгулююцца на навуковай аснове, г. зн. сфера разумовай дзейнасці чалавека.

**НУКЛЕОИД - НУКЛЕОІД** (лац. nycleus - ядро і грэч. eidos - від) - ДНК-утрымальная зона клеткі пракарыётаў. Звычайна знаходзіцца ў цэнтры клеткі, не абмежаваная мембранамі. Н. адпавядае адной складанай кальцавай малекуле ДНК, не злучанай з гістонамі і замацаванай у адной кропцы на ўнутраным баку клетачнай мембраны.

**НУКЛЕОКАПСИД - НУКЛЕАКАПСІД** (лац. nycleus - ядро і capsa - умяшчальня, скрыня) - структура, якая складаецца з вірусная нуклеінавай кіслаты (ДНК або РНК) і бялковай абалонкі (капсіду, гл.); адрозніваецца ад поўнай вірусная часцінкі (вірыёну, гл.), якая можа утрымліваць дадатковыя структурныя бялкі або знешнія абалонкі.

**НУКЛЕОПЛАЗМА - НУКЛЕАПЛАЗМА** (лац. nycleus - ядро і plasma - вылепленае, аформленае) - тое ж самае, што і карыяплазма.

**НУКЛЕОСОМА - НУКЛЕАСОМА** (лац. nycleus - ядро і грэч. soma - цела) - асноўная структурная адзінка храмаціну, якая складваецца з 140 - 200 нуклеатыдных параў ДНК і 8 малекулаў гістонаў.

# О

**ОБЛИТЕРАЦИЯ - АБЛІТЭРАЦЫЯ** (лац. obliteratio знішчэнне) - 1) спляшчванне раслінных клетак і тканак (часта праводных элементаў), якое прыводзіць да знікнення ўнутрыклетачных і міжклетачных поласцяў; 2) загойванне поласці або прасвету трубчатага ці поласцевага органа жывёлы з прычыны разрастання тканкі.

**ОБОЛОЧКА - АБАЛОНКА** - гл. клетачная абалонка.

**ОВИЗМ - АВІЗМ** (лац. ovum - яйцо) - сістэма поглядаў шэрагу біёлагаў 17 - 18 ст. ст., якія лічылі, што ў жаночых палавых клетках у мікраскапічным выглядзе ўтрымліваюцца дарослыя арганізмы і іх далейшае развіццё - гэта толькі павелічэнне памераў. Разнастайнасць прэфармізму.

**ОДРЕВЕСНЕНИЕ, ЛИГНИФИКАЦИЯ - АДРАЎЛЕННЕ, ЛІГНІФІКАЦЫЯ** - змяненне клетачных абалонак раслінаў у выніку запаўнення лігнінам прамежкаў паміж мікрафібрыламі цэлюлозы. Абалонка клеткі пры гэтым страчвае эластычнасць, робіцца цвёрдай, устойлівай супраць мікраарганізмаў. З адраўлелых клетак складаецца драўніна і склерэнхіма.

**ОЗЕРО ОЛИГОТРОФНОЕ - ВОЗЕРА АЛІГАТРОФНАЕ** - глыбокае (звыш 30 м) возера з нізкай біялагічнай прадукцыйнасцю. Фітапланктон прадстаўлены ў асноўным водарасцямі. Заабентас, бактэрыя- і заапланктон адносна бедныя. Празрыстасць вады высокая.

**ОЗЕРО ЭВТРОФНОЕ - ВОЗЕРА ЭЎТРОФНАЕ** - неглыбокае (да 10 - 15 м) раўнінчае возера з высокай біялагічнай прадуктыўнасцю. Летам у ім у вялікай колькасці развіваецца фітапланктон (сіне-зялёныя водарасці і інш.) і, адпаведна, багаты бактэрыя- і заапланктон, заабентас, рыба. Грунты В. э. глеявыя, празрыстасць вады нізкая.

**ОЗОНОВЫЙ СЛОЙ, ОЗОНОВЫЙ ЭКРАН, ОЗОНОСФЕРА - АЗОНАВЫ СЛОЙ** (грэч. ozon - пахучы), **АЗОНАВЫ ЭКРАН, АЗОНАСФЕРА** - слой атмасферы на вышыні ад 10 да 50 км з максімумам канцэнтрацыі азону на вышыні 20 - 25 км. Тут шчыльнасць азону у дзесяць разоў большая за шчыльнасць ля паверхні Зямлі. А. с. затрымлівае пранікненне да зямной паверхні найбольш жорсткага ультрафіялетавага выпраменьвання, небяспечнага для ўсяго жывога.

**ОКРУЖАЮЩАЯ СРЕДА, СРЕДА ВНЕШНЯЯ, СРЕДА ОБИТАНИЯ - НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ, АСЯРОДДЗЕ ЗНЕШНЯЕ, АСЯРОДДЗЕ ПРАЖЫВАННЯ** - сукупнасць усіх матэрыяльных целаў, сілаў і з`яваў прыроды, яе рэчыва і прастора, усякая дзейнасць чалавека, якая знаходзіцца ў непасрэдным кантакце з жывымі арганізмамі. Н. а. не раўназначнае навакольнаму прыроднаму асяроддзю, яно ўключае яго.

**ОЛЕОПЛАСТЫ, ЭЛАЙОПЛАСТЫ - АЛЕАПЛАСТЫ, ЭЛАЯПЛАСТЫ** (грэч. elaion - алей і plastos - вылеплены) - лейкапласты, у якіх назапашваецца алей.



**ОЛИГОТРОФНЫЕ ОРГАНИЗМЫ - АЛІГАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ** (грэч. oligos - мала і trophe - харчаванне) - арганізмы, малапатрабавальныя да ўрадлівасці глебы (верас, сфагнавыя імхі і інш.).

**ОЛИГОФАГИ - АЛІГАФАГІ** (грэч. oligos - нямногі і phagein - есці) - жывёлы, якія харчуюцца біямасай толькі нямногіх відаў раслінаў ці жывёлаў.

**ОМНИОПАТЕНТНОСТЬ - АМНІЯПАТЭНТНАСЦЬ** - тое ж самае, што і тоціпатэнтнасць.

**ОНТОГЕНЕЗ - АНТАГЕНЕЗ** (грэч. ontos - існае і genesis - паходжанне, развіццё) - індывідуальнае развіццё асобіны, уся сукупнасць яе пераўтварэнняў ад зараджэння да канца жыцця (Э. Гекель, 1866).

**ОПЕРАТОР - АПЕРАТАР** - участак ДНК, які размешчаны паблізу структурных генаў і аддзяляе ад іх *прамотар* (гл.); калі *бялок-рэпрэсар* (гл.) звязваецца з аператарам, ён прадухіляе ініцыяцыю транскрыпцыі на прылеглым прамотары.

**ОПЕРОН - АПЕРОН** (лац. operator - які дзейнічае) - сукупнасць структурных і рэгулятарных генаў, што складаюць адзінку транскрыпцыі і рэгуляцыі яе ў бактэрыяў.

**ОПРОБКОВЕНИЕ - АБКАРКАВЕННЕ** - змяненне першаснай абалонкі раслінай клеткі ў выніку адкладвання на ёй пластоў суберыну і аддзялення іх ад змесціва клеткі цэлюлознай трацічнай абалонкай. А. характэрнае для клетак покрыўных тканак - экзадэрмы і корка, якія ахоўваюць унутраныя тканкі кораня і сцябла ад страты вільгаці і хістанняў тэмпературы. А. садзейнічае таксама загойванню ранаў, зарастанню рубцоў пасля ападу лісця.

**ОРГАНОГЕНЕЗ - АРГАНАГЕНЕЗ** (грэч. organon - орган і genesis - паходжанне, развіццё) - утварэнне зачаткаў органаў і іх дыферэнцыяцыя ў ходзе анта- і філагенезу шматклетачных арганізмаў. У раслінаў А. звычайна азначае фармаванне і развіццё асноўных органаў у працэсе антагенезу.

**ОРГАНОИДЫ - АРГАНОІДЫ** (грэч. organon - орган і eidos - від) - пастаянныя клетачныя структуры, якія забяспечваюць выкананне спецыфічных функцыяў у працэсе жыццядзейнасці клеткі - захоўванне і перадачу спадчыннай інфармацыі, сінтэз і пераўтварэнне рэчываў і энергіі, транспартоўку рэчываў, падзел, рух клеткі і г. д. У сучаснай літаратуры арганоіды часта называюць арганэламі.

**ОРТОГЕНЕЗ - АРТАГЕНЕЗ** (грэч. orthos - прамы і genesis - развіццё, паходжанне) - артаэвалюцыя, качцэнцыя эвалюцыйных вучэнняў, якая сцвярджае, што развіццё жывой прыроды абумоўлена ўнутранымі фактарамі, якія накіроўваюць ход эвалюцыі па вызначаным шляху. Сутнасць заключаецца ў прызнанні таго, што напрамак эвалюцыі вызначаецца першапачатковым вынікам натуральнага адбору. У аснове ўяўленняў ляжаць работы Т. Эймера (1888 - 1897).

**ОРТОЛАМАРКИЗМ - АРТАЛАМАРКІЗМ** - гл. неаламаркізм.

**ОРТОСЕЛЕКЦИЯ - АРТАСЕЛЕКЦЫЯ** - выпадкі дзеяння натуральнага адбору на працягу доўгага часу ў адным напрамку, у выніку чаго адбываецца ўзмацненне дадзенай прыкметы ў шэрагу пакаленняў на працягу значных перыядаў часу (напрыклад, эвалюцыя канечнасці продкаў каня: ад пяціпаласці праз трохпаласць да аднапаласці). Тэрмін прапанаваны Платэ, 1912.

**ОСАДОЧНАЯ ПОРОДА - АСАДКАВАЯ ПАРОДА** - парода, якая складаецца з арганічных ці неарганічных часцінак, адкладзеных пасля іх транспарціроўкі ветрам, вадой.

**ОСМОС - ОСМАС** (грэч. osmos - штуршок, ціск) - пераход малекулаў растваральніка з вобласці з больш высокай іх канцэнтрацыяй у вобласць з больш нізкай канцэнтрацыяй праз паўпранікальную мембрану.

**ОСТЕОБЛАСТЫ - АСТЭАБЛАСТЫ** (грэч. osteon - костка і blastos - зародак) - клеткі, якія сінтэзуюць матэрыял валокнаў і асноўнага рэчыва касцявой тканкі і рэгулююць плынь ёнаў кальцыю ў ачагах косцеўтварэння. Будучы замураванымі міжклетачным рэчывам, А. ператвараюцца ў дарослыя клеткі - астэацыты.

**ОСТЕОСКЛЕРЕИДА - АСТЭАСКЛЕРАІДА** (грэч. osteon - костка і skleros - цвёрды) - склераіда, якая нагадвае па форме галёначную костку, г. зн. мае калапаватую сярэднюю частку і пашырэнні на абодвух канцах.

**ОТБОР БАЛАНСИРОВАННЫЙ (уравновешивающий) - АДБОР БАЛАНСАВАНЫ (ураўнаважваючы)** - заключаецца ў выжыванні ўнутрывідавых формаў, якія, не раўнацэнныя паміж сабою па прыстасаванні, але суіснуюць на адной тэрыторыі дзякуючы карыснасці іх сумеснага існавання для віду цалкам. Балансаваны адбор падтрымлівае ўнутрывідавы палімарфізм. А. б. з'яўляецца адной з формаў стабілізоўнага адбору (гл.).



**ОТБОР ДВИЖУЩИЙ - АДБОР РУХАЛЬНЫ** - форма натуральнага адбору, які пашырае межы спадчыннай зменлівасці папуляцыяў. Вылучаюць накіраваны, дызруптыўны і транзітыўны адбор (гл.).

**ОТБОР ДИЗРУПТИВНЫЙ - АДБОР ДЫЗРУПТЫЎНЫ** (лац. disruptus - разарваны) - форма рухальнага адбору, які спрыяе двум або некалькім накірункам зменлівасці, але не спрыяе сярэдняму становішчу прыкметы (фенатыпу). А. д. прыводзіць да ўнутрывідавога палімарфізму, а таксама з'яўляецца асновай дывергенцыі.

**ОТБОР ЕСТЕСТВЕННЫЙ - АДБОР НАТУРАЛЬНЫ** - асноўны рухальны фактар эвалюцыі жывой прыроды. А. н. - вынік барацьбы за існаванне; выяўляецца ў пераважным выжыванні і пакіданні нашчадкаў найбольш прыстасаванымі асобінамі арганізмаў кожнага віду і пагібелі менш прыстасаваных. Генетычная сутнасць А. н. заключаецца ў дыферэнцаваным (выбіральным) захаванні і аднаўленні пэўных генатыпаў (генных комплексаў) у папуляцыях. Тэорыя натуральнага адбору распрацавана Ч. Дарвіным (1859).

**ОТБОР ИСКУССТВЕННЫЙ - АДБОР ШТУЧНЫ** - выбар чалавекам найбольш каштоўных у гаспадарчых адносінах асобінаў жывёлаў і раслінаў дадзенага віду, пароды, сорту для атрымання ад іх нашчадкаў з пажаданымі ўласцівасцямі. Асновы тэорыі штучнага адбору распрацаваны Ч. Дарвіным (1859). Выдзяляюць дзве формы штучнага адбору: *безсэнсоўны*, які праводзіўся чалавекам на першых этапах прыручэння жывёлаў і акультуравання раслінаў, і *метадычны* (масавы і індывідуальны).

**ОТБОР КАНАЛИЗИРУЮЩИЙ - АДБОР КАНАЛІЗУЮЧЫ** - адбор, які здольны стабілізаваць працэсы развіцця арганізмаў і зніжаць адчувальнасць папуляцыі таго ці іншага віду да перашкодаў (генетычных і экалагічных), адна з формаў стабілізуючага адбору.

**ОТБОР НАПРАВЛЕННЫЙ - АДБОР НАКІРАВАНЫ** - форма рухальнага адбору, які спрыяе толькі аднаму накірунку зменлівасці і не спрыяе ўсім астатнім яе варыянтам.

**ОТБОР НОРМАЛИЗУЮЩИЙ - АДБОР НАРМАЛІЗУЮЧЫ** - форма стабілізуючага адбору, пры якой захоўваецца сярэдняя велічыня прыкметы фенатыпу без змянення спадчыннай асновы; пры гэтым элімінуюць асобіны, прыкметы якіх адхіляюцца ад сярэдняй велічыні (напрыклад, пладавітасць у птушак).

**ОТБОР ПОЛОВОЙ - АДБОР ПАЛАВЫ** - форма натуральнага адбору ў шэрагу групаў жывёлаў, якая заснаваная на саперніцтве асобінаў аднаго полу за спаборніцтва з асобінамі другога полу ў перыяд размнажэння.

**ОТБОР СТАБИЛИЗИРУЮЩИЙ - АДБОР СТАБІЛІЗУЮЧЫ** - адна з формаў натуральнага адбору, якая спрыяе захаванню ў папуляцыі аптымальнага ў дадзеных умовах фенатыпу (які становіцца пераважным) і дзейнічае супраць праяўлення фенатыпічнай зменлівасці. А. с. назіраецца пры працяглым захаванні пастаянных умоваў навакольнага асяроддзя. Тэорыя стабілізуючага адбору распрацавана І. І. Шмальгаўзенам (1946). Выдзяляюць некалькі формаў стабілізуючага адбору.

**ОТБОР ТРАНЗИТИВНЫЙ (переходной) - АДБОР ТРАНЗІТЫЎНЫ (пераходны)** - форма рухальнага адбору, пры якой выжываюць і больш інтэнсіўна размнажаюцца асобіны спачатку нешматлікай зменёнай групы (напрыклад, прамысловы меланізм у многіх відаў матылькоў). А. т. заснаваны на транзітыўным палімарфізме. А. т. носіць абарачальны характар.

**ОТСТАЮЩАЯ ЦЕПЬ - АДСТАВАЛЬНЫ ЛАНЦУГ** - ланцуг ДНК, які рэпліцуецца ў 3` - 5` напрамак, перарывіста, у выглядзе кароткіх фрагментаў 5` - 3` (фрагменты *аказакі*, гл.), якія ў далейшым кавалентна злучаюцца ў неперарыўны ланцуг.

**ОЦЕПЕНЕНИЕ - ЗДРАНЦВЕННЕ** - стан, характэрны для пайкілатэрмных жывёлаў у неспрыяльных умовах, які дазваляе ім пераносіць гэтыя ўмовы. Характарызуецца спыненнем харчавання, паніжэннем да мінімуму абмену рэчываў. Выклікаецца паніжэннем тэмпературы (зімняе здранцвенне жабаў, змеяў, яшчарак), недахопам вады (летняе здранцвенне некаторых рыбаў пры перасыханні вадаёмаў).

## П

**ПАЛЕОНТРОП - ПАЛЕААНТРОП** (грэч. palais - старажытны і anthropos - чалавек) - абагульненая назва выкапнёвых людзей, якіх разглядаюць як другі этап эвалюцыі чалавека, што ідзе за архантропам і папярэднічае неантропу.

**ПАЛИНГЕНЕЗЫ - ПАЛІНГЕНЕЗЫ** (грэч. palin - зноў, назад і genesis - нараджэнне, развіццё) - прыкметы або працэсы ў эмбрыягенезе арганізмаў, якія паўтараюць адпаведныя прыкметы або працэсы філагенезу дадзенага віду. Паслядоўныя П. згодна з Э. Гекелем, парушаюць цэнагенезы (Э. Гекель, 1866).



**ПАЛИНДРОМ - ПАЛІНДРОМ** (грэч. palindromeo - бягу назад) - паслядоўнасць ДНК, якая складаецца з прылеглых адзін да аднаго інвертаваных паўтораў і чытаецца аднолькава з розных ланцугоў, але ў розных напрамках: на адным ланцугу ДНК - злева направа, на другім - справа налева.

**ПАМЯТНИКИ ПРИРОДЫ - ПОМНІКІ ПРЫРОДЫ** - прыродныя аб`екты, якія маюць навуковае, гістарычнае, эстэтычнае значэнне (біяцэнозы, дрэвы-доўгажыхары, валуны, геалагічныя агаленні і г. д.).

**ПАНМИКСИЯ - ПАНМІКСІЯ** (грэч. pan - усе і mixis - змешванне) - вольнае скрыжоўванне асобінаў папуляцыі дадзенага віду.

**ПАНСПЕРМИЯ - ПАНСПЕРМІЯ** (грэч. pan - усе і sperma - семя) - гіпотэза аб магчымасці пераносу жыцця ў касмічнай прасторы з аднаго цела на другое. Гіпотэза прапанавана Г. Рыхтарам (1865) і канчаткова сфармулявана С. Арэніўсам (1895). Згодна з гэтай гіпотэзай, найбольш верагоднае пападанне жывых арганізмаў на Зямлю з метэарытамі і касмічным пылам.

**ПАРАЗИТИЗМ - ПАРАЗІТЫЗМ** (грэч. parasitos - нахлебнік, тунеядзец) - форма біялагічных адносінаў паміж відамі, калі адзін від (паразіт) выкарыстоўвае другі від (гаспадар) у якасці крыніцы ежы або асяроддзя свайго пражывання. Базуецца на трафічных і тапічных сувязях.

**ПАРАЗИТОИД - ПАРАЗІТОІД** (грэч. parasitos - нахлебнік, тунеядзец і eidos - від) - арганізм, які вядзе паразітычны спосаб жыцця толькі ў лічыначным стане, а не на працягу ўсяго жыцця.

**ПАРАЛЛЕЛИЗМ - ПАРАЛЕЛІЗМ** (грэч. parallelos - ідучы побач) паралельная эвалюцыя, незалежнае развіццё падобных прыкметаў у эвалюцыі блізка-роднасных групаў арганізмаў, якія ў пачатку свайго развіцця дывергавалі. Адрозніваюць сінхронны (у групаў арганізмаў, якія жывуць у адзін і той жа час) і асінхронны паралелізм (у групаў арганізмаў, якія жылі ў розныя часы).

**ПАРА ПОР ОКАЙМЛЁННАЯ - ПАРА ПОРАЎ АБЛЯМАВАНАЯ** - аблямаваныя поры суседніх клетак, размешчаных адна насупраць адной.

**ПАРНИКОВЫЙ ЭФФЕКТ - ПАРНІКОВЫ ЭФЕКТ** - уласцівасць атмасферы прапускаць сонечнае выпраменьванне і затрымліваць цеплавое выпраменьванне Зямлі, што садзейнічае назапашванню цяпла.

**ПАРТЕНОГЕНЕЗ - ПАРТЭНАГЕНЭЗ** (грэч. parthenos - цнатлівая і genesis - развіццё) - цнатлівае размнажэнне, адзін з нерэгулярных тыпаў палавога размнажэння, пры якім зародак развіваецца з неаплодненай яйцаклеткі (гл. апаміксіс). Адрозніваюць саматычны (дыплоідны) і генератыўны (гаплоідны) партагенез. П. уласцівы многім безхрыбетным жывёлам (дафніі, калаўраткі, тлі, пчолы і інш.). Асаблівыя формы П. - гінагенез, андрагенез і педагенез.

**ПАРТЕНОКАРПИЯ - ПАРТЭНАКАРПІЯ** (грэч. parthenos - цнатлівая і karpos - плод) - утварэнне пладоў у раслінаў, звычайна, без насення, без апладнення (у некаторых сартоў агуркоў, вінаграду, мандарыну, агрэсту, хурмы, бanana і інш.).

**ПАРЦЕЛЛА - ПАРЦЭЛА** (лац. particula - часцінка) - элементарная структурная ўнутрыпапуляцыйная адзінка, якая складаецца з некалькіх асобінаў, што сустракаюцца адна з другой і сувязі паміж якімі падтрымліваюцца сродкамі паводзінаў; група блізкародасных генатыпаў (напрыклад, гарэм у кoцікаў, прайд у ільвоў і інш.).

**ПЕДОГЕНЕЗ - ПЕДАГЕНЕЗ** (дзіцячае размнажэнне) (грэч. pais, родны склон ад paidos - дзіця і genesis - развіццё) - форма партэнагенезу, пры якой неаплодненыя яйцаклеткі, якія даюць пачатак новаму пакаленню, развіваюцца яшчэ ў целе лічынак; назіраецца ў шэрагу бесхрыбетных (некаторых мух, марскіх ракападобных). Адкрыты Н. П. Вагнерам у 1862 г.

**ПЕДОМОРФОЗ - ПЕДАМАРФОЗ** (грэч. pais, родны склон ад paidos - дзіця і morphe - форма) - 1) змены антагенезу арганізмаў у эвалюцыі, якія звязаныя з яго ўхіленнем на прамежкавых стадыях у бок ад шляху, па якім ён ішоў у продкаў (паводле Г. Дэ Біра, 1930); 2) спосаб эвалюцыйных зменаў органаў з поўнай стратай дарослай стадыі і адпаведным скарачэннем антагенезу, у якім апошняй становіцца стадыя, якая была лічыначнай (гл. неатэнія). У. Горстанг, 1922.

**ПЕКТИНОВЫЕ ВЕЩЕСТВА, ПЕКТИНЫ - ПЕКЦІНАВЫЯ РЭЧЫВЫ, ПЕКЦІНЫ** - кіслыя поліцукрыды раслінаў, якія прысутнічаюць у першаснай клетачнай сценцы, міжклетачным рэчыве, клетачным соку; назапашваюцца ў сочных пладах і караняплодах. У вялікіх колькасцях П. р. уваходзяць у склад сярэдняй пласцінкі. Аснова малекулаў - ланцугі з 1 - 4-звязаных рэштак α-Д-галактуронавай кіслаты або яе метылавага эфіру, часта ўтрымліваюць бакавыя ланцужкі, якія пабудаваны з рэштак манацукраў (Д-галактоза, L-арабіноза, Д-ксілоза, L -рамноза).



**ПЕЛАГИАЛЬ - ПЕЛАГІАЛЬ** (грэч. pelagos - мора) - тоўшча вады акіянаў, мораў, азёраў. Падзяляецца на нерэтычную зону (над мацерыковым шэльфам) і акіянічную (марскую, азёрную) над абісаллю. З'яўляецца асяроддзем пражывання плейстона, планктона, нектона.

**ПЕЛИКУЛА - ПЕЛІКУЛА** (лац. pellicula, паменш. ад pellis - скура) - 1) тонкі эластычны або цвёрды ахоўны пласт пратаплазмы на паверхні цела многіх працістаў (жгуціканосцаў, інфузорыяў, хрызаманадавых і эўгленавых водарасцяў); 2) вонкавая плевачная лупіна насення раслінаў.

**ПЕНЕТРАНТНОСТЬ - ПЕНЯТРАНТНАСЦЬ** (лац. penetrare - трапляць, пранікаць) - частата праяўлення ў папуляцыі таго або іншага гена; вызначаецца адносінай колькасці асобінаў з фенатыпічным праяўленнем прыкметы да агульнай колькасці асобінаў, якія маюць у генатыпе дадзены ген, і выражаецца ў працэнтах. Пенятрантнасць можа быць *поўнай*, калі дамінантны ген або рэцэсіўны ў гамазіготе праяўляюцца ва ўсіх асобінаў, у генатыпе якіх яны ёсць, і *няпоўнай*, калі дамінантны ген не праяўляецца фенатыпічна ў пэўнай часткі гетэразіготаў і радзей гамазіготаў, а рэцэсіўны - у гамазіготаў.

**ПЕРВИЧНАЯ КЛЕТОЧНАЯ ОБОЛОЧКА - ПЕРШАСНАЯ КЛЕТАЧНАЯ АБА-ЛОНКА** - клетачная абалонка, у якой мікрафібрылы цэлюлозы выяўляюць розную арыентацыю - ад хаатычнай да больш менш паралельнай. П. к. а. здольная спазнаваць значныя змяненні ў працэсе росту клетак.

**ПЕРИТЕЛЛИНОВОЕ ПРОСТРАНСТВО - ПЕРЫТЭЛІНАВАЯ ПРАСТОРА** (грэч. peri - навокал, кругом і vitellus - жаўток яйца) - прастора паміж вонкавай яйцавай абалонкай і плазматычнай мембранай яйцаклеткі млекакормячых, якая запоўнена вадкасцю. Гэтая вадкасць засцерагае яйцо ад пранікнення ў яго звышколькасных сперматазоідаў, ахоўвае зародак ад механічных пашкоджанняў і служыць спрыяльным асяроддзем для яго развіцця.

**ПЕРИНУКЛЕАРНОЕ ПРОСТРАНСТВО - ПЕРЫНУКЛЕАРНАЯ ПРАСТОРА** (грэч. peri - навокал, кругом і лац. nucleus - ядро) - прастора паміж дзвюма мембранамі карыятэкі.

**ПЕРИФИТОН - ПЕРЫФІТОН** (грэч. peri - навокал, кругом і phyton - расліна) - арганізмы (бактэрыі, водарасці, вусаногія ракападобныя, малюскі, мшанкі, губкі і інш.), якія насяляюць жывыя і нежывыя субстраты пад вадой.

**ПЕРОКСИСОМЫ - ПЕРАКСІСОМЫ** - гл. мікрацельцы

**ПЕРСИСТИРОВАНИЕ - ПЕРСІСТАВАННЕ** (лац. persisteus - упарты) - выжыванне, захоўванне групаў арганізмаў, якія пераходзяць ад адной геалагічнай эпохі да другой без істотных зменаў (гатэрыі, апосумы і інш.). Тэрмін прапанаваў Т. Гекслі ў 1869 г.

**ПЕРФОРАЦИИ - ПЕРФАРАЦЫІ** (лац. perforatio - прасвідроўванне, пранікненне) - навылётныя адтуліны ў клетачных абалонках сасудаў і сітападобных трубак раслінаў. Па іх вольна перамяшчаюцца пажыўныя растворы. У сасудах П. узнікаюць на месцы аблямаваных пораў у абалонках паміж сумежнымі праводнымі элементамі.

**ПИКИ (взрывы) ЧИСЛЕННОСТИ - ПІКІ (выбухі) КОЛЬКАСЦІ** - перыядычнае моцнае павелічэнне колькасці асобінаў або ў межах звычайных ваганняў, або выходзіць за гэтыя межы. З'яўляецца вынікам спрыяльных кліматычных умоваў, памяншэння колькасці канкурэнтаў, драпежнікаў, часта назіраецца пры інтрадукцыі віду ў новае для яго супольніцтва.

**ПИРАМИДЫ ЭКОЛОГИЧЕСКИЕ - ПІРАМІДЫ ЭКАЛАГІЧНЫЯ** - графічнае адлюстраванне суадносінаў ліку асобінаў (піраміда лікаў), біямасы (піраміда біямасаў) або колькасці энергіі (піраміда энергіі) на розных трафічных узроўнях у экасістэмах, г. зн. паміж аўтатрофамі, фітатрофамі, заатрофамі.

**ПИЩЕВАЯ СЕТЬ - ХАРЧОВАЯ СЕТКА** - сістэма ўзаемаперапляцёных харчовых ланцугоў, якая ўзнікла ў выніку таго, што большасць арганізмаў адначасова з'яўляецца звяном не аднаго, а многіх харчовых ланцугоў.

**ПЛАЗМАЛЕММА - ПЛАЗМАЛЕМА** - гл. клетачная мембрана.

**ПЛАЗМАТИП - ПЛАЗМАТЫП** (грэч. plasma - зьлепленая фігура і typos - вобраз) - сукупнасць цытаплазматычных спадчынных фактараў клеткі; падзяляецца на *пластом* (спадчынны апарат пласцідаў) *хандрыём* (спадчынны апарат мітахондрыяў) і *цытаплазмон* (ДНК, што лакалізуецца ў гіялаплазме).

**ПЛАЗМИДЫ - ПЛАЗМІДЫ** (грэч. plasma - аформлены, вылеплены) - кольцавыя пазахрамасомныя малекулы ДНК у бактэрыяў, здольныя да аўтаномнай рэплікацыі; не маюць істотнага значэння для росту і размнажэння бактэрыяў, але паведамляюць ім шэраг важных для жыцця якасцяў (здольнасць да кан'югацыі, устойлівасць да антыбіётыкаў і інш.).



**ПЛАЗМОГЕН - ПЛАЗМАГЕН** (грэч. plasma - зьлепленая фігура і genos - які ўтварае) - адзінка спадчыннасці ў плазматыпе, ген, што лакалізаваны ў цытаплазме.

**ПЛАЗМОДЕСМА - ПЛАЗМАДЭСМА** (грэч. plasma - аформлены і desmos - сувязь) - цытаплазматычныя цяжы, якія злучаюць пратапласты суседніх раслінных клетак. Размяшчаюцца П. у канальцах, якія ўтвараюцца пры падзеле клетак (у першаснай перагародцы застаюцца субмікраскапічныя адтуліны) і праходзяць праз першасную клетачную абалонку; у клетках з другаснай абалонкай яны знаходзяцца толькі ў замыкальных плёнках пораў. Поласць канальцаў выслана вонкавай мембранай плазмадэсмы - плазмалемай. Параўн. - *дэсмасомы.*

**ПЛАЗМОЛИЗ - ПЛАЗМОЛІЗ** (грэч. plasma - зьлепленая фігура і lysis - раскладанне, распад, растварэнне) - адасабленне прысценнага пласту цытаплазмы ад цвёрдай абалонкі раслінных клетак. П. - з'ява, адваротная тургару. Адбываецца толькі ў жывых клетках з прычыны сціскання пратапласту пад уплывам плазмалітыка.

**ПЛАНКТОН - ПЛАНКТОН** (грэч. planktos - які лунае, блукае) - сукупнасць пасіўна лунальных і пераносімых цячэннямі ў тоўшчы вады бактэрыяў (бактэрыяпланктон), раслінаў (фітапланктон) і жывёлаў (заапланктон), зусім або амаль не здольных да самастойнага руху на значныя адлегласці. Тэрмін увёў В. Гензен (1887).

**ПЛАСТИДЫ - ПЛАСТЫДЫ** (грэч. plastides - стваральныя, утваральныя ад plastos - вылеплены, аформлены) - арганоіды раслінных клетак. П. абкружаныя абалонкай з падвоенай мембраны; для многіх характэрна ўнутраная сістэма мембранаў (тылакоідаў), якія апушчаны ў матрыкс, або строму. П. разнастайныя па форме, памерах і функцыях. Адрозніваюць зялёныя П. - *хларапласты*, жоўта-аранжавыя - *храмапласты* і бясколерныя - *лейкапласты*. Сукупнасць усіх П. клеткі носіць назву *пластыдом*.

**ПЛЕЙОТРОПИЯ - ПЛЕЯТРАПІЯ** (грэч. pleion - больш і tropos - паварот) - шматлікае дзеянне гена, г. зн. адначасовы ўплыў аднаго гена на некалькі або значную колькасць прыкметаў.

**ПОДРОСТ - ПАДРОСТ** - сукупнасць маладых раслінаў, якія яшчэ не дасягнулі вышыні дарослых асобінаў.

**ПОЙКИЛОГИГРОФИТЫ - ПАЙКІЛАГІГРАФІТЫ** (грэч. poikilos - кантрастны, higros - вільготны і phyton - расліна) - расліны, здольныя

высыхаць да паветрана-сухога стану без страты жыццяздольнасці і лёгка насычацца вільгаццю.

**ПОЙКИЛОКСЕРОФИТЫ - ПАЙКІЛАКСЕРАФІТЫ** (грэч. poikilos - кантрастны, xeros - сухі і phyton - расліна) - расліны, здольныя пераносіць значнае абязводжванне ў сухі перыяд году, але не валодаюць прыстасаваннямі сапраўдных ксерафітаў.

**ПОЙКИЛОСМОТИЧЕСКИЕ ОРГАНИЗМЫ - ПАЙКІЛАСМАТЫЧНЫЯ АРГАНІЗМЫ** (грэч. poikilos - кантрастны і osmos - ціск) - водныя жывёліны, якія няздольныя захоўваць б. або м. пастаянны ціск поласцевых і тканкавых вадкасцяў пры змяненні асматычнага ціску навакольнага асяроддзя (губкі, кішэчнаполасцевыя, мн. чэрві, малюскі, ігласкурыя і інш.).

**ПОЙКИЛОТЕРМНЫЕ ОРГАНИЗМЫ - ПАЙКІЛАТЭРМНЫЯ АРГАНІЗМЫ** (грэч. poikilos - кантрастны, розны і therme - цяпло) - арганізмы, тэмпература цела якіх змяняецца ў залежнасці ад тэмпературы навакольнага асяроддзя. Да іх адносяцца расліны, беспазваночныя жывёліны, рыбы, земнаводныя і паўзуны.

**ПОКОЙ РАСТЕНИЙ - СПАКОЙ РАСЛІНАЎ** - фізіялагічны стан раслінаў, пры якім рэзка паніжаецца абмен рэчываў, рост. С. дазваляе пераносіць неспрыяльныя ўмовы - засуху, высокую і нізкую тэмпературу. Выклікаецца назапашваннем інгібітараў (глыбокі спакой) або лімітоўнымі фактарамі (вымушаны спакой).

**ПОКРЫТИЕ ПРОЕКТИВНОЕ - ПАКРЫЦЦЁ ПРАЕКЦЫЙНАЕ** - праекцыя раслінаў на паверхню глебы. Пры вызначэнні поўнага пакрыцця з праекцыі раслінаў выключаюцца прагалы ў іх кронах. Выражаецца ў працэнтах да плошчы глебы.

**ПОЛИМЕРИЯ - ПОЛІМЕРЫЯ** (грэч. polymeria - разнастайнасць) - генетычная дэтэрмінацыя пэўнай (звычайна колькаснай) прыкметы некалькімі незалежнымі (неалельнымі), але аднолькавымі па дзеянні (полімернымі) генамі, якія пры ўзаемадзеянні ўзмацняюць фенатыпічны эфект кожнага індывідуальнага гена.

**ПОЛИМОРФИЗМ - ПОЛІМАРФІЗМ** (грэч. poly - многа, шмат і morphe - форма) - адначасовае існаванне ў папуляцыі некалькіх алельных варыянтаў якога-небудзь гена, што маюць дыскрэтнае фенатыпічнае праяўленне і падтрымліваюць стан генетычнага гамеастаза (напр., палавы дымарфізм, гетэрастылія ў раслінаў, серпаватая клетачнасць эрытрацытаў і групы крыві ў людзей і інш.).



**ПОЛИМОРФИЗМ ПОПУЛЯЦИИ - ПОЛІМАРФІЗМ ПАПУЛЯЦЫІ** - разнастайнасць генатыпаў асобінаў, генафондаў узроставых, палавых і іншых унутрыпапуляцыйных груповак і адпаведнае іх праяўленне ў фенатыпах арганізмаў і іх рэакцыях на ўздзеянне фактараў асяроддзя. Полімарфізм заніжае канкурэнцыю, дазваляе лепш выкарыстоўваць асяроддзе, павышае прыстасавальныя магчымасці папуляцыі ў пастаянна зменлівых умовах.

**ПОЛИПЛОИДИЯ - ПОЛІПЛАІДЫЯ** (грэч. polyplois - шматразовы і eidas - від) - геномная мутацыя, сэнс якой у павелічэнні колькасці набораў храмасомаў, кратным гаплоіднаму. Адрозніваюць *аўта-* (або *аўтапаліплаідыю*, гл.) і *алапаліплоідыю* (гл.).

**ПОЛИТЕНИЯ - ПОЛІТЭНІЯ** (грэч. poly - многа, шмат і tenia - нітка) - выпадак *эндамітознай* (гл.) поліплаідзіі, калі колькасць *храмасомаў* (гл.) і, адпаведна, ДНК у храмасомах павялічваецца, але храмаціды не разыходзяцца, ў выніку чаго храмасомы набываюць гіганцкія памеры (*палітэнныя* храмасомы, гл.).

**ПОЛИСОМА, или ПОЛИРИБОСОМА - ПОЛІСОМА, або ПОЛІРЫБАСОМА** (грэч. polyplois - многа, шмат, soma - цела, рыба - пачатак слова "рыбануклеінавая" кіслата) - *і*-РНК, асацыяваная з некалькімі рыбасомамі, што ўдзельнічаюць у трансляцыі.

**ПОЛИТЕННЫЕ ХРОМОСОМЫ - ПОЛІТЭННЫЯ ХРАМАСОМЫ** - храмасомы, якія ўтвараюцца ў двукрылых пры эндамітозе ў выніку *палітэніі* (гл.) з наступнай саматычнай кан'югацыяй гамалагічных храмасомаў у прафазе і складаюцца з многіх сотняў элементарных храмасомных нітак (*храманемаў*, гл.).

**ПОЛИФАГИ - ПОЛІФАГІ** (грэч. poly - шмат і phagein - есці) - арганізмы, якія харчуюцца многімі відамі раслінаў і жывёлаў (драпежнікі, фітафагі, насякомаядныя расліны).

**ПОЛИФИЛИЯ - ПОЛІФІЛІЯ** (грэч. polys - шматлікі і phylon - племя, род) - паходжанне дадзенай групы арганізмаў ад некалькіх продкавых формаў, якія не звязаныя блізкай роднасцю (напрыклад, паходжанне лішаёў).

**ПОЛИЦЕНТРИЗМ - ПОЛІЦЭНТРЫЗМ** (грэч. polys - шматлікі і centrum - цэнтр) - тэорыя, згодна з якой існуе некалькі цэнтраў (вобласцяў)

паходжання чалавека сучаснага віду ад больш ранніх гамінідаў. Заснавальнікам гэтай тэорыі лічыцца амерыканскі антраполаг Ф. Вейдэнрэйх, які вылучае чатыры цэнтры паходжання неантропа і яго расаў. П. супрацьпастаўляецца тэорыі монацэнтрызму.

**ПОЛОВОЙ ДИМОРФИЗМ - ПАЛАВЫ ДЫМАРФІЗМ** - адрозненні па структуры, функцыях, паводзінах і інш. паміж асобінамі мужчынскага і жаночага полу аднаго і таго ж віду. П. д. з'яўляецца вынікам палавога адбору (гл.).

**ПОЛОВЫЕ ХРОМОСОМЫ - ПАЛАВЫЯ ХРАМАСОМЫ** - храмасомы, якія вызначаюць пол (звычайна *х*- і *у*-храмасомы).

**ПОЛУОКАЙМЛЁННАЯ ПОРА - НАПАЎАБЛЯМАВАНАЯ ПОРА** - пара пораў, якая складаецца з аблямаванай і простай пораў.

**ПОЛУПУСТЫНЯ - ПАЎПУСТЫНЯ** - пераходная вобласць паміж стэпам і пустыняй з шлямістымі расліннымі групоўкамі, пераважна злакавымі і паўкустамі, якія пакрываюць 50 - 60% тэрыторыі. Характэрна для Цэнтральнай і Малой Азіі, Прыкаспійскай нізіны. Іранскага плато, перыферыйных зонаў Сахары, Паўднёвай Амерыкі, некаторых зонаў Аўстраліі.

**ПОПУЛЯЦИЯ - ПАПУЛЯЦЫЯ** (лац. populus - народ, насельніцтва) - сукупнасць асобінаў аднаго і таго ж віду, якія валодаюць агульным генафондам і займаюць пэўную тэрыторыю. Папуляцыю можна вызначыць як сукупнасць асобінаў дадзенага віду, што на працягу доўгага часу (вялікай колькасці пакаленняў) насяляе пэўную прастору (частку арэала), унутры якой практычна здзяйсняецца пэўная ступень панміксіі і адносна ізаляваную ад іншы такіх жа сукупнасцяў. У сучаснай біялогіі П. разглядаюць як элементарную адзінку эвалюцыі, здольную рэагаваць на змены асяроддзя перабудовай свайго генафонду. Тэрмін П. упершыню прапанаваў Іагансен у 1903 г.

**ПОРА - ПОРА** - паглыбленне (або поласць) у тым месцы клетачнай абалонкі, у якім першасная абалонка не пакрыта другаснай. Порападобныя структуры ў першаснай абалонцы называюцца першаснымі порамі або першаснымі поравымі палямі. Пора звычайна з'яўляецца членам пары пораў.

**ПОРА ОКАЙМЛЁННАЯ - ПОРА АБЛЯМАВАНАЯ** - пора, у якой другасная абалонка навісае ў выглядзе скляпення над замыкальнай плёнкай поры.



**ПОРА ПЕРВИЧНАЯ, ПОЛЕ ПЕРВИЧНОЕ ПОРОВОЕ - ПОРА ПЕРШАСНАЯ, ПОЛЕ ПЕРШАСНАЕ ПОРАВАЕ** - тонкі ўчастак першаснай клетачнай абалонкі і сярэдняй пласцінкі, у межах якога ў працэсе фармавання другаснай абалонкі развіваецца адна або некалькі параў пораў.

**ПОРОВОЙ КАНАЛ - ПОРАВЫ КАНАЛ** - праход з поласці клеткі ў камеру аблямаванай поры.

**ПОСТАДАПТАЦИЯ - ПОСТАДАПТАЦЫЯ** (лац. post - пасля і adaptatio - прыстасаванне) - эвалюцыйныя змены арганізмаў, якія ўдасканальваюць ужо існуючую ў іх адаптацыю да асяроддзя пражывання.

**ПРАВИЛО ГАУЗЕ - ПРАВІЛА ГАУЗЕ** - правіла канкурэнтнага выключэння, устаноўлена ў 1934 г. савецкім вучоным Г. Ф. Гаузе ў доследах з інфузорыямі. У ім гаворыцца, што два блізкія віды не могуць займаць адну экалагічную нішу, бо адзін від выцясняецца другім.

**ПРАВИЛО ДЖОРДАНА, ПРАВИЛО ВИКАРИАТА - ПРАВІЛА ДЖАРДАНА, ПРАВІЛА ВІКАРЫЯТУ** - арэалы блізкародкасных формаў раслінаў (відаў або падвідаў) звычайна займаюць сумежныя тэрыторыі і істотна не перакрываюцца; родпасныя формы, як правіла, вікарыюць, г. зн. геаграфічна замяшчаюць адзін аднаго (Дж. Ален, 1906).

**ПРАЙД - ПРАЙД** (англ. pride - найлепшае становішча, вышэйшая ступень) - устойлівая група асобінаў у папуляцыі ільва ў 6 - 12, радзей - у 20 і больш жывёлінаў. Звычайна П. складаецца з некалькіх родных самінаў са сваім патомствам і буйнога самца, які ўзначальвае прайд; часта ў П. бывае 2 - 3 самцы.

**ПРЕАДАПТАЦИЯ - ПРЭАДАПТАЦЫЯ** (лац. prea - наперадзе, перад і adaptatio - прыстасаванне) - уласцівасць арганізму, якая мае прыстасоўную каштоўнасць да яшчэ нядзейсненых формаў узаемаадносінаў яго з асяроддзем. П. называецца таксама працэс развіцця прэадаптыўных уласцівасцяў, на аснове якіх фармуюцца якасна новыя прыстасаванні (Л. Кено, 1911 г.).

**ПРЕДЕТЕРМИНАЦИЯ - ПЕРАДДЭТЭРМІНАЦЫЯ** (лац. pre - перад, да і determinare - вызначаць) - уплыў мацярынскага ядра, гены якога знаходзяцца ў актыўным стане яшчэ да апладнення, на накірунак развіцця яйцаклеткі.

**ПРЕФОРМИЗМ - ПРЭФАРМІЗМ** (лац. praeformo - загадзя ўтвараю) - вучэнне аб наяўнасці ў палавых клетках арганізмаў матэрыяльных

структураў, што прадвызначаюць развіццё зародка і прыкметы арганізма, які з яго фармуецца. Вучэнне аб прэфармацыі адмаўляе развіццё і зводзіць яго да росту арганізмаў (Я. Свамердам, М. Мальпігі, А. Левенгук, А. Галер і інш.).

**ПРОБАНД - ПРАБАНД** (ням. proband) - у генетыцы чалавека зыходная асоба, з якой пачынаецца генетычнае даследванне радаводу пэўнай сям'і.

**ПРОВИРУС - ПРАВІРУС** (лац. pro - прыстаўка, якая абазначае замеңнік, і virus - яд) - двухланцуговая паслядоўнасць ДНК, убудаваная ў храмасому эўкарыётаў і адг ведная геномнай РНК рэтравірусаў.

**ПРОДУКТИВНОСТЬ ПЕРВИЧНАЯ ВАЛОВАЯ - ПРАДУКТЫЎНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ ВАЛАВАЯ** - 1) агульная хуткасць фотасінтэзу; 2) сумарная фіксаваная, ў працэсе фотасінтэзу. энергія; 3) агульная колькасць арганічнага рэчыва, прадукаванага аўтатрофамі ў працэсе фотасінтэзу на працягу пэўнага перыяду часу з улікам тых арганічных рэчываў, якія трацяцца на дыханне.

**ПРОДУКТИВНОСТЬ ПЕРВИЧНАЯ ЧИСТАЯ - ПРАДУКТЫЎНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ ЧЫСТАЯ** - 1) гэта розніца паміж валавай першаснай прадукцыяй і колькасцю рэчыва, патрачанага на дыханне; 2) арганічнае рэчыва, якое запасаецца аўтатрофнымі арганізмамі і ідзе на рост біямасы.

**ПРОДУКТИВНОСТЬ ВТОРИЧНАЯ - ПРАДУКТЫЎНАСЦЬ ДРУГАСНАЯ** - хуткасць утварэння біямасы гетэратрофамі.

**ПРОКАРИОТЫ - ПРАКАРЫЁТЫ** (лац. pro - перад, раней, замест і грэч. karyon - ядро) - арганізмы, клеткі якіх не маюць афармлёнага ядра (абмежаванага мембранай). Да П. адносяць усіх бактэрыяў, а таксама ўключаюць археабактэрыяў і цыянабактэрыяў. Аналаг ядра - структура. якая складзена з ДНК - нуклеоід (гл.).

**ПРОГРЕСС - ПРАГРЭС** (лац. progressus - рух наперад) - удасканаленне і ўскладненне арганізмаў у жывой прыродзе. А. М. Северцаў (1925) прапанаваў распазнаваць *біялагічны П.* - вынік поспеху дадзенай групы арганізмаў у барацьбе за існаванне (павелічэнне колькасці асобін.аў, пашырэнне арэалу і г. д.) і *марфафізіялагічны П.* (эвалюцыйныя пераўтварэнні, якія звязаныя з ускладненнем і ўдасканаленнем арганізацыі групау арганізмаў).

**ПРОЛАНГАЦИЯ - ПРАЛАНГАЦЫЯ** - тое ж самае, што і анабалія.



**ПРОМОТОР - ПРАМОТАР** (лац. promovere - пасоўваць, рухаць наперад) - участак ДНК, які адказны за звязванне РНК-полімеразы, што ініцыюе транскрыпцыю.

**ПРОТЕОПЛАСТЫ - ПРОТЭАПЛАСТЫ** (грэч. protos - першасны, найважнейшы і plastos - вылеплены, утвораны) - лейкапласты, у якіх назапашваецца запасны бялок.

**ПРОТОПЛАЗМА - ПРАТАПЛАЗМА** (грэч. protos - першы, найважнейшы і plasma - вылеплены, аформлены) - жывое змесціва клеткі, яе цытаплазма і ядро. Упершыню тэрмін П. скарыстаў Я. Пуркіне (1839).

**ПРОТОПЛАСТ - ПРАТАПЛАСТ** (грэч. protos - першы, найважнейшы і plastos - вылеплены, утвораны) - арганізаваная жывая частка адной клеткі, якая ўключае пратаплазматычныя і непратаплазматычныя кампаненты клеткі, акрамя клетачнай абалонкі.

**ПРОТОТРОФЫ - ПРАТАТРОФЫ** (грэч. protos - першы, і trophe - харчаванне) - дзікія штамы бактэрыяў або грыбоў, здольныя да поўнага сінтэзу і выжывання ў мінімальным харчовым асяроддзі.

**ПРОФАГ - ПРАФАГ** (лац. pro - прыстаўка, якая абазначае замеңнік, і грэч. phagos - які з'ядае) - фагавы геном, інтэграваны ў бактэрыйную храмасому (бактэрыя становіцца лізагеннай па фагу).

**ПРОФУНДАЛЬ - ПРАФУНДАЛЬ** (лац. profundus - глыбокі) - глыбінная частка азёраў (згодна з некаторымі аўтарамі - мораў і акіянаў), куды не пранікае сонечнае святло і хвалевыя рухі. Дно ў межах П. звычайна пакрытае глеем, донная раслінnасць адсутнічае многа бактэрыяў і грыбоў, у выніку жыццядзейнасці іх назапашваецца метан, серавадарод і наступае дэфіцыт кіслароду.

**ПРОЦЕССИНГ - ПРАЦЭСІНГ** - працэс посттранскрыпцыйнага выспявання ў эўкарыётаў інфармацыйнай РНК (гл. РНК) шляхам *сплайсінгу* (гл.).

**ПСАММОФИЛЫ, -ФИТЫ - ПСАМАФІЛЫ, -ФІТЫ** (грэч. psammos - пясок і phileo - люблю, phyton - расліна) - жывёлы і расліны, якія прыстасаваліся да жыцця ў пясках, у пясчаных пустынях.

**ПСЕВДОГАМИЯ - ПСЕЎДАГАМІЯ** (грэч. pseudos - ілжывы і gamos - злучаны) - з'ява, прамежкавая паміж нармальным палавым працэсам і *апаміксісам* (гл.); ілжывае апладненне яйца, пры якім сперматазоід толькі

актывізуе развіццё, але сам у ім не ўдзельнічае: адбываецца апладненне не яйцаклеткі, а цэнтральнага ядра.

**ПСИХОЛАМАРКИЗМ - ПСІХАЛАМАРКІЗМ** - гл. нэаламаркізм.

**ПСИХРОФИТЫ - ПСІХРАФІТЫ** (грэч. psychros - халодны і phyton - расліна) - расліны, якія патрабуюць для нармальнага росту і развіцця нізкіх тэмператураў (у сярэднім 0° - 10°С).

**ПОЧВА - ГЛЕБА** - асобае аргана-мінеральнае натуральна-гістарычнае прыроднае ўтварэнне, што ўзнікла ў выніку ўздзеяння жывых арганізмаў на мінеральны субстрат і раскладу мёртвых арганізмаў, уплыву прыродных водаў і атмасфернага паветра на паверхневыя гарызонты горных народаў у розных умовах клімату і рэльефу ў гравітацыйным полі Зямлі. Магутнасць Г. - да 2 - 3 м.

**ПУФФИНГ - ПУФІНГ** (англ. puffing - уздуцце) - працэс фармавання *пуфаў* (гл.) у палітэнных храмасомах (гл.).

**ПУФЫ - ПУФЫ** (англ. puffs, bulbs - уздуцце, выпукленне) - больш шырокія зоны гіганцкіх палітэнных храмасомаў у двукрылых з менш выражанай папярочнай скрэсленасцю (дыскі, гл.); уяўляюць сабою максімальна дэспіралізаваныя ўчасткі храмасомаў і служаць эксперыментальным пацверджаннем функцыйнай актыўнасці (сінтэз РНК) генаў у ранняй прафазе.

## Р

**РАДИОЭКОЛОГИЯ - РАДЫЁЭКАЛОГІЯ** - раздзел экалогіі, які вывучае адносіны асобных экасістэмаў, папуляцыяў, згуртаванасцяў і арганізмаў д ўзвядзення іанізоўнага выпраменьвання.

**РАСЧЛЕНЯЮЩАЯ ОКРАСКА - ПАДЗЯЛЯЛЬНАЯ АФАРБОЎКА** - гл. маскіроўка.

**РАФИДЫ - РАФІДЫ** (грэч. raphys - швейная іголка) - злучаныя ў пучкі дробныя ігольчастыя крышталікі аксалату кальцыя, якія адкладваюцца ў вакуолях раслінных клетак.

**РЕАККЛИМАТИЗАЦИЯ (РЕИНТРОДУКЦИЯ) - РЭАКЛІМАТЫЗАЦЫЯ (РЭІНТРАДУКЦЫЯ)** - штучнае ўкараненне відаў жывёлінаў і раслінаў у экасістэмы, дзе яны калісьці пражывалі, але потым зніклі.



**РЕГРЕС - РЭГРЭС** (лац. regressus - вяртанне, рух назад) - спрашчэнне арганізмаў у працэсе эвалюцыі. А. М. Северцаў (1925) прапанаваў распазнаваць: 1) *біялагічны Р.* - эвалюцыйны заняпад групы арганізмаў, якая не змагла прыстасавацца да зменаў знешніх умоваў і не вытрымала канкурэнцыі з іншымі групамі (характарызуецца памяншэннем колькасці асобінаў у дадзеным таксоне, звужэннем арэалу і г. д.); 2) *марфафізіялагічны Р.* (агульная дэгенерацыя, катамарфоз) - спрашчэнне арганізацыі ў ходзе эвалюцыі дадзенай групы, якая суправаджаецца стратай шэрагу функцыяў і органаў, што гэтыя функцыі выконваюць.

**РЕДУКЦИЯ - РЭДУКЦЫЯ** (лац. reductio - вяртанне, адсоўванне назад) - недаразвіццё або поўнае знікненне органа (структуры), які нармальна развіваецца ў продкаў або на ранніх стадыях антагенезу.

**РЕДУПЛИКАЦИЯ - РЭДУПЛІКАЦЫЯ** (лац. reduplicatio - падваенне) - падваенне малекулаў ДНК шляхам пабудовы згодна з прынцыпам матрычнага сінтэзу даччыных малекулаў, камплементарных кожнаму з ланцугоў (што вядзе і адстае, гл.) зыходнай малекулы ДНК (напаўкансерватыўны спосаб).

**РЕДУЦЕНТЫ - РЭДУЦЭНТЫ** (лац. reducens, р. ск. reducentis - вяртаць, аднаўляць) - дэструктары, арганізмы, якія харчуюцца мёртвым арганічным рэчывам (трупы, адкіды) і ажыццяўляюць яго мінералізацыю (дэструкцыю), г. зн. разбураюць да простых неарганічных рэчываў, здольных паглынацца прадуцэнтамі (гл.). Да Р. звычайна адносяць сапрафітаў: бактэрыяў, грыбы і некаторых жывёлаў (напрыклад, чарвей).

**РЕКАПИТУЛЯЦИЯ - РЭКАПІТУЛЯЦЫЯ** (лац. recapitulatio - паўтарэнне) - паўтарэнне ў эмбрыягенезе сучасных арганізмаў прыкметаў, якія мелі месца ў дарослых продкаў (Э. Гекель, 1866).

**РЕКОНЫ - РЭКОНЫ** (паводле Бензера) - найменшыя адзінкі ў межах *цыстрона* (гл.), паміж якімі магчымыя красінгавер і рэкамбінацыя.

**РЕКРЕАЦИОННЫЕ СМЕНЫ - РЭКРЭАЦЫЙНЫЯ ЗМЕНЫ** (лац. recreation - адпачынак) - дыгрэсія складу, структуры і функцыянавання экасістэмаў пад уплывам антрапічных фактараў (вытоптванне, ушчыльненне глебы; знішчэнне прыгожа квітнеючых і лекавых раслінаў, дробных жывёлінаў у выніку турызму і адпачынку людзей).

**РЕКУЛЬТИВАЦИЯ - РЭКУЛЬТЫВАЦЫЯ** (лац. re - паўтарэнне і cultivo - апрацоўваю) - аднаўленне тэхнагенных парушэнняў глебавага покрыва (выраўноўванне рэльефу, завоз урадлівага слою глебы і інш.) з мэтай садзейнічання фармаванню культурных або звычайных біяцэнозаў.

**РЕЛИКТЫ - РЭЛІКТЫ** (лац. relictum - рэшта) - віды арганізмаў, якія з'яўляюцца мала зменьнымі прадстаўнікамі флоры і фаўны мінулых эпохаў (хахуля, лінея паўночная і інш.).

**РЕЛЬЕФ - РЭЛЬЕФ** (франц. relief, лац. relevo - падымаю) - сукупнасць няроўнасцяў зямной паверхні, розных па абрысах, велічыні, паходжанні, узросту і гісторыі развіцця. Складаецца з дадатных формаў, якія ўтвараюць узвышшы, і адмоўных, што ўяўляюць сабою ўпадзіны. Значныя змены ў прыродны натуральны рэльеф уносіць дзейнасць чалавека.

**РЕПАРАЦИЯ - РЭПАРАЦЫЯ** (лац. reparatio - аднаўленне) - здольнасць клеткі выпраўляць індукаваныя хімічнымі рэчывамі і іанізоўнай радыяцыяй пашкоджанні ў малекуле ДНК, інакш, перашкаджаюць узнікненню мутацыяў.

**РЕПЕТИЦИЯ - РЭПЕТЫЦЫЯ** (лац. repetitio - паўтарэнне) - з'ява дакладнага паўтарэння ў антагенезе нашчадкаў прыкметаў антагенезу продкаў (паводле Г. Дэ Біра, 1930).

**РЕПЛИКАТИВНАЯ (РЕПЛИКАЦИОННАЯ) ВИЛКА - РЭПЛІКАТЫЎНАЯ (РЭПЛІКАЦЫЙНАЯ) ВІЛКА** - пункт, у якім ланцугі бацькоўскай двухланцуговай ДНК разыходзяцца для таго, каб магла ісці рэплікацыя.

**РЕПЛИКАЦИЯ - РЭПЛІКАЦЫЯ** (лац. replicare - адбіваць, варочаць назад) - самаўзнаўленне малекулаў ДНК, якое прыводзіць да падваення іх колькасці. Больш дакладна сутнасць гэтага працэсу адлюстроўвае тэрмін "рэдуплікацыя" (гл.).

**РЕПЛИКОН - РЭПЛІКОН** (лац. replicare - адлюстроўваць) - адзінка рэплікацыі, што ўяўляе сабою ўчастак малекулы ДНК, які ў кожным клетачным цыкле толькі адзін раз прыходзіць у актыўны стан, здольны да аўтаномнай рэплікацыі (гл.) і мае пункт ініцыяцыі рэплікацыі.

**РЕОФИЛЫ, -ФИТЫ - РЭАФІЛЫ, -ФІТЫ** (грэч. rheos - цячэнне, phileo - люблю і phyton - расліна) - жывёліны (расліны) хуткацечных рэкаў або прыбойных палосаў мораў.



**РЕСНИЧКИ - РАСНІЧКІ** - рухомыя кароткія (1 - 5 мкм) адросткі клеткі, якія прысутнічаюць на яе паверхні і адказваюць за яе перамяшчэнне. Калі адросткаў няшмат і яны больш доўгія (1 - 2 мм), то іх называюць жгуцікамі.

**РЕСУРСЫ ПРИРОДЫ - РЭСУРСЫ ПРЫРОДЫ** - скарбы прыроды, якія выкарыстоўваюцца або могуць быць выкарыстаны чалавецтвам. Р. п. падзяляюцца на невычэрпныя (сонечная радыяцыя, энергія ветру, прылівы і адлівы, цяпло Зямлі) і вычэрпныя (чыстая вада, глеба, расліны і жывёльны свет, скарбы недраў). Сярод апошніх выдзяляюць непапаўняльныя (скарбы недраў) і адносна ўзнаўляльныя (кампаненты экасістэмаў).

**РЕТАРДАЦИЯ - РЭТАРДАЦЫЯ** (лац. retardatio - запавольванне) - запавольванне тэмпаў эмбрыянальнага развіцця або запазненне эмбрыянальнага закладвання органаў у нашчадкаў у параўнанні з продкамі. Тэрмін прапанаваў Э. Гекель (1866) для назначэння адной з формаў цэнагенозу - адмоўнай гетэрахроніі. На больш позніх стадыях марфагенезу Р. або кампенсуецца паска-рэннем развіцця, або прыводзіць да феталізацыі (гл.).

**РЕТРОГРЕССИЯ - РЭТРАГРЭСІЯ** (лац. retrogression - вяртанне) - сукцэсія, накіраваная на аднаўленне біяцэнозу пасля яго разбурэння антрапічнымі фактарамі (высяканне, паклады).

**РЕЦИПРОКНЫЕ СКРЕЩИВАНИЯ - РЭЦЫПРОКНЫЯ СКРЫЖОЎВАННІ** (лац. reciprocus - узаемны) - скрыжоўванне паміж дзвюма бацькоўскімі формамі, калі ў адным выпадку носьбітам дамінантнай прыкметы з'яўляецца жаночая асобіна (*прамое* скрыжоўванне), у другім - мужчынская (*адваротнае* скрыжоўванне).

**РИБОСОМА - РЫБАСОМА** (пачатак слова "*рыбануклеінавая*" кіслата і грэч. soma - цела) - сферычныя гранулы, размешчаныя вольна ў цытаплазме або прымацаваныя да вонкавай паверхні мембранаў эндаплазматычнай сеткі і ядзернай абалонкі, якія маюць *р*-РНК (3 малекулы у пракарыётаў і 4 - у эўкарыётаў), бялкі і з'яўляюцца цэнтрам сінтэзу бялку ў цытаплазме. Рыбасомы складаюцца з дзвюх няроўных суб'адзінак - вялікай і малой. Пад час сінтэзу бялку Р. часта ўтвараюць комплекс-полірыбасому (полісому).

**РОДОСЛОВНОЕ ДРЕВО (ФИЛОГЕНЕТИЧЕСКОЕ ДРЕВО) - РАДАСЛОЎНАЕ ДРЭВА (ФІЛАГЕНЕТЫЧНАЕ ДРЭВА)** - графічнае адлюстраванне філагенезу і роднасных сувязяў групаў арганізмаў.

**РОЖДАЕМОСТЬ - НАРАДЖАЛЬНАСЦЬ** - інтэнсіўнасць папаўнення папуляцыі ў выніку размнажэння. Н. ($R_b$) звычайна выражаюць праз

колькасць нованароджаных асобінаў (N) за адзінку часу (t), аднесеную да нейкай зыходнай велічыні ($N_0$):

$$R_b = \frac{N}{N_0 \cdot t}.$$

**РУДЕРАЛЬНЫЕ РАСТЕНИЯ - РУДЭРАЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ** (лац. rudus, р. с. ад ruderis - жвір) - смеццевыя расліны, якія селяцца каля будынкаў, на пустках, уздоўж чыгункі, дарогаў і г. д. Даволі часта маюць розныя прыстасаванні, што дазваляюць ім пазбегнуць знішчэння чалавекам і жывёламі (несамавіты выгляд, ядавітыя рэчывы, шыпы, пякучыя валаскі і г. д.). Сярод Р. р., напрыклад - лопух лямцавы, віды крапівы і інш.

**РУДИМЕНТАЦИЯ - РУДЫМЕНТАЦЫЯ** (лац. rudimentum - зачатак, першаснова) - павольнае знікненне органа, які страціў свае функцыі: *абрэвіяцыя* (скарачэнне развіцця) або *адмоўная анаболія* (выпадзенне канчатковых стадыяў). *Рудыменты, рудыментальныя органы* - параўнальна спрошчаныя, недаразвітыя структуры, што страцілі сваё асноўнае значэнне ў працэсе філагенезу (напрыклад, хваставыя хрыбеткі, валасяное покрыва тулава, вушныя мускулы ў чалавека). У адрозненне ад атавізмаў, Р. сустракаюцца ва ўсіх асобінаў дадзенага віду.

## С

**САВАННА - САВАНА** - тып трапічнай і субтрапічнай расліннасці, які характарызуецца разрэджаным і нізкарослым дрэвастоем, засухаўстойлівымі (ксерафільнымі) кустамі і травяніста-злакавымі асацыяцыямі з рэзка выражанымі летнімі перапынкамі ў вегетацыі. С. шырока распаўсюджана ў Афрыцы, Паўднёвай Амерыцы (у Бразіліі савана называецца *кампас*, у Венесуэле і Калумбіі - *льянас*), а таксама ў Паўднёва-Усходняй Азіі і Аўстраліі.

**САВАННА ЗЛАКОВАЯ - САВАНА ЗЛАКАВАЯ** - тып афрыканскай саваны, які характарызуецца высокім (да 3,5 м) і густым вільгацелюбівым злакавым травастоем, расцягненым на 9 - 10 месяцаў дажджавым перыядам.

**САЙТЫ МУТАНТНЫЕ**, или **САЙТЫ ЗАМЕЩЕНИЯ - САЙТЫ МУТАНТНЫЯ**, або **САЙТЫ ЗАМЯШЧЭННЯ** (англ. site - месца, участак) - участкі гена, мутацыі ў якіх прыводзяць да замены кадуемай амінакіслаты.

**САЛЬТАЦИИ - САЛЬТАЦЫІ** (лац. saltatio, ад salto - скачу, падскокваю) - раптоўныя, скачкаватыя пераўтварэнні арганізмаў, якія нібыта прыводзяць да з'яўлення новых буйных таксонаў (атрад, клас, тып). Уяўленні аб С.



адстойваліся ў працах прыхільнікаў неакатастрафізму (В. Вааген, О. Шындэльвольф) і мутацыянізму (С. І. Каржынскі, Г. Дэ Фрыз), якія лічылі, што С. (макрамутацыі) з'яўляюцца галоўнымі фактарамі эвалюцыі.

**САМОРЕГУЛЯЦИЯ - САМАРЭГУЛЯЦЫЯ** - здольнасць жывой сістэмы (арганізм, папуляцыя, экасістэма) прыводзіць свой стан у адпаведнасць са зменлівымі ўмовамі шляхам унутраных паслядоўных, аўтаматычных працэсаў, якія ініцыіруюцца гэтымі змяненнямі. Самарэгуляцыя грунтуецца на прынцыпе станоўчай і адмоўнай зваротнай сувязі.

**САПРОБИОНТЫ - САПРАБІЁНТЫ** (грэч. sapros - гнілы і bios - жыццё) - арганізмы, якія жывуць у вадзе, забруджанай арганічнымі рэчывамі. У залежнасці ад ступені забруджвання адрозніваюць *полі-*, *меза-*, *алігасапробаў*. Адпаведна і вадаёмы называюць *полі-*, *меза-*, *алігасапробнымі*.

**САПРОТРОФЫ - САПРАТРОФЫ** (грэч. sapros - гнілы і trophe - харчаванне) - жывёліны (сапрафагі) і расліны (сапрафіты), якія жывяцца арганічнымі рэчывамі змярцвелай біямасы (адмерлая драўніна, кара, апад, падсцілка, трупы і экскрэменты жывёлінаў, выдзяленні залозаў жывёлінаў і раслінаў).

**САПРОФАГИ - САПРАФАГІ** (грэч. sapros - гнілы і phagien - есці) - жывёліны, якія жывяцца адмерлай масай раслінаў (тэрміты, жукі-шашалі), трупамі - *некрафагі* (чарвякі, жукі), экскрэментамі - *капрафагі* (жукі-гнаявікі). Знаходзяцца на трафічным узроўні кансументаў і, часткова, рэдуцэнтаў.

**САПРОФИТЫ - САПРАФІТЫ** (грэч. sapros - гнілы і phyton - расліна) - бактэрыі, грыбы і расліны, якія жывяцца мёртвай масай жывёлінаў і раслінаў, пры гэтым расшчапляюць арганічныя рэчывы з дапамогай выдзяляемых экзаферментаў. Знаходзяцца на трафічным узроўні кансументаў, але ў большай ступені рэдуцэнтаў.

**САРКОЛЕММА - САРКАЛЕМА** (грэч. sarx, р. ск. ад sarkos - мяса, плоць і lemma - скурка, шалупайка) - тонкая абалонка, якая пакрывае папярочна-паласатае мышачнае валакно.

**САРКОМЕРЫ - САРКАМЕРЫ** (грэч. sarkos - мяса, плоць і meros - частка, доля) - структурная адзінка міяфібрылаў. У склад С. уваходзіць дзве палавінкі светлых (ізатропных) дыскаў і адзін цёмны (анізатропны) дыск.

**САРКОПЛАЗМА - САРКАПЛАЗМА** (грэч. sarx, р. ск. ад sarkos - мяса, плоць і plasma - вылеплены, аформлены) - цытаплазма мышачных валокнаў і клетак (міябластаў, саркабластаў).

**САРКОФАГИ - САРКАФАГІ** (грэч. sarkos - мяса і phagien - есці) - арганізмы, якія жывуць на мясе і жывяцца ім.

**СЕГРЕГАЦИОГЕНЕЗ - СЕГРЭГАЦЫЯГЕНЕЗ** (лац. segregatio - аддзяленне) - спосаб эвалюцыйных зменаў на аснове дывергенцыі, які прыводзіць да адаптыўнай радыяцыі.

**СЕЛЕКТИВНОЕ СКРЕЩИВАНИЕ - СЕЛЕКТЫЎНАЕ СПАРОЎВАННЕ** - сістэма спароўвання, пры якой асобіны дадзенага генатыпу ўдзельнічаюць у спароўванні з большай верагоднасцю, чым любыя іншыя асобіны, і ў выніку гэтага ўносяць вялікі ўклад у генафонд наступнага пакалення. Селектыўнае спароўванне, па сутнасці, з`яўляецца сінонімам дарвінаўскага палавога адбору.

**СЕНИЛЬНЫЕ ОСОБИ - СЯНІЛЬНЫЯ АСОБІНЫ** (лац. senilis - старэчы) - асобіны, якія старэюць.

**СЕПТА - СЕПТА** (лац. saeptum - агароджа, перагародка) - перагародка ў раслінных, грыбных і жывёльных клетках.

**СИБСЫ - СІБСЫ** (англ. sibbings, sibs) - нашчадкі адных і тых жа бацькоў ад розных прыплодаў; у чалавека - браты і сёстры, але не блізняты.

**СИМБИОЗ - СІМБІЁЗ** (грэч. symbiosis - сумеснае жыццё) - формы біятычных адносінаў, узаемавыгадныя для двух і больш арганізмаў. С. грунтуецца на трафічных і прасторавых сувязях. Звычайна партнёры валодаюць узаемадапаўняльнымі адзін аднаго прыкметамі, уласцівасцямі, рысамі будовы. Выдзяляюць два тыпы С. - *каменсалізм* (партнёры не ўступаюць у цесныя адносіны і адзін від мае карысць ад сумеснага жыцця з другім, а сам застаецца для апошняга абыякавым) і *мутуалізм* (два віды настолькі цесна звязаныя ўзаемавыгаднымі адносінамі, што не могуць існаваць адзін без аднаго, або моцна прыгнечаныя).

**СИМПАТРИЯ - СІМПАТРЫЯ** (грэч. syn - разам і patris - радзіма) - сумеснае пражыванне ў адным геаграфічным раёне розных відаў або генетычна адрозных у межах віду групаў арганізмаў (біялагічныя расы з рознымі экалагічнымі асаблівасцямі - тэрміны і месца размнажэння, аб`екты харчавання, спосабы здабывання ежы і інш.).

**СИМПЛАСТ - СІМПЛАСТ** (грэч. syn - разам і plastos - вылеплены, утвораны) - адна з формаў клетачнай будовы, якая прадстаўлена зборам вялікай колькасці цытаплазмы са шматлікімі ядрамі. Сімпластычная будова



характэрная для папярочнапаласатых мышачных валокнаў. С. утвараецца ў выніку зліцця клетак або размнажэння ядраў без цытатаміі. У раслінаў С., або сінтыцыемам, называюць шматклетачны пратапласт арганізма, які не мае клетачнай будовы, напрыклад, у каўлерпы; пратаплазматычнае змесціва злітых клетак, напрыклад, членістых млечнікаў; сукупнасць пратапластаў, што злучаны пратаплазматычнымі ніткамі - плазмадэсмамі.

**СИНАНТРОПНЫЕ ВИДЫ - СІНАНТРОПНЫЯ ВІДЫ** (грэч. syn - разам і anthropos - чалавек) - віды раслінаў і жывёлаў, спосаб жыцця якіх звязаны з чалавекам, яго жыллём, створаным або відазмененым ландшафтам. Вылучаюць *аблігатныя* (абавязковыя) С. в., якія цесна звязаны з чалавекам і за межамі яго паселішчаў звычайна не сустракаюцца (хатняя мыш, пацукі, клапы, прусакі) і *факультатыўныя* (магчымыя), што меней звязаныя з чалавекам і жывуць у пасевах, пасадках. Да апошняй групы адносіцца разнастайнае пустазелле.

**СИНАПТОНЕМАЛЬНЫЙ КОМПЛЕКС - СІНАПТАНЯМАЛЬНЫ КОМПЛЕКС** - структура, якая ўзнікае паміж гамалагічнымі храмасомамі пры іх кан`югацыі ў прафазе 1 меёзу.

**СИНТЕЗОГЕНЕЗ - СІНТЭЗАГЕНЕЗ** - сеткаватая эвалюцыя, спосаб эвалюцыйных зменаў, які звязаны з аб`яднаннем двух відаў у новае ўтварэнне (напрыклад, сімбіёз).

**СИНТЕТИЧЕСКАЯ ТЕОРИЯ ЭВОЛЮЦИИ - СІНТЭТЫЧНАЯ ТЭОРЫЯ ЭВАЛЮЦЫІ** - комплекс уяўленняў аб заканамернасцях мікра- і макраэвалюцыі, які склаўся на аснове класічнага дарвінізму, дадзеных генетыкі і экалогіі ў 30-я гады XX ст.

**СИНУЗИЯ - СІНУЗІЯ** (грэч. synusia - сумеснае знаходжанне, супольніцтва) - экалагічна і прасторава адасобленая частка фітацэнозу, якая складаецца з раслінаў адной або некалькіх блізкіх жыццёвых формаў (напрыклад, дрэвы, кусты, імхі, водарасці), што звязаныя паміж сабою агульнымі патрабаваннямі да асяроддзя пражывання, часта ў значнай ступені створанага самой сукупнасцю арганізмаў, з якіх складаецца С.

**СИНЭКОЛОГИЯ - СІНЭКАЛОГІЯ** (грэч. syn - разам і экалогія) - раздзел экалогіі, які вывучае структуру, функцыі, дынаміку, самарэгуляцыю экасістэмаў розных узроўняў.

**СИТОВИДНАЯ КЛЕТКА - СІТАВАТАЯ КЛЕТКА** - тып сітападобнага элемента, які мае адносна недыферэнцаваныя сітаватыя палі (з вузкімі

порамі) даволі раўнамерна размеркаваныя па ўсіх сценках, г. зн. тут адсутнічаюць сітаватыя пласцінкі. Тыпова для голанасенных і ніжэйшых сасудзістых раслінаў.

**СИТОВИДНАЯ ПЛАСТИНКА - СІТАВАТАЯ ПЛАСЦІНКА** - частка клетачнай абалонкі сітаватага элемента, якая мае адно або некалькі высокаспецыялізаваных сітаватых палёў, тыповых для пакрытанасенных.

**СИТОВИДНОЕ ПОЛЕ - СІТАВАТАЕ ПОЛЕ** - поравая зона ў клетачнай абалонцы сітаватага элемента з канальцамі, якія звычайна павысціланыя калёзай і занятыя пратаплазматычным змесцівам, што звязвае пратапласты суседніх сітаватых элементаў.

**СИТОВИДНЫЙ ЭЛЕМЕНТ - СІТАВАТЫ ЭЛЕМЕНТ** - клетка ў флаэмнай тканцы, якая служыць галоўным чынам для правядзення пажыўных рэчываў у надоўжным напрамку. Падзяляецца на сітаватую клетку і членік сітаватай трубкі.

**СКЛЕРЕИДЫ - СКЛЕРЭІДЫ** (грэч. skleros - цвёрды) - структурныя элементы механічнай тканкі раслінаў - склеранхімы, якая ўзнікае з паранхімных клетак (радзей празенхімных) з прычыны склерафікацыі. С. маюць тоўстыя лігніфіцаваныя другасныя абалонкі са шматлікімі порамі. Да іх адносяцца камяністыя клеткі (*брахісклерэіды*), галінастыя або зорчатыя (*астэрасклерэіды, астэасклерэіды*).

**СКЛЕРИФИКАЦИЯ - СКЛЕРАФІКАЦЫЯ** (грэч. skleros - цвёрды і лац. facio - раблю) - працэс развіцця ў клетках другасных абалонак з далейшай лігніфікацыяй (адраўленнем) або без яе.

**СКЛЕРОФИТЫ - СКЛЕРАФІТЫ** (грэч. skleros - цвёрды і phyton - расліна) - расліны з моцна развітымі механічнымі тканкамі, трывалымі цвёрдымі сцябламі, жорсткімі лістамі.

**СМЕРТНОСТЬ - СМЯРОТНАСЦЬ** - скарачэнне колькасці асобінаў у папуляцыі ў выніку іх пагібелі. Велічыня смяротнасці вызначаецца колькасцю асобінаў, якія загінулі ў адзінку часу (звычайна год) на адзінку колькасці папуляцыі (звычайна 1000 асобінаў). Залежыць ад уздзеяння экстрэмальных фактараў і шчыльнасці папуляцыі.

**СМОГ - СМОГ** (англ. smog - туман з дымам) - моцнае забруджванне паветра ў выглядзе аэразоляў з дымам, газамі і туманамі. Назіраецца ў раёнах з развітым транспартам і прамысловасцю.



**СОЦИАЛ - ДАРВИНИЗМ - САЦЫЯЛ-ДАРВІНІЗМ** - навуковая плынь (канец XIX - пачатак XX ст.), якая тлумачыць прычыны гістарычнага развіцця грамадства біялагічнымі законамі барацьбы за існаванне і натуральным адборам.

**СПЕЦИАЛИЗАЦИЯ (телогенез) - СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ** - гл. целагенез.

**СПЛАЙСИНГ - СПЛАЙСІНГ** (англ. splitting - расшчапленне, здрабненне) - працэс выдалення *інтронаў* (гл.) і "сшывання" (аб'яднання) *экзонаў* (гл.) у інфармацыйнай РНК.

**СПОРОПОЛЛЕНИН - СПОРАПАЛЯНІН** - рэчыва, якое складае вонкавую абалонку пылковага зерня або споры. Устойлівы цыклічны спірт.

**СПУТНИК (вторичная перетяжка) - СПАДАРОЖНІК** - гл. другасная перацяжка.

**СРЕДА - АСЯРОДДЗЕ** - фізічныя ўласцівасці прасторы, якая абкружае арганізм (тэмпература, асвятленне, ціск, узровень радыяцыі і інш. выпраменьванні; хімічны склад рэчываў; жывыя арганізмы свайго і чужых відаў).

**СТАДО - СТАТАК** - група млекакормячых аднаго віду, якія захоўваюць пэўны час блізкасць адзін да аднаго, падобна сябе паводзяць і нярэдка маюць аднолькавы рытм актыўнасці і адзін напрамак руху. С. характэрны для кітападобных, капытных, прыматаў.

**СТАСИГЕНЕЗ - СТАСІГЕНЕЗ** - з'ява эвалюцыйнай стабілізацыі, г. зн. захоўванне антагалінаванняў, якія не змяняюцца і персістуюць (паводле Дж. Хакслі, 1954).

**СТАЦИЯ - СТАЦЫЯ** (лац. statio - месцазнаходжанне) - участак тэрыторыі, які заняты папуляцыяй віду і характарызуецца пэўнымі экалагічнымі ўмовамі (рэльеф, клімат, ежа, сховішча і г. д.). Як правіла, паняцце С. ужываецца ў адносінах да віду.

**СТАЯ - ЧАРАДА (або ЗГРАЯ)** - рухомая, звычайна часовая групоўка асобінаў (уласцівая для насякомых, рыбаў, птушак, некаторых млекакормячых). Адна з формаў агрэгацыі. Узнікае ў сувязі з міграцыяй (птушкі, саранча і інш.), канцэнтрацыяй вялікай колькасці арганізмаў у месцах, дзе ёсць лішак корму, сховішчаў.

**СТЕНОБИОНТЫ, СТЕНОЭКИ - СТЭНАБІЁНТЫ, СТЭНАЭКІ** (грэч. stenos - вузкі і bios - жыццё) - арганізмы з вузкім дыяпазонам прыстасавальнасці (талерантнасці), здольныя існаваць толькі ў адносна стабільных умовах. Адрозніваюць *стэнатэрмныя, стэнагалінныя, стэнабатныя, стэнафагныя, стэнафотныя* віды, адаптаваныя адпаведна да пэўнага дыяпазону тэмпературы, салёнасці, ціску, харчу, асвятлення і месцапражывання.

**СТЕПЬ - СТЭП** - тып вузкалістай травяністай ксерафільнай расліннасці. З-за арыднасці клімату драўняныя расліны, як правіла, адсутнічаюць. У супольніцтвах С. пераважаюць злакавыя, бабовыя, парасонкавыя, складанакветныя і інш. Фауна С. (больш бедная, чым у лясных вобласцях) прадстаўлена пераважна антылопай-сайгак і інш. статкавымі капытнымі, ваўкамі, палявымі мышамі, слепакамі, землярыйкамі і інш. Многія стэпавыя жывёлы ўпадаюць у летнюю спячку. Аналагамі ў Паўночнай Амерыцы з`яўляюцца прэрыі, у Паўднёвай Амерыцы - пампасы, у Новай Зеландыі - супольніцтвы тусакавых злакаў, у Афрыцы - саваны. С. займаюць каля 15% паверхні сушы Зямлі.

**СТЕПЬ ЗЛАКОВАЯ - СТЭП ЗЛАКАВЫ** - паўднёвы засухаўстойлівы стэп, у травастоі якога дамінуюць кавылі, ціпчак, танканог і інш. шматгадовыя дзярновыя злакі, што маюць развітую каранёвую сістэму для ўлаўлівання глебавай вільгаці. З-за пераважання кавылю С. з. называюць кавылёвымі стэпамі.

**СТЕПЬ ЛУГОВАЯ - СТЭП ЛУГАВЫ** - разнавіднасць стэпавай расліннасці, для якой характэрна існаванне як ксерафільных стэпавых злакаў, так і двухдольных раслінаў, а таксама дзірваненне глебы.

**СТРЕСС ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ - СТРЭС ЭКАЛАГІЧНЫ** (англ. stress - напружанне) - парушэнне ўнутранай структуры папуляцыі, што змяншае пладавітасць асобінаў, павялічвае смяротнасць і г. д. Адбываецца ў выніку павелічэння часціні кантактаў паміж асобінамі. С. э. з`яўляецца рэакцыяй арганізмаў на рэзкія змяненні фактараў навакольнага асяроддзя.

**СТРОМА - СТРОМА** (грэч. stroma - подсцілка, дыван) - бялковая аснова эрытрацытаў і пластыдаў, а таксама спляценне гіфаў, на якім размешчаны пладовыя целы або канідзіяносцы ў торбачкавых і недасканалых грыбоў.

**СТРОМАТОЛИТЫ - СТРАМАТАЛІТЫ** (грэч. stroma - подсцілка і lithos - камень) - карбанатныя, часам паўторна акрэмненыя ўтварэнні з разнастайнай унутранай пластавасцю, якія ўзніклі ў выніку жыццядзейнасці



ніжэйшых арганізмаў, галоўным чынам цыянеяў і бактэрыяў. Вядомыя з дакембрыя.

**СТРУКТУРНЫЕ ГЕНЫ - СТРУКТУРНЫЯ ГЕНЫ** - гены, якія кадуюць *т*-РНК, *р*-РНК або бялок.

**СУБДОМИНАНТ - СУБДАМІНАНТ** - другі па колькасці і значнасці від у дадзеным біяцэнозе.

**СУБЕРИН - СУБЕРЫН** - тлушчавае рэчыва ў клетачнай абалонцы коркавай тканкі і ў пояску Каспары эндадэрмы. *Суберынізацыя* - насычванне клетачнай абалонкі суберынам або адкладванне суберынавай пласцінкі на абалонку.

**СУБСТИТУЦИЯ ОРГАНОВ - СУБСТЫТУЦЫЯ ОРГАНАЎ** (лац. substitutio - стаўлю разам, прызначаю наўзамен) - гаматопная субстытуцыя, замяшчэнне ў ходзе эвалюцыі аднаго органа другім, які займае падобнае становішча ў арганізме і выконвае біялагічна ідэнтычную функцыю (напрыклад, замяшчэнне хорды храстковым, а потым касцявым хрыбтом; М. Кляйненберг, 1886).

**СУККУЛЕНТЫ - СУКУЛЕНТЫ** (лац. succus - сок) - расліны, якія маюць моцна развітую парэнхіму і, як вынік, мясістыя сакавітыя надземныя органы, тоўстую кутыкулу, нізкі асматычны ціск. З сухаўстойлівыя, гарачаўстойлівыя, некаторыя - солеўстойлівыя. Адносяцца да экатыпу ксерафітаў, некаторыя (пражываюць у глебе з хларыдным і сульфітным засоленнем) да галафітаў.

**СУКЦЕССИЯ - СУКЦЭСІЯ** (лац. successio - пераемнасць) - паслядоўная змена аднаго біяцэнозу другім. Пачынаецца пад уздзеяннем або знешняга штуршка (алагенная сукцэсія), або ўнутраных прычынаў у самім біяцэнозе (аўтагенная сукцэсія) і завяршаецца фармаваннем устойлівага, клімакснага супольніцтва. Тэрмін прапанаваў Г. Каўлсан (1898 г.).

**СУКЦЕССИЯ ПЕРВИЧНАЯ - СУКЦЭСІЯ ПЕРШАСНАЯ** - змена біяцэнозаў, якая адбываецца ў месцах, пазбаўленых усялякай расліннасці.

**СУКЦЕССИЯ ВТОРИЧНАЯ - СУКЦЭСІЯ ДРУГАСНАЯ** - сукцэсіі, якія адбываюцца на месцы сфармаваных біяцэнозаў пасля іх разбурэння (у выніку пажару, высечкі лесу, засухі, эрозіі і інш.).

**СУКЦЕССИЯ ТЕХНОГЕННАЯ - СУКЦЭСІЯ ТЭХНАГЕННАЯ** - сукцэсія, выкліканая тэхнагенным забруджваннем, іанізуючай радыяцыяй, меліярацыяй. Адносіцца да алагенных сукцэсій антрапагеннага характару.

**СФЕРОСОМЫ - СФЕРАСОМЫ** (грэч. sphaira - шар і soma - цела) - сферычнае цельца ў цытаплазме, якое ўтрымлівае галоўным чынам ліпіды. Дапускаюць, што абмежавальная мембрана адсутнічае або ўяўляе сабою элементарную мембрану.

**СЦЕПЛЕНИЕ ГЕНОВ - СЧАПЛЕННЕ ГЕНАЎ** - сувязь паміж генамі, лакалізаванымі ў адной храмасоме, якая выключае магчымасць іх незалежнага наследвання. Сіла счаплення адваротна прапарцыйная адлегласці паміж генамі.

**СЦЕПЛЕНИЕ С ПОЛОМ - СЧАПЛЕННЕ З ПОЛАМ** - наследванне прыкметаў, гены якіх лакалізаваныя ў палавых храмасомах.

**СЦИОФИТЫ - СЦЫЯФІТЫ** (грэч. skia - цень і phyton - расліна) - ценелюбівыя расліны (напрыклад, кіслічка).

## Т

**ТАЙГА - ТАЙГА** - барэальныя хваёвыя лясы ўмеранага пояса і дробналісцевыя, якія змяняюць іх і размяшчаюцца на поўдзень ад тундры. Экалагічныя ўмовы Т. характарызуюцца адносна кароткім безмарозным перыядам (каля 4 месяцаў), халоднай зімой з устойлівым снегавым покрывам пры колькасці ападкаў, якая перавышае выпарэнне. На Зямлі каля 10% сушы занята тайгой.

**ТАКСОН - ТАКСОН** (грэч. taxis - размяшчэнне) - група арганізмаў, якая звязана той ці іншай ступенню роднасці і дастаткова адасобленая, каб ёй можна было надаць пэўную таксанамічную катэгорыю якога-небудзь рангу (від, род, сямейства і г. д.).

**ТАКСОНОМИЧЕСКИЕ КАТЕГОРИИ - ТАКСАНАМІЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ (РАНГІ, СІСТЭМАТЫЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ)** - паняцці, што выкарыстоўваюцца ў сістэматыцы для пазначэння супадпарадкаваных групаў раслінаў, жывёлаў, якія адрозніваюцца рознай ступенню роднасці. У адрозненне ад так-сонаў Т. к. маюць на ўвазе не рэальныя арганізмы, а пэўны ранг або ўзровень класіфікацыі, г. зн ступені пэўнай іерархіі.

**ТАКСОНОМИЯ - ТАКСАНАМІЯ** (грэч. taxis - размяшчэнне, строй і nomos - закон) - раздзел сістэматыкі, тэорыя і практыка класіфікацыі арганізмаў. Тэрмін прапанаваў А. Дэкандоль (1813).



**ТАХИТЕЛИЯ - ТАХІТЭЛІЯ** (грэч. tackys - хуткі і telos - мэта) - паскораны тэмп эвалюцыі, характэрны для параўнальна кароткага перыяду эвалюцыі якой-небудзь групы арганізмаў. Т. часта звязана з пераходам групы ў новую адаптыўную зону і звычайна хутка змяняецца брадытэліяй або гаратэліяй (Дж. Сімпсан, 1944).

**ТЕЙХОД - ТАЙХОД** - вузкі ўчастак у вонкавай сценцы эпідэрмальнай клеткі, у якім фібрылярныя кампаненты размяшчаюцца больш рыхла і вольна, чым у другіх месцах гэтай сценкі. Сін. - эктадэсма.

**ТЕЛЕОЛОГИЯ - ТЭЛЕАЛОГІЯ** (грэч. telos - мэта, вынік) - вучэнне аб першапачатковай мэтазгоднасці ў прыродзе, прыпісванне ўнутранай мэты развіццю жывой прыроды.

**ТЕЛЕРГОНЫ - ТЭЛЕРГОНЫ** (грэч. tele - далёка, удалячынь і ergon - дзеянне) - рэчывы, якія выдзяляюць жывёлы, часта пахучыя, рознага складу і прызначэння (прывабліванне асобінаў супрацьлеглага полу, арганізмаў, якія служаць харчам і г. д.). Тэрмін прапанаваў Кіршэнблат (1957).

**ТЕЛОГЕНЕЗ - ТЭЛАГЕНЕЗ** (грэч. telos - мэта, вынік і genesis - узнікненне, развіццё) - своеасаблівы напрамак эвалюцыі, які прыводзіць да фармавання вузкаспецыялізаваных формаў, прыстасаваных да спецыфічных умоваў існавання ў вузка адаптыўнай зоне (напрыклад, глыбакаводныя рыбы, жыхары падземных водаў). Т. з'яўляюцца разнастайнасцю *алагенезаў* (гл.).

**ТЕЛОМЕРЫ - ТЭЛАМЕРЫ** (грэч. telos - канец і meros - частка) - спецыяльныя структуры на вольных канцах храмасомаў, якім уласціва пэўная ступень палярнасці. Храмасомы, у якіх адсутнічаюць тэламеры, у большасці выпадкаў элімінуюцца. У шэрагу выпадкаў тэламеры розных храмасомаў праяўляюць тэндэнцыю да зліпання адзін з адным.

**ТЕЛОМОРФОЗЫ - ТЭЛАМАРФОЗЫ** (грэч. telos - вынік, мэта і morphe - форма) - асобныя прыстасаванні арганізмаў да вузкіх умоваў асяроддзя, г. зн. прыстасаванні, звязаныя з тэлагенезамі (вузка спецыялізаванымі алагенезамі).

**ТЕРАТОЛОГИЯ - ТЭРАТАЛОГІЯ** (teratos - пачвара, вырадак) - навука, якая вывучае выродлівасць і анамаліі развіцця ў раслінаў, жывёлаў і чалавека.

**ТЕРМИНАТОР - ТЭРМІНАТАР** (лац. terminare - абмяжоўваць) - паслядоўнасць ДНК, якая знаходзіцца на канцы транскрыпту (прадукту транскрыпцыі, *i*-РНК) і адказвае за спыненне транскрыпцыі (гл.).

**ТЕРМИНИРУЮЩИЕ КОДОНЫ - ТЭРМІНОЎНЫЯ КАДОНЫ** - трыплеты УАГ-амбер, УАА-вохра і УГА-апал, якія не кадуюць ніякай амінакіслаты (бессэнсоўныя кадоны), што выклікаюць тэрмінацыю сінтэзу бялку.

**ТЕРМОРЕГУЛЯЦИЯ - ТЭРМАРЭГУЛЯЦЫЯ** (грэч. therme - цяпло і лац. regula - накіроўваю) - сукупнасць фізіялагічных працэсаў, якія забяспечваюць падтрыманне аптым..льнай для дадзенага віду тэмпературы цела ва ўмовах змяніўшай тэмпературы навакольнага асяроддзя. гамаятэрмных жывёлаў (млекакормячых, птушак) Т. кантралюецца цэнтральнай нервовай сістэмай (спец. тэрмарэгуляцыйным цэнтрам, які размяшчаецца ў гіпаталамусе). Пастаянная Т. цела жывёлаў падтрымліваецца метабалічнымі механізмамі, тэрмаізаляцыяй (поўсцевае і пер`евае покрыва цела, падскурны тлушч), паводзінамі і інш. Для пайкілатэрмных жывёлаў характэрныя тэрмарэгуляцыйныя паводзіны.

**ТЕРМОФИЛЫ, -ФИТЫ - ТЭРМАФІЛЫ, -ФІТЫ** (грэч. therme - цяпло, phileo - люблю і phyton - расліна) - цеплалюбівыя жывёлы (расліны).

**ТЕРОФИТЫ - ТЭРАФІТЫ** (грэч. theros - лета і phyton - расліна) - аднагадовыя монакарпічныя травы. Жыццёвая форма, якая пераносіць неспрыяльныя ўмовы ў выглядзе насення.

**ТЕРРИТОРИАЛЬНОСТЬ - ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАСЦЬ** - прасторавая раздзельнасць асобінаў, іх "прывязанасць" да пэўных участкаў. Тэрытарыяльнасць паніжае канкурэнцыю ўнутры папуляцыі, садзейнічае падтрыманню яе колькасці. Асобіны, не здольныя да ўтрымання тэрыторыі, выключаюцца з размнажэння, што паніжае празмерны рост колькасці папуляцыі.

**ТИЛАКОИДЫ - ТЫЛАКОІДЫ** - мембранныя ўтварэнні ў выглядзе мяшочкаў у хларапластах. Адрозніваюць *тылакоіды граны* (сабраныя ў стосік) і *тылакоіды строманы* або *фрэты*; у апошнім выпадку яны служаць звязальнымі звёнамі паміж гранамі.

**ТИПОЛОГИЧЕСКАЯ КОНЦЕПЦИЯ ВИДА - ТЫПАЛАГІЧНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ВІДУ** - канцэпцыя, у аснове якой ляжыць уяўленне аб тыпах. Згодна з Т. к. в. адрозненні паміж асобінамі, за выключэннем звязаных з полам,



з'яўляюцца вынікам уздзеяння навакольнага асяроддзя. У аднолькавых умовах усе асобіны былі б дакладнымі копіямі "тыпу".

**ТОЛЕРАНТНОСТЬ - ТАЛЕРАНТНАСЦЬ** (лац. tolerantia - цярпенне) - вынослівасць віду у адносінах да хваляванняў якога-небудзь экалагічнага фактару. Дыяпазон паміж экалагічным мінімумам і максімумам фактару складае мяжу талерантнасці. Талерантныя арганізмы - гэта арганізмы, устойлівыя да неспрыяльных зменаў навакольнага асяроддзя.

**ТОНОПЛАСТ - ТАНАПЛАСТ** (грэч. tonos - нацягванне, напружанне і plastos - аформлены, вылеплены) - адзіночная цытаплазматычная мембрана, якая абмяжоўвае вакуолі ў раслінных клетках. Разнастайнасць элементарнай мембраны.

**ТОРУС - ТОРУС** (лац. torus - ложа) - цэнтральная патоўшчаная частка замыкальнай клеткі ў аблямаванай поры, якая найчасцей складаецца з сярэдняй пласцінкі і дзвюх першасных абалонак. Тыповы для аблямаваных пораў у хваёвых і некаторых іншых голанасенных.

**ТОТИПОТЕНТНОСТЬ - ТОЦІПАТЭНТНАСЦЬ** (лац. totus - увесь, цэлы і potentia - сіла) - уласцівасць клетак рэалізоўваць генетычную інфармацыю ядра, якая забяспечвае іх дыферэнцыяцыю, а таксама развіццё да цэлага арганізма. Тоціпатэнтная апладнёная яйцаклетка раслінаў і яйцо жывёлаў. Пры пэўных умовах таціпатэнтнымі могуць быць і саматычныя клеткі.

**ТРАВЫ - ТРАВЫ** - жыццёвая форма раслінаў з травяністымі парасткамі.

**ТРАНЗИЦИЯ - ТРАНЗІЦЫЯ** (лац. transitus - пераход) - генная мутацыя, пры якой адбываецца мена пірамідзіну на іншы пірамідзін або пурыну на іншы пурын.

**ТРАНСВЕРСИЯ - ТРАНСВЕРСІЯ** (лац. trans - скрозь, праз і versio - відазмяненне, паварот) - генная мутацыя, пры якой пірамідзін замяшчаецца на пурын або наадварот.

**ТРАНСГЕНОЗ - ТРАНСГЕНОЗ** (лац. trans - праз і ген) - сістэма метадаў пераносу генаў у рэцыпіентную клетку і стварэнне там умоваў для іх нармальнага функцыянавання і наследвання.

**ТРАНСДЕТЕРМИНАЦИЯ - ТРАНСДЭТЭРМІНАЦЫЯ** (лац. trans - праз, скрозь і determinare - вызначыць) - парушэнне развіцця імагінальнага дыска ў насякомых, ужо дэтэрмінаванага да развіцця ў пэўным накірунку пры змяненні знешніх умоваў.

**ТРАНСДУКЦИЯ - ТРАНСДУКЦЫЯ** (лац. transductio - перамяшчэнне) - перанос бактэрыйнага гена (участка ДНК) ад адной бактэрыі да другой пры дапамозе фага.

**ТРАНСКРИПТОН - ТРАНСКРЫПТАН** - адзінка транскрыпцыі, якая ўяўляе сабою ўчастак ДНК, што транскрыбуецца як адзінае цэлае. У пракапрыётаў у яго склад уваходзіць структурная частка апярона (гл.), у эўкарыётаў - інфарматыўная (структурныя гены) і акцэптарная неінфарматыўная (рэгуляторныя гены) зоны.

**ТРАНСКРИПЦИЯ - ТРАНСКРЫПЦЫЯ** (лац. transcriptio - перапісванне) - адзін са шляхоў агульнага пераносу спадчыннай інфармацыі: ДНК→ *i* -РНК, г. зн. сінтэз малекулы *i*-РНК на ДНК-матрыцы.

**ТРАНСКРИПЦИЯ ОБРАТНАЯ - ТРАНСКРЫПЦЫЯ АДВАРОТНАЯ** (лац. transcriptio - перапісванне) - шлях спецыялізаванага пераносу спадчыннай інфармацыі: РНК→ДНК, г. зн. сінтэз малекулы ДНК на РНК-матрыцы з дапамогай фермента адваротнай транскрыптазы.

**ТРАНСЛОКАЦИЯ - ТРАНСЛАКАЦЫЯ** (лац. trans - цераз і locus - месца) - структурная храмасомная мутацыя, пры якой частка храмасомы адрываецца і далучаецца да другой храмасомы. Рэцыпрокная транслакацыя ўяўляе сабою ўзаемны абмен участкамі негамалагічных храмасомаў.

**ТРАНСЛЯЦИЯ - ТРАНСЛЯЦЫЯ** (лац. translatio - перанясенне, пераклад) - адзін са шляхоў агульнага пераносу спадчыннай інфармацыі (*i*-РНК → бялок), пры якім адбываецца пераклад кодавай паслядоўнасці нуклеатыдаў у паслядоўнасць амінакіслотаў, г. зн. рэальную першасную структуру поліпептыду.

**ТРАНСПОЗИЦИЯ - ТРАНСПАЗІЦЫЯ** (познелац. transpositio - перастаноўка) - перамяшчэнне генаў у межах аднаго або розных геномаў.

**ТРАНСПОЗОН - ТРАНСПАЗОН** (познелац. transpositio - перастаноўка) - "скакальны" ген, г. зн. паслядоўнасць ДНК, якая ўключае структурны ген і 2



інсерцыйныя сегменты на яго канцах і здольная рэпліцавацца і ўкараняць адну з копіяў у новае месца генома.

**ТРАНСФОРМАЦИЯ - ТРАНСФАРМАЦЫЯ** (лац. transformatio) - змяненне якасцяў бактэрыі ў выніку ўключэння ў яе геном экзагеннай ДНК; інакш перанос спадчыннай інфармацыі ад аднаго штама бактэрыяў да другога.

**ТРАНСФОРМИЗМ - ТРАНСФАРМІЗМ** (лац. transphormo - пераўтвараю) - сістэма ўяўленняў прыродазнаўцаў і філосафаў I - XIX ст. ст. аб гістарычнай зменлівасці (трансфармацыі) арганізмаў.

**ТРАХЕИДЫ - ТРАХЕІДЫ** - мёртвыя празянхімныя клеткі, звужаныя на канцах з патоўшчанымі і лігніфікаванымі абалонкамі. Абалонкі маюць аблямаваныя поры. Т. уваходзяць у склад ксілемы і выконваюць праводную і апорную функцыі.

**ТРИПЛЕТ (КОДОН) - ТРЫПЛЕТ** - гл. кадон.

**ТРИХОБЛАСТЫ - ТРЫХАБЛАСТЫ** (грэч. thrix, р. склон thrichos - волас і blastos - зародак) - клеткі ў эпідэрме кораня (эпібleме), якія здольныя ўтвараць каранёвыя валаскі.

**ТРОГЛОБИОНТЫ - ТРОГЛАБІЁНТЫ** (грэч. trogle - пячора і біёнт) - жыхары ці насельніцтва пячораў.

**ТРОМБОЦИТЫ - ТРАМБАЦЫТЫ** (грэч. thrombos - згустак і cytos - клетка) - адзін з відаў форменных элементаў крыві хрыбетных (за выключэннем млекакормячых). Т. - дробныя клеткі са шчыльным ядром; утвараюцца са ствалоВых крывяных клетак. Яны ўтрымліваюць фермент трамбакіназу і забяспечваюць загусценне крыві. У млекакормячых функцыі Т. выконваюць крывяныя пласцінкі - без'ядзерныя цельцы, якія ўтвараюцца пры адшнуроўванні невялікіх участкаў цытаплазмы гіганцкіх клетак касцянога мозгу - мегакарыяцытаў.

**ТРОПОФИТЫ - ТРАПАФІТЫ** (грэч. tropos - паварот і phyton - расліна) - расліны, якія валодаюць сутачнай рытмікай арыентацыі лісцяў у адносінах да сонечнага святла (салата-латук, эўкаліпт).

**ТУНДРА - ТУНДРА** - тып расліннасці субарктычных шыротаў Паўночнага паўшар'я. Характарызуецца бязлессем, перавагай споравых раслінаў і

нізкарослых шматгадовых травах, бліжэй да поўдня - кустоў, кусцікаў. Па відавым складзе адрозніваюць Т. мохавую, лішайнікавую, кочкарную і інш. Т. склалася ва ўмовах халоднага вільготнага клімату і прысутнасці ў глебе шматгадовай мерзлаты. Экасістэмы Т. вельмі няўстойлівыя.

**ТУРГОР - ТУРГОР** (лац. turgeo - набракаю) - напружаны стан пратапласта жывой клеткі, абумоўлены ўзаемным ціскам цытаплазмы і клетачнай абалонкі.

## У

**УГРОЖАЮЩАЯ ОКРАСКА (демонстрация) - ПАГРАЖАЛЬНАЯ АФАРБОЎКА** - гл. дэманстрацыя.

**УМЕРЕННЫЕ ФАГИ - ПАМЯРКОЎНЫЯ ФАГІ** - фагі, якія не выклікаюць лізіс клеткі, а пасля ўкаранення ў клетку становяцца нібыта часткай яе генетычнай праграмы, пераходзячы ў стан прафага (гл.).

**УМЕРЕННЫЕ ШИРОТЫ - ПАМЯРКОЎНЫЯ ШЫРОТЫ** - умоўная назва зонаў, якія размяшчаюцца на паверхні зямнога шара паміж 40° і 65° пн. ш. і 42° і 58° пд. ш.

**УМЕРЕННЫЙ КЛИМАТ - ПАМЯРКОЎНЫ КЛІМАТ** - клімат памяркоўных паясоў; характарызуецца халаднаватым летам і памяркоўна халодным зімнім перыядам, а таксама дастатковай колькасцю ападкаў, якія раўнамерна размеркаваныя на працягу ўсяго года.

**УСЛОВИЯ СРЕДЫ - УМОВЫ АСЯРОДДЗЯ** - сукупнасць мноства элементаў і біялагічнай прыроды (у тым ліку прыўнесеных чалавекам), якія абкружаюць дадзены арганізм.

**УСЛОВИЯ СУЩЕСТВОВАНИЯ, УСЛОВИЯ ЖИЗНИ - УМОВЫ ІСНАВАННЯ, УМОВЫ ЖЫЦЦЯ** - сукупнасць фактараў навакольнага асяроддзя, без якіх дадзены арганізм не можа існаваць, ад якіх залежыць яго выжывальнасць, развіццё, размнажэнне, колькасць, накірунак эвалюцыі.

**УСТОЙЧИВОСТЬ - УСТОЙЛІВАСЦЬ** - унутрана ўласцівая сістэме здольнасць супрацьстаяць зменам.



**УСТОЙЧИВОСТЬ ПОПУЛЯЦИИ, СТАБИЛЬНОСТЬ, ГОМЕОСТАЗ - УСТОЙЛІВАСЦЬ ПАПУЛЯЦЫІ, СТАБІЛЬНАСЦЬ, ГАМЕАСТАЗ** - здольнасць папуляцыі захоўваць сваю сярэднюю колькасць у пастаянна зменлівых умовах абіятычнага і біятычнага асяроддзя.

**УСТОЙЧИВОСТЬ ЭКОСИСТЕМ, СТАБИЛЬНОСТЬ, ГОМЕОСТАЗ - УСТОЙЛІВАСЦЬ ЭКАСІСТЭМАЎ, СТАБІЛЬНАСЦЬ, ГАМЕАСТАЗ** - устойлівасць біяцэнозаў супрацьстаяць парушэнню структуры і функцыі пры неспрыяльных уздзеяннях за кошт унутраных перабудоваў сістэмы. Найбольшай устойлівасцю валодаюць клімаксныя супольніцтвы.

## Ф

**ФАГИ - ФАГІ** (грэч. phagos - які з`ядае) - вірусы, якія з`ядаюць клеткі пра- і эўкарыётаў.

**ФАГОСОМЫ - ФАГАСОМЫ** (грэч. phago - з`ядаю і soma - цела) - вакуолі, якія ўтвараюцца ў цытаплазме ў працэсе фагацытозу. Тэрмін прапанаваў Страус (1959).

**ФАГИЦИТЕЛЛЫ ТЕОРИЯ - ФАГАЦЫТЭЛЫ ТЭОРЫЯ** - гіпотэза паходжання шматклетачных жывёлаў (І. І. Мечнікаў, 1886). Выходнай формай шматклетачных з`яўляецца гіпатэтычны продак - фагацытэла (парэнхімела), якая складаецца (падобна да лічынкі сучасных ніжэйшых шматклетачных - парэнхімуле) з пласта паверхневых клетак - эктадэрмы (кінабласт) і унутранай клетачнай масы - парэнхімы (фагацытабласт). Кінабласт выконвае функцыі абмяжоўвання, знешняга абмену і руху; фагацытабласт - унутранага абмену і стрававання. З кінабласту і фагацытабласту, згодна з Ф. т., у ходзе эвалюцыі ўзнікла ўся разнастайнасць формаў тканак шматклетачных жывёлаў.

**ФАГОЦИТОЗ - ФАГАЦЫТОЗ** (грэч. phago - з`ядаю і cytos - клетка) - паглынанне клеткай шчыльных іншародных часцінак і мікробаў з далейшым іх унутрыклетачным пераўтрапленнем пад уздзеяннем літычных ферментаў. Акт фагацытозу складаецца з шэрагу стадыяў: 1) абкладанне часцінкі вырастамі вонкавага пласта цытаплазмы; 2) уцягванне гэтых вырастаў разам з часцінкай у глыбіню цытаплазмы; 3) унутрыклетачнае ферментатыўнае

3) унутрыклетачнае ферментатыўнае ператраўленне заглыненай часцінкі. Тэрмін "фагацытоз" увёў І. І. Мечнікаў (1882).

**ФАГОЦИТЫ - ФАГАЦЫТЫ** (грэч. phago - з'ядаю і cytos - клетка) - спецыяльныя ахоўныя клеткі злучальнай тканкі жывёлаў і чалавека, здольныя да фагацытозу. У беспазваночных фагацытоз здзяйсняюць амёбацыты. У млекакормячых актыўнымі Ф. з'яўляюцца нейтрафілы і макрафагі.

**ФАКТОРИАЛЬНАЯ ЭКОЛОГИЯ - ФАКТАРЫЙНАЯ ЭКАЛОГІЯ** - раздзел агульнай экалогіі, які вывучае заканамернасці ўздзеяння фактараў навакольнага асяроддзя на біялагічныя сістэмы і адпаведныя рэакцыі апошніх на гэтыя ўздзеянні. Па сутнасці гэта сінонім аўтэкалогіі.

**ФАКТОРЫ АБИОТИЧЕСКИЕ - ФАКТАРЫ АБІЯТЫЧНЫЯ** - прыродныя фактары фізічнай і хімічнай прыроды.

**ФАКТОРЫ БИОТИЧЕСКИЕ - ФАКТАРЫ БІЯТЫЧНЫЯ** - сукупнасць фактараў жывой прыроды, якія ўплываюць на арганізмы (напрыклад, ежа, паразіты, шчыльнасць насельніцтва) і вызначаюць умовы іх пражывання ў тым ці іншым раёне.

**ФАКТОРЫ КЛИМАТИЧЕСКИЕ - ФАКТАРЫ КЛІМАТЫЧНЫЯ** - асноўныя элементы клімату: святло (прамянёвая энергія), тэмпература, вільготнасць паветра, ападкі, снегавы покрыў, атмасферны ціск, газавы склад, цыркуляцыя паветраных масаў, атмасферная электрычнасць і інш.

**ФАКТОРЫ ОРОГРАФИЧЕСКИЕ, ГЕОМОРФОЛОГИЧЕСКИЕ ФАКТОРЫ - ФАКТАРЫ АРАГРАФІЧНЫЯ, ГЕАМАРФАЛАГІЧНЫЯ ФАКТАРЫ** - фактары, абумоўленыя структурай ландшафту, якія ўплываюць на сустракальнасць жывых арганізмаў.

**ФАКТОРЫ ЭДАФИЧЕСКИЕ - ФАКТАРЫ ЭДАФІЧНЫЯ** - фактары, якія абумоўлены фізічнымі і хімічнымі асаблівасцямі глебы (механ. склад, вільготнасць, цеплаёмістасць, аэрацыя і інш.).

**ФАКТОРЫ ЭКОЛОГИЧЕСКИЕ - ФАКТАРЫ ЭКАЛАГІЧНЫЯ** - агент, з'ява або любы прыродны кампанент фізічнага, хімічнага ці біялагічнага паходжання, які ўплывае прама або ўскосна, дадатна або адмоўна на асобіну, папуляцыю або біяцэноз



**ФАНЕРОФИТЫ - ФАНЕРАФІТЫ** (грэч. phaneros - яўны, адкрыты і phyton - расліна) - жыццёвыя формы раслінаў (дрэвы і кусты) з пупышкамі ўзнаўлення, якія размяшчаюцца высока над зямлёй.

**ФАУНА - ФАУНА** (ад назвы старажытнарымскай багіні лясоў Fauna - заступніца жывёлаў) - сукупнасць відаў жывёлаў якой-небудзь вобласці, раёна, біяцэнозу, экасістэмы.

**ФЕНОКОПИИ - ФЕНАКОПІІ** - (грэч. phaino - уяўляю і лац. copia - мноства) - марфозы (гл.), фенатыпічна падобныя з мутацыямі (гл.); у адрозненне ад мутацыяў фенакопіі з'яўляюцца не вынікам змянення структуры гена, а вынікам парушэння рэалізацыі спадчыннай інфармацыі. Фенакопіі неспадчынныя.

**ФЕНОЛОГИЯ - ФЕНАЛОГІЯ** (грэч. phaino - яўляю і logos - навука, разуменне) - навука аб сезонных рытмах развіцця жывёлаў і раслінаў.

**ФЕНОТИП - ФЕНАТЫП** (грэч. phaino - уяўляю і typos - вобраз) - сукупнасць прыкметаў і якасцяў арганізма, якія фармуюцца ў выніку ўзаемадзеяння генатыпу і асяроддзя і змяняюцца ў працэсе развіцця.

**ФЕТАЛИЗАЦИЯ - ФЕТАЛІЗАЦЫЯ** (лац. foetus - зародак) - спосаб эвалюцыйных зменаў, якія характарызуюцца запавольваннем тэмпаў антагенезу асобных органаў або іх сістэмаў (адмоўная гетэрахранія) і ў выніку гэтага захоўваннем у дарослага арганізма эмбрыённага становішча адпаведных прыкметаў (напрыклад, мноства храстка ў шкілеце сучасных земнаводных, храстковы шкілет сучасных храстковых рыбаў, кругларотавых, форма вушной ракавіны ў чалавека, характар валасянога покрыва ў чалавека).

**ФИБРИЛЛЫ - ФІБРЫЛЫ** (лац. fibrilla - валаконца, нітачка) - ніткаватыя структуры цытаплазмы, якія выконваюць у клетцы рухальную або каркасную функцыю. Складаюцца з пратафібрылаў. Скарачальныя Ф. утрымліваюць бялок актын, спецыяльныя Ф. мышачных клетак маюць таксама міязін.

**ФИЛЕТИЧЕСКАЯ ЭВОЛЮЦИЯ - ФІЛЕТЫЧНАЯ ЭВАЛЮЦЫЯ** (грэч. phylon - род, племя) - эвалюцыя групы арганізмаў, якая характарызуецца прагрэсоўным прыстасаваннем асобінаў паслядоўных пакаленняў пад уплывам рухальнага адбору. Пры філетычнай эвалюцыі генафонд дадзенага віду змяняецца як цэлае, без адасаблення даччыных відаў, г. зн. без дывергенцыі (Дж. Сімпсан, 1944). У выніку Ф. э. узнікае адзіная

перазгаліноўваная філетычная лінія ў выглядзе бесперапыннага шэрагу відаў, кожная з якіх з`яўляецца нашчадкам папярэдняй групы або продкам наступнай.

**ФИЛОГЕНЕЗ - ФІЛАГЕНЕЗ** (грэч. phylon - род, племя і genesis - развіццё) - гістарычнае развіццё свету жывых арганізмаў як цалкам, так і асобных таксанамічных групаў (Э. Геккель, 1866). Раздзел біялогіі, які вывучае філагенез і яго заканамернасці, называецца філагенетыкай.

**ФИЛОГЕНИЯ - ФІЛАГЕНІЯ** (грэч. phylon - род, племя і genneo - нараджаю) - эвалюцыйная гісторыя відаў або больш буйных таксонаў.

**ФИЛЭМБРИОГЕНЕЗ - ФІЛЭМБРЫЯГЕНЕЗ** (грэч. phylon - род, племя, embryo - зародак і genesis - развіццё) - эвалюцыйнае змяненне ходу індывідуальнага развіцця (эмбрыягенезу) арганізмаў (А. М. Северцаў, 1910). Гл. таксама анабалія, архалаксіс, дэвіяцыя.

**ФИМБРИИ - ФІМБРЫІ** (лац. fimbriae - махры) - ніткаватыя і трубчатыя вырасты на паверхні клетак некаторых відаў бактэрыяў. Яны карацей і танчэй за жгуцікі і служаць для прымацавання клетак адна да адной або да субстрату; некаторыя звязаныя з палавым размнажэннем бактэрыяў; апошнія называюцца *F*-варсінкамі або пілямі.

**ФИНАЛИЗМ - ФІНАЛІЗМ** (лац. finalis - канцовы, які з`яўляецца мэтай) - складальная частка многіх эвалюцыйных канцэпцыяў, якія пастулююць строга запраграмаваны характар арганічнай эвалюцыі, што ідзе да поўнай мэты. Фіналістычныя ідэі займаюць цэнтральнае месца ў ламаркізме, намагенезе, розных тэлеалагічных і тэалагічных канцэпцыях эвалюцыі.

**ФИТОНЦИДЫ - ФІТАНЦЫДЫ** - арганічныя рэчывы, якія выдзяляюцца вы-шэйшымі раслінамі і дзейнічаюць на прасцейшыя, грыбы, бактэрыі. Большая частка з іх - газападобныя злучэнні (эфірныя, часночныя, гарчычныя маслы).

**ФИТОФАГИ - ФІТАФАГІ** (грэч. phyton - раслін і phagein - есці) - жывёлы, якія харчуюцца раслінамі або іх часткамі: пылцамі (*капрафагі*), драўнінай (*ксілафагі*), каранямі, карэнішчамі, цыбулінамі (*рызафафагі*). Жывёлы, што ядуць гіфы грыбоў, напрыклад, лічынкі кляшчоў, называюцца мікафагі.



**ФИТОЦЕНОЗ, РАСТИТЕЛЬНОЕ СООБЩЕСТВО - ФІТАЦЭНОЗ, РАСЛІННАЕ СУПОЛЬНІЦТВА** (грэч. phyton - расліна і koinos - агульны) - сукупнасць вышэйшых і ніжэйшых раслінаў, якія жывуць на дадзеным аднародным участку зямной паверхні, з толькі ім уласцівымі ўзаемаадносінамі як паміж сабою, так і ўмовамі месцажыхарства. Такім чынам, яны ствараюць асаблівае асяроддзе - фітаасяроддзе (В. М. Сукачоў, 1954).

**ФИТОЦЕНОЛОГИЯ - ФІТАЦЭНАЛОГІЯ** - навука аб фітацэнозах, гл. геабатаніка.

**ФЛОРА - ФЛОРА** (ад назвы старажытнарымскай багіні кветак Flora) - сукупнасць відаў раслінаў (умоўна грыбоў), якія жывуць у пэўнай вобласці, раёне, супольніцтве, экасістэме.

**ФОТОПЕРИОДИЗМ - ФОТАПЕРЫЯДЫЗМ** (грэч. photos - святло і перыяд) - асаблівасці паводзінаў, росту і развіцця арганізмаў, якія абумоўлены сутачнай рытмікай асвятлення і працягласцю светлага часу сутак (фотаперыяду).

**ФОТОТРОФЫ - ФОТАТРОФЫ** (грэч. photos - святло і trophe - харчаванне) - арганізмы, якія сінтэзуюць арганічныя рэчыва з неарганічнага з удзелам сонечнай энергіі: фотатрофныя бактэрыі, водарасці, вышэйшыя расліны. Займаюць І-шы трафічны ўзровень у экасістэмах.

**ФРАГМЕНТЫ ОКАЗАКИ - ФРАГМЕНТЫ АКАЗАКІ** - кароткія фрагменты ДНК даўжынёю 1000 - 2000 асноваў, якія ўтвараюцца пры непарыўнай рэплікацыі адставальнага ланцуга (гл.).

**ФРАГМОПЛАСТ - ФРАГМАПЛАСТ** (грэч. phragma - плот і plastos - вылеплены, аформлены) - перагародка ў выглядзе пласцінкі з валаконцаў і пузыркоў комплексу Гольджы, якая развіваецца ў працэсе падзелу раслінных клетак і падзяляе матчыну клетку на дзве даччыныя.

**ФРАГМОСОМЫ - ФРАГМАСОМЫ** (грэч. phragma - плот і soma - цела) - пласт цытаплазмы, які перасякае клетку ў тым месцы, дзе знаходзіцца ядро, што дзеліцца. Экватарыяльная плоскасць фрагмапласта, які ўзнікае пазней, супадае з плоскасцю гэтага пласта цытаплазмы. Дадзеным тэрмінам пазначаюць таксама мікрацельцы, што бяруць удзел у фармаванні клетачнай пласцінкі.

ФРЕТЫ - ФРЭТЫ - тылакоіды стромы хларапластаў (гл.).

# Х

**ХАМЕФИТЫ - ХАМЕФІТЫ** (грэч. chamoi - нізка і phyton - расліна) - жыццёвыя формы раслінаў, пупышкі ўзнаўлення якіх знаходзяцца блізка да паверхні зямлі і ахоўваюцца лускамі пупышкаў, падсцілкай, снегавым покрывам. Да іх адносяцца: наземныя імхі, расліны з парасткамі, што сцелюцца і поўзаюць, кусцікі (брусніцы, чарніцы, верас), травяністыя расліны.

**ХЕМОСИНТЕЗ - ХЕМАСІНТЭЗ** (грэч. chemia - хімія і сінтэз) - сінтэз арганічных рэчываў з неарганічных з удзелам энергіі хімічных сувязяў, якая выдзяляецца ў выніку акіслення неарганічных рэчываў. Да хематрофаў адносяцца вадародныя, нітрафіцоуныя, марганцавыя, серажалезабактэрыі і інш. Займаюць 1-шы трафічны ўзровень у экасістэмах.

**ХЕМОАВТОТРОФЫ - ХЕМААЎТАТРОФЫ** (грэч. chemia - хімія, autos - сам і trophe - ежа, харчаванне) - аўтатрофныя арганізмы, якія скарыстоўваюць энергію акіслення неарганічных рэчываў для сінтэзу арганічных рэчываў (гл. хемасінтэз).

**ХИРАЛЬНОСТЬ СРЕДЫ - ХІРАЛЬНАСЦЬ АСЯРОДДЗЯ** (грэч. hyros - рука) - прысутнасць у прыродным асяроддзі пэўных стэрыяізамераў арганічных рэчываў (напрыклад, бялкі жывых арганізмаў утрымліваюць толькі такія амінакіслоты, якія круцяць плоскасць палярызаванага святла ўлева, а нуклеінавыя кіслоты утрымліваюць цукры, што варочаюць ўлева, а нуклеінавыя кіслоты утрымліваюць цукры, што варочаюць плоскасць палярызаванага святла ўправа. Пры хімічных сінтэзах, у выніку якіх могуць утварацца аптычна актыўныя рэчывы, заўжды атрымліваецца рацэмат. Рацэмат утрымлівае раўнамалекулярныя колькасці абодвух аптычных ізамераў і не варочае плоскасць палярызаванага святла.

**ХИЩНИЧЕСТВО - ДРАПЕЖНІЦТВА** - адзін з распаўсюджаных відаў біятычных сувязяў у біяцэнозах, які заключаецца ў тым, што адзін від (драпежнік) знішчае другі (ахвяра), напрыклад, знішчэнне жывёлы жывёлай, жывёлы раслінай (насякомаядным), расліны раслінай і г. д.

**ХИЩНИК АБЛИГАТНЫЙ - ДРАПЕЖНІК АБЛІГАТНЫ** - жывёла, якая харчуецца толькі драпежніцкім спосабам.



**ХЛОРОПЛАСТ - ХЛАРАПЛАСТ** (грэч. chloros - зялёны і plastos - вылеплены, аформлены) - арганоіды раслінных клетак, у якіх адбываецца фотасінтэз. Х. абкружаны двайной мембранай, унутры ёсць добра развітая сетка ламелтылакоідаў, у якіх лакалізаваны пігменты - хларафілы і каратыноіды. Групы дыскаватых тылакоідаў, звязаныя адзін з адным такім чынам, што іх поласці аказваюцца непарыўнымі, утвараюць граны (накшталт стосікаў манетаў). Тылакоіды стромы (фрэты) звязваюць граны паміж сабою. Х. утрымліваюць рыбасомы, ДНК, ферменты. Кожны Х. развіваецца з прапластыды, якая здольная рэплікавацца шляхам падзелу. Часам спелыя Х. таксама здольныя да рэплікацыі. Х. здольныя пераўтварацца ў храмапласты пры разбурэнні хларафілу. Х. водарасцяў называюць храматафорамі.

**ХОНДРИОМ - ХАНДРЫЁМ** (грэч. chondros - зерне) - 1) сукупнасць мітахондрыяў клеткі (тэрмін прапанаваў Мевес, 1908); 2) сукупнасць генаў, якія размяшчаюцца ў ДНК мітахондрыяў. Абслугоўваюцца самастойным апаратам рэплікацыі, транскрыпцыі і трансляцыі.

**ХРОМАТИДЫ - ХРАМАТЫДЫ** (грэч. chroma - колер і eidos - падобны) - падоўжныя палавінкі прафазных і метафазных храмасомаў (гл.), якія складаюцца з храманемаў (гл.). У анафазе пасля падзелу цэнтрамераў храматыды аддзяляюцца адна ад адной і становяцца самастойнымі, так званымі сястрынскімі храмасомамі. Храматыды ўтвараюцца пры рэплікацыі (гл.).

**ХРОМАТИН - ХРАМАТЫН** (грэч. chroma, р. склон ад chromatos - колер, фарба) - ядзернае рэчыва, з якога складаюцца храмасомы. Уяўляе сабою комплекс ДНК і бялкоў (гістонаў і негістонных бялкоў), што мае нуклеасомную (гл.) структуру і добра афарбоўваецца спецыфічнымі фарбавальнікамі.

**ХРОМАТОФОРЫ - ХРАМАТАФОРЫ** (грэч. chroma, р. склон chromatos - колер, фарба і phoros - які нясе) - арганоіды водарасцяў, якія ўтрымліваюць пігменты, што забяспечваюць фотасінтэз. Тое ж самае, што і хларапласты.

**ХРОМОМЕРЫ - ХРАМАМЕРЫ** (грэч. chroma, р. склон chromatos - колер, і meros - частка) - патоўшчаныя і інтэнсіўна афарбаваныя ўчасткі храманемаў (гл.), добра адрозныя ў храмасомах на стадыі прафазы мейозу і ў гіганцкіх *політэнных* храмасомах (гл.). У апошніх у выніку злучэння вялікай колькасці храмамераў утвараюцца дыскі (гл.). Храмамеры ўяўляюць сабою ўчасткі

шчыльна спіралізаванай ніткі ДНК і, відавочна, адпавядаюць генам, што знаходзяцца ў дадзены момант у неактыўным, кандэнсаваным стане.

**ХРОМОНЕМА - ХРАМАНЕМА** (грэч. chroma, р. склон chromatos - колер, фарба і nema - нітка) - элементарная храмасомная нітка, якая складаецца з малекулы ДНК у комплексе з бялком і мае нуклеасомную (гл.) будову. У сучаснай літаратуры тэрмін выкарыстоўваецца рэдка.

**ХРОМОПЛАСТЫ - ХРАМАПЛАСТЫ** (грэч. chroma, р. склон chromatos - колер, фарба і plastos - вылеплены, афармлены) - пластыды з жоўтай, аранжавай і чырвонай афарбоўкай. Афарбоўка Х. абумоўлена пігментамі - караціноідамі. Х. маюць двайную мембрану; унутраная ламелярная структура адсутнічае або прадстаўлена адзіночнымі тылакоідамі. Тэрмін прапанаваў Шымпер (1883).

**ХРОМОСОМЫ - ХРАМАСОМЫ** (грэч. chroma, р. склон chromatos - колер, фарба і soma - цела) - дыскрэтныя адзінкі генома (гл.), якія складаюцца з храматыну (гл.) і маюць вялікую колькасць генаў. Храмасомы інтэнсіўна афарбоўваюцца спецыяльнымі фарбавальнікамі і добра адрозніваюцца ў клетцы ў час мітозу ў выглядзе ніткаватых або палачкаватых структураў.

## Ц

**ЦВЕТЕНИЕ ВОДЫ - КВІТНЕННЕ ВАДЫ** - масавае развіццё фітапланктону, якое выклікае змяненне колеру вады. Зялёныя водарасці і цыянабактэрыі абумоўліваюць зялёнае К., дыятомавыя водарасці - жаўтавата-бурае, чырвоныя - чырвонае К. Гэтаму спрыяе забруджванне вадаёмаў біягеннымі элементамі. Выдзяленне водарасцямі ў ваду таксінаў выклікае гібель водных жывёлаў.

**ЦВЕТЕНИЕ СНЕГА - КВІТНЕННЕ СНЕГУ** - масавае развіццё некаторых відаў водарасцяў на паверхні снегу. Чырвоны колер яму надае хламідаманада снежная, зялёную - ніткаватая водарасць рафідум, буры - сіне-зялёныя водарасці.

**ЦЕЛЛЮЛОЗА - ЦЭЛЮЛОЗА** - поліцукрыд β-1,4 глюкан - галоўны кампанент клетачных абалонак у большасці раслінаў; складаецца з доўгіх



ланцугаватых малекулаў, асноўнай адзінкай якіх з`яўляюцца вольныя рэшткі глюкозы.

**ЦЕНОГЕНЕЗ - ЦЭНАГЕНЕЗ** (грэч. kainos - новы і genesis - развіццё, паходжанне) - прыстасаванне арганізмаў да спецыфічных умоваў эмбрыйнага або лічынкавага развіцця. Прыклады Ц.: якасныя новаўтварэнні - амніён, харыён, алантоіс, плацэнта і інш.; змены тэмпаў эмбрыённага развіцця і тэрмінаў узнікнення эмбрыйных закладак - гетэрахранія, змяненне месца эмбрыйнай закладкі. Тэрмін увёў Э. Геккель (1866) і выкарыстоўваў яго для пазначэння любых зменаў антагенезу, у тым ліку і тых, якія адлюстроўваюцца на дарослай форме. Сучаснае разуменне Ц. як чыста эмбрыйных і лічынкавых прыстасаванняў увёў А. М. Северцаў (1912). У гэтым сэнсе Ц. з`яўляецца сінонімам тэрміна "эмбрыяадаптацыя" згодна з Б. С. Мацвеевым (1937).

**ЦЕНОЦИТ - ЦЕНАЦЫТ** (грэч. koinos - сумесны і cytos - клетка) - агрэгат з пратапластаў; шматядзернае ўтварэнне. Іншы раз гэтая назва прымяняецца да шматядзерных клетак наземных раслінаў.

**ЦЕНТРИОЛЬ - ЦЭНТРЫОЛЯ** (лац. centrum, грэч. kentron - сярэдняя кропка, цэнтр) - арганоід клетак жывёлаў, некаторых грыбоў і раслінаў, які складаецца з сістэмы дробных полых цыліндраў мікратрубачак. Ц. размяшчаюцца ў клетцы парамі ў вобласці цытаплазмы, якая характэрна афарбоўваецца і вядома пад назвай *цэнтрасома*, або *цэнтрасфера*. Кожная цэнтрыоля пабудавана з дзевяці трыплетаў мікратрубачак. Ц. здольная да падваення. Ц. з`яўляюцца цэнтрамі арганізацыі мікратрубачак.

**ЦЕНТРОМЕРА - ЦЭНТРАМЕРА** (лац. centrum - цэнтр і грэч. meros - частка) - вобласць храмасомы (першасная перацяжка), у якую ўваходзіць участак у выглядзе шчыльнага сферычнага цельца, дзе прымацоўваюцца ніткі верацяна падзелу.

**ЦЕНТРОСОМА (центриоль) - ЦЭНТРАСОМА** - гл. цэнтрыоля.

**ЦИКЛОЗ - ЦЫКЛОЗ** (грэч. cyklos - круг) - унутрыклетачны рух цытаплазмы, які адбываецца без знешняй дэфармацыі клеткі.

**ЦИСТРОН - ЦЫСТРОН** - найменшая функцыянальная генетычная адзінка, якую знаходзяць шляхам тэсту на камплементарнасць; у асноўным эквівалентная гену (гл.), г. зн. уяўляе сабою ўчастак ДНК, што кадуе

структуру адной субадзінкі малекулы бялку, або адной $T$-РНК, або адной $P$-РНК.

**ЦИРКАДНЫЕ РИТМЫ - ЦЫРКАДНЫЯ РЫТМЫ** (лац. circa - навокал, каля і dies - дзень) - біялагічныя працэсы, якія паўтараюцца праз прамежак часу, прыблізна роўны 24 гадзінам. Тэрмін увёў Халберг (1959).

**ЦИРКАННЫЕ РИТМЫ - ЦЫРКАННЫЯ РЫТМЫ** (лац. circa - навокал, каля і annus - год) - калягадавыя рытмы- перыядычна паўтаральныя змяненні інтэнсіўнасці і характару біялагічных працэсаў і з'яваў з часцінёй 10 - 13 мес.

**ЦИСТЕРНА - ЦЫСТЭРНА** - сплошчаны мяшэчкаваты адсек, што абмежаваны мембранай, як, напрыклад, у эндаплазматычнай сетцы, дыктыясоме, або гранах хларапласта.

**ЦИСТОЛИТЫ - ЦЫСТАЛІТЫ** (грэч. kistis - пузыр і lithos - камень) - назапашванне карбанату кальцыю ў вырасце клетачнай абалонкі. Сустракаецца ў клетках, якія называюцца літацыстамі.

**ЦИТОЗОЛЬ - ЦЫТАЗОЛЬ** - растваральная частка цытаплазмы, "асноўнае рэчыва", якое запаўняе прастору паміж клетачнымі арганоідамі. Цытазоль у сваім складзе ўтрымлівае сістэму мікрафіламентаў. У цытазолі адбываецца гліколіз, сінтэз тлушчавых кіслотаў, нуклеатыдаў і некаторых амінакіслотаў.

**ЦИТОПЛАЗМА - ЦЫТАПЛАЗМА** (грэч. cytos - клетка і plasma - вылеплены, аформлены) - абавязковая частка клеткі, якая знаходзіцца паміж плазматычнай мембранай і ядром; высокаўпарадкаваная шматфазная калоідная сістэма - гіялаплазма з арганоідамі, якія ў ёй знаходзяцца. Часам Ц. называюць толькі гіялаплазму.

**ЦИТОПЛАЗМОН - ЦЫТАПЛАЗМОН** (грэч. cytos - клетка і plasma - вылепленая фігура) - сукупнасць цытаплазматычных спадчынных фактараў (гл. плазматып (плазматип).

**ЦИТОСКЕЛЕТ - ЦЫТАКАРКАС** (грэч. cytos - клетка і каркас) - абавязковы кампанент усіх эўкарыятных клетак, які ўяўляе сабою складаную сетку філаментаў і мікратрубачак, што перасякаюць клетку ў розных напрамках.



## Щ

**ЩЕЛЕВЫЕ КОНТАКТЫ - ШЧЫЛІННЫЯ КАНТАКТЫ** - тып міжклетачных кантактаў, пры якім магчыма параўнальна вольнае перамяшчэнне іёнаў і невялікіх малекулаў паміж суседнімі клеткамі ў параўнанні са шчыльнымі кантактамі, пры якіх немагчыма перамяшчэнне па міжклетачных прасторах ад аднаго боку клетачнага пласта да другога.

## Э

**ЭВОЛЮЦИОННОЕ УЧЕНИЕ - ЭВАЛЮЦЫЙНАЕ ВУЧЭННЕ** - навука аб прычынах, рухальных сілах, механізмах і агульных заканамернасцях эвалюцыі жывых арганізмаў.

**ЭВОЛЮЦИЯ БИОЛОГИЧЕСКАЯ - ЭВАЛЮЦЫЯ БІЯЛАГІЧНАЯ** (лац. evolutio - разгортванне) - развіццё арганізмаў ад самых нізкіх ступеняў арганізацыі жывога да сучасных высокаарганізаваных формаў; незваротнае змяненне разнастайнасці і адаптацыі відавых папуляцыяў; незваротнае і ў вядомай ступені накіраванае гістарычнае змяненне жывой прыроды, якое суправаджаецца змяненнем генетычнага складу папуляцыяў, фармаваннем адаптацыяў, утварэннем і выміраннем відаў, пераўтварэннем біягеацэнозаў і біясферы цалкам. Згодна з сінтэтычнай тэорыяй эвалюцыі, Э. б. з'яўляецца вынікам мутацыяў і натуральнага адбору. Тэрмін "эвалюцыя" быў упершыню выкарыстаны франц. натуралістам Ш. Банэ (1762) у работах па эмбрыялогіі.

**ЭВРИБИОНТЫ - ЭЎРЫБІЁНТЫ** (грэч. eurus - шырокі і bios - жыццё) - арганізмы з шырокім дыяпазонам прыстасавальнасці (талерантнасці), здольныя існаваць у разнастайных умовах асяроддзя. Адрозніваюць эўрытэрмныя, эўрыгалінныя, эўрыбатныя, эўрытопныя, эўрыіонныя, эўрыфагныя, адаптаваныя да шырокага дыяпазону ў адпаведнасці з тэмпературай, салёнасцю, асвятленнем, ціскам, месцапражываннем, ежай, $pH$.

**ЭВТРОФНЫЕ РАСТЕНИЯ - ЭЎТРОФНЫЯ РАСЛІНЫ** (грэч. eu - добра і trophe - ежа, харчаванне) - расліны, якія развіваюцца толькі ў асяроддзі (глеба, вада), што багатае на пажыўныя рэчывы. Напрыклад, купкоўка зборная, баршчэўнік і да т. п.).

**ЭВТРОФНЫЙ ВОДОЁМ - ЭЎТРОФНЫ ВАДАЁМ** - вадаём, які багаты пажыўнымі рэчывамі, арганікай і мае высокую прадукцыйнасць.

**ЭДАФОН - ЭДАФОН** (грэч. edaphos - глеба і on - існае) - сукупнасць арганізмаў, што жывуць у глебе (грыбы, водарасці, бактэрыі, чарвякі і інш.). Вялікую ролю ў складзе Э. іграюць мікраарганізмы, дзейнасць якіх вызначае раскладанне арганічных рэчываў, фіксацыю азоту і інш. працэсы, што адбываюцца ў глебах. Тэрмін прапанаваў нямецкі біёлаг Р. Франсе (1921).

**ЭДАФИЧЕСКИЕ ФАКТОРЫ - ЭДАФІЧНЫЯ ФАКТАРЫ** - глебавыя ўмовы (урадлівасць, увільгатненне, скважнасць і інш.), якія ўплываюць на жыццё арганізмаў.

**ЭДИФИКАТОР - ЭДЫФІКАТАР** (лац. aetificator - будаўнік) - від-дамінант, від, які вызначае стварэнне і складанне структуры біяцэнозу. Тэрмін прапанаваў Павійяр (1919).

**ЭКЗОН - ЭКЗОН** - любы асобны ўчастак мазаічнага (перарывістага) гена, які нясе інфармацыю і захоўваецца ў спелай *i*-РНК пасля сплайсінгу.

**ЭКРИНОВАЯ СЕКРЕЦИЯ - ЭКРЫНАВАЯ САКРЭЦЫЯ** (грэч. ek - з, ад і krino - аддзяляю) - выдзяленне сакратоўнага рэчыва з клеткі ў выглядзе асобных малекулаў, якія праходзяць праз плазмалему і клетачную абалонку. Параўн. гранулакрынавая сакрэцыя.

**ЭКОБИОМОРФА - ЭКАБІЯМОРФА** (грэч. oikos - жыллё, bios - жыццё і morphe - від, форма) - група арганізмаў розных відаў, якія жывуць у падобных умовах існавання і валодаюць пэўным тыпам прыстасавальнай структуры і звязанымі з ёю фізіялагічнымі асаблівасцямі. Тэрмін прапанаваў Е. М. Лаўрэнка (1965) замест паняцця "жыццёвая форма" і "біяморфа".

**ЭКОЛОГИЧЕСКАЯ НИША - ЭКАЛАГІЧНАЯ НІША** - прасторавае і функцыйнае становішча віду ў супольніцтве, перш за ўсё ў ланцугу харчавання, характар і цеснага сувязяў з партнерамі па супольніцтву (Навумаў, 1963). У розных біяцэнозах розныя віды могуць займаць адну і тую ж экалагічную нішу, гэта значыць складаць адно і тое ж звяно ў сістэме пераўтварэння біямасы і ў энергетычных патоках (кенгуру ў Аўстраліі, антылопы ў саванах Афрыкі, сайгакі ў Прыкаспійскіх стэпах).



**ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ РЯД - ЭКАЛАГІЧНЫ РАД** - паступовая змена відавога складу фітацэнозаў, колькасці і характару размяшчэння асобінаў розных відаў па меры градуальнага змянення якога-небудзь фактару: асветленасці (ад ускрайку да сярэдзіны лесу), вільготнасці (на схіле), грануламетрычнага складу глебы, засалення, глыбіні (у водных экасістэмах).

**ЭКОЛОГИЧЕСКИЕ ЭКВИВАЛЕНТЫ - ЭКАЛАГІЧНЫЯ ЭКВІВАЛЕНТЫ** - віды, якія займаюць аналагічныя экалагічныя нішы ў экасістэмах розных вобласцяў і кантынентаў. Напрыклад, у стэпавых экасістэмах Еўразіі - сайгак, у Афрыцы - антылопа, у Паўн. Амерыцы - бізон, у Аўстраліі - кенгуру.

**ЭКОЛОГИЯ - ЭКАЛОГІЯ** (грэч. oikos - дом і logos - вучэнне) - сінтэтычная біялагічная навука аб узаемаадносінах паміж жывымі арганізмамі і асяроддзем іх пражывання. Э. адносіцца да ліку фундаментальных падраздзелаў біялогіі, якая даследуе фундаментальныя ўласцівасці жыцця надарганізменнага ўзроўню арганізацыі.

**ЭКОСИСТЕМА - ЭКАСІСТЭМА** (грэч. oikos - дом і сістэма) - гістарычна складзеная адкрытая цэласная сістэма жывых і нежывых кампанентаў з уласцівым ёй кругазваротам рэчываў і патокам энергіі, здольная да самарэгуляцыі і самападтрымання.

**ЭКОТИП - ЭКАТЫП** (грэч. oikos - жыллё, месцазнаходжанне і тып) - сукупнасць асобінаў любога віду раслінаў, якія прыстасаваліся да ўмоваў месцазнаходжання і якія валодаюць спадчыннымі прыкметамі, экалагічна абумоўленымі. Э. разглядаецца як спалучэнне блізкіх біятыпаў раслінаў, што пераходзяць адзін у другі.

**ЭКОТОН - ЭКАТОН** (грэч. oikos - жыллё, месцазнаходжанне і tonos - адценне) - пераходная зона на мяжы двух супольніцтваў. Характарызуецца вялікай разнастайнасцю відаў.

**ЭКСПЛЕРЕНТЫ - ЭКСПЛЕРЭНТЫ** (лац. expleo - напаўняю, запаўняю) - расліны, што маюць вельмі нізкую цэнатычную магутнасць, але здольныя хутка захопліваць вольныя тэрыторыі (напрыклад, многія аднагадовыя расліны, што з'яўляюцца пустазеллем). Выконваюць ролю піянераў.

**ЭКСПРЕССИВНОСТЬ - ЭКСПРЭСІЎНАСЦЬ** (лац. expressia - выразнасць, моц праяўлення) - ступень фенатыпічнай праявы гена як мера сілы яго

дзеяння, іншымі словамі вар`іраванне ступені выражанасці прыкметы ў залежнасці ад фактараў знешняга асяроддзя і асаблівасцяў узаемадзеянняў генаў у генатыпе.

**ЭКСТРЕМАЛЬНЫЕ УСЛОВИЯ - ЭКСТРЭМАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ** (лац. extremus - крайні) - умовы, якія выходзяць за межы ніжняй або верхняй граніцы талерантнасці віду. Выклікаюць стрэс.

**ЭКТОГЕНЕЗ - ЭКТАГЕНЕЗ** (грэч. ektos - па-за, звонку і genesis - развіццё, паходжанне) - агульная назва напрамкаў у эвалюцыйным вучэнні, якія разглядаюць гістарычнае развіццё жывой прыроды як прамое прыстасаванне арганізмаў да асяроддзя існавання. Эктагенетыкі прыпісваюць арганізмам першапачатковую здольнасць мэтанакіравана рэагаваць на змяненні навакольных умоваў. Прыдбаныя такім шляхам адаптацыі быццам перадаюцца ў спадчыну наступным пакаленням (так званая адэкватная самагычная індукцыя). Эктагенез развівалі эвалюцыяністы дадарвінаўскага перыяду. У вучэнні Ламарка Э. механічна аб`яднаны з супрацьлеглай канцэпцыяй - аўтагенезам. Неаламаркісты прымаюць звычайна адну з гэтых канцэпцыяў.

**ЭКТОДЕСМА** (тейход) - **ЭКТАДЭСМА** - гл. тэйход.

**ЭЛАЙОПЛАСТЫ - ЭЛАЙАПЛАСТЫ** (грэч. elaion - алей і plastos - вылеплены, аформлены) - пластыды з групы лейкапластаў, якія утвараюць і назапашваюць алей. Тое ж самае, што і алеапласты.

**ЭЛИМИНАЦИЯ - ЭЛІМІНАЦЫЯ** (лац. eliminio - выношу за парог, выдаляю) - гібель арганізмаў у выніку дзеяння розных абіятычных і біятычных фактараў знешняга асяроддзя.

**ЭМБРИОАДАПТАЦИЯ** (ценогенез) - **ЭМБРЫЯАДАПТАЦЫЯ** - гл. цэнагенез.

**ЭМБРИОГЕНЕЗ - ЭМБРЫЯГЕНЕЗ** (грэч. embryon - зародак і genesis - развіццё, паходжанне) - працэс зародкавага развіцця арганізмаў.

**ЭМБРИОНИЗАЦИЯ ОНТОГЕНЕЗА - ЭМБРЫЯНІЗАЦЫЯ АНТАГЕНЕЗУ** - узнікненне ў эвалюцыі развіцця эмбрыёна пад абаронай матчынага цела або спецыяльных утварэнняў.



**ЭНДЕМЫ - ЭНДЭМЫ** (грэч. endemos - мясцовы) - віды раслінаў і жывёлаў, прызначаныя толькі да дадзенага геаграфічнага рэгіёна або да вызначанай біягеахімічнай правінцыі.

**ЭНДОМИТОЗ - ЭНДАМІТОЗ** (грэч. endos - унутры, усярэдзіне і mitos - нітка, патаемны мітоз) - разнавіднасць мітозу, пры якім адбываецца ўнутрыядзернае кратнае павелічэнне колькасці храмасомаў без наступнага падзелу ядра або клеткі. У выніку эндамітозу могуць узнікаць поліплоідныя і гіганцкія ядры (гл. эндарэпрадукцыя).

**ЭНДОПЛАЗМАТИЧЕСКАЯ СЕТЬ, ЭНДОПЛАЗМАТИЧЕСКИЙ РЕТИКУЛУМ - ЭНДАПЛАЗМАТЫЧНАЯ СЕТКА, ЭНДАПЛАЗМАТЫЧНЫ РЭТЫКУЛУМ** - арганоід эўкарыётнай клеткі, які ўяўляе сабою сістэму цыстэрнаў, дробных вакуоляў і канальцаў, абмежаваных адзінарнай мембранай. Мембраны могуць быць пакрытыя рыбасомамі (шурпаты, ці гранулярны ЭР) або быць вольнымі ад рыбасомаў (гладкі, ці агранулярны ЭР). Функцыі ЭР - сінтэз трыгліцэрыдаў і ўтварэнне ліпідаў, абмен некаторых поліцукрыдаў (глікаген), назапашванне і вывядзенне з клеткі атрутных рэчываў, сінтэз стэроідных гармонаў, канцэнтрацыя і мадыфікацыя бялкоў і інш.

**ЭНДОРЕПРОДУКЦИЯ - ЭНДАРЭПРАДУКЦЫЯ** (грэч. endon - унутры, усярэдзіне і reproductio - узнаўленне) - форма эндамітозу (гл.), калі інтэрфазнае павелічэнне колькасці храмасомаў не завяршаецца мітозам (гл.). У адных выпадках, калі сястрынскія храмасомы падзяляюцца, але застаюцца ў адным ядры, эндарэпрадукцыя завяршаецца ўтварэннем *поліплоідных клетак*; у другіх, калі даччыны храмасомы застаюцца дэспіралізаванымі, шматразова рэплікуюцца і не разыходзяцца - утвараюцца шматніткавыя (політэнныя, гл.) храмасомы. Эндарэпрадукцыю можна выявіць толькі ў тым выпадку, калі за ёю ідзе нармальны мітоз, і тады могуць быць выяўленыя або поліплоідныя клеткі, або клеткі з гіганцкімі ядрамі, што нясуць політэнныя храмасомы (гл.).

**ЭНЕРГИЯ СОЛНЕЧНАЯ - ЭНЕРГІЯ СОНЕЧНАЯ** - прамянёвая (электрамагнітная) і карпускулярная энергія Сонца, якая падае на паверхню Зямлі. Сярэдняя інтэнсіўнасць - 2 кал/(см$^2$·мін) (сонечная пастаянная). З`яўляецца адным з фундаментальных і незаменных экалагічных фактараў, без якога немагчыма існаванне жыцця на планеце.

**ЭНТЕЛЕХИЯ - ЭНТАЛЕХІЯ** (грэч. entelecheia - завершанасць, здзейсненасць) - паняцце, уведзенае Арыстоцелем для вызначэння адзінства матэрыі, формы, прычыны і мэты быцця. Пазней тэрмін Э. у біялогіі выкарыстоўваўся для пазначэння якой-небудзь нематэрыяльнай сілы - мэтаімкнення, мэтанакіраванасці, актыўнага пачатку, жыццёвай сілы і да т. п.

**ЭНХИЛЕММА - ЭНХІЛЕМА** - унутранае змесціва полых прастораў сістэмы эндаплазматычнага рэтыкулума.

**ЭОЗИНОФИЛЫ - ЭАЗІНАФІЛЫ** (ад назвы кіслага чырвонага фарбавальніка "эазін", якая паходзіць ад грэч. eos - золак, досвітак і philia - любоў) - адзін з тыпаў лейкацытаў, якія афарбоўваецца кіслымі фарбавальнікамі, у тым ліку эазінам, у чырвоны колер. Удзельнічаюць у алергічных рэакцыях арганізма. Гл. таксама гранулацыты.

**ЭПИСОМА - ЭПІСОМА** (грэч. epi - над, звыш і soma - цела) - плазміда (у прыватнасці, кан'югатыўная плазміда фярцільнасці *F*, ДНК памяркоўных фагаў унутры лізагенных бактэрыяў), здольныя інтэгравацца ў бактэрыйную храмасому, г. зн. існаваць у двух альтэрнатыўных станах: у якасці храмасомнага фрагменту і ў выглядзе аўтаномнай цытаплазматычнай малекулы ДНК.

**ЭПИСТАЗ - ЭПІСТАЗ** - тып узаемадзеяння паміж генамі, што належаць да розных алеляў, лакалізаваных у парах храмасомаў (неалельныя гены, гл.); пры эпістазе дамінантны алель адной з параў падаўляе праяўленне дамінантнага алеля другой пары: *A>B* (дамінантны эпістаз), або рэцэсіўны алель у гамазіготы з адной пары падаўляе дзеянне дамінантнага алеля з другой (рэцэсіўны эпістаз, або крыптамерыя, гл.).

**ЭПИФИТЫ, -ФИЛЫ - ЭПІФІТЫ, -ФІЛЫ** (грэч. epi - на, phiton - расліна і phileo - люблю) - расліны, жывёлы, якія пасяляюцца на раслінах, пераважна драўняных.

**ЭРГАСТИЧЕСКИЕ ВЕЩЕСТВА - ЭРГАСТЫЧНЫЯ РЭЧЫВЫ** (грэч. ergastikos - дзейнасць) - часова выведзеныя з абмену рэчывы.

**ЭРИТРОЦИТЫ - ЭРЫТРАЦЫТЫ** (грэч. erythros - чырвоны і cytos - клетка) - чырвоныя клеткі крыві ў хрыбетных і некаторых бесхрыбетных (ігласкурыя). Спелыя Э. млекакормячых пазбаўленыя ядра, якое ўтрымліваецца на ранніх стадыях іх развіцця; Э. у птушак, гадаў,



земнаводных і рыбаў утрымліваюць ядры, якія актыўна функцыянуюць на стадыі эрытрабластаў. Э. утрымліваюць дыхальны пігмент гемаглабін, які абумоўлівае чырвоны колер крыві і запаўняе ўсю цытаплазму. Э. пераносяць $O_2$ ад лёгкіх да тканак і $CO_2$ ад тканак да лёгкіх, рэгулююць кіслотна-шчолачную раўнавагу, падтрымліваюць ізатанію крыві і тканак, адсарбуюць з плазмы крыві амінакіслоты, ліпіды і пераносяць іх да тканак.

**ЭСТУАРИЙ - ЭСТУАРЫЙ** (лац. aestuarium - вусце ракі, якое затапляецца) - аднарукаўнае вусце ракі, што паступова пашыраецца ў бок мора.

**ЭТОЛОГИЯ - ЭТАЛОГІЯ** (грэч. ethos - характар і logos - вучэнне) - навука аб паводзінах арганізмаў.

**ЭУКАРИОТЫ - ЭЎКАРЫЁТЫ** (грэч. eu - добра, цалкам і karyon - арэх, ядро) - усе раслінныя і жывёльныя арганізмы, а таксама грыбы, клеткі якіх маюць аформленае ядро, аддзеленае ад цытаплазмы ядзернай абалонкай. Эўкарыётам уласцівы мітоз і мейёз.

**ЭУХРОМАТИН - ЭЎХРАМАЦІН** (грэч. eu - добры, сапраўдны і chroma - колер) - храмацін (гл.), які ў ядры, што знаходзіцца ў стане спакою, не афарбоўваецца або афарбоўваецца слаба з-за дастатковай інтэнсіўнай дэспіралізацыі ў параўнанні з гетэрахрамацінам (гл.); генетычна актыўная частка храмаціну.

**ЭФЕМЕРОИДЫ - ЭФЕМЕРОІДЫ** (грэч. ephemeros - імгненны і eidos - від) - жывёлы і шматгадовыя расліны, якія прыстасаваліся да ўхілення ад неспрыяльных умоваў шляхам змяншэння рытму свайго развіцця і скарачэння яго часу да мінімуму.

**ЭФЕМЕРЫ - ЭФЕМЕРЫ** (грэч. ephemeros - імгненны) - жывёлы і аднагадовыя расліны з кароткім, звычайна веснавым перыядам развіцця.

**ЭФФЕКТ ПОЛОЖЕНИЯ ГЕНА - ЭФЕКТ СТАНОВІШЧА ГЕНА** - мена дзеяння гена, які ў выніку храмасомнай перабудовы змяніў сваю лакалізацыю ў храмасоме.

**ЭФФЕКТ ГРУППЫ - ЭФЕКТ ГРУПЫ** - рэзкае памяншэнне або страта магчымасці даваць нашчадкаў самкамі пры павелічэнні шчыльнасці папуляцыі, якая перавышае аптымальную (Л. Брарэтон).

**ЭПИГЕНЕЗ - ЭПІГЕНЕЗ** (грэч. epi - на, над, звыш, пасля і genesis - развіццё, паходжанне) - вучэнне аб зародкавым развіцці арганізмаў як працэсе, які ажыццяўляецца шляхам паслядоўных пераўтварэнняў у процівагу прызнанню існавання ў палавых клетках і рішапачатковай разнастайнасці структураў (У. Гарвей, 1651).

## Ю

**ЮВЕНАЛЬНЫЕ ОСОБИ - ЮВЕНАЛЬНЫЯ АСОБІНЫ** (лац. juvenilis - юны) - юнацкія асобіны, якія падрастаюць у папуляцыях раслінаў і жывёлаў, што яшчэ не гатовыя да генератыўнага развіцця.

## Я

**ЯДЕРНАЯ ОБОЛОЧКА - ЯДЗЕРНАЯ АБАЛОНКА** - тое ж самае, што і карыятэка (кариотека - гл.).

**ЯДРО - ЯДРО** (nycleus) - арганоід эўкарыётнай клеткі, які абкружаны двухмембраннай абалонкай і ўтрымлівае храмасомы, ядзеркі і нуклеаплазму. Я. кіруе бялковым сінтэзам, фізіялагічнымі і марфалагічнымі працэсамі ў клетцы.

**ЯРУС - ЯРУС** - структурная частка вертыкальнага чляне́ння біяцэнозу, якая мае вызначаную будову, відавы склад і прымае пэўны ўдзел у асіміляцыі, пераўтварэнні рэчываў і энергіі.

**ЯРУСНОСТЬ СООБЩЕСТВ - ЯРУСНАСЦЬ СУПОЛЬНІЦТВАЎ** - вертыкальнае расчляненне расліннага супольніцтва на ярусы. Абумоўлена Я. с. рознымі патрабаваннямі раслінаў да сонечнага святла, вады і ежы, уласцівасцямі каранёвых сістэмаў, асаблівасцямі субстрату. Дзякуючы Я. с. больш шчыльна засяляецца прастора супольніцтваў. Адрозніваюць Я. с. наземную (размяшчэнне органаў раслінаў на рознай вышыні над паверхняй глебы) і Я. с. падземную (на рознай глыбіні ў глебе).



# БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК

## А

АБЕРАЦЫЯ - АБЕРРАЦИЯ
АБКАРКАВЕННЕ - ОПРОБКОВЕНИЕ
АБРЭВІАЦЫЯ - АББРЕВИАЦИЯ
АБІЯТЫЧНЫЯ ФАКТАРЫ АСЯРОДДЗЯ - АБИОТИЧЕСКИЕ ФАКТОРЫ СРЕДЫ
АБІССАЛЬ - АБИССАЛЬ
АБАРЫГЕНЫ - АБОРИГЕНЫ
АБЛІТЭРАЦЫЯ - ОБЛИТЕРАЦИЯ
АБАЛОНКА - ОБОЛОЧКА
АВІЗМ - ОВИЗМ
АГЛЮЦІНАЦЫЯ - АГГЛЮТИНАЦИЯ
АГРЭГАЦЫЯ - АГРЕГАЦИЯ
АГРЭГАВАНАСЦЬ АРГАНІМАЎ - АГРЕГИРОВАННОСТЬ ОРГАНИЗМОВ
АГРАБІЯЦЭНОЗ - АГРОБИОЦЕНОЗ, агроэкосистема
АГРАЭКАСІСТЭМА - тое ж самае, што і аграбіяцэноз
АДАПЦЫЯГЕНЕЗ - АДАПЦИОГЕНЕЗ
АДАПТАЦЫЯ - АДАПТАЦИЯ
АДАПТЫЎНАЯ ЗОНА - АДАПТИВНАЯ ЗОНА
АДАПТЫЎНАЯ РАДЫЯЦЫЯ - АДАПТИВНАЯ РАДИАЦИЯ
АДБОР БАЛАНСАВАНЫ - ОТБОР БАЛАНСИРОВАННЫЙ (уравновешивающий)
АДБОР УРАЎНАВАЖВАЛЬНЫ - тое ж самае, што і адбор балансаваны
АДБОР РУХАЛЬНЫ - ОТБОР ДВИЖУЩИЙ
АДБОР ДЫЗРУПТЫЎНЫ - ОТБОР ДИЗРУПТИВНЫЙ
АДБОР НАТУРАЛЬНЫ - ОТБОР ЕСТЕСТВЕННЫЙ
АДБОР ШТУЧНЫ - ОТБОР ИСКУССТВЕННЫЙ
АДБОР КАНАЛІЗУЮЧЫ - ОТБОР КАНАЛИЗИРУЮЩИЙ
АДБОР НАКІРАВАНЫ - ОТБОР НАПРАВЛЕННЫЙ
АДБОР НАРМАЛІЗУЮЧЫ - ОТБОР НОРМАЛИЗУЮЩИЙ
АДБОР ПАЛАВЫ - ОТБОР ПОЛОВОЙ
АДБОР СТАБІЛІЗУЮЧЫ - ОТБОР СТАБИЛИЗИРУЮЩИЙ
АДБОР ТРАНЗІТЫЎНЫ - ОТБОР ТРАНЗИТИВНЫЙ (переходной)
АДБОР ПЕРАХОДНЫ - тое ж самае, што і адбор транзітыўны
АДВЕНТЫЎНЫЯ ВІДЫ - АДВЕНТИВНЫЕ ВИДЫ
АДГЕЗІЯ КЛЕТАК - АДГЕЗИЯ КЛЕТОК
АДРАЎЛЕННЕ - ОДРЕВЕСНЕНИЕ, ЛИГНИФИКАЦИЯ
АДСТАВАЛЬНЫ ЛАНЦУГ - ОТСТАЮЩАЯ ЦЕПЬ

АЗОНАВЫ СЛОЙ - ОЗОНОВЫЙ СЛОЙ, ОЗОНОВЫЙ ЭКРАН, ОЗОНОСФЕРА
АЗОНАВЫ ЭКРАН - тое ж самае, што і азона сло
АЗОНАСФЕРА - тое ж самае, што і азона сло
АКВАТОРЫЯ - АКВАТОРИЯ
АКЛІМАТЫЗАЦЫЯ - АККЛИМАТИЗАЦИЯ
АКЛІМАЦЫЯ - АККЛИМАЦИЯ
АКСАНЕМА - АКСОНЕМА
АКСАСОМА - АКСОСОМА
АКСЕЛЕРАЦЫЯ - АКСЕЛЕРАЦИЯ, акцелерация
АКЦЭЛЕРАЦЫЯ - тое ж самае, што і акселерація
АКТЫЎНЫ ЦЭНТР ФЕРМЕНТУ - АКТИВНЫЙ ЦЕНТР ФЕРМЕНТА
АЛАГЕНЕЗ - АЛЛОГЕНЕЗ
АЛАГЕННЫЯ ПРАЦЭСЫ - АЛЛОГЕННЫЕ ПРОЦЕССЫ
АЛАМАРФОЗ - АЛЛОМОРФОЗ
АЛАПАЛІПЛОІД - АЛЛОПОЛИПЛОИД
АЛАПАЛІПЛАІДЫЯ - АЛЛОПОЛИПЛОДИЯ
АЛАХОРЫ - АЛЛОХОРЫ
АЛЕАПЛАСТЫ  ОЛЕОПЛАСТЫ, ЭЛАЙОПЛАСТЫ
АЛЕЙРОН - АЛЕЙРОН
АЛЕЛІ - АЛЛЕЛИ
АЛЕЛІ МНОЖНЫЯ - АЛЛЕЛИ МНОЖЕСТВЕННЫЕ
АЛЕЛАМАРФІЗМ СТУПЕНЬЧАТЫ - тое ж самае, што і алалізм
АЛЕЛАМОРФНАЯ ПАРА - АЛЛЕЛОМОРФНАЯ ПАРА
АЛЕЛАПАТЫЯ - АЛЛЕЛОПАТИЯ
АЛКІЛАВАННЕ - АЛКИЛИРОВАНИЕ
АЛІГАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ОЛИГОТРОФНЫЕ ОРГАНИЗМЫ
АЛІГАФАГІ - ОЛИГОФАГИ
АЛЬЕГДО - АЛЬБЕДО
АЛЯЛІЗМ - АЛЛЕЛИЗМ
АМЕНСАЛІЗМ - АМЕНСАЛИЗМ
АМІЛАПЛАСТЫ - АМИЛОПЛАСТЫ
АМІТОЗ - АМИТОЗ
АМНІЯПАТЭНТНАСЦЬ - ОМНИОПАТЕНТНОСТЬ
АМПЛІФІКАЦЫЯ - АМПЛИФИКАЦИЯ
АМФІБІЁНТЫ - АМФИБИОНТЫ
АМФІДЫПЛОІД - АМФИДИПЛОИД
АНАБАЛІЯ - АНАБОЛИЯ
АНАБІЁЗ  АНАБИОЗ
АНАГЕНЕЗ - АНАГЕНЕЗ
АНАЛІЗОЎНАЕ ЗЛУЧЭННЕ - АНАЛИЗИРУЮЩЕЕ СКРЕЩИВАНИЕ



АНАЛАГІЧНЫЯ ОРГАНЫ - АНАЛОГИЧНЫЕ ОРГАНЫ
АНАЭРОБЫ - АНАЭРОБЫ
АНДРАГЕНЕЗ - АНДРОГЕНЕЗ
АНІМАЛЬКУЛІЗМ - АНИМАЛЬКУЛИЗМ
АНТАГАНІЗМ - АНТАГОНИЗМ
АНТЫБІЁТЫКІ - АНТИБИОТИКИ
АНТЫГЕН - АНТИГЕН
АНТЫДАРВІНІЗМ ГЕНЕТЫЧНЫ - АНТИДАРВИНИЗМ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ
АНТЫКАДОН - АНТИКОДОН
АНТЫМУТАГЕНЫ - АНТИМУТАГЕНЫ
АНТЫЦЕЛЫ - АНТИТЕЛА
АНТАЦЫЯН - АНТОЦИАН
АНТРАПАГЕНЕЗ - АНТРОПОГЕНЕЗ
АНТРАПАГЕННАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ - АНТРОПОГЕННОЕ ВОЗДЕЙСТВИЕ
АНТАГЕНЕЗ - ОНТОГЕНЕЗ
АПАГАМІЯ - АПОГАМИЯ
АПАМІКСІС - АПОМИКСИС
АПАРАТ ГОЛЬДЖЫ - АППАРАТ ГОЛЬДЖИ
АПАСЕМАТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА - АПОСЕМАТИЧЕСКАЯ ОКРАСКА
АПЕРАТАР - ОПЕРАТОР
АПЕРОН - ОПЕРОН
АПВЕЛІНГ - АПВЕЛИНГ
АПЕРТУРА ПОРЫ - АПЕРТУРА ПОРЫ
АПЕЛЕНТЫ - АППЕЛЕНТЫ
АПАЗІЦЫЯ - АППОЗИЦИЯ
АРГАНАГЕНЕЗ - ОРГАНОГЕНЕЗ
АРГАНОІДЫ - ОРГАНОИДЫ
АРТАГЕНЕЗ - ОРТОГЕНЕЗ
АРТАЛАМАРКІЗМ - ОРТОЛАМАРКИЗМ
АРТАСЕЛЕКЦЫЯ - ОРТОСЕЛЕКЦИЯ
АРЭАЛ - АРЕАЛ
АРЫДНЫ КЛІМАТ - АРИДНЫЙ КЛИМАТ
АРАГЕНЕЗ - АРОГЕНЕЗ
АРАМАРФОЗ  АРОМОРФОЗ
АРХАЛАКСІС - АРХАЛЛАКСИС
АРХАНТРОПЫ - АРХАНТРОПЫ
АСІМІЛЯЦЫЯ, АНАБАЛІЗМ - АССИМИЛЯЦИЯ, АНАБОЛИЗМ
АСАРТАТЫЎНАЕ ЗЛУЧЭННЕ - АССОРТАТИВНОЕ СКРЕЩИВАНИЕ, ГОМОГАМИЯ
АСАЦЫЯЦЫЯ РАСЛІННАЯ - АССОЦИАЦИЯ РАСТИТЕЛЬНАЯ
АСЯРОДДЗЕ - СРЕДА

АТАВІЗМ - АТАВИЗМ
АТМАСФЕРА ЗЯМЛІ - АТМОСФЕРА ЗЕМЛИ
АТРАФІЯ - АТРОФИЯ
АТРАФІЯ КЛЕТАК - АТРОФИЯ КЛЕТОК
АСАДКАВАЯ ПАРОДА - ОСАДОЧНАЯ ПОРОДА
АСТЭАБЛАСТЫ - ОСТЕОБЛАСТЫ
АСТЭАСКЛЕРАІДА - ОСТЕОСКЛЕРЕИДА
АСЯРОДДЗЕ ЗНЕШНЯЕ - тое ж самае, што і навакольнае асяроддзе
АСЯРОДДЗЕ ПРАЖЫВАННЯ - тое ж самае, што і навакольнае асяроддзе
АЎСТРАЛАПІТЭКАВЫЯ - АВСТРАЛОПИТЕКОВЫЕ
АЎТАГЕННЫЯ ПРАЦЭСЫ - АВТОГЕННЫЕ ПРОЦЕССЫ
АЎТАГЕНЕЗ - АВТОГЕНЕЗ
АЎТОЛІЗ - АВТОЛИЗ
АЎТАНАМІЗАЦЫЯ АНТАГЕНЕЗУ - АВТОНОМИЗАЦИЯ ОНТОГЕНЕЗА
АЎТАПОЛІПЛОІД - АВТОПОЛИПЛОИД
АЎТАПОЛІПЛОІДЫЯ - АВТОПОЛИПЛОИДИЯ, аутополиплоидия
АЎТАПОЛІПОЛІПЛОІДЫІ МЯЖА - АВТОПОЛИПОЛИПЛОИДИИ ПРЕДЕЛ
АЎТАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ - АВТОТРОФНЫЕ ОРГАНИЗМЫ, автотрофы
АЎТАТРОФЫ - тое ж самае, што і аўтатрофныя арганізмы
АЎТАФАГІЯ - АВТОФАГИЯ
АЎКСАТРОФЫ - АУКСОТРОФЫ
АЎТБРЫДЗІНГ - АУТБРИДИНГ
АЎТВЕЛІНГ - АУТВЕЛЛИНГ
АЎТАСОМЫ - АУТОСОМЫ
АЎТЭКАЛОГІЯ - АУТЭКОЛОГИЯ
АФАНІЗІЯ - АФАНИЗИЯ
АХВЯРА - ЖЕРТВА
АЦЫДАФІТЫ - АЦИДОФИТЫ
АЭРОБНЫЯ АРГАНІЗМЫ - АЭРОБНЫЕ ОРГАНИЗМЫ, АЭРОБЫ
АЭРОБЫ - тое ж самае, што і аэробныя арганізмы

## Б

БАЗІГЕН - БАЗИГЕН
БАЗАФІЛЫ - БАЗОФИЛЫ
БАКТЭРЫЁФАГІ - БАКТЕРИОФАГИ (или ФАГИ БАКТЕРИЙ)
БАТМАГЕНЕЗ - БАТМОГЕНЕЗ
БЯЛОК-РЭПРЭСАР - БЕЛОК-РЕПРЕССОР
БЕНТАС - БЕНТОС
БЕССЭНСОЎНЫЯ КАДОНЫ - БЕССМЫСЛЕННЫЕ КОДОНЫ
БІВАЛЕНТЫ - БИВАЛЕНТЫ



БІЯГЕНЕТЫЧНЫ ЗАКОН - БИОГЕНЕТИЧЕСКИЙ ЗАКОН
БІЯГЕННЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ - БИОГЕННЫЕ ЭЛЕМЕНТЫ
БІЯГЕАХІМІЧНЫ КРУГАЗВАРОТ РЭЧЫВАЎ - БИОГЕОХИМИЧЕСКИЙ КРУГОВОРОТ ВЕЩЕСТВ
БІЯГЕАЦЭНОЗ - БИОГЕОЦЕНОЗ
БІЯЛАГІЧНАЯ ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ - БИОЛОГИЧЕСКАЯ ПРОДУКТИВНОСТЬ
БІЯЛАГІЧНЫЯ РЫТМЫ - БИОЛОГИЧЕСКИЕ РИТМЫ
БІЯЛАГІЧНЫЯ СІСТЭМЫ - БИОЛОГИЧЕСКИЕ СИСТЕМЫ
БІЯЛАГІЧНЫ ГАДЗІННІК - БИОЛОГИЧЕСКИЕ ЧАСЫ
БІЯЛАГІЧНЫ ІНДЫКАТАР - БИОЛОГИЧЕСКИЙ ИНДИКАТОР
БІЯЛАГІЧНЫ КРУГАЗВАРОТ - БИОЛОГИЧЕСКИЙ КРУГОВОРОТ, КРУГОВОРОТ ВЕЩЕСТВ МАЛЫЙ
КРУГАЗВАРОТ РЭЧЫВАЎ МАЛЫ - тое ж самае, што і біялагічны кругазварот
БІЯЛАГІЧНАЕ САМААЧЫШЧЭННЕ - БИОЛОГИЧЕСКОЕ САМООЧИЩЕНИЕ
БІЯЛАГІЧНАЕ ЎЗМАЦНЕННЕ - БИОЛОГИЧЕСКОЕ УСИЛЕНИЕ, БИОМАГНИФИКАЦИЯ
БІЯМАГНІФІКАЦЫЯ - тое ж самае, што і біялагічнае ўзмацненне
БІЯЛЮМІНЕСЦЭНЦЫЯ - БИОЛЮМИНЕСЦЕНЦИЯ
БІЁМ - БИОМ
БІЯМАСА - БИОМАССА
БІЯМОРФЫ - БИОМОРФЫ
БІЁНТ - БИОНТ
БІЯСЕДЫМЕНТАЦЫЯ - БИОСЕДИМЕНТАЦИЯ
БІЯСФЕРА - БИОСФЕРА
БІЁТА - БИОТА
БІЯТЫП - БИОТИП
БІЯТЫЧНЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ - БИОТИЧЕСКИЕ ВЗАИМООТНОШЕНИЯ
БІЯТЫЧНЫЯ ФАКТАРЫ - БИОТИЧЕСКИЕ ФАКТОРЫ
БІЯТЫЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ - БИОТИЧЕСКИЙ ПОТЕНЦИАЛ
БІЯТОП - БИОТОП
БІЯТРОФЫ - БИОТРОФЫ
БІЯЦЭНОЗ - БИОЦЕНОЗ
БІЯЭНЕРГЕТЫКА - БИОЭНЕРГЕТИКА
БЛАСТУЛА - БЛАСТУЛА
БАЛОТА - БОЛОТО
БАЛОТА ВЕРХАВОЕ - БОЛОТО ВЕРХОВОЕ (ОЛИГОТРОФНОЕ)
БАЛОТА АЛІГАТРОФНАЕ - тое ж самае, што і балота верхавое
БАЛОТА НІЗІННАЕ - БОЛОТО НИЗИННОЕ (ЭВТРОФНОЕ)
БАЛОТА ЭЎТРОФНАЕ - тое ж самае, што і балота нізіннае
БАЛОТА ПЕРАХОДНАЕ - БОЛОТО ПЕРЕХОДНОЕ (МЕЗОТРОФНОЕ)
БАЛОТА МЕЗАТРОФНАЕ - тое ж самае, што і балота пераходнае

БАНИТЭТ - БОНИТЕТ
БАНІТАВАННЕ - БОНИТИРОВКА
БАРАЦЬБА ЗА ІСНАВАННЕ - БОРЬБА ЗА СУЩЕСТВОВАНИЕ
БРАДЗІТЭЛІЯ - БРАДИТЕЛИЯ
БРАХІСКЛЕРЭІДА - БРАХИСКЛЕРЕИДА
БРЫЯБІЁНТ - БРИОБИОНТ
БРАДЖЭННЕ - БРОЖЕНИЕ

## В

ВАГІЛЬНАСЦЬ - ВАГИЛЬНОСТЬ
ВАКУАЛІЗАЦЫЯ - ВАКУОЛИЗАЦИЯ
ВАКУОЛЯ - ВАКУОЛЬ
ВАЛАКНО - ВОЛОКНО
ВАЛАКНО ЛІБРЫФОРМУ - ВОЛОКНО ЛИБРИФОРМА
ВАЛЕНТНАСЦЬ ЭКАЛАГІЧНАЯ - ВАЛЕНТНОСТЬ ЭКОЛОГИЧЕСКАЯ
ВІД - ВИД
ВІДАЎТВАРЭННЕ - ВИДООБРАЗОВАНИЕ
ВІДЫ АЛАПАТРЫЧНЫЯ - ВИДЫ АЛЛОПАТРИЧЕСКИЕ
ВІДЫ-ДВАЙНІКІ - ВИДЫ-ДВОЙНИКИ
ВІДЫ СІМПАТРЫЧНЫЯ - ВИДЫ СИМПАТРИЧЕСКИЙ
ВІКАРЫЗМ - ВИКАРИЗМ
ВІРЫЁН - ВИРИОН
ВІРУЛЕНТНЫЯ ФАГІ - ВИРУЛЕНТНЫЕ ФАГИ
ВІРУСЫ - ВИРУСЫ
ВІТАЛІЗМ - ВИТАЛИЗМ
ВОЗЕРА АЛІГАТРОФНАЕ - ОЗЕРО ОЛИГОТРОФНОЕ
ВОЗЕРА ЭЎТРОФНАЕ - ОЗЕРО ЭВТРОФНОЕ
ВЫБУХІ КОЛЬКАСЦІ - тое ж самае, што і пікі колькасці
ВЫЖЫВАЛЬНАСЦЬ - ВЫЖИВАЕМОСТЬ
ВЫРОДНАСЦЬ ГЕНЕТЫЧНАГА КОДА - ВЫРОЖДЕННОСТЬ ГЕНЕТИЧЕСКОГО КОДА
ВЯДУЧЫ ЛАНЦУГ - ВЕДУЩАЯ ЦЕПЬ

## Г

ГАЛАФІЛЫ - ГАЛОФИЛЬ
ГАЛАФІТЫ - ГАЛОФИТЫ
ГАЛАФОБЫ - ГАЛОФОБЫ
ГАЛІНАСТАЯ ПОРА - ВЕТВИСТАЯ ПОРА
ГАМАГАМІЯ - тое ж самае, што і асартатыўнае скрыжоўванне
ГАМАЗІГОТА - ГОМОЗИГОТА
ГАМАЙЯТЭРМНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ГОМОЙОТЕРМНЫЕ ОРГАНИЗМЫ



ГАМАЛАГІЧНЫЯ ХРАМАСОМЫ - ГОМОЛОГИЧНЫЕ (ПАРНЫЕ) 0ХРОМОСОМЫ
ГАМАЛАГІЧНЫЯ ОРГАНЫ - ГОМОЛОГИЧНЫЕ ОРГАНЫ
ГАМЕТЫ - ГАМЕТЫ
ГАМЕОЗІС - ГОМЕОЗИС
ГАМЕАСТАЗ - ГОМЕОСТАЗ
ГАМЕАСТАЗ ГЕНЕТЫЧНЫ - ГОМЕОСТАЗ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ
ГАМАГАМЕТНЫ ПОЛ - ГОМОГАМЕТНЫЙ ПОЛ
ГАПЛОІД - ГАПЛОИД
ГАПЛАФАЗА - ГАПЛОФАЗА
ГАРАТЭЛІЯ - ГОРОТЕЛИЯ
ГАРЭМ - ГАРЕМ
ГАСТРЭІ ТЭОРЫЯ - ГАСТРЕИ ТЕОРИЯ
ГАСТРУЛА - ГАСТРУЛА
ГАСТРУЛЯЦЫЯ - ГАСТРУЛЯЦИЯ
ГЕАМАРФАЛАГІЧНЫЯ ФАКТАРЫ - тое ж самае, што і фактары арагрaфічныя
ГЕЛІЯФІЛЫ, -ФІТЫ - ГЕЛИОФИЛЫ, -ФИТЫ
ГЕМІКРЫПТАФІТЫ - ГЕМИКРИПТОФИТЫ
ГЕМІЦЭЛЮЛОЗЫ - ГЕМИЦЕЛЛЮЛОЗЫ
ГЕМУЛЫ - ГЕММУЛЫ
ГЕМАГЛАБІН - ГЕМОГЛОБИН
ГЕМОЛІЗ - ГЕМОЛИЗ
ГЕМАЦЫТАБЛАСТЫ - ГЕМОЦИТОБЛАСТЫ
ГЕН - ГЕН
ГЕНОМ - ГЕНОМ
ГЕНАТЫП - ГЕНОТИП
ГЕНАФОНД - ГЕНОФОНД
ГЕАБАТАНІКА - ГЕОБОТАНИКА
ГЕАСФЕРЫ - ГЕОСФЕРЫ
ГЕАФІЛЫ - ГЕОФИЛЫ
ГЕАФІТЫ - ГЕОФИТЫ
ГЕРАНТАМАРФОЗ - ГЕРОНТОМОРФОЗ
ГЕТЭРАБАТМІЯ - ГЕТЕРОБАТМИЯ
ГЕТЭРАГАМЕТНЫ ПОЛ - ГЕТЕРОГАМЕТНЫЙ ПОЛ
ГЕТЭРАГАМІЯ - ГЕТЕРОГАМИЯ
ГЕТЭРАГЕНЕЗ - ГЕТЕРОГЕНЕЗ
ГЕТЭРАЗІГОТА - ГЕТЕРОЗИГОТА
ГЕТЭРОЗІС - ГЕТЕРОЗИС
ГЕТЭРАКАРЫЁН - ГЕТЕРОКАРИОН
ГЕТЭРАМАРФОЗ - ГЕТЕРОМОРФОЗ
ГЕТЭРАПЛАІДЗІЯ - ГЕТЕРОПЛОИДИЯ

ГЕТЭРАСТЫЛІЯ - ГЕТЕРОСТИЛИЯ
ГЕТЭРАТОПІЯ - ГЕТЕРОТОПИЯ
ГЕТЭРАТЭРМНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ГЕТЕРОТЕРМНЫЕ ОРГАНИЗМЫ
ГЕТЭРАТРАФІЯ - ГЕТЕРОТРОФИЯ
ГЕТЭРАТРОФНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ГЕТЕРОТРОФНЫЕ ОРГАНИЗМЫ
ГЕТЭРАХРАМАТЫН - ГЕТЕРОХРОМАТИН
ГЕТЭРАХРОНІЯ - ГЕТЕРОХРОНИЯ
ГІГРАФІТЫ - ГИГРОФИТЫ
ГІДАТАФІТЫ - ГИДАТОФИТЫ
ГІДРАБІЁНТЫ - ГИДРОБИОНТЫ
ГІДРАБІЯЛОГІЯ - ГИДРОБИОЛОГИЯ
ГІДРАСФЕРА - ГИДРОСФЕРА
ГІДРАФІТЫ - ГИДРОФИТЫ
ГІНАНДРАМАРФІЗМ - ГИНАНДРОМОРФИЗМ
ГІНАГЕНЕЗ - ГИНОГЕНЕЗ
ГІПАГЕНЕЗ - ГИПОГЕНЕЗ
ГІПАМАРФОЗЫ - ГИПОМОРФОЗЫ
ГІПАПЛАЗІЯ - ГИПОПЛАЗИЯ
ГІПАТРАФІЯ - ГИПОТРОФИЯ
ГІПЕРГЕНЕЗ - ГИПЕРГЕНЕЗ
ГІПЕРМАРФОЗ - ГИПЕРМОРФОЗ
ГІПЕРПЛАЗІЯ - ГИПЕРПЛАЗИЯ
ГІПЕРТРАФІЯ - ГИПЕРТРОФИЯ
ГІСТОНЫ - ГИСТОНЫ
ГІЯЛАПЛАЗМА - ГИАЛОПЛАЗМА
ГЛЕБА - ПОЧВА
ГЛЕЙ - ИЛ
ГЛЕЙ АКТЫЎНЫ - ИЛ АКТИВНЫЙ
ГЛІКАКАЛІКС - ГЛИКОКАЛИКС
ГЛІКОЛІЗ - ГЛИКОЛИЗ
ГЛІАКСІСОМЫ - ГЛИОКСИСОМЫ
ГРАДАЦЫЯ - ГРАДАЦИЯ
ГРАНУЛАКРЫНАВАЯ САКРЭЦЫЯ - ГРАНУЛОКРИНОВАЯ СЕКРЕЦИЯ
ГРАНУЛАЦЫТЫ - ГРАНУЛОЦИТЫ
ГРАНЫ - ГРАНЫ
ГРУПА СЧЭПЛІВАННЯ - ГРУППА СЦЕПЛЕНИЯ

## Д

ДАЖДЖАВЫ ЦЕНЬ - ДОЖДЕВАЯ ТЕНЬ
ДАМІНАНТЫ - ДОМИНАНТЫ



ДАРВІНІЗМ - ДАРВИНИЗМ
ДЖУНГЛІ - ДЖУНГЛИ
ДЗІРВАН - ДЕРНИНА, ДЁРН
ДЗЕРАН - тое ж самае, што і дзірван
ДЗЁРАН - ДЕРНОВИНА
"ДЗІРКА" АЗОНАВАЯ - "ДЫРА" ОЗОНОВАЯ
ДОЖДЖ КІСЛОТНЫ - ДОЖДЬ КИСЛОТНЫЙ
ДРАПЕЖНІЦТВА - ХИЩНИЧЕСТВО
ДРАПЕЖНІК АБЛІГАТНЫ - ХИЩНИК АБЛИГАТНЫЙ
ДРУГАСНАЯ КЛЕТАЧНАЯ АБАЛОНКА -ВТОРИЧНАЯ КЛЕТОЧНАЯ ОБОЛОЧКА
ДРУГАСНАЯ ПЕРАЦЯЖКА - тое ж самае, што і спадарожнік
ДРУГАСНАЕ ПЕРАЦЯГВАННЕ - ВТОРИЧНАЯ ПЕРЕТЯЖКА
ДРУЗА - ДРУЗА
ДРЫЯПІТЭКІ - ДРИОПИТЕКИ
ДРЭВЫ - ДЕРЕВЬЯ
ДРЭЙФ ГЕНАЎ - тое ж самае, што і дрэйф генетычны
ДРЭЙФ ГЕНЕТЫЧНЫ - ДРЕЙФ ГЕНЕТИЧЕСКИЙ (ДРЕЙФ ГЕНОВ)
ДУПЛІКАЦЫЯ - ДУПЛИКАЦЫЯ
ДЫВЕРГЕНЦЫЯ - ДИВЕРГЕНЦИЯ
ДЫГРЭСІЯ - ДИГРЕССИЯ
ДЫКТЫЯСОМА - ДИКТИОСОМА
ДЫМ - ДЫМ
ДЫМАРФІЗМ - ДИМОРФИЗМ
ДЫСІМІЛЯЦЫЯ - ДИССИМИЛЯЦИЯ
ДЫХАННЕ - ДЫХАНИЕ
ДЫФУЗІЯ - ДИФФУЗИЯ
ДЫФУЗІЯ АБЛЕГЧАНАЯ - ДИФФУЗИЯ ОБЛЕГЧЁННАЯ
ДЫЯПАЎЗА - ДИАПАУЗА
ДЫЯСТЭМА - ДИАСТЕМА
ДЭВІЯЦЫЯ - ДЕВИАЦИЯ
ДЭГЕНЕРАЦЫЯ - ДЕГЕНЕРАЦИЯ
ДЭГРАДАЦЫЯ ПРЫРОДЫ - ДЕГРАДАЦИЯ ПРИРОДЫ
ДЭІЗМ - ДЭИЗМ
ДЭЛЕЦЫЯ - ДЕЛЕЦИЯ
ДЭМ - ДЕМ
ДЭМАГРАФІЯ - ДЕМОГРАФИЯ
ДЭМАНСТРАЦЫЯ - ДЕМОНСТРАЦИЯ
ДЭМЭКАЛОГІЯ - ДЕМЭКОЛОГИЯ, ПОПУЛЯЦИОННАЯ ЭКОЛОГИЯ
ДЭНДРАФІЛЫ - ДЭНДРОФИЛЫ
ДЭНІТРЫФІКАЦЫЯ - ДЕНИТРИФИКАЦИЯ

ДЭСМАСОМЫ - ДЕСМОСОМЫ
ДЭСМАТРУБАЧКА - ДЕСМОТРУБОЧКА
ДЭСТРУКЦЫЯ - ДЕСТРУКЦИЯ
ДЭТЭРМІНАНТЫ - ДЕТЕРМИНАНТЫ
ДЭТРЫТ - ДЕТРИТ
ДЭФІШЭНСІ - ДЕФИШЕНСИ

## Ж

ЖАРДАНІЗМ - ЖОРДАНИЗМ
ЖАФРУІЗМ - ЖОФФРУИЗМ
ЖГУЦІКІ - ЖГУТИКИ
ЖЫЦЦЁВАЯ ФОРМА - ЖИЗНЕННАЯ ФОРМА
ЖЫЦЦЁВАЯ ПРАСТОРА - ЖИЗНЕННОЕ ПРОСТРАНСТВО
ЖЫЦЦЁВЫ ЦЫКЛ - ЖИЗНЕННЫЙ ЦИКЛ, ЦИКЛ РАЗВИТИЯ
ЖЫЦЦЯЗДОЛЬНАСЦЬ - ЖИЗНЕСПОСОБНОСТЬ

## З

ЗАБАЛОЧВАННЕ - ЗАБОЛАЧИВАНИЕ
ЗАБРУДЖВАННЕ - ЗАГРЯЗНЕНИЕ
ЗАКАЗНІК - ЗАКАЗНИК
ЗАКОН ЗАРОДКАВАГА ПАДАБЕНСТВА -ЗАКОН ЗАРОДЫШЕВОГО СХОДСТВА
ЗАКОН ЛІНДЭМАНА (1942) - ЗАКОН ЛИНДЕМАНА (1942)
ЗАКОН МІНІМУМУ ЛІБІХА - ЗАКОН МИНИМУМА ЛИБИХА
ЗАКОН НЕАБАРАЧАЛЬНАСЦІ ЭВАЛЮЦЫІ - ЗАКОН НЕОБРАТИМОСТИ ЭВОЛЮЦИИ
ЗАКОН АБМЯЖОЎНЫХ ФАКТАРАЎ - ЗАКОН ОГРАНИЧИВАЮЩИХ (ЛИМИТИРУЮЩИХ ) ФАКТОРОВ
ЗАКОН ЛІМІТОЎНЫХ ФАКТАРАЎ - тое ж самае, што і закон абмяжоўных фактараў
ЗАКОН АДНАБАКОВАГА ПАТОКУ ЭНЕРГІІ ў біяцэнозах - ЗАКОН ОДНОСТОРОННЕГО ПОТОКА ЭНЕРГИИ в биоценозах
ЗАКОН ПРАГРЭСІЎНАЙ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫІ - ЗАКОН ПРОГРЕССИВНОЙ СПЕЦИАЛИЗАЦИИ
ЗАКОН ТАЛЕРАНТНАСЦІ ШЭЛФАРДА - ЗАКОН ТОЛЕРАНТНОСТИ ШЭЛФОРДА _
ЗАКРЫТАЯ ПАРА - ЗАКРЫТАЯ ПАРА
ЗАНАЛЬНАСЦЬ ШЫРОТНАЯ - ЗОНАЛЬНОСТЬ ШИРОТНАЯ
ЗАРОДКАВЫЯ ЛІСТКІ - ЗАРОДЫШЕВЫЕ ЛИСТКИ, ЗАРОДЫШЕВЫЕ ПЛАСТЫ
ЗАРОДКАВЫЯ ПЛАСТЫ - тое ж самае, што і зародкавыя ліст і
ЗАРОДКАВАЕ РАЗВІЦЦЁ - ЗАРОДЫШЕВОЕ РАЗВИТИЕ, ЭМБРИОГЕНЕЗ
ЗВАРОТНАЕ СКРЫЖОЎВАННЕ - ВОЗВРАТНОЕ СКРЕЩИВАНИЕ
ЭМБРЫЁГЕНЕЗ - тое ж самае, што і зародкавае развіцц"
ЗАМОР - ЗАМОР
ЗАПАВЕДНІК - ЗАПОВЕДНИК



ЗГРАЯ - СТАЯ
ЗДРАНЦВЕННЕ - ОЦЕПЕНЕНИЕ
ЗЯМНАЯ КАРА - ЗЕМНАЯ КОРА
ЗІГОТА - ЗИГОТА
ЗІНДЖАНТРОН - ЗИНДЖАНТРОН
ЗМЕНЛІВАСЦЬ - ИЗМЕНЧИВОСТЬ
ЗНАЧЫМАСЦЬ ВІДУ - ЗНАЧИМОСТЬ ВИДА
ЗОНА - ЗОНА
ЗОНА АФАТЫЧНАЯ - ЗОНА АФОТИЧЕСКАЯ
ЗОНА БАРЭЯЛЬНАЯ - ЗОНА БОРЕАЛЬНАЯ
ЗОНА ЭЎФАТЫЧНАЯ - ЗОНА ЭВФОТИЧЕСКАЯ
ЗОНА ДЫСФАТЫЧНАЯ - ЗОНА ДИСФОТИЧЕСКАЯ
ЗОНА КАМФОРТУ - ЗОНА КОМФОРТА
ЗОНА ЛІМНІЧНАЯ - ЗОНА ЛИМНИЧЕСКАЯ
ЗОНА ОПТЫМУМУ - ЗОНА ОПТИМУМА
ЗОНА ПЕСІМУМУ - ЗОНА ПЕССИМУМА
ЗОНА ФАТЫЧНАЯ - ЗОНА ФОТИЧЕСКАЯ

## І

ІДЫЯАДАПТАЦЫЯ - ИДИОАДАПТАЦИЯ
ІДЫЯБЛАСТ - ИДИОБЛАСТ
ІДЫЁГРАМА - ИДИОГРАММА
ІДЫЁТЫП - ИДИОТИП
ІЗАГАМІЯ - ИЗОГАМИЯ
ІЗАЛІНІЯ - ИЗОЛИНИЯ
ІЗАЛЯТЫ - ИЗОЛЯТЫ
ІЗАЛЯЦЫЯ - ИЗОЛЯЦИЯ
ІЗАТОПЫ - ИЗОТОПЫ
ІЕРАРХІЯ - ИЕРАРХИЯ
ІМІГРАЦЫЯ - ИММИГРАЦИЯ
ІМУНАГЛАБУЛІНЫ - ИММУНОГЛОБУЛИНЫ
ІНБРЫДЗІНГ - ИНБРИДИНГ, ИНЦУХИТ
ІНВЕРСІЯ ИНВЕРСИЯ
ІНВАЛЮЦЫЯ - ИНВОЛЮЦИЯ
ІНДЭКС ЛІСТАВОЙ ПАВЕРХНІ (*l*) - ИНДЕКС ЛИСТОВОЙ ПОВЕРХНОСТИ
ІНДЫВІДУАЛЬНЫ АДБОР - ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ ОТБОР
ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЎЧАСТАК, АРЭАЛ - ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ УЧАСТОК, АРЕАЛ
ІНТРАДУКЦЫЯ - ИНТРОДУКЦИЯ
ІНТРУЗІЎНЫ РОСТ - ИНТРУЗИВНЫЙ РОСТ

JS-ІНСЕРЦЫЙНЫЯ СЕГМЕНТЫ - JS-ИНСЕРЦИОННЫЕ СЕГМЕНТЫ
ІНСЕРЦЫЯ - ИНСЕРЦИЯ
ІНТЭРСЕКС - ИНТЕРСЕКС
ІНТЭРФАЗА- ИНТЕРФАЗА
ІНТРОН - ИНТРОН
ІНТУСУСЕПЦЫЯ - ИНТУСУССЕПЦИЯ

## К

КААДАПТАЦЫЯ - КОАДАПТАЦИЯ
КАДАМІНАВАННЕ - КОДОМИНИРОВАНИЕ
КАДОН - КОДОН
КАДОН - тое ж самае, што і трыплет
КАІНЦЫДЭНЦЫЯ - КОИНЦИДЕНЦИЯ
КАЛАГЕН - КОЛЛАГЕН
КАЛЁЗА - КАЛЛОЗА
КАМЕНСАЛІЗМ - КОММЕНСАЛИЗМ
КАМПЕНСАЦЫЙНЫ ГАРЫЗОНТ - КОМПЕНСАЦИОННЫЙ ГОРИЗОНТ
КАМПЛЕМЕНТАРНАСЦЬ - КОМПЛЕМЕНТАРНОСТЬ
КАНАЛІЗАЦЫЯ - КАНАЛИЗАЦИЯ
КАНВЕРГЕНЦЫЯ - КОНВЕРГЕНЦИЯ
КАНГРУЭНЦЫІ КОНГРУЕНЦИИ
КАНКУРЭНЦЫЯ - КОНКУРЕНЦИЯ
КАНСОРЦЫЯ - КОНСОРЦИЯ
КАНСУМЕНТЫ - КОНСУМЕНТЫ
КАПСІД - КАПСИД
КАРЫЯЛЕМА - КАРИОЛЕММА
КАРЫЯПЛАЗМА - КАРИОПЛАЗМА
КАРЫЯТЭКА - КАРИОТЕКА
КАРЫЯТЫП - КАРИОТИП
КАРЭЛЯЦЫЯ - КОРРЕЛЯЦИЯ
КАСМАПАЛІТЫ - КОСМОПОЛИТЫ
КАТАБАЛІТЫ - КАТАБОЛИТЫ
КАТАСТРОФА ЭКАЛАГІЧНАЯ - КАТАСТРОФА ЭКОЛОГИЧЕСКАЯ
КАТАСТРАФІЗМ, ТЭОРЫЯ КАТАСТРОФАЎ - КАТАСТРОФИЗМ, ТЕОРИЯ КАТАСТРОФ
КАЭВАЛЮЦЫЯ - КОЭВОЛЮЦИЯ
КАЭФІЦЫЕНТ СПАДЧЫННАСЦІ ($h_2$) - КОЭФФИЦИЕНТ НАСЛЕДУЕМОСТИ ($h_2$)
КВАНТАВАЯ ЭВАЛЮЦЫЯ - КВАНТОВАЯ ЭВОЛЮЦИЯ
КВАНТАСОМЫ - КВАНТОСОМЫ
КВІТНЕННЕ ВАДЫ - ЦВЕТЕНИЕ ВОДЫ
КВІТНЕННЕ СНЕГУ - ЦВЕТЕНИЕ СНЕГА



КЕРАЦІН - КЕРАТИН
КЛАДАГЕНЕЗ - КЛАДОГЕНЕЗ
КЛЕЙКАВІНА - КЛЕЙКОВИНА
КЛЕТКА АКРАМЯНЕЛАЯ - КЛЕТКА ОКРЕМНЕВШАЯ
КЛЕТАЧНАЯ МЕМБРАНА, ПЛАЗМАЛЕМА, ПЛАЗМАТЫЧНАЯ МЕМБРАНА, ЦЫТАПЛАЗМАТЫЧНАЯ МЕМБРАНА - КЛЕТОЧНАЯ МЕМБРАНА, ПЛАЗМОЛЕММА, ПЛАЗМАТІЧЕСКАЯ МЕМБРАНА,
ЦИТОПЛАЗМАТИЧЕСКАЯ МЕМБРАНА
КЛЕТАЧНАЯ АБАЛОНКА РАСЛІНАЎ, ГРЫБОЎ, КЛЕТАЧНАЯ СЦЕНКА - КЛЕТОЧНАЯ ОБОЛОЧКА РАСТЕНИЙ, ГРИБОВ, КЛЕТОЧНАЯ СТЕНКА
КЛЕТАЧНАЯ СЦЕНКА - тое ж самае, што і клетачная абалонка раслінаў, грыбоў.
КЛЕТАЧНАЯ ПЛАСЦІНКА - КЛЕТОЧНАЯ ПЛАСТИНКА
КЛЕТАЧНАЯ СЦЕНКА БАКТЭРЫЯЎ - КЛЕТОЧНАЯ СТЕНКА БАКТЕРИЙ
КЛЕТАЧНАЯ ТЭОРЫЯ - КЛЕТОЧНАЯ ТЕОРИЯ
КЛЕТАЧНЫ ЦЫКЛ - КЛЕТОЧНЫЙ ЦИКЛ
КЛІМАКС ЭКАЛАГІЧНЫ, КЛІМАКС СУКЦЭСІЙНЫ - КЛИМАКС ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ, КЛИМАКС СУКЦЕССИОННЫЙ
КЛІМАКС СУКЦЭСІЙНЫ- тое ж самае, што і клімакс экалагічны.
КЛІМАКСНАЯ ЭКАСІСТЭМА - КЛИМАКСНАЯ ЭКОСИСТЕМА
КЛІМАТ - КЛИМАТ
КЛІМАТАГРАМА, КЛІМАГРАМА - КЛИМАТОГРАММА, КЛИМАГРАММА
КЛІНА - КЛИНА
КЛОН - КЛОН
КОД ГЕНЕТЫЧНЫ - КОД ГЕНЕТИЧЕСКИЙ
КРАСІНГОВЕР - КРОССИНГОВЕР
КРАСУЛЫ (мн. лік) - КРАССУЛЫ
КРЭАЦЫЯНІЗМ - КРЕАЦИОНИЗМ
КРЫПТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА - КРИПТИЧЕСКАЯ ОКРАСКА
КРЫПТАМЕРЫЯ - КРИПТОМЕРИЯ
КРЫСТЫ МІТАХОНДРЫЙ - КРИСТЫ МИТОХОНДРИЙ
КРЫТЭРЫІ ВІДУ - КРИТЕРИИ ВИДА
КСЕРАФІЛЫ - КСЕРОФИЛЫ
КУСТОЎЕ - КУСТАРНИК
КУСЦІК - КУСТАРНИЧЕК
КУТЫКУЛА - КУТИКУЛА

## Л

ЛАМЕЛЫ - ЛАМЕЛЛЫ
ЛЕЙКАПЛАСТЫ - ЛЕЙКОПЛАСТЫ
ЛЕЙКАЦЫТЫ - ЛЕЙКОЦИТЫ

ЛЕС - ЛЕС
ЛЕС ДАЖДЖАВЫ - ЛЕС ДОЖДЕВОЙ
ЛЕС ДАЖДЖАВЫ ТРАПІЧНЫ - ЛЕС ДОЖДЕВОЙ ТРОПИЧЕСКИЙ
ЛЕС ЦВЁРДАЛІСТЫ - ЛЕС ЖЕСТКОЛИСТЫЙ
ЛЕС ЛІСТАВЫ - ЛЕС ЛИСТВЕННЫЙ
ЛЕС СВЕТЛАХВАЁВЫ - ЛЕС СВЕТЛОХВОЙНЫЙ
ЛЕС СУБТРАПІЧНЫ - ЛЕС СУБТРОПИЧЕСКИЙ
ЛЕСВІЦА ІСТОТАЎ - ЛЕСТНИЦА СУЩЕСТВ
ЛІГНІФІКАЦЫЯ - ЛИГНИФИКАЦИЯ
ЛІГНІФІКАЦЫЯ тое ж самае, што і адраўленне
ЛІЗІС - ЛИЗИС
ЛІЗАГЕННАЯ БАКТЭРЫЯ - ЛИЗОГЕННАЯ БАКТЕРИЯ
ЛІЗАГЕНІЯ - ЛИЗОГЕНИЯ
ЛІЗАСОМЫ - ЛИЗОСОМЫ
ЛІМФАЦЫТЫ - ЛИМФОЦИТЫ
ЛІНЕЁН - ЛИННЕОН
ЛІТЫЧНЫ ФАГ - ЛИТИЧЕСКИЙ ФАГ
ЛІТАРАЛЬ - ЛИТОРАЛЬ
ЛІТАСФЕРА - ЛИТОСФЕРА
ЛІТАЦЫТЫ - ЛИТОЦИТЫ
ЛОКУС - ЛОКУС
ЛУГ - ЛУГ
ЛЯСНЫ ПОДСЦІЛ - ЛЕСНАЯ ПОДСТИЛКА

## М

МАКРАКАНСУМЕНТЫ - МАКРОКОНСУМЕНТЫ
МАКРАСКЛЕРЭІДА - МАКРОСКЛЕРЕИДА
МАКРАФАГІ - МАКРОФАГИ
МАКРАЭВАЛЮЦЫЯ - МАКРОЭВОЛЮЦИЯ
МАЛЬТУЗІЯНСТВА - МАЛЬТУЗИАНСТВО
МАРГАНІДА - МОРГАНИДА
МАРФОЗЫ - МОРФОЗЫ
МАРШЫ - МАРШИ
МАСКІРОЎКА - МАСКИРОВКА
МАСАВЫ АДБОР - МАССОВЫЙ ОТБОР
МАТРЫКС - МАТРИКС
МАЦЭРАЦЫЯ - МАТЕРАЦИЯ
МЕЗАФІТЫ - МЕЗОФИТЫ
МЕЗАСОМА - МЕЗОСОМА
МЕЁЗ - МЕЙОЗ



МЕЛАНІЗМ - МЕЛАНИЗМ
МЕТАМОРФОЗА - МЕТАМОРФОЗ
МЕТАФІЗІКА - МЕТАФИЗИКА
МЕТЫЗАЦЫЯ - МЕТИЗАЦИЯ
МІАБЛАСТ - МИОБЛАСТ
МІАФІБРЫЛЫ - МИОФИБРИЛЛЫ
МІГРАЦЫІ - МИГРАЦИИ
МІКАРЫЗА - МИКОРИЗА
МІКРАВАРСІНКІ - МИКРОВОРСИНКИ
МІКРАКАНСУМЕНТЫ - МИКРОКОНСУМЕНТЫ
МІКРААРГАНІЗМЫ, МІКРОБЫ - МИКРООРГАНИЗМЫ, МИКРОБЫ
МІКРАЦЕЛЬЦЫ - МИКРОТЕЛЬЦА, ПЕРОКСИСОМЫ
МІКРАТРУБАЧКІ - МИКРОТРУБОЧКИ
МІКРАСПАРАЦЫТ - МИКРОСПОРАЦИТ
МІКРАФІБРЫЛЫ - МИКРОФИБРИЛЛЫ
МІКРАФІЛАМЕНТЫ - МИКРОФИЛАМЕНТЫ
МІКРАЭВАЛЮЦЫЯ - МИКРОЭВОЛЮЦИЯ
МІКСАТРОФЫ - МИКСОТРОФЫ
МІМІКРЫЯ - МИМИКРИЯ
МІТОЗ - МИТОЗ
МІТАТЫЧНЫ ЦЫКЛ - МИТОТИЧЕСКИЙ, или КЛЕТОЧНЫЙ ЦИКЛ
КЛЕТАЧНЫ ЦЫКЛ - тое ж самае, што і мітатычны цыкл
МІТАХОНДРЫЯ - МИТОХОНДРИЯ
МІЦЭЛА - МИЦЕЛЛА
МАДЫФІКАЦЫІ - МОДИФИКАЦИИ
МАНІТОРЫНГ - МОНИТОРИНГ
МОНАФАГІЯ - МОНОФАГИЯ
МОНАФІЛІЯ - МОНОФИЛИЯ
МОРУЛА - МОРУЛА
МОРФА - МОРФА
МУЛЬЦІФУНКЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ ОРГАНАЎ - МУЛЬТИФУНКЦИОНАЛЬНОСТЬ ОРГАНОВ
МУТАГЕНЫ - МУТАГЕНЫ
МУТАЦЫІ - МУТАЦИИ
МУТАЦЫЯНІЗМ - МУТАЦИОНИЗМ
МУТАЦЫЙНЫ ЦІСК - МУТАЦИОННОЕ ДАВЛЕНИЕ
МУТОН - МУТОН
МУТУАЛІЗМ - МУТУАЛИЗМ

## Н

НААСФЕРА - НООСФЕРА
НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ - ОКРУЖАЮЩАЯ СРЕДА, СРЕДА ВНЕШНЯЯ, СРЕДА ОБИТАНИЯ
НАПАЎАБЛЯМАВАНАЯ ПОРА - ПОЛУОКАЙМЛЁННАЯ ПОРА
НАРАДЖАЛЬНАСЦЬ - РОЖДАЕМОСТЬ
НАТЫЎНЫ - НАТИВНЫЙ
НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПАРКІ - НАЦИОНАЛЬНЫЕ ПАРКИ
НЕАЛЕЛЬНЫЯ ГЕНЫ - НЕАЛЛЕЛЬНЫЕ ГЕНЫ
НЕКРАФАГІ - НЕКРОФАГИ
НЕКТОН - НЕКТОН
НЕЙТРАБЛАСТЫ - НЕЙТРОБЛАСТЫ
НЕЙТРАФІЛЫ - НЕЙТРОФИЛЫ
НЕЙСТОН - НЕЙСТОН
НЕАНТРОПЫ - НЕОАНТРОПЫ
НЕАКАТАСТРАФІЗМ - НЕОКАТАСТРОФИЗМ
НЕАТЭНІЯ - НЕОТЕНИЯ
НЕАФАРМАГЕННАЕ ВІДАЎТВАРЭННЕ - НЕОФОРМОГЕННОЕ ВИДООБРАЗОВАНИЕ
НЕСТАБІЛЬНАЯ МУТАЦЫЯ - НЕСТАБИЛЬНАЯ МУТАЦИЯ
НІЗКІЯ ШЫРОТЫ - НИЗКИЕ ШИРОТЫ
НОМАГЕНЕЗ - НОМОГЕНЕЗ
НУКЛЕОІД - НУКЛЕОИД
НУКЛЕАКАПСІД - НУКЛЕОКАПСИД
НУКЛЕАПЛАЗМА - НУКЛЕОПЛАЗМА
НУКЛЕАСОМА - НУКЛЕОСОМА

## О

ОСМАС - ОСМОС

## П

ПАГРАЖАЛЬНАЯ АФАРБОЎКА - УГРОЖАЮЩАЯ ОКРАСКА (демонстрация)
ПАДЗЯЛЯЛЬНАЯ АФАРБОЎКА - РАСЧЛЕНЯЮЩАЯ ОКРАСКА
ПАДРОСТ - ПОДРОСТ
ПАЙКІЛАГАГРАФІТЫ - ПОЙКИЛОГИГРОФИТЫ
ПАЙКІЛАКСЕРАФІТЫ - ПОЙКИЛОКСЕРОФИТЫ
ПАЙКІЛАСМАТЫЧНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ПОЙКИЛОСМОТИЧЕСКИЕ ОРГАНИЗМЫ
ПАЙКІЛАТЭРМНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ПОЙКИЛОТЕРМНЫЕ ОРГАНИЗМЫ
ПАКРЫЦЦЁ ПРАЕКЦЫЙНАЕ - ПОКРЫТИЕ ПРОЕКТИВНОЕ
ПАЛАВЫ ДЫМАРФІЗМ - ПОЛОВОЙ ДИМОРФИЗМ
ПАЛАВЫЯ ХРАМАСОМЫ - ПОЛОВЫЕ ХРОМОСОМЫ



ПАЛЕАНТРОП - ПАЛЕОНТРОП
ПАЛІНГЕНЕЗЫ - ПАЛИНГЕНЕЗЫ
ПАЛІНДРОМ - ПАЛИНДРОМ
ПАМЯРКОЎНЫЯ ФАГІ - УМЕРЕННЫЕ ФАГИ
ПАНМІКСІЯ - ПАНМИКСИЯ
ПАНСПЕРМІЯ - ПАНСПЕРМИЯ
ПАПУЛЯЦЫЙНЫЯ ХВАЛІ - тое ж самае, што і хвалі жыцця
ПАПУЛЯЦЫЙНАЯ ЭКАЛОГІЯ - тое ж самае, што і дэмэкалогія
ПАПУЛЯЦЫЯ - ПОПУЛЯЦИЯ
ПАРАЗІТЫЗМ - ПАРАЗИТИЗМ
ПАРАЗІТОІД - ПАРАЗИТОИД
ПАРАЛЕЛІЗМ - ПАРАЛЛЕЛИЗМ
ПАРА ПОРАЎ АБЛЯМАВАНАЯ - ПАРА ПОР ОКАЙМЛЁННАЯ
ПАРНІКОВЫ ЭФЕКТ - ПАРНИКОВЫЙ ЭФФЕКТ
ПАРНЫЯ ХРАМАСОМЫ - тое ж самае, што і гамалагічныя храмасомы
ПАРТЭНАГЕНЭЗ - ПАРТЕНОГЕНЕЗ
ПАРТЭНАКАРПІЯ - ПАРТЕНОКАРПИЯ
ПАРЦЭЛА - ПАРЦЕЛЛА
ПАЎПУСТЫНЯ - ПОЛУПУСТЫНЯ
ПАЎТОРНАЯ ПЕРАЦЯЖКА - тое ж самае, што і спадарожнік
ПЕДАГЕНЕЗ - ПЕДОГЕНЕЗ
ПЕДАМАРФОЗ - ПЕДОМОРФОЗ
ПЕКЦІНАВЫЯ РЭЧЫВЫ - ПЕКТИНОВЫЕ ВЕЩЕСТВА, ПЕКТИНЫ
ПЕКЦІНЫ - тое ж самае, што і пекцінавыя рэчывы
ПЕЛАГІАЛЬ - ПЕЛАГИАЛЬ
ПЕЛІКУЛА - ПЕЛИКУЛА
ПЕНЯТРАНТНАСЦЬ - ПЕНЕТРАНТНОСТЬ
ПЕРШАСНАЯ КЛЕТАЧНАЯ АБАЛОНКА - ПЕРВИЧНАЯ КЛЕТОЧНАЯ ОБОЛОЧКА
ПЕРЫТЭЛІНАВАЯ ПРАСТОРА - ПЕРИТЕЛЛИНОВОЕ ПРОСТРАНСТВО
ПЕРЫНУКЛЕАРНАЯ ПРАСТОРА - ПЕРИНУКЛЕАРНОЕ ПРОСТРАНСТВО
ПЕРЫФІТОН - ПЕРИФИТОН
ПЕРАКСІСОМЫ - ПЕРОКСИСОМЫ
ПЕРСІСТАВАННЕ - ПЕРСИСТИРОВАНИЕ
ПЕРФАРАЦЫІ - ПЕРФОРАЦИИ
ПІКІ КОЛЬКАСЦІ - ПИКИ (взрывы) ЧИСЛЕННОСТИ
ПІРАКСІСОМЫ - тое ж самае, што і мікрацельцы
ПІРАМІДЫ ЭКАЛАГІЧНЫЯ - ПИРАМИДЫ ЭКОЛОГИЧЕСКИЕ
ПЛАЗМАТЫП - ПЛАЗМАТИП
ПЛАЗМІДЫ - ПЛАЗМИДЫ
ПЛАЗМАГЕН - ПЛАЗМОГЕН



2.

ПЛАЗМАДЭСМА - ПЛАЗМОДЕСМА
ПЛАЗМАЛЕМА - ПЛАЗМОЛЕММА
ПЛАЗМАЛЕМА - тое ж самае, што і клетачная мембрана
ПЛАЗМАТЫЧНАЯ МЕМБРАНА - тое ж самае, што і клетачная мембрана
ПЛАЗМОЛІЗ - ПЛАЗМОЛИЗ
ПЛАНКТОН - ПЛАНКТОН
ПЛАСТЫДЫ - ПЛАСТИДЫ
ПЛЕЯТРАПІЯ - ПЛЕЙОТРОПИЯ
ПОЛІМЕРЫЯ - ПОЛИМЕРИЯ
ПОЛІМАРФІЗМ - ПОЛИМОРФИЗМ
ПОЛІМАРФІЗМ ПАПУЛЯЦЫІ - ПОЛИМОРФИЗМ ПОПУЛЯЦИИ
ПОЛІПЛАІДЗІЯ - ПОЛИПЛОИДИЯ
ПОЛІТЭНІЯ - ПОЛИТЕНИЯ
ПОЛІСОМА - ПОЛИСОМА, или ПОЛИРИБОСОМА
ПОЛІРЫБАСОМА - тое ж самае, што і полісома
ПОЛІЦЕННЫЯ ХРАМАСОМЫ - ПОЛИТЕННЫЕ ХРОМОСОМЫ
ПОЛІФАГІ - ПОЛИФАГИ
ПОЛІФІЛІЯ - ПОЛИФИЛИЯ
ПОЛІЦЭНТРЫЗМ - ПОЛИЦЕНТРИЗМ
ПОМНІКІ ПРЫРОДЫ - ПАМЯТНИКИ ПРИРОДЫ
ПОРА - ПОРА
ПОРА АБЛЯМАВАНАЯ - ПОРА ОКАЙМЛЁННАЯ
ПОРА ПЕРШАСНАЯ- ПОРА ПЕРВИЧНАЯ, ПОЛЕ ПЕРВИЧНОЕ ПОРОВОЕ
ПОЛЕ ПЕРШАСНАЕ ПОРАВАЕ - тое ж самае, што і пора першасная
ПОРАВЫ КАНАЛ - ПОРОВОЙ КАНАЛ
ПОСТАДАПТАЦЫЯ - ПОСТАДАПТАЦИЯ
ПРАВІЛА ГАУЗЕ - ПРАВИЛО ГАУЗЕ
ПРАВІЛА ДЖАРДАНА - ПРАВИЛО ДЖОРДАНА, ПРАВИЛО ВИКАРИАТА
ПРАВІЛА ВІКАРЫЯТУ - тое ж самае, што і правіла Джардана
ПРАЙД - ПРАЙД
ПРЭАДАПТАЦЫЯ - ПРЕАДАПТАЦИЯ
ПРАДДЭТЭРМІНАЦЫЯ - ПРЕДЕТЕРМИНАЦИЯ
ПРЭФАРМІЗМ - ПРЕФОРМИЗМ
ПРАБАНД - ПРОБАНД
ПРАВІРУС - ПРОВИРУС
ПРАДУКТЫЎНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ ВАЛАВАЯ - ПРОДУКТИВНОСТЬ ПЕРВИЧНАЯ ВАЛОВАЯ
ПРАДУКТЫЎНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ ЧЫСТАЯ - ПРОДУКТИВНОСТЬ ПЕРВИЧНАЯ ЧИСТАЯ
ПРАДУКТЫЎНАСЦЬ ДРУГАСНАЯ - ПРОДУКТИВНОСТЬ ВТОРИЧНАЯ
ПРАКАРЫЁТЫ - ПРОКАРИОТЫ
ПРАГРЭС - ПРОГРЕСС



ПРАЛАНГАЦЫЯ - ПРОЛАНГАЦИЯ
ПРАМОТАР - ПРОМОТОР
ПРОТЭАПЛАСТЫ - ПРОТЕОПЛАСТЫ
ПРОТАПЛАЗМА - ПРОТОПЛАЗМА
ПРАТАПЛАСТ - ПРОТОПЛАСТ
ПРАТАТРОФЫ - ПРОТОТРОФЫ
ПРАФАГ - ПРОФАГ
ПРАФУНДАЛЬ - ПРОФУНДАЛЬ
ПРАЦЭСІНГ - ПРОЦЕССИНГ
ПСАМАФІЛЫ, -ФІТЫ - ПСАММОФИЛЫ, -ФИТЫ
ПСЕЎДАГАМІЯ - ПСЕВДОГАМИЯ
ПСІХАЛАМАРКІЗМ - ПСИХОЛАМАРКИЗМ
ПСІХРАФІТЫ - ПСИХРОФИТЫ
ПУФІНГ - ПУФФИНГ
ПУФЫ - ПУФЫ

## Р

РАДАСЛОЎНАЕ ДРЭВА - РОДОСЛОВНОЕ ДРЕВО (ФИЛОГЕНЕТИЧЕСКОЕ ДРЕВО)
РАДЫЁЭКАЛОГІЯ - РАДИОЭКОЛОГИЯ
РАСЛІННАЕ СУПОЛЬНІЦТВА - тое ж самае, што і фітацэноз
РАСНІЧКІ - РЕСНИЧКИ
РАФІДЫ - РАФИДЫ
РУДЫМЕНТАЦЫЯ - РУДИМЕНТАЦИЯ
РУДЭРАЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ - РУДЕРАЛЬНЫЕ РАСТЕНИЯ
РЫБАСОМА - РИБОСОМА
РЭАКЛІМАТЫЗАЦЫЯ - РЕАКЛИМАТИЗАЦИЯ (РЕИНТРОДУКЦИЯ)
РЭАФІЛЫ, -ФІТЫ - РЕОФИЛЫ, -ФИТЫ
РЭІНТРАДУКЦЫЯ - тое ж самае, што і рэакліматызацыя
РЭГРЭС - РЕГРЕС
РЭДУКЦЫЯ - РЕДУКЦИЯ
РЭДУПЛІКАЦЫЯ - РЕДУПЛИКАЦИЯ
РЭДУЦЭНТЫ - РЕДУЦЕНТЫ
РЭКАПІТУЛЯЦЫЯ - РЕКАПИТУЛЯЦИЯ
РЭКОНЫ - РЕКОНЫ
РЭКРЭАЦЫЙНЫЯ ЗМЕНЫ - РЕКРЕАЦИОННЫЕ СМЕНЫ
РЭКУЛЬТЫВАЦЫЯ - РЕКУЛЬТИВАЦИЯ
РЭЛІКТЫ - РЕЛИКТЫ
РЭЛЬЕФ - РЕЛЬЕФ
РЭПАРАЦЫЯ - РЕПАРАЦИЯ
РЭПЕТЫЦЫЯ - РЕПЕТИЦИЯ

РЭПЛІКАТЫЎНАЯ ВІЛКА - РЕПЛИКАТИВНАЯ (РЕПЛИКАЦИОННАЯ) ВИЛКА
РЭПЛІКАЦЫЙНАЯ ВІЛКА - тое ж самае, што і рэплікатыўная вілка
РЭПЛІКАЦЫЯ - РЕПЛИКАЦИЯ
РЭПЛІКОН - РЕПЛИКОН
РЭСУРСЫ ПРЫРОДЫ - РЕСУРСЫ ПРИРОДЫ
РЭТАРДАЦЫЯ - РЕТАРДАЦИЯ
РЭТРАГРЭСІЯ - РЕТРОГРЕССИЯ
РЭЦЫПРОКНЫЯ СКРЫЖОЎВАННІ - РЕЦИПРОКНЫЕ СКРЕЩИВАНИЯ
РЭЧЫВА БІЯЎКОСНАЕ - ВЕЩЕСТВО БИОКОСНОЕ
РЭЧЫВА ЖЫВОЕ - ВЕЩЕСТВО ЖИВОЕ
РЭЧЫВА ЎКОСНАЕ - ВЕЩЕСТВО КОСНОЕ

## С

САВАНА - САВАННА
САВАНА ЗЛАКАВАЯ - САВАННА ЗЛАКОВАЯ
САЙТЫ МУТАНТНЫЯ - САЙТЫ МУТАНТНЫЕ, или САЙТЫ ЗАМЕЩЕНИЯ
САЙТЫ ЗАМЯШЧЭННЯ - тое ж самае, што і сайты мутантныя
САЛЬТАЦЫІ - САЛЬТАЦИИ
САМАРЭГУЛЯЦЫЯ - САМОРЕГУЛЯЦИЯ
САПРАБІЁНТЫ - САПРОБИОНТЫ
САПРАТРОФЫ - САПРОТРОФЫ
САПРАФАГІ - САПРОФАГИ
САПРАФІТЫ - САПРОФИТЫ
САРКАЛЕМА - САРКОЛЕММА
САРКАМЕРЫ - САРКОМЕРЫ
САРКАПЛАЗМА - САРКОПЛАЗМА
САРКАФАГІ - САРКОФАГИ
САЦЫЯЛ-ДАРВІНІЗМ - СОЦИАЛ-ДАРВИНИЗМ
СЕГРЭГАЦЫЯГЕНЕЗ - СЕГРЕГАЦИОГЕНЕЗ
СЕЛЕКТЫЎНАЕ СПАРОЎВАННЕ - СЕЛЕКТИВНОЕ СКРЕЩИВАНИЕ
СЕНІЛЬНЫЯ АСОБІНЫ - СЕНИЛЬНЫЕ ОСОБИ
СЕПТА - СЕПТА
СІБСЫ - СИБСЫ
СІМБІЁЗ - СИМБИОЗ
СІМПАТРЫЯ - СИМПАТРИЯ
СІМПЛАСТ - СИМПЛАСТ
СІНАНТРОПНЫЯ ВІДЫ - СИНАНТРОПНЫЕ ВИДЫ
СІНАПТАНЯМАЛЬНЫ КОМПЛЕКС - СИНАПТОНЕМАЛЬНЫЙ КОМПЛЕКС
СІНТЭЗАГЕНЕЗ - СИНТЕЗОГЕНЕЗ
СІНТЭТЫЧНАЯ ТЭОРЫЯ ЭВАЛЮЦЫІ - СИНТЕТИЧЕСКАЯ ТЕОРИЯ ЭВОЛЮЦИИ



СІНУЗІЯ - СИНУЗИЯ
СІНЭКАЛОГІЯ - СИНЭКОЛОГИЯ
СІСТЭМАТЫЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ - тое ж самае, што і таксанамічныя катэгорыі
СІТАВАТАЯ КЛЕТКА - СИТОВИДНАЯ КЛЕТКА
СІТАВАТАЯ ПЛАСЦІНКА - СИТОВИДНАЯ ПЛАСТИНКА
СІТАВАТАЕ ПОЛЕ - СИТОВИДНОЕ ПОЛЕ
СІТАВАТЫ ЭЛЕМЕНТ - СИТОВИДНЫЙ ЭЛЕМЕНТ
СКЛЕРЭІДЫ - СКЛЕРЕИДЫ
СКЛЕРАФІКАЦЫЯ - СКЛЕРИФИКАЦИЯ
СКЛЕРАФІТЫ - СКЛЕРОФИТЫ
СМОГ - СМОГ
СМЯРОТНАСЦЬ - СМЕРТНОСТЬ
СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ (целагенез)- СПЕЦИАЛИЗАЦИЯ (телогенез)
СПАКОЙ РАСЛІНАЎ - ПОКОЙ РАСТЕНИЙ
СПЛАЙСІНГ - СПЛАЙСИНГ
СПОРАПАЛЯНІН - СПОРОПОЛЛЕНИН
СПАДАРОЖНІК - СПУТНИК (вторичная перетяжка)
СПАДЧЫННАСЦЬ - НАСЛЕДСТВЕННОСТЬ
СТАТАК - СТАДО
СТАСІГЕНЕЗ - СТАСИГЕНЕЗ
СТАЦЫЯ - СТАЦИЯ
СТРАМАТАЛІТЫ - СТРОМАТОЛИТЫ
СТРОМА - СТРОМА
СТРУКТУРНЫЯ ГЕНЫ - СТРУКТУРНЫЕ ГЕНЫ
СТРЭС ЭКАЛАГІЧНЫ - СТРЕСС ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ
СТЭНАБІЁНТЫ - СТЕНОБИОНТЫ, СТЕНОЭКИ
СТЭНАЭКІ - тое ж самае, што і стэнабіёнты
СТЭП - СТЕПЬ
СТЭП ЗЛАКАВЫ - СТЕПЬ ЗЛАКОВАЯ
СТЭП ЛУГАВЫ - СТЕПЬ ЛУГОВАЯ
СУБДАМІНАНТ - СУБДОМИНАНТ
СУБЕРЫН - СУБЕРИН
СУБСТЫТУЦЫЯ ОРГАНАЎ - СУБСТИТУЦИЯ ОРГАНОВ
СУКУЛЕНТЫ - СУККУЛЕНТЫ
СУКЦЭСІЯ - СУКЦЕССИЯ
СУКЦЭСІЯ ПЕРШАСНАЯ - СУКЦЕССИЯ ПЕРВИЧНАЯ
СУКЦЭСІЯ ДРУГАСНАЯ - СУКЦЕССИЯ ВТОРИЧНАЯ
СУКЦЭСІЯ ТЭХНАГЕННАЯ - СУКЦЕССИЯ ТЕХНОГЕННАЯ
СФЕРАСОМЫ - СФЕРОСОМЫ
СЧАПЛЕННЕ ГЕНАЎ - СЦЕПЛЕНИЕ ГЕНОВ

СЧАПЛЕННЕ З ПОЛАМ - СЦЕПЛЕНИЕ С ПОЛОМ
СЦЫЯФІТЫ - СЦИОФИТЫ

## Т

ТАЙГА - ТАЙГА
ТАЙХОД - ТЕЙХОД
ТАКСОН - ТАКСОН
ТАКСАНАМІЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ (РАНГІ) - ТАКСОНОМИЧЕСКИЕ КАТЕГОРИИ
ТАКСАНАМІЯ - ТАКСОНОМИЯ
ТАЛЕРАНТНАСЦЬ - ТОЛЕРАНТНОСТЬ
ТАНАПЛАСТ - ТОНОПЛАСТ
ТАХІТЭЛІЯ - ТАХИТЕЛИЯ
ТОРУС - ТОРУС
ТОЦІПАТЭНТНАСЦЬ - ТОТИПОТЕНТНОСТЬ
ТРАВЫ - ТРАВЫ
ТРАМБАЦЫТЫ - ТРОМБОЦИТЫ
ТРАПАФІТЫ - ТРОПОФИТЫ
ТРАФІЧНЫЯ СУВЯЗІ - ТРОФИЧЕСКИЕ СВЯЗИ
ТРАНЗІЦЫЯ - ТРАНЗИЦИЯ
ТРАНСВЕРСІЯ - ТРАНСВЕРСИЯ
ТРАНСГЕНОЗ - ТРАНСГЕНОЗ
ТРАНСДЭТЭРМІНАЦЫЯ - ТРАНСДЕТЕРМИНАЦИЯ
ТРАНСДУКЦЫЯ - ТРАНСДУКЦИЯ
ТРАНСКРЫПТАН - ТРАНСКРИПТОН
ТРАНСКРЫПЦЫЯ - ТРАНСКРИПЦИЯ
ТРАНСКРЫПЦЫЯ АДВАРОТНАЯ - ТРАНСКРИПЦИЯ ОБРАТНАЯ
ТРАНСЛАКАЦЫЯ - ТРАНСЛОКАЦИЯ
ТРАНСЛЯЦЫЯ - ТРАНСЛЯЦИЯ
ТРАНСПАЗІЦЫЯ - ТРАНСПОЗИЦИЯ
ТРАНСПАЗОН - ТРАНСПОЗОН
ТРАНСФАРМАЦЫЯ - ТРАНСФОРМАЦИЯ
ТРАНСФАРМІЗМ - ТРАНСФОРМИЗМ
ТРАХЕІДЫ - ТРАХЕИДЫ
ТРОГЛАБІЁНТЫ - ТРОГЛОБИОНТЫ
ТРЫПЛЕТ - ТРИПЛЕТ (кодон)
ТРЫХАБЛАСТЫ - ТРИХОБЛАСТЫ
ТУНДРА - ТУНДРА
ТУРГОР - ТУРГОР
ТУРГОР - тое ж самае, што і ціск тургорны
ТЫЛАКОІДЫ - ТИЛАКОИДЫ



ТЫПАЛАГІЧНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ ВІДУ - ТИПОЛОГИЧЕСКАЯ КОНЦЕПЦИЯ ВИДА
ТЭЙХОД - тое ж самае, што і эктадэсма
ТЭЛЕГРОНЫ - ТЕЛЕГРОНЫ
ТЭЛЕАЛОГІЯ - ТЕЛЕОЛОГИЯ
ТЭЛАМАРФОЗЫ - ТЕЛОМОРФОЗЫ
ТЭОРЫЯ КАТАСТРОФАЎ - тое ж самае, што і катастрафізм
ТЭРАТАЛОГІЯ - ТЕРАТОЛОГИЯ
ТЭРАФІТЫ - ТЕРОФИТЫ
ТЭРМІНАТАР - ТЕРМИНАТОР
ТЭРМІНОЎНЫЯ КАДОНЫ - ТЕРМИНИРУЮЩИЕ КОДОНЫ
ТЭРМАРЭГУЛЯЦЫЯ - ТЕРМОРЕГУЛЯЦИЯ
ТЭРМАФІЛЫ, -ФІТЫ - ТЕРМОФИЛЫ, -ФИТЫ
ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАСЦЬ - ТЕРРИТОРИАЛЬНОСТЬ

## У

УЗРОСТАВАЯ СТРУКТУРА ПАПУЛЯЦЫІ - ВОЗРАСТНАЯ СТРУКТУРА ПОПУЛЯЦИИ
УЗРЫЎ ПАПУЛЯЦЫЙНЫ - ВЗРЫВ ПОПУЛЯЦИОННЫЙ
УЗРЫЎ ЭКАЛАГІЧНЫ - ВЗРЫВ ЭКОЛОГИЧЕСКИЙ
УКЛЮЧЭННЕ ЦЫТАПЛАЗМЫ - ВКЛЮЧЕНИЕ ЦИТОПЛАЗМЫ
УМЕРАНЫЯ ШЫРОТЫ - УМЕРЕННЫЕ ШИРОТЫ
УМЕРАНЫ КЛІМАТ - УМЕРЕННЫЙ КЛИМАТ
УМОВЫ АСЯРОДДЗЯ - УСЛОВИЯ СРЕДЫ
УМОВЫ ЖЫЦЦЯ - тое ж самае, што і ўмовы існавання
УМОВЫ ІСНАВАННЯ - УСЛОВИЯ СУЩЕСТВОВАНИЯ, УСЛОВИЯ ЖИЗНИ
УСТОЙЛІВАСЦЬ - УСТОЙЧИВОСТЬ
УСТОЙЛІВАСЦЬ ПАПУЛЯЦЫІ, СТАБІЛЬНАСЦЬ ГАМЕАСТАЗ - УСТОЙЧИВОСТЬ ПОПУЛЯЦИИ, СТАБИЛЬНОСТЬ, ГОМЕОСТАЗ
УСТОЙЛІВАСЦЬ ЭКАСІСТЭМАЎ, СТАБІЛЬНАСЦЬ, ГАМЕАСТАЗ - УСТОЙЧИВОСТЬ ЭКОСИСТЕМ, СТАБИЛЬНОСТЬ, ГОМЕОСТАЗ

## Ф

ФАГІ - ФАГИ
ФАГІ БАКТЭРЫЯЎ - тое ж самае, што і бактэрыёфагі
ФАГАСОМЫ - ФАГОСОМЫ
ФАГАЦЫТЭЛЫ ТЭОРЫЯ - ФАГИЦИТЕЛЛЫ ТЕОРИЯ
ФАГАЦЫТОЗ - ФАГОЦИТОЗ
ФАГАЦЫТЫ - ФАГОЦИТЫ
ФАКТАРЫЯЛЬНАЯ ЭКАЛОГІЯ - ФАКТОРИАЛЬНАЯ ЭКОЛОГИЯ
ФАКТАРЫ АБІЯТЫЧНЫЯ - ФАКТОРЫ АБИОТИЧЕСКИЕ
ФАКТАРЫ БІЯТЫЧНЫЯ - ФАКТОРЫ БИОТИЧЕСКИЕ



2.

